# ПОЛЫМЯ

КНІГА СЁМАЯ

ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ
ПОЛІТЫКІ
ЭКОНОМІКІ
ГІСТОРЫІ
КРЫТЫКІ



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ
1930
ВЫДАВЕЦТВА



# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕВЯТЫ

## ЛІПЕНЬ 1930




БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930



# КРАЇНЕ САВЕТАЎ

**Якуб Колас**

*(Да 10-х угодкаў вызваленьня БССР ад белапалякаў)*

Адзванілі званы на званіцах,
Ї збуцьвелі, паніклі крыжы,
Знакі цемры-імжы.
Новы край тут паўстаў з навальніцаў,
Забурлілі другія крыніцы
На шырокай Савецкай мяжы.
У пустых дзірваністых абшарах,
З патапельніц і багны балот
Дзівы робяцца ў год:
Ажываюць аблогі-імшары,
Загараюцца зары-стажары,
Асьвятляюць вялікі паход.
Ї сьпяваюць вятры-самачуды
Гучным звонам у струнах дратоў
На гітарах слупоў,
Што бягуць, як ганцы з Асінбуду,
Каб працоўнаму вольнаму люду
Прывітаньне аддаць, хоць бяз слоў.
Бурны рост. Цьвёрды крок. Будаваньне.
Зносяць межы ў палёх трактары,
Новых дзён песьняры,—
Тут будуюць сваё бытаваньне
У сімфоніі працы, змаганьня
Пролетары, зямлі ўладары!
Не пазнаць, Беларусь, цябе сёньня!
Разагнуўся працоўны твой люд.
Грукат, шум, гоман, гуд...
Пакацілася ліха ў прадоньне.
А калі, калі-ж ты, Занямоньне,
Адсьвяткуеш свой дзень, як мы тут?
Дык дазволь-жа і мне ты, краіна,
Прывітаць малады твой разгон,
Песьню-быль, казку-сон.
А ваякам тваім, хто загінуў
За свабоду, працоўных айчыну,
Мой журботны і нізкі паклон.

# ПАХУЧЫ ЗЯБ

## Ц. Гартны

Сакратар райкому Ігнась Чарада ўжо каля паўгадзіны сядзеў над дзесяцівёрстнаю мапаю Каворанскага раёну.

Маленькая лямпачка, з адзетым на закуранае шкло кавалачкам пажаўцелае паперы, бледна асьвечвала вычварныя рысы лініяў, кропак і літар.

Яны мурашкамі мітусіліся ў Ігнасевым ваччу, прыліпшым прагнымі ўзрокамі ў асяродак асьвечанае мапы.

Назова цэнтру раёну, мястэчка Каворань, зьлівалася ў чорную кароткую палоску, манерам лінейкі.

Ад яе раскідаліся думкі на тонкія тасёмкі, на ніткі, на валаскі, і швыдка-швыдка абягалі насельныя пункты раёну водлуг разьмяшчэньня ў ім колгасных цэнтраў.

Хвіліна ў хвіліну раскіданыя Ігнасевым думкі вярталіся назад да яго, скучваліся, ні то ў аццяжэлай галаве сакратара, ні то ў Каворне, у асяродках яго кіруючых устаноў, райкоме і райвыканкоме.

Паўгадзіна часу, а скутак з яго раздумаў аднакі: хоць-бы каліва новых зьмен у добра вядомым яму палажэньні...

На поўначы раёну справа з колектывамі прыняла зусім інакшы паварот, ніж на поўдні. Цяглаўскі сельсавет ідзе пазадзе ўсіх дзесяці іншых. І старшыня сэльсавету і брыгадзіры—аднака праваронілі працу з беднатою... Перша былі зарваліся, як ашалелыя, пасьля, тпру і сталі... Коўш, Чарон, Лазовіч...

Спыніўшы свой раздум на гэтых трох прозьвішчах, сакратар райкому падняў галаву і паглядзеў налева ад сябе ў цёмны кут маленькае каморкі. Яго рукі асталіся стаяць, як два пяцісьвечнікі. Затуленае папераю сьвятло лямпы выявіла перад Ігнасем наскі загнюшаных ботаў. Ды каб бачыць гаспадара ботаў Ігнасю ня трэба было сьвятла: старшыня райвыканкому, Віктар Кадачкін, заўсюды стаяў у яго ваччу жывым портрэтам.

Цяпер, во, з газэтаю ў руках, прылёгшы на абочыне цьвёрдае, аблезлае канапкі, ён ні то драмаў, ні то марыў, магчыма ў напрамку Ігнасевых настрояў.

Сягоньня яны абодва ўжо пасьпелі нагаварыцца. Адзін для другога не пашкадаваў узвышанага тону і комплімэнтаў, аснашчаных зусім не далікатнаю прыправаю. Ад іх гарчыла на сэрцы і рабілася млосна. Гэтыя

комплімэнты нагналі на Віктара ўздром, а на Ігнася доўгія, зацятыя раздумы над полем разгорнутае мапы.

Між сакратаром райкому і старшынёю райвыканкому прамігнула чорная кошка... Агідны зьвярок папсаваў абодвым настрой, асабліва хісткі ў апошнія часы напруджанае працы... Ды ці-ж ёсьць рацыя замешваньня ў агульныя справы свае асабовыя інтарэсы? Або ад гэтага можа зьмяніцца гістарычнае разьвіцьцё саміх спраў?

Ігнась першым дайшоў да адзначаных вывадаў. І калі адхіліўся ад мапы, то з мэтаю пачаць размову з Віктарам у больш лагодных тонах.

Варушыла адзнаньне патрэбы гэтага і Віктаравы думкі. Напэўна старшыня райвыканкому, каб яго не апярэдзіў сакратар райкому, зрабіў-бы сам першы крок для адновы перагавораў...

Ігнась апярэдзіў—чаму-ж не пайці яму на сустрач—тым болей, што ў іх пытаньні далёка ня ўсе былі поўнасьцю вырашанымі...

Перад тым, як заварушыць языком—сакратар райкому абег у думках доўгую, вычварна-завілую граніцу раёну і падсунуў да сябе чырвоную справу з важнейшымі пастановамі цэнтральных органаў партыі па пытаньнях колектывізацыі.

Рука Ігнася выцягала з папкі нумар „Правды“ з адказамі таварыша Сталіна колгасьнікам, калі з яго вуснаў паляцеў першы сказ да Віктара.

— Ты сьпіш там? Што чуваць з колгасамі?

— Чакаю тваіх паведамленьняў... Мо-ж надумаў чаго новага за гэты час?.. Віктар адказаў Ігнасю, прыўстаў і вышаў на асьветленае месца. Яго падлысеўшая галава з ускудлачанымі па краёх лысіны касамі надавала брытаму твару сур‘ёзную заклапочанасьць.

Сінія вёрткія вочы ўкрадкаю ўхмыляліся, накіроўваючы ўпартыя ўзрокі ў характарны твар Ігнася.

У акулярах, ня вызвалены ад насядаўшых думак, якія маршчылі яго заўпалыя шчокі і карабілі высокі лоб, а чорныя вочы апускалі к долу, сакратар райкому момант разважаў над далейшым сказам, пасьля вымавіў:

— Мне думаецца Віктар, што ў нашай працы, сапраўды былі буйныя памылкі...

Ігнась занэрваваўся і міжвольна крануў з мейсца, ачуўшыся на цеснай каморцы.

— Прычыні ляпей дзьверы,—надаўміў Віктар і, не чакаючы Ігнася, выпрабаваў сам.

— Ты ўспомні, Віктар, да чаго мы былі зацягнуліся тэмпамі... Страшна падумаць—ня можа галава ня кружыцца—праверыўшы... А асноўнае таксі і незаўважылі... Не заўважылі, дарагі таварыш... Дзе была наша ўвага да работы з беднатою? Куды гінуў наш падыход? Навошта чапляліся мы за нязбыўныя проекты? Га-а? Віктар? Ты думаеш, таварыш Сталін ня праў? На ўсе сто процантаў праў...

Паглядзі, дарагі таварыш, мэрам-бы ён і быў у нас... Ня праўда мо? Га-а?

Ігнась затрымаўся на месцы і пільна паглядзеў у рашчыненыя, з хітраю ухмылкаю, вочы Віктара.

Той прыняў профэсарскую позу, абапёршыся рукою на стол і, закінуўшы нага на ногу, загутарыў:

— Зразумелая рэч, што таварыш Сталін поўнасьцю праў... Чудак ты, нашы памылкі вочавідкі... Вось паглядзі, да чого дайшла была справа ў Сапсовічах? Сакратар ячэйкі літаральна запужваў сялян... Унь выдумаў якуюсьці елку: хто не запішацца, страшыў ён, таго пасадзім на елку, колгасьнік елку падпілуе, а незапісаны так і павісьне ў паветры... Куды гэта гадзіцца? А мы самі, думаеш, чыстымі выйшлі! Што і казаць... Але...

Яны, мэрам па камандзе, сарваліся з месца і зрабілі пару ўзгодненых крокаў ад стала да дзьвярэй.

— А цікава, Віктар, калі падумаеш, якімі зігзагамі прайшла гісторыя апошніх месяцаў!.. Уяві сабе гіганцкія размахі, нячуваны поступ, шыбаньне ў гору—стромкаю высокаю тэрасаю... Перад табою празрыстае мірганьне маякоў. Казачная разгарненьне неабмерных плянаў... Нястрыманае зацягненьне неабачнымі правідамі... Ведаеш, Віктар, мамэнт, якому роўным былі толькі знатныя кастрычнікавыя дні 1917 году... Які энтузыязм, якое захапленьне!.. Падумай, перша дваццаць процантаў, праз некалькі дзён ужо трыццаць, яшчэ тыдзень і сорак, а там—пяцьдзесят, шэсьцьдзесят і дзевяноста. Дзевяноста процантаў!..

— Галавакружэньне, браце, галавакружэньне! Вось гэта і ёсьць тая балячка, на якую гэтак трапна паказаў таварыш Сталін...

— Ты цяпер зразумеў гэта.

— Так, зразумеў... І кожнаму, хто разумее дух нашае партыі, сутнасьць яе політыкі, пара зразумець... Годзі апэраваць лятуценнымі сказамі і паветранымі меркаваньнямі... Трэба не адрывацца ад здарэньняў і не забягаць ім наперад...

— Хадзі сюды...

Ігнась узяў Віктара за руку і падвёў да стала.

— Глядзі... Усё-ж наш раён можа пахваліцца вялікімі дасягненьнямі... Дваццаць процантаў абагуленай плошчы і паўсотні колгасаў. Гэта-ж ячэйкі соцыялістычнага сэктару, тыя апорныя пункты, адкуль як ад гвязды, пойдуць роўныя, яскравыя праменьні далейшага разгарненьня колектывізацыі... Мы сталі цьвёрдымі нагамі і толькі...

— Толькі-б умела правесьці наш сеў да гаспадарна, узорна, узорна, браце мой, паказаць сваё гаспадараньне... Што-ж... Іх пруткія ўказныя пальцы захадзілі па зеленаватай дзесяцівёрстцы і пры падходзе да раённага цэнтру—Каворны—спыніліся.

Стукнулі дзьверы.

## II

Чорныя кудравыя валасы сакратара райкому цікава контраставалі замшалай лысіне старшыні райвыканкому, калі абедзьве адвярнуліся да парогу.

— Проектуеце?

Малады здаровы твар дваццаціпяцітысячніка Хвёдара Кузьміна пыхаў радасным настроем. У гэтым бадзёрым здаровым сьлесару гартавалася бліскучае ўверра ў сталёваю цьвёрдасьць палітыкі партыі, у стойкае ды непарушнае яе правядзеньне на далей. Надзвычайная чульлівасьць Ігнася з прычыны некаторага адліву з колгасаў і маруднасьць у настрою Віктара—аднакава не гарманавалі з Хведаравай устойлівасьцю.

— Так, палажэньне вымагае... Але, ты адкуль так зьнячэўку?

Кузьмін засьмяяўся.

— Справа, бачыш, прыгнала... З сельсавету... Новая замінка... Ужо было наладзілася, як раптам,—выган умяшаўся... І сорак індывідуальнікаў адказваюцца сеяць... Пяцьсот гектараў зямлі...

— Ізноў??

Зьдзіўлена, а ў зьдзіўленьні з дамешкаю злосьці і нездаваленьне, у адзін голас праказалі Ігнась з Віктарам.

Праказалі і мо, з хвіліну ўперачымі ўзрокамі паглядалі адзін другому ў твар.

Кузьмін выліў сваё пачуцьцё ў скрадлівай ухмылцы.

— Ты, напэўна, таварыш Кузьмін, крута загібаеш... Трэба з пазакалгасьнікам ладзіць, а гэта... Першыя лічбы травяню і ня выхад у поле!.. Крымінал!

Сакратар райкому адмоўна паківаў галавою:

— Не! Трэба меркавацца... Ты-ж не забывай, Кузьмін, што перад раёнам стаіць заданьне павялічыць пасеўную плошчу ажно...

— Таварыш Чарада, я ня нуждаюся ў тваіх растлумачэньнях... Ведаю сам добра... На вошта ўпічлівасьць.

У Кузьміна скасіліся вочы, але зьменены тон не зьмяніў адбітай у яго твары ўроджанай міны...

— Пастойце адно...

Паміж імі працягнуліся рукі старшыні райвыканкому.

Давайце цішэй і лагодней. Трэба памяркоўна знайсьці якую раду, каб абмінуць конфлікт... Чудакі вы... Да чаго задзірацца...

Кузьмін спрытна выцягнуў з кішэні пачку з цыгаркамі і запалкі і ў ў момант пусьціў доўгую палосу пахучага дыму. Аж цмокнуў ад здавальненьня, з якога выплыла:

— Правідлова... А хіба-ж праз мяне гэта. Трэба сазнацца, што ўсе мы павінны ў гэтых часовых конфліктах... За гэтым я і прыехаў, каб разам, памяркоўна вырашыць... Вечар, бачыце, а я галодным у дарогу...

Ігнась паднёс чуць не да самых губ Кузьміна разьнятую далонь і праказаў:

— Годзі... Палічым, што конфлікт вычарпаны...

Усе ў траіх зьмірыліся на дачаснай прапанове сакратара райкому і засьведчылі зьмірэньне ўрачыстай заспакоенасьцю.

Ужо праз хвіліну яна, гэта заспакоенасьць, перавяла Кузьмінову гутарку на іншую тэму.

— Ну я вам скажу, таварышы,—загутарыў ён—мне ўпяршыню даводзіцца мець справу з падобнымі людзьмі... Гэта такі народзец! Дзе другім да іх... Іншы табе перш вылаецца, а сьледам у адкрытую—беры... А гэта ўсё з хітрасьцю, спадцішка, мудруючы... Так... Надо быць, ой, якім эласьцічным...

— Ха-а-ах! Чудак які! Адчыніў Амэрыку. Кажа нам! Ведаем. Але-ж гэтым наваротам нам ня вырашыць закранутага гутаркаю пытаньня...

Што конкрэтнага прапануеш, Кузьмін?

— Трэба заўтра раніцаю ўсім траім паехаць на месца... Каб усяго датычыла адных індывідуальнікаў—яшчэ-б туды-сюды... Але вастрэй пытаньне з калгасьнікамі... Гэты ні на ногаць нічога ня хочуць уступіць...

Сакратар райкому і старшыня райвыкэнкому перазірнуліся між сабою і адбілі на тварах нездаваленьне пропозыцыяй Кузьміна.

— У мяне конфэрэнцыя на носе, а я яшчэ і ня браўся за даклад.

— А ў мяне дзесяткі незацьверджаных проектаў; назаўтра выклікана да дзесяці колгасаў... І гэтак сама трэба гатавацца да конфэрэнцыі... А-а-эй!

Старшыня райвыканкому моцна сашчапіў зубы, і ўсімі пальцамі рукі шчыра задрапаў па лысіне...

— Рабо-а-ты-і! Рабо-а-ты-і!

— Можна на дзень адлажыць... Бо я адзін, таварышы, не бяруся вырашаць... Не-э!

Праз хвіліну Ігнась выказаў згоду на паездку ў Гаеўскі сельсавет, у вёску Кочмы, на вырашэньне конфлікту з сарака гаспадаркамі на конт выгану...

Віктар у думках папікнуў яго ў мяккасьці, але і сам далучыўся-бы да яго; але выказаць сваю згоду яму паперашкодзіла вайшоўшая да іх жонка сакратара райкому, Тарэся Мікалайчук.

## III

Тарэся, відаць было, спала. Яе ўзлахмачаныя косы шурпацілі круглую апукаю голаў, а шарыя пранозаватыя вочы выглядалі на ўзьдзіў маленькімі.

Яна прастацкі, бессаромна, задаволена зяхнула, залажыўшы рукі за патыліцу і дугою выгнуўшы грудзі.

У памятай блузцы нешта трэснула, адале ціха стукнуў аб падлогу ўпаўшы гузік...

Тарэсіны паводзіны мужчыны сустрэлі абыякава, праўда кожны з маленькаю варыяцыяй: Ігнась кінуў на жонку хмурым позіркам і сьледам удаўся ў разгорнутую газэту. Віктар упічліва засьмяяўся, але хутка скрыў сваю ўхмылку, адвярнуўшыся ў цёмны квадрат вакна; Хведар Кузьмін з мужчынскаю цікавасьцю болей другіх затрымаўся ўзрокам на постаці рослай, здаровай і энэргічнай загадчыцы жанаддзелу. Ён-жа першым і загутарыў з ёю.

— Разбудзілі вас, таварыш Мікалайчук... І днём і ноччу не даём спакою...

Тарэся падышла да кушэткі і прысела.

— Пляваць. Ня ў гэтым справа, таварыш Кузьмін... Каб толькі ўсяго, што вы заняспакоілі—а то-ж цэлымі днямі ў аддзеле кірмаш... Вось і сёньня—да дваццаці баб як урынула ў пакой—сапраўдны садом... Дзьве гадзіны вандалася з імі—няма рады... Думаеце спала—толькі завецца, што драмала... Процьма ўсякіх плянаў у галаве. Работы—па горла... Дай, таварыш Кузьмін, цыгарку...

— Можа-б змасьцярыла-б нам якое кавы па шклянцы?

Тарэся закурыла, адмыслова зацягнулася і густымі скруткамі дыму выпусьціла з вуснаў кароткае.

— У кватэры ані заваду нічога... Сам-жа павінен знаць. Абедаем у сталовай, раніцаю гаспадыня дае сьнедаць, а вечарам—успомні, калі мы вячэралі... Сёньня нават і Люцік галодны лёг...

— Гэта ўжо горай... Выбачайце, таварышы...

Ігнась на момант адцягнуўся ў думках ад закранутае тэмы і нечакана для ўсіх прачытаў доўгі пункт з пастановы студзеньскага пленуму КП(б)Б.

— Чуйце-э, во...

Ну, што, во? Ты ўсё яшчэ ня можаш апамятацца. Каразьліва паненка, а не зацяты бальшавік... Адкрыта скажу табе, таварыш Ігнась...

Халодны лядзяк... У цябе дзеравянае сэрца, Кузьмін... Табе пафас рэволюцыі, што вось гэты цыгарны дым... Ты не рэволюцыянэр—энтузіяст, а...

Кінь таварыш сакратар, астудзіся нарэшце ад гэтых дутых процантаў... Сапраўды, цябе атуліў некі дым...

Што значыць твае дзевяноста процантаў? Мыльная бульбанка...

Конкрэтна тое, што маем мы зараз... А маем мы ня мала... Чатырнаццаць процантаў колектывізаваных гаспадарак—табе жарты? А колькі ты меў летась?

— Шша-а! Досыць... Давайце замацоўваць дасягнутае... Будзьце трэзвымі людзьмі... Былі памылкі, было захапленьне, а зараз сеў...

Старшыня выканкому астудзіў абоіх... і быў суцешаны гэтым. Але Тарэся паперашкодзіла консолідацыі яго настрояў, чапіўшы іншае пытаньне.

— А ты, Віктар, усё-ж падумай над гэтым. На чорта табе гэты хляўчук цэркаў? Што з яго выкраіш? На сьвінух усяго і гадзіцца... А баб'ё хвалюецца...

— Тарэся-а... твая палітыка ні для чаго... Адну, другую...

Тарэса ўспыхнула, як запалка, усхапілася з месца і вось-вось памкнулася сказаць нешта вострае і злое, але стук за дзьвярыма яе прыпыніў...

— Пойдам, старшыня... Пара спаць... Дык едам заўтра, Ігнась, у Кочму?

— Мусім..

Калі Віктар з Хведарам вышлі з пакою, Тарэся кінула ім удагон:

— А ўсё будзе добра!

## IV

— Я іду, Ігнась. Вам з Люцікам гарбата ў духоўцы... Прачнецца— ты яго адзень і няхай ён гуляе на вуліцы з дзяцьмі...

Тарэся схавалася за дзьвярыма.

— Тарэся слухай...

Ігнасеў вокліч зьліўся з стукам сеньняшніх дзьвярэй. Праз хвіліну ён згубіў тое, што хацеў сказаць жонцы і прыцягаў далейшы абдум дакладу на конфэрэнцыі

На крэсьле, што стаяла пры ложку, і па адкінутай, скамечанай коўдры, на падлозе і пад падушкай валяліся матэрыялы: зводкі, інструкцыі акружкому, даклады сакратароў ячэек, памятыя газэты, брошуры і томы ленінскіх твораў.

Ігнась перабіраў усё гэта, гартаючы і ўглядаючыся ў дробныя літары зьместу, выпісываў сказы і цэлыя тырады з пастаноў, з газэт.

Ужо сонца спаўзала в тыльнае сьцяны, залоцячы непадмеценую падлогу. За вакном, у завулку, крычалі і плакалі дзеці...

Праехала фурманка і задрыжэлі шыбы...

Сакратар райкому падняўся і паглядзеў у вакно.

„ А я думаў, што можа ўжо па мяне з падводаю“...

Ён прачытаў зробленыя к дакладу заўвагі і супакоіў сябе:

„Даклад трэба пабудаваць пад кутом погляду рэвізіі праробленай працы... Абмылкі райкому павінны быць прызнаны... Нечага хавацца-а...“

„Тата! А мама ў дому?“

Люцік швыдка ўзьняўся з пасьцелі і выбег на пакой.

У момант ён быў каля вакна і перадражвіўся з двума бруднымі, смаркатымі хлапчукамі.

Ігнась адзеўся сам і падышоў да сына.

— Давай адзену, Люцік, ды пойдзеш на вуліцу... Жыва!..

— Ты ня ўмееш зашпільваць портак...

Ігнась паківаў на сына пальцам і ёмка справіўся з адзеньнем.

Яны дапівалі астыўшую каву, калі з ґрукам і тупатам убег у хату сакратар комсамолу Яўхім Абутка.

## V

— Здароў!

— А-а? Добры дзень!..

— Куды?

— Ах, я зусім забыў...

Ігнась падбіраў і складваў на этажэрку раскіданыя матэрыялы.

— Гатовімся да дакладу?

Сакратар комсамолу праглядзеў некалькі пастаноў і стэнаграму студзеньскага пленуму КП(б)Б.

— Не забудзь, Ігнась, адмеціць у дакладзе, што за бягучы год мы маем дваццаціпроцантны ўзрост комсамолу... І організацыйная праца...

— Пачакай... Ты зайшоў выключна па гэтай справе?

Абутка спахваціўся і скрозь сьмех паведаміў:

— Не... Віктар прасіў у выканком...

— А што там здарылася?

— Бабы атакавалі...

— Што за праявы!

— Я з Віктарам зусім ня згодзен... Пяць крыкух каторы час баламуцяць столькі... жанчын. Пасадзіў-бы дзён на тры кожную—і як адрэзала-б... Сапраўды...

— Толькі не гарачыся...

Люцік штосьці прамармытаў сабе пад нос і зьнік за дзьвярыма.

Ігнась аглядзеў кватэру, захапіў жмак паперы і чырвоную пухлую справу і павярнуў да выхаду.

— Пойдам...

Замыкаючы дзьверы, ён вярнуўся к закранутаму Абуткам пытаньню пра комсамол:

— Але згадзіся, Яўхім, што ты мала аддаў увагі організацыйнай працы. У цябе шмат комсамольцаў занадта распусьціліся. Ты паглядзі, у Кочме нават сакратар ячэйкі вышаў з колектыву...

Абутак не залюбіў. На яго рабаватым твары забегалі ружовыя плямкі.

— Пра Кочму маўчы... Там Кузьмін вінаваты ва ўсім. З гэткім падыходам, які ён сабе ўсвоіў—справы далёка не пасунеш... Сухое адміністраваньне... Туды павінен ты сам паехаць... Там і з індывідуальнікамі конфлікт.

— Едзем сёньня... А ты адказваеш за свае словы наконт Кузьміна?

— Я кажу са слоў сакратара комсамольскай ячэйкі...

Яны падыходзілі да будынку райвыканкому. Куча жанчын, у белых хустачках пад бораду, сустракала іх разгойданай, шаломнай гутаркай.

Ігнась адчуў, што яны намераны акружыць яго з скаргамі на старшыню выканкому, але ён ведаў, як іх заспакоіць...

Аднак жанчыны спакойліва прапусьцілі паўз сабе абодвых сакратароў, Ігнася і Абутку, і калі тыя апынуліся ў габінэце Віктара, урынулі за імі.

Вам чаго, грамадзянкі?—запытаў Ігнась жанчын.

— Таварыш сакратар...

— Старшыня з намі ня хоча гаварыць...

— Мы просім хоць-бы па паўгектару гародаў...

— То-ж наша бацькаўшчына, а колгас цалкам яе захапіў сабе.

— Што за час, што за пара!..

Гутарыла тых пяцера, пра якіх казаў Абутка.

Цесны пакоік габінэту старшыні райвыканкому раптам абярнуўся ў шаломны кірмаш. Крык некалькіх жанчын зьліўся ў гармідарную, падфальшывеную скаргу.

Віктар затуліў вушы і дэманстрацыйна разьбіраў груду заяў.

— Во, глядзеце, таварыш Чарада, як да нас адносіцца наш старшыня, бацька наш... Гаварыць ня хоча нават, а то, каб ды пасобіў...

То сказала Ганна Бабковіч, праводчыца ўсіх.

— Шша-а!

Усьцяж сталу матнулася Ігнасява рука, адгарадзіўшы рашучай лініяй працяг Ганьніных рук да Віктара.

— Кажэце, грамадзянка, толкам, што вы хочаце?

— Яны і самі ня ведаюць... Цэлую раніцу ўбіў з імі, а ніякага толку. Дурасьлівая дэмагогія...

Віктар сказаў гэта,— не адгінаючыся ад стала.

Новы ўздым ляманту чатырох кабет быў адказам на яго словы...

— Грамадзянкі! Няўжо такі вы ня можаце сабе ўявіць таго, што савецкая ўлада і наша партыя больш і лепш павінны спрыяць колгасам, ніж індывідуальнікам.

— Але і вас ніхто ня крыўдзіць... Дарагія таварышы! Ведайце тое, што мы ідзем вам насустрач, уважаем вашы просьбы, прыслухоўваемся да вашых нуждаў, толькі-ж... Толькі трэба ведаць меру... трэба мець граніцы сваім запатрабаваньням. Учора мы згадзіліся на той клінок? Згадзіліся... Ганна Бабковіч была там? Была... І Ліза Шматка?.. Дык чаго-ж вы хочаце? Бацькаўшчыну? Якую, грамадзянкі, бацькаўшчыну? Зараз, дарагія таварышы, уся зямля аднаго бацькі—савецкае ўлады... Вам даюць ранейшую норму для яравога пасеву—даюць... Сядзібнае зямлі далі—далі. Але, тае плошчы, што адвездена колгасу—больш уразаць нельга.

— Пабачыце, таварыш Чарада, што колгас яе ня апрацуе... Гэта Зяленіч з зайздросьці пазахапляў, наперакор нам... Ён...—ня ўнімалася крыкуха Бабковіч.

Яна вяла сёньняшні рэй і „адваяваўшы“ ўчора клінок на гуменьні, сёньня падбухторвала на далейшы наступ.

Яе прарэзьлівы крык расьцягнуўся-б на доўга, каб не наскочыў старшыня колгасу Зяленіч.

Уваход у габінэт Зяленіча зразу перамяніў абставіны. Жанчыны зашушукалі паміж сабою, пераглянуліся і змоўклі, ня спускаючы ваччу з старшыні колгасу.

— Ганачка-а-а! Ты ізноў тут?

Зяленіч паглядзеў на Бабковіч і ўсьміхнуўся. Яго ўказны палец заківаўся над сталом старшыні райвыканкома.

— Табе рупіць колгас? Го-ай! Ганна-а! Баламутніца-а, ты, баламутніца-а! Кручаная галава-а! Што табе надало выйці з колгасу? Тая ўвага, якую ўвесь час табе ўдзялялі ў колгасе? Тое даверра, з якім да цябе адносіліся колгасьнікі?.. Падбухторніца!..

— Усе выходзілі і я вышла...

— Вышла і будзе... Чаго бузуеш? Ннеэ! галубка, пячаткі Сталіна табе ня вырваць з нашых рук... Колгас жыве і будзе жыць! Будзе мацнець, шырыцца... Нашы колгасьнікі з вялікай адданасьцю працуюць ад раньня да ночы... Люба глядзець, як чарадамі, стройненька яны ўздымаюць разьмежаныя палеткі... Толькі брук грыміць пад поўнымі вазамі гною... Колгас мацуецца соцыялістычнаю ідэяй адданых яму колгасьнікаў. З дарогі-ы! Ганна з дарогі!..

Да слоў Зяленіча ня было чаго дадаваць... Жанчыны ўспакоена адна за другою пакідалі старшыноў габінэт.

І ўжо заварачвала да дзьвярэй Ганна Бабковіч, калі ўбег Хвёдар Кузьмін і прагукаў:

— Едзем, таварышы! Час!

— Малайчына Зяленіч!—Каб ты ды яшчэ...

— Разумею... не кажы... Сварыцца, магчыма, нам давядзецца яшчэ неаднойчы... Справа разгортаецца...

Хутка чэцьвера чалавек сядзелі на чорнай расорнай, толькі што адрамантаванай брычцы. Стройны, як палакіраваны, крыжасты рыцарскі Чырвоны вагнуў голаў і рушыў улева ад незачыненага ўваходу ў райвыканком... Жанчыны правялі фурманку да выязду з шырокага галу рыначнага пляцу і расьсеяліся ў розныя бакі...

## VI

На ўзвышку, за гародамі мястэчка, край-краем шырыліся яравыя палеткі. Леташнія калы, капцы і межы—зьніклі бясьсьледна... Ні знаку тых памераў, што кроілі лепшы палетак на пасялковыя вучасткі.

Разгорнутым сувоем ляжала глыбока ўзьнятая зяб. Роўныя ніткі сьвежых барозён пекна дэсэнілі маладую асуполеную ніву... Управа, за ператочнаю сьценкаю, да крывое шыі, лапаталі тры Жон Дэры. Яны здалёк, як рэзвыя медзьвяжаты, ганяліся адзін за другім, канчаючы зяб. Налева руцянела жыта. Ланцугі і чатырохкутнікі палосак туліліся адна да другое ў сораме адзіноцтва. Рэдкая цявіна прывітальна гнулася ўбок абагуленага вучастку...

Лёгкі ветрык бег з-пад будынкаў нядаўнага фольварку ў бок колектыўнага палетку. Ён нёс у сваім шэпце новыя песьні новых дзён. Ветрык пераскакваў праз межы і разганяў загнілую труху гібнучага кулацтва. З новых хлявоў, якія служылі спратам вызыскных назьбіраньняў кулака—чулася радаснае мэканьне колгаснага маладняка... Адтуль-жа даносіліся і стукі сьлесарскіх малаткоў ды посьвісты рамонтнае арцелі.

Пад новаперакрытымі паветкамі адпачывалі напрацаваныя „пуцілаўцы“. Свахамі разьмясьціліся чырвона-гвяздныя сеялкі...

— Скора сеяцьмуць?

Ігнас правёў вачыма саракагектарны простор сьвежага зябу і адвярнуўся ў бок фальбарковых будынкаў.

Перапевы рытмічных стукаў мэрам-бы адказалі яму сугалосным.

— Так, скора!

Іх пераклаў на людзкую мову—фурман Янук.

— А, скора... Канчаецца красавік...

Ён прыкурыў аблезлую люльку, цмокнуў некалькі разоў засаб і адвярнуўся да сядакоў.

Усе ў траіх—сакратар райкому, старшыня райвыканкому і дваццаціпяцітысячнік—маўчалі. Іх узрокі насіліся абапал дарогі, мераючы палявыя прасторы.

— Вось усё, што ад нас налева, прасьцецом да вунь таго лесу даўней займалі Сівіцкія хутары... Гэта, сапраўды, былі павуковы гнёзды... Як запомню—каворанцы прадаваліся ім у найміты... Тут кожная мяжа вытупана каворынскімі касцамі, жняцамі, выбіральнікамі бульбы... Паапутвалі яны нашых сялян... Тое-ж панства, толькі дасьціпней наладжанае... Ну, во, цяпер—крышка.

Янук хлопнуў стуленымі далонямі, ажно Чырвоны настаражыўся.

— Савецкая ўлада добра зрабіла, што разагнала гэта вараньнё... Ды, каб вараньнё—каршукі драпежныя... Бывала—не падступіся ні да воднага... Пазычка з банку—Сівіцкія заграбуць... Картуны з крам, як памялом павымятаюць... І сена ў іх арэндуй, і насеньне пазычай, і кулёў прасі, і... Вот, ужо, разумная зараз палітыка!.. Паверыце, таварышы, цяпер зьявілася ў сьвет справядлівасьць... Вы не патурайце, што той, або або іншы выкажа нездаваленьне... То як раз такі, катораму зусім ня прыстала гэта... А беднякі, ды большасьць серадлякоў,—цалкам з вамі... З вамі, таварышы... будзьце ўпэўнены... Вс гэта, во—трактары, дружная гуртавая праца—во гэта збавеньне... У колгасы вернуцца... вернуцца ўсе, хто з дуру павыходзіў... Нно-о, Чырвоны! Падбяжы-і!.

— Чу-уў?

Кузьмін крануў Ігнася за рукаў і паказаў пальцамі на фурмана.

— Голас беднаты... Цьвярозыя развагі...—дадаў ён...

Сакратар райкому ці не схацеў, ці ня мог нічога адказаць.

— Кадачкін, а ты, згодзен з Януком?

— Так, у яго словах маецца рацыя... Толькі, зразумела...

Віктар памкнуўся згладзіць катэгорычнасьць свайго першага сказу, адаля сутрымаўся: ён адчуваў, што яшчэ яго канчаткова не пакінулі ваганьні ў поглядах на адсеў з колгасаў.

— І ты? І табе, як Чарадзе, сьвярбіць пакуль страта папяровых колгасаў?

Кузьмін не ўкладаў у свой сказ пытальнага значэньня і адвярнуўся ў бок прамінаючай вёскі.

У шэрых будынках, за пачынаўшымі распукваццa клёнамі чуўся галасны лямант. Некалькі мужчынскіх ды жаночых галасоў перапляталіся ў вычварных прарэзьлівых пярэгуках.

— Во-а, слухайце-э!... Я так і адчуваю, што гэта ідзе сварка з-за зямлі... Тут дваццаць гаспадарак адказваюцца выяжджаць у поле...

Віктар матнуў рукою.

— Ну, і... выедуць, калі ўжо ня выехалі...

Кузьмін зьліў апошняе слова з пераліўным сьвістам...

А дзе яны дзенуцца?

Умяшаўся Янук.

— Паедуць і засеюць. Яшчэ дайце столькі зямлі і тую засеюць... Павалаводзяцца дзень-другі, пакуль сонца выпаўзе з-за хмар ды прыпячэ ў сьпіну і толькі пыл закурыць...

— А ўсё-ж, дарагія таварышы, крыху ня тое... Ня тое крыху ды ўсё... Гэта-ж бы, каб асталося ў лютаўскім палажэньні—эк-хі!—як воку згледзіць—адзін-бы непадзельны колгас!.. Зразумела, наперадзе станецца... Трэба будзе падвінціцца нам да даглядзець старэнна і акуратна захаваныя колгасы, і тады-і...

— Во-а! Ці-ж ня тое я кажу?

Ужо Віктар разьняў вусны, каб ад сябе дадаць да таварышавай думкі, але перасякаўшы ім дарогу коньнік ня даў яму вымавіць.

— Крыўчык, напэўна?—кінуў дагадку Кузьмін.

Трое рук абярнуліся казыркамі над устрэмленымі ўправа пільнымі ўзрокамі шасьці вачэй.

Хутка яны прывялі да падводы старшыню праўленьня колгаснага кусту—таварыша Крыўчыка.

## VII

Янук прыпыніў Чырвонага.

— У Кочмы бадай?—запытаў Крыўчык.

— Адкуль ты дазнаўся?

Старшыня райвыканкому рэвізыйна аглядзеў Крыўчыка і яго каня.

— Не да мяне-ж?

І самаздавольна ўхмыльнуўся.

— Не зарэкайся, голубе! Глядзі—нагнуў там у сябе дух... Надовечы індывідуальнікі прыяжджалі ў выканком...

— Толькі не нацягвай... У мяне, брат, не палучыш гэтага... Спраўся, калі цікавішся, у ячэйцы, у любога... На яць пастаўлена справа.

— А я ўпэунены, што яшчэ ня ўсе вышлі сеяць... Выганы...

Крыўчык пацьверджальна матнуў рукою і засьмяяўся.

— Пашлі... Усе пашлі ў поле... Табе набаялі, таварыш старшыня... Паглядзеў-бы—усё поле ўсеяна людзьмі. Работа—гудзе! З выганам, уладжана, з сядзібнымі пляцамі тое самае... Цяпер толькі давайце насеньне... А то райколгассаюз...

— Кінь дармаўшчыну разводзіць... Дарагі таварыш, ты, наогул, стараешся заўсёды паставіць сябе вышэй любога з раённых работнікаў. Мне гэта твая асаблівасьць зусім не падабаецца... Пара кінуць чванства...

Узьняты тон сакратара райкому раптам зьмяніў Крыўчыкаў настрой. Чуючы сябе правым, старшыня кусту занэрваваўся і захлестаў дубчыкам па жоўтых запыленых гэтрах. У яго на твары суніцамі расьцьвілі чырвоныя плямкі, а вочы загарэліся смутнымі аганькамі.

— Ты, таварыш Чарада, валіш дарэмшчыну... Хто табе набаіў усяго гэтага? Ты з прадубяджэньнем да мяне...

Крыўчык хваляваўся і ня мог, як заўседы, стройна выказаць сваіх думак...

— Я ніколі не дазваляў сабе...

Ён спрытна ўскочыў на каня і нацягнуў абродзь. Конь затупаў на мейсцы, падаючыся назад.

— Я буду настойваць праравізаваць маю працу... Ласьне дапусьціма...

Ігнась бачыў Крыўчыка наскрозь.

Яго чуласьць заўсюды выпаўзала на паверх, калі справа датыкалася крытыкі яго работы. А адстаяць сябе ў любых абставінах—то была тактыка Крыўчыка, якое Ігнась не далюбліваў.

На гэты раз мо' і не да рэчы быў-бы ўзяты Ігнасем начальнічы тон—пазьней Ігнась згаджаўся з гэтым сам,—але ён ня мог іначай зрабіць, каб не прачытаць карысную для Крыўчыка нотацыю.

„Гэта служыць яму на карысьць“,—разважаў сэкратар.

Ацэнены раёнам, як старэнны і добры работнік, Крыўчык пакрываў гэтым некаторае свае задаваньне. І шэраг яго, хоць і дробных, але прыкрых памылак па лініі адміністрыраваньня колгаснага будаўніцтва, ён стараўся апраўдаць „нячулымі“ да яго адносінамі райкому.

Ігнась вызнаваў поўную абсурднасьць Крыўчыкавага „паклёпніцтва“ і ў кожным падыходным выпадку, адплачваў яму „па заслугах“.

Віктар быў у курсе іх адносін і на гэты раз, аставаўся простаю сьведкаю таварышавых супярэчак.

Каб згладзіць уражаньне ад іх гутаркі, ён жартаўліва кінуў Крыўчыку:

— Прагуляйся па сьвежаму паветру і трохі астудзішся.

А Кузьмін па-бацькаўску разважыў:

— Ці варта вам, таварышы, з-за пусьцякоў перараракацца-а!..

Калі абое коняй зрабілі першыя крокі да разьезду—і сакратар райкому і старшыня кусту роўна астылі ў настроі.

— Перадай, Кузьмін, уклон Палуце Якаўне-э!

Зычны рогат Віктара быў адказам Крыўчыку.

## VIII

Яны заварачвалі направа, да густое градкі лесу. Косая сьценка вычварна выводзіла ломаную лінію між зарунелага жыта. Чатыры рады сьлядоў Жона Дэра памялі яе на ліпкае месіва. Брычка падскакала на вырытых каменьнях, а Чырвоны напінаў лейцы. Янук гайдаў галавою, выглядаючы цалейшыя мясьціны сьценкі, але трактары аднак усю яе пабузавалі.

— Таварышы, ужо вы мне ўбачайце—ну, тут каню цяжка падбегчы... Паглядзеце... Варта было-б ушчунуць таварыша... Драсёна але ведаеце, ім некудаю езьдзіць...

— Вунь у той фольбарак, бывала, ехалі тэю, во, лагчынкаю, а ў двор толькі сюдэю...

Янук крутнуў пугаю над сьпінаю Чырвонага.

— Даедам, дзядзька. Наша легкавая дарога па той бок ляску, але ўжо калі паехалі сюдою...

Кузьмін пахіліўся ў бок і зазірнуў напрамкам да чуць выпаўзаўшых з-за ўзвышша будынкаў вёскі.

— Прыгледзься, Ігнась, да, во, таго ўзгорку.

Кузьмін паказаў пальцамі па-за жытні палетак.

— Там ёсьць наш спрэчны вучастак. Індывідуальнікі, бачыш, намагаюцца ўсяго таго кліну, што адным канцом упіраецца ў лясок, а другім западае ў падрэчную лугавіну. З грудка, як раз, пачынаюцца колгасныя полі, а далей—сядзібныя вучасткі... Я ім абяцаў адрэзку па той бок вёскі—ды там прагону няма...

— Плян маеш?

Ігнась пераняў з Кузьміных рук скамечаную кальку і пачаў разгортаць яе на каленях.

— Што ты выглядзіш цяпер; зараз прыедзем і пойдзем на места.

Аднак Віктаравы словы не пераканалі Ігнася.

Ён разлажыў плян і пачаў углядацца ў растаўленыя кропкі ды ў выведзеныя лінейкі.

— Дзе тут асноўны масыў вашых палеткаў?

Кузьмін на памяць ткнуў пальцам у шэрую мясьціну пляну.

— Глядзі адгэтуль... Паўз рэчку і далей на поўдзень.

Указны палец сакратара прайшоўся крывою ўсьцяж зьвілістае лініі.

— А памоему...

— Кінь!

Віктар сапхнуў з Ігнасевых кален плян і засьмяяўся.

— Ня дурэй...

— Паглядзі на жыта. Нябось, Кузьмін, пра яго маўчыць... А няхай скажа, колькі тут будзе коп...

Старшыня райвыканкому ўпічліва паглядзеў дваццаціпяцітысячніку ў вочы. Але той спакойлівай стрыманнасьцю адбіў яго ўзрокі і наводна запытаў.

— Да чаго ты, старшыня, гэтым хіліш?

— Жыта благое, мой мілы гаспадару.

— Або я яго сеяў? Ды каб я—чым ты абароніш ад вымаканьня... Паглядзі, во...

Кузьмін саскочыў з брычкі, хапіў у руку груду зямлі і паднёс яе Віктару.

— Дзьве нядзелі без дажджу, а зямля як гразь... А ты хацеў тут нажаць жыта... Кулаччо можа назнарок, зломысна зьбёдавала тут і зярнё і поле... А нам...

— А вам давядзецца пераворваць... Куды-ж так астаўляць... Павінна рацыянальна выкарыстацца кожная пядзя зямлі... Памятай, Кузьмін, што на цябе азіраюцца дзесяткі індывідуальнікаў... Драбнюткае ўпушчэньне—гэта страта членаў колгасу... Мы зараз здаём экзамін на новых гаспадароў—і, во, як трэба глядзяць у абудва бакі... Трактары вытрымалі іспыт, сеялкі крыху падводзяць, а мы не павінны ні-ні...

Маральныківок старшынёвага пальца падкрэсьліў сур'ёзнасьць яго гутаркі.

— Або я дзесяцігадовы хлапчук? Будзь супакойліў, таварыш, мы сіл сваіх не шкадуем, не... Я не з прынукаю выяжджаў на вёску... Можам справіцца ў камітэце; сам напрасіўся... І было-б шкодніцтвам, каб я скрозь пальцаў глядзеў на ўручаную мне работу... Мы ня ў бірулькі іграем, а строім соцыялізм... Мы прыстаўлены на варту, на баявы вучастак самага адказнага фронту...

На Кузьміна з настарожлівасьцю глядзелі і старшыня райвыканкому і сакратар райкому і фурман—Янук.

Нават Чырвоны, мэрам-бы, прыслухоўваўся да зацягальных, бадзёрых сказаў Кузьміна.

— Я проста гляджу на рэчы,—казаў Кузьмін далей:—партыя атрымала ў вёсцы поўную спагаду... Колгасьнікі—беднякі, батракі, і вялікая частка серадняkoў сталі надзейнаю апораю партыі... І тое серадняцтва, што пакуль яшчэ вагаецца між колгасам і індывідуальнаю гаспадаркаю—таксама адобрыла нашу колгасную політыку... Яго калываньне—часовае... Пройдзе нейкі час, можа толькі месяцы, і мы зьявімся сьведкамі новае прылiўнае хвалі ў колгасы... Ужо разгар севу, а, глядзеце я і ўчора атрымаў пяць заяў... І гэта наглядаецца ўсюды... Так што, таварышы...

— Добры дзень!

Іх вітаў таварыш Драсён, старшыня колгасу „Варта“, для ўсіх зьнянацку ачуўшыся ў двух кроках ад іх.

— Да нас?

— Ну, што чуваць?

— Кочмаўцы чакаюць...

— А ты чаго тут?

— Азіраю... Ужо другі раз сёньня...

Ён ішоў пры возе, не адстаючы ад Чырвонага.

— Станавіся на лаўку—пацягне... го, а ты—і...

Янук тузнуў лейцамі...

— З трактарыстымі вышлі непаладкі... Задраліся, жулікі, і гадзін з дзьве часу ні за што змарнавалі...

— А як ідзе сеў?

— Сто гектараў ужо вабралі... Зараз пад ячмень уздымаем... Насеньне обмаль... Райколгассаюз падкачвае... А то мы-б ужо наганялі другую сотню га... Пшаніцы-яркі не хапіла...

— Во, ба-чыш... і Кры-ўчык тое-ж казаў...

Ігнась махам рукі перапыніў Кузьмінаў сказ, запытаўшы Драсёна.

— А рабочых рук хапае?

— Спраўляемся, таварыш Чарада... У нас у „Варце“ склаўся такі моцны актыў, што не нацешыцца. Энтузыясты хлопцы... Толькі зоймецца золак, як, глядзіш, ужо на полі. Пастануць гэта ўрад, плугоў з дзесятак у шарэнгу і, калі зоймуць, дык сажняў пяць—толькі любуешся... Адно пах ідзе з баразён... У гэтым мы асабліва можам пахваліцца...

Кузьмін уцешна засьмяяўся.

— Ужо адно тое, што нашы колгасы нарадзілі кадры зацятых энтузыястых, адно гэта што варта... Калі раскінуць хоць-бы па пяць чалавек на колгас, а ўсіх іх у нас да паўсотні на раён—то—улічэце якая сіла!..

Новы шастакол абапал сьценкі ўводзіў Чырвонага на дзядзінец колгасу „Варта“.

## IX

Роўны, як ток, дзядзінец хваліўся прыежджым выстаўкаю сельскагаспадарчых прылад. Пры самым ганку пыхкалі запацелыя Жоны Дэры, у рад з імі, бліжэй да сьвіронку, стаялі чырвона-зьвяздныя сеялкі-дыскаўкі. З-заду іх, пры новай агароджы, мясьціліся бочкі з мазідлам і бітоны з бэнзінам, крыху на аддалёк віднелася зьлёгку пашарпаная арфа.

На азадку, пры сьценах канюшніку, адсунутыя з пярэдняга пляну ляжалі зваленымі ў кучу рэшткі паламаных драбін, сох, барон і іншае маемасьці ранейшага гаспадара фальварку, кулака Замоцкага. Апроч гэтага лому, амаль нічога не дапаміналa кулацкага гаспадараньня. Вакол на дзядзінцу, у саду, і на полі, у хлявох і гумне—стала ўсё іншым, новым, прыстасаваным да колектыўнае гаспадаркі, да новых размахаў і тэмпаў працы.

Наяўнасьць гэтага яскрава кідалася ў вочы пры першым увроку сьвежага чалавека.







Прыехаўшыя раёнцы прывіталі новую гаспадарку задаволенымі ўхмылкамі.

— Відаць, што тут колектывізацыя ступіла цьвёрдаю нагою...

— Гэта яшчэ ня ўсё, таварыш сакратар... Вось я вас правяду і азнаёмлю, тады вы зробіце свае заключэньне...

Старшыня колгасу паказаў на гумно, куды Янук і завярнуў Чырвонага...

— Злазьце і, калі ласка, да канцыляры; а там ужо абед неўзабаве...

Драсён руплива накіраваў у задоўку. Калі ён па дарозе зазірнуў у канцылярыю—там сядзела да дзесяці чалавек, якія зацята пра нешта спрачаліся. Яны на першы момант не заўважылі Драсёна, чаму старшыня колгасу пасьпеў улавіць аснову гутаркі: трактарысты расьпякалі сакратара колгасу.

— У вас аб чым ідзе гутарка?—справіўся Драсён, зьнянацку прагукаўшы на ўсю канцылярыю.

Прысутныя адначасна павярнуліся да дзьвярэй і змоўклі.

— Няхай-бы вы хоць раз абышліся цішком... Заўсёды дзе трактарыстыя—там вэрлах... Прыходзіцца скардзіцца.

Драсён не дасказаў—яго адцягнула загадчыца гаспадаркаю—Палута Якаўна. З жмакам ключоў у руках, жанчына рассыпалася перад старшынёю колгасу скарамоўнаю гутаркаю і павяла яго за сабою.

Трое замурзаных хлопцаў-трактарыстых пусьцілі па іх адрасу жартоўныя сказы.

Драсёну не абмінуць-бы зацяжнага абгавору сябе з усіх бакоў, каб увайшоўшы ў канцылярыю Кузьмін не паперашкодзіў гэтаму.

Яго прыход зразу зьмяніў настрой. Прысутныя пачалі абмацваць яго пільнымі ўзрокамі, чакаючы або запытаньняў, або распараджэньняў.

Але Кузьміна на ганку чакалі Ігнась з Віктарам і яму ўсяго і хапіла часу запытаць:

— Нешта сёньня таварышы-трактарыстыя забузілі?

Тыя нашарохана пераглянуліся паміж сабою і ў адзін голас праказалі:

— Таварыш Драсён перавялічвае.

Кузьмін не разабраў пасланага за ім сказу: ён павёў прыезджых у сталоўку... Але, выглянуўшы праз нейкі час у вакно, ён бачыў, як трактарыстыя ўвіхаліся каля гнедых Жон Дэраў. Яны старанна абцíралі сядзеньні і калёсы, правяралі рухавікі і спраўляліся аб змазваньні.

— Ты іх распускаеш, таварыш Драсён, і таму яны сьмела падносяць табе падобныя сюпрызы... Паглядзі—варта ім было ўгледзіць мяне, як зразу да хлопцаў вярнулася дысцыпліна...

Старшыня колгасу кіўком галавы не згадзіўся з вывадамі Кузьміна. Ён меў напагатове свае даныя для апраўданьня некаторае распушчанасьці трактарыстых, але сакратар райкому запяў яму выказаць.

Ігнась запытаў Кузьміна:

— А вы сярод трактарыстых якую-небудзь культурную работу вядзеце?

— Што за пытаньне, таварыш Чарада... Ну, тут, бачыш, блага адбіваюцца жыльлёвыя ўмовы. У нас няма памяшканьня належнага, каб дзе яны маглі адпачыць... хлопцаў наехала да дзесяці, а мы...

— Вось на гэтым мы і зрываемся...—дадаў Драсён...

Палута Якаўна спыніла далейшую гутарку падносам пахучага макароннага зупу.

## X

Абеднікі ня скончылі другога, як Палута Якаўна пакінула застольле. Яе жывая рэзвая постаць швыдка мігнулася ў мужчынскім ваччу і зьнікла за растаўленымі шафамі.

— Гаспа-ады-ыня-а?—пусьціў за ёю ўсьлед Віктар, і тут-жа абвёў усіх узрокам. Ліслівая ўхмылка растала з апошнім куском тлустае гавядзіны.

— Палута Якаўна пастаралася сёньне з абедам—малайчына.

— Яна ў нас, наогул, чалавек гаспадарны.

Віктар упічліва паглядзеў на Драсёна.

— Так-так, Палута Якаўна досыць добра спраўляецца з абавязкам загадчыцы гаспадаркі. У яе не ўцячэ лішняе жмені мукі, не разыдзецца дармо напёрстку газы... Папрабуй выманчы ў яе чаго без дазволу...

— Твайго?

— А хоць і майго—як старшыні колгасу...

Драсён не дасказаў—Палута Якаўна бегла з кіпучым самаварам.

— Вы яшчэ гарбату згатавалі?

— Трэба гасьцей напаіць з дарогі.

— Мне падабаецца ваш абед...

Ігнась зьмяніў спакойна—сумную міну твару і цёплым узрокам паглядзеў на жанчыну.

— Не папікайце-э, чым хата багатая... Вось зьбярэм ураджай у колгасе—тады пачастуем ляпей... Цяперака, пакуль; сточваем канцы з канцамі... Новая гаспадарка... Дзякуючы во-ім—таварышам Кузьміну і Драсёну, сёе-тое дастаём, камбінуем і сяк-так харчуемся. Патрабаваць ад нас лепшага-заўчэсьне...

— Вы скардзіцеся, Палута Якаўна?

Віктараў палец стралою накіраваў у сярэдзіну пірамідкі з нарэзанага пірага.

— Хавай божа! Што вы, таварыш Кадачкін! Каму і навошта? Або невядома, што ў першы час давядзецца пацісну́цца? Наадварот! Наша арцель весела глядзіць наперад! Вось прыедзеце, калі загрукацяць вазы з снапамі. Ведалі-б як дружна ідзе сяўба! Нашы—таварышы Кузьмін і Драсён—добра наладзілі справу. Работа ідзе—роўна і спора... А гэта, што гарбата—я неяк не магу іначай... Сёньня ня зусім цёпла—трэба падагрэцца і гасьцям і сваім... Трактарысты ня могуць абыціся без гарбаты... Ах! Трэба-ж мне іх накарміць...

Палута Якаўна мігам апынулася ў рашчыненым вакне і паклікала „хлопцаў“.

Вызваленае застольле ізноў запоўнілася абеднікамі. Гаспадыня спрытна ачысьціла стол і госьці не пасьпелі пабраць шапкі, як новая лаханька зупы задыміла параю па хаце.

— Дзякуем, гаспадынька, за сытны абед!—паслаў Віктар жанчыне.

Тая з адкрытаю ўхмылкаю паглядзела ўсьлед і прынялася разьліваць зупу ў талеркі.

Драсён выводзіў раёнцаў з сянец, калі пара пілявых жаночых воч украдкаю мігнуліся ў вакне.

XI

— Пачнем з саду?

— Як лепей і хутчэй.

— На сход пасьпеем; яшчэ ўсе ў полі.

— А сход дзе маеце склікаць?

— Сакратар ячэйкі назначыў тут, у канцылярыі ўправы...

— А дзе таварыш Панасюк?

— Сее .. Ён у нас любіць працаваць у полі—малайчына. Сам стараецца і другіх захапляе...

За дасьціпна прыладжанымі варотцамі на іх глянулі стройныя рады пабеляных дрэў маладога саду.

Падчышчаныя і дагледжаныя, як да сьвята, маладыя, карчавыя ігрушкі ды яблынкі выкідалі сьвежыя пупінкі лісьця. З-пад узьнятых лісткоў чырваніліся завязі цьвету. Яшчэ далёка да распусканьня, а ён ужо дыхаў густою струменьню мядовага водыру. Руплівыя пчолы абвівалі сьветлазялёныя купкі лісьця касьнікамі сваіх рэзвых напеўных палётаў і, саджучыся на іх, напорна прашывалі язычкамі да цьвяточных завязяў...

Унізу, між шаронгаў белых камлёў—стаялі іх рознаколерныя домікі-вульлі.

Сад дагледжаны, як мае быць... Замоцкі-ж пакінуў яго ў поўным запусьценьні... У нас тут ёсьць унівэрсальны чалавек: ён табе і трактар падмайструе, і сеялку паправіць, і пчол дагледзіць, і з садам управіцца... Выпадкова натрапілі на яго. Захапіўся колектывізацыяй, пакінуў горад і ахвотна перайшоў да нас... Пажылы—а які рухавы ды ўпраўнічы! Такія людзі проста знаходка...

— Хто такі?

— Францусь Матавіла... Ён зараз вернецца з поля і я вам яго... Глядзеце, во, гэта парода груш: цукроўкі з помесьсю сапяжанак. Даюць такую якасьць садовіны, што Крым таго не дакажа... А той, вунь рад—чарносьлівы-вянгэркі... Мясістыя-а, як цеста, і солад!

Драсён увішна бегаў наперадзе ўсіх, акідаючы ўзрокамі кожны камель; ён шукаў і ўнізе і ўверсе чаго-кольвечы выдатнага ці проста прыметнага і зварачываў на яго ўвагу прысутных. Было відаць, з якім запа-

лам ён аддаецца ўручанаму яму гаспадарству колгаса. Кожная рэч выклікала ў яго ўмільную павагу, трапяткое зацяганьне.

Кузьмін уцешна сачыў за ім нязьмігутным узрокам і з асалодаю пераймаў дбайлівыя, гаспадарскія тлумачэньні свайго таварыша і супрацоўніка.

Ён адчуваў, як падатна і гасьцінна яго нутраны сьвет, яго пачуцьці і настроі, пераключаліся на ўспрыманьне новых, дагэтуль нябачных і незнаёмых яму працэсаў будаўніцтва соцыялістычнае гаспадаркі ў вёсцы. Толькі тры месяцы таму, як ён апошні раз переступіў парог фабрычных варот і падаў у партыйны камітэт заяву аб залічэньні яго ў дваццаціпяцітысячнікі.

Калі Бюро Камітэту дало згоду пасляць Кузьміна ў вёску на колектывізацыю, накіраванасьць яго ўвагі зразу павярнулася ад машын да нівы, з цесных вуліц бурлівага гораду ў засьнежаную вёску... Ён быў адным з першых ударнікаў, палажыўшы многа стараньняў на ўздым працоўнае дысцыпліны на фабрыцы, які аднак, лёгка павярнуўся да вёскі, пакінуўшы песьню сырэны спакойліва і сьвядома.

Партыя паклікала!

У вёсцы выявіў, жыцьцё новы фронт соцыялістычнага будаўніцтва. Над старым, закаржэлым ладам індывідуальнага, дробнаўласьніцкага гаспадараньня завіхрыліся ідэі колектыўных пачаткаў. Няпрыметна, але ўверана, прайшлі яны ў бядняцка-серадняцкія гушчы, пераварыліся ў руплівых, шукальных меркаваньнях і думках і выбухнулі разгойданымі хвалямі па абуджаных вуліцах вёскі...

Кузьмін зьявіўся ў Каворну ў першых лічбах лютага... З падводы ён зразу пашоў на сход, дзе сотні сялян зносілі ў памятых заявах свае рашучыя намеры парваць з надаеўшай індывідуальшчынай і ўступіць на цьвёрды шлях колектыўнага жыцьця...

З часу пасеву яго прыкамандыраваў райком да колгасу „Варта". І толькі каля месяцу перад яго вачыма зямля. Але гэтага часу хапіла ўспрыімнаму сьлесару-індустрыялісту на тое, каб асвоіць першыя патрэбныя веды ў сельскай гаспадарцы. Надараны організацыйнымі здольнасьцямі, Кузьмін дзеліць іх з Драсёнам на пераймальне ад яго землеробскага вопыту. І супяшчанікі, і глей, сэрадэля і канюшына, засек і хваса, лямех і аглабіно—ясны і конкрэтны для Кузьміна, як напільнік і шаблон, як абцугі і зубіла...

Зялёная рунь жыта, як разгорнуты сувой сатканага атласу...

Ён цяперака адзін з кіраўнікоў маладое колектыўнае гаспадаркі.

Драсён выкладае перад старэйшымі таварышамі вынікі тых дасягненьняў, на якія аддана многа стараньняў і Кузьміна...

Чаму-ж ня цешыцца?

— Ну што, таварыш сакратар, мы маем чым пахваліцца?

Ігнась адказаў рэзваю ўсьмешкаю, якая заліла яго твар, як зялёная трава—глянуўшыя на іх за садам пастаўнікі.

— Гэта нашы мурагі. Шэсьцьдзесят гектараў. Тут зьбіраў Замоцкі тры пакошы. І што за сена! У калена атава—як пух, як разбэрсаны шоўк... Яшчэ маем пудоў дзесяць атаўнага сена—каровы аблізваюцца... І вось на гэтым куску якраз і стыкнуліся нашы інтарэсы з індывідуальніцкімі... Няўжо мы павінны патураць іх дробнаўласьніцкім запатрабаваньням?

Як глядзелі ўдоўж раскінутых паплавоў, так раптам абое, і старшыня райвыканкому і сакратар райкому, уперыліся вострымі ўзрокамі ў натхненны твар Драсёна.

— Ну, скажы, дарагі таварыш...

Тон Ігнасевага голасу ўзростаў, як уздымаючыся на ўзвышша і на „таварышы" пераццяўся. Ён кашлянуў і ўпічліва працягнуў далей:

— Адкуль у цябе знаходзіцца гэта прага заграбастаць як найболей: Няўжо ў вас мала зямлі? Апрацуйце, пахвалецеся, усю і гэтага будзе з вас даволі. Навошта завострываць адносіны з індывідуальнікамі? Ці-ж нам караць іх за тое, што яны пакуль не ўсьвядомілі пераважнасьці колгаса перад прыватнай гаспадаркаю?.

— А ласьне нам не шкада колгаса? Гэта-ж наша ўлюбёнае дзіця... Наш соцыялістычны падмурак... Або мы для сябе стараемся?

Віктар слухаў гутарку таварышаў і пра нешта натужана думаў.

Выбегшыя з-за гумна трактары адвялі іх увагу на сябе.

— Аруць на ячмень... Тут, во ад гумён і да ляску маем засеяць ячмень...

Драсён аж падаўся наперад за рукою, якая абвяла размашыстае кола...

— А там, направа—пойдзе палетак сэрадэльны...

Адначасны паварот чатырох галоў спыніўся на выпрастанай, стройнай постаці Палуты Якаўны.

— Ужо вас сход чакае, таварышы.

## XII

— Патрэбна абавязкова ўгаварыць колгасьнікаў на гэтыя нязначныя ўступкі... Трэба, каб індывідуальнікі вышлі ў поле... Нідзе па раёну больш гэтага няма... Мы павінны сёньня вырашыць конфлікт...

Сакратар райкому паднёс гэтыя словы ў выглядзе дырэктывы, але яму самому не хацелася завастраць пытаньне.

Колгас „Варта" зрабіў на яго дужа выгаднае ўражаньне, як сваім кіраўніцтвам—гэтак і пастаноўкаю справы. Плянавасьць у працы, якое нельга было не заўважыць, і шчырыя стараньні Драсёна ды Кузьміна пераконвалі Ігнася ў пасьпешным разьвіцьці колгаснае гаспадаркі. Ён яшчэ, праўда, не пасьпеў азнаёміцца з настроем колгасьнікаў, не хаваліся з яго ваччу і дробныя зашчэмы організацыйнага характару, але ў асноўным „Варта", па яго думках стаяла ў шэрагу перадавых колгасаў.

Было-б вельмі добра, каб знайсьці той ці іншы компроміс і ўлагодзіць як колгасьнікаў, гэтак і індывідуальнікаў. Сярод апошніх ён ведаў,

вялікая колькасьць паўбядняцкіх гаспадарак... Калі кончыцца з гэтым конфліктам—тады можна будзе заявіць на конфэрэнцыі аб пасьпешным разгортваньні сяўбы...

— Таварыш Драсён і таварыш Кузьмін, вам трэба пераканаць колектыўшчыкаў... Мы ім нагонім гэта іншымі ільготамі,—ужо інакшым тонам праказаў Ігнась.

— Ой, я баюся...

— Калі трэба—то трэба!

Кузьмінавы словы пераканалі Драсёна ў лішніцы супярэчак.

Але старшыня колгасу, добра вызнаўшы сваіх людзей, непакоіўся за іх упартасьць. „Вось хіба на іх уплывуць нашы агульныя ўгаворы...“

Яны выходзілі на дзядзінец і ўжэ чулі адгалас шумлівае гутаркі ў канцылярыі колгасу.

— Гудзяць!

— Ды яны ў нас любяць пагутарыць.

— Сёньня хопіць гутаркі надоўга.

Гэта папярэджаньне Драсёна нікога ня зьдзівіла. Сур'ёзная справа патрабуе сур'ёзнага абгавору—было зразумела і сакратару райкому і старшыні райвыканкому... Разумеў гэта і Кузьмін.

Усіх займала пагаджальнае вырашэньне пытаньня.

Стрэўшы іх пры дзьверах канцылярыі колгасу, каморнік Белявы многазначліва пакруціў галавою.

## XIII

Зацікаўленасьць колгасам глядзела з кожнага твару прысутных на сходзе. Узьняты настрой колгасьнікаў ясна засьведчываў іх адданыя адносіны да свае колектыўнае гаспадаркі. Чулая настрожанасьць паказвала на рашучую гатоўнасьць адстойваць агульныя інтарэсы „Варты“.

І толькі прадстаўнікі раёну ўселіся за сталом, каб пачаць сход, як цесная сьцяна колгасьнікаў шчыльна аколіла стол. Пяклівыя ўзрокі строма накіраваліся на старшыню райвыканкому і на сакратара райкому.

— Пачнем, таварышы?

Пачнем! Пачнем!

Драсён разважна і ўгаворна правёў сваю прамову да колгасьнікаў. Сутнасьць яе ім была знаёма, але ніхто не перабіў на словах старшыню колгасу.

Ён даказаў да канца і заключыў прызывам да згоды.

Колгасьнікі пераглянуліся, і Ігнась угледзеў, што Драсёнава гутарка мае ўплыў.

— Мы ім ня ўступім і пядзі зямлі.

Гэта сказаў сябра праўленьня колгасу—Макар Затока, але ён сказаў за ўсіх і ня так цьвёрда, як паказвалася.

— Так, так, ня ўступім і пядзі!!

Мы пайшлі ў колгас, каб будаваць наша новае колектыўнае жыцьцё. Мы не дазволім ставіць нам запяткі! Улада павінна нас падтрымаць, а індывідуальнікам—дзьверы адкрыты. Няўжо патураць іх прыватніцкім вымаганьням?

Макар Затока выказваў кожнае слова, як адбіваў молатам. Але ў гартаванасьці яго слоў Ігнась выглядаў адзнакі падатлівасьці.

— Дарагія таварышы!—падняўся ён для гутаркі: Я вельмі добра разумею вас, калі чую вашу дбайлівую клапатлівасьць за колгасную справу. Улада цалкам на вашым баку. Інтарэсы колгасаў яна аберагае ўсебакова і рашуча... Але ў даным выпадку гэтыя інтарэсы ня церпяць. Ваш колгас без усякае страты можа ўступіць спрэчны клінок выгану... А вы павінны знаць, што нам трэба засеяць увесь клін... Ды, болей таго. ласьне гэты кавалачак выгану можа псаваць вашы адносіны з індывідуальнікамі? Калі яны не пайшлі ў колгас сёньня, яны пойдуць заўтра. Вы сьвядомейшыя іх і раней зразумелі ўсю перавper... перавагу — 

Ігнасевы словы вочавідкі мянялі настрой колгасьнікаў. Кузьмін бачыў, што справа прымае добры наварот. І некалькі вострых выгукаў па адрасу індывідуальшчыкаў узьняты гоман колгасьнікаў пры канцы сакратаровых слоў, напушчальная нязьмірымасьць з пропозыцыяй Драсёна—не мянялі палажэньня.

Цёгка Ярмалаіха тут-жа выявіла гэта ў дадзеным ёй слове:

— Мужчынкі, дык на вошта нам, колгасьнікам, сапраўды, быць гэткімі нязьмірымымі. Або-ж мы маем справу з кулакамі? Кулацкай злыбядзе мы паказалі належную дарогу; а гэта-ж людзі, з якімі мы заўтра-пазаўтра сустрэнемся ў нашай „Варце“. Чуеце, мужчынкі, мой сын гэтак піша з Чырвонае арміі: „ідзі, маці, у колгас і ўгаварвай іншых“; колгас,—піша ён,—„вядзе да лепшага жыцьця, да соцыялізму“. Во, мы і павінны зьбіраць найбольшую грамаду, каб лягчэй і хутчэй разам дайсьці да соцыялізму. На вошта-ж непатрэбныя сваркі...

І да Ярмалаіхі трое мужчын накіравалі кусьлівыя жарты, але ўжо ўсе прысутныя згодна чакалі моманту адобрыць пропозыцыю на замірэньне.

Яе паднёс старшыня райвыканкому.

„Таварышы вартаўцы! Давайце мы аднагодна прагаласуем наступную рэзолюцыю:

— Сход колгасьнікаў, „Варта“ ўсебакова падтрымлоўваючы бальшавіцкую сяўбу, ідзе на вырашэньне конфлікту з індывідуальнікамі і ўступае ім на карыстаньне кавалак прырэчышча ў дваццаць гектараў“.

— Хто супроціў?

— Згодны, таварыш старшыня, згодны!

— Будзем лічыць сход зачыненым?

— Будзем! Будзем!

Драсён першым устаў з-за стала і задаволена аглядзеў перапоўненую канцылярыю.

Каморнік Бялявы зьдзіўлена ўхмыляўся.

## XIV

Макар Затока вёў раённых гасьцей да сябе на начлег і апавядаў:

— Мы ня за тое, таварышы, каб ня іці на замірэньне. Вядомая рэч— кочмаўцы да аднаго восеньню прыдуць да нас... Але мы даражым сваім колгасам. Мы працуем, не складаючы рук, мы з душою аддаемся сваёй справе, а некаторыя з нас пацьвільваюцца. Ці-ж гэта ня крыўда? Другі не ўсьвядоміў сабе ўсяе важнасьці пераходу да колгасаў, упяўся за старое, як за шула, і думае, што так астанецца стаяць... Няўжо-ж яму патураць? Чаму-ж, калі яны за свае, а нам на здачу?.

— Тава-рыш За-тока правідлова кажа... Але-ж нам трэба знайсьці выхад... Пакінуць столькі гаспадарак без засеву—праступна.

— Або, думаеце, яны ня сеялі-б? Яшчэ дзень-другі і пасьля замілы бог...

Ігнась маўчаў. Дадатнае вырашэньне конфлікту зрабіла на яго заспакойваючае ўражаньне. З гэтага часу раён цалкам вызваляўся ад тормазных перабояў у разгарненьні пасеўнае кампаніі. Цяперака аставалася ўсяго насеннае пытаньне. Хопіць насеньня—вёска выпаўніць падвышальную плошчу засеву.

— Віктар,—у цябе з насеньнем моцна?—праверыў ён.

— Пакуль хапае...і думаю, што хопіць... Яшчэ ня было адмовы нікому...

— А чаму-ж Крыўчык наракае?

— Дарэмна. Завяраю, што дарэмна. А адмовы ня было нікому.

— А насеньне трэба многа-а-а! Адна наша „Варта“ колькі ўсыпле яго ў зямлю. Ну, за тое восеньню!.. Не адзін з індывідуальнікаў пачэша патыліцу, што дарма вышаў з колгасу...

Затокавы сказы плавалі ў сьмеху.

— Вернуцца... Пабачыш, Макар... І я шкадаваў раней, што пашоў, некаторы адсеў, але мы самі вінаваты... Ды ўсё-ж, ня гледзячы на адсеў... Ці-ж ваша „Варта“ ня кажа за тое, што колектывізацыя зрабіла вагромністыя заваёвы...

Ігнась пранізваў узрокам цемень ночы, разглядаючы Затокаў твар.

— Памойму, гэта адзіны шлях, для вёскі... Іначай... Ды вам гэта лепш вядома... А то-ж, во—глядзеце двор, як мяжа...

Затока працягнуў руку ў бок калодзязю пры вузкім дворыку старэнькае хаткі:—А гаспадар здурыў і вышаў з колгасу .. Давайце сюды!..

Скрыпнулі вешніцы і працягнулі за сабою бразгат засаўкі ў дзьверах...

У хаце блісную агэньчык.

— Мы непакоім толькі вас...

Ігнась паглядзеў на асьветлены твар колгасьніка.—Або гэта наўда!.. Яшчэ высьпімася. Вось, даруйце, што ў нас не пагарадзкому...

Хутка Затокава жонка ўвіхалася з пасьцельлю, а Макар падбаў пра малако...

Праз пяць хвілін Віктар згасіў газьніцу...

XV

І сакратар райкому, і старшыня райвыканкому разам падбеглі да дзьвярэй і запыталі:

— Хто-а?

— А вы яшчэ бяз портак?

Кузьмін весела зарагатаў і першы ўпусьціў у хату сакратара ячэйкі.

— Панасюк ужо напрацаваўся,—паведаміў ён у выглядзе данясеньня.

Панасюк адмахнуўся рукою.

— Не хвалі задармо.

— А мо' ня праўда?

Затока ўнёс гладыш малака і талерку нарэзанага хлеба.

— Зараз жонка падасьць яешню... Было-б добра гарбаты— ды ці-ж усяго выстачыш? Самавар калісь быў да сплыў: прыперла адным разам і збыў... Цяпер-бы зусім ён не мяшаў... Сядайце гуртам... Таварыш Кузьмін, таварыш Панасюк...

— А Янук ці еў што?—пацікавіўся Віктар.

— Ды яго Драсён не пакіне галодным...

— А я такі і галодны. Гектар падняў і пачуў.

Панасюк адламаў акраец хлеба і напакаваў ім рот.

Затока ўладаваў начыньне, але ніяк ня мог надзяліць ім усіх гасьцеў. Два нажы і тры відэльцы завязвалі досыць складаную шараду...

— Ізноў не пагарадзкому, бачыце... Вось і дагадзі-ыты...

Разьнятыя накрыж рукі Затокі выказвалі сумнае бязвольле, але ён браў выбачэньнем.

— Мяркуйце, каб не пабіцца.

Гэта было ня цяжка. Прынесеная гаспадыняю яешня рашуча зьнішчалася і пры дапамозе нажоў.

Віктар спрытна апэраваў востраносым секачом, прыпраўляючы і бяз таго апэтытную страву жартоўнымі прыказкамі...

Сьнеданьне зусім не забавілася і пад'ехаўшая фурманка не асталася стаяць парожняй.

— А можа-б таварыш Чарада, вы-б засталіся на пасяджэньне ячэйкі? Няхай-бы таварыш Кадачнік адзін ехаў... Для ячэйкі важна было-б пры вас вырашыць некалькі вострых пытаньняў...

Панасюк трымаўся за аглабіню і ўпрошна глядзеў у вочы Ігнасю.

Сакратар райкому маўчаў.

Яго думкі былі у раёне, у памяшканьні камітэту, дзе ляжалі нескарыстаныя матэрыялы да райпартконфэрэнцыі. Два дні, за якія ён мусіў

скончыць даклад—здаваліся яму зусім кароткім тэрмінам часу. Дагэтуль ён, фактычна, толькі накідаў схэму дакладу, ды, якраз падвёў пад яго нездавальняючую ўстаноўку. Лёгкі пэсымізм з прычыны адсеву з колгасаў выразна праскоўзваў у многіх тэзісах намечанага дакладу... Зараз ён перамяніў погляды... Колгас „Варта“, настроі актыву калгасьнікаў, ды і ўсяго складу колгасу гавораць супроціў яго калываньняў.

„Разабраўшыся глыбей—Кузьмін праў. Вось глядзі ты, яму зусім інačай уяўляецца наша палажэньне!“

Ігнась прапусьціў аналізуючую думку і адчуў нейкую няёмкасьць. Праз хвіліну ён пракарактаваў сябе:

„Сапраўды, я падаўся надмернаму захапленьню, якое ўперлася ў лёгкае разуверра“.

— Ну, дык як, абдумалі?

Панасюк улажыў у сваё запытаньне болей упэўненасьці, чым на тое можна было разьлічываць...

— Абыдзецеся, дарагі таварыш, бяз мяне... Зглядзьце вострасьці... Я думаю, яны ў вас непрынцыповага характару... Сейце хутчэй...

— Ды сеў ідзе, але-ж з вамі, таварыш Чарада...

Кузьмін бачыў, што Панасюку трэба пакінуць Ігнася ў спакоі.

Ён быў згодзен з сакратаром райкому—у іх, сапраўды, няма ніякіх вострых пытаньняў, на вырашэньне якіх патрабаваўся-б аўторытэт Чарады.

Панасюку проста імпанавала-б правясьці чарговы сход з сакратаром райкому.

— Не магу, таварыш Панасюк; няхай пасьля партконфэрэнцыі.

Віктар падмацаваў гэта — узяўшы адначасна пад казырок на разьвітаньне.

Кузьмін з Панасюком зьнялі шапкі і паматалі таварышом.

Прычыняючы вешніцы, зрабіў тое самае і Затока.

## XVI

— Дамоў?

Драсён вітаўся і, вітаючыся, карцеў перадаць старшыні райвыканкому чарговую заяўку.

— Сыпыні каня!

Віктар крануў Янука за руку і адвярнуўся да старшыні колгасу.

— Маеш што сказаць?

— Нам яшчэ хоць-бы пару коняй. Раскулачаных, чамусьці, адабралі для куста, а колгасьнікі, ведаеш, сваіх мала ўвялі... Кароў то маем даволі—цэлы дзесятак цялят пусьцілі гадаваць, і малака колгасьнікам хапае, а вось коняй—обмаль... Хоць-бы пару... Мы-ж павінны шанаваць колгас...

— Коняй!

Віктар пачасаў патыліцу.

— Чудак ты гэтакі, а дзе ж нам узяць? Бачыш—у спалкоме ўсяго адзін... Мерыліся пакінуць, памятаеш, чорнага з колгасу „Рух“, але... прапаў... Ці чума, ці якая трасца—у два дні—як змыла... Коняй... Але-ж ня будзь чудак—ці-ж з-за коняй на прынцыпы пераходзіць? Пашукаю...

— Пашу-кай!

Ужо здалёк Віктар справіўся:

— А індывідуальнікі пашлі на працу?

— Да аднаго... Вунь! Як на кірмаш...

Драсёнава рука накіравалася ўбок шэрага, няўзоранага грудка, дзе чарада фурманак загінала ўправа... Каля дзесяці аратых ужо крыжавалі баразнамі шэрую прысохшую ральлю.

— Находзяць людзі смак...

— Закаржэласьць... а рэшту кулацкая агітацыя... Кулаччо не пакідае арудаваць... У нашым раёне гэта яшчэ адчуваецца... Давядзецца ў гэты бок накіраваць нашу ўвагу... Рыбацкія, Тлумачэўскія, Крохлікі, шальмецы вядуць сваю справу.

Ігнась уважліва паглядзеў на Віктара.

— Я думаю, Віктар, глядзячы, вось, навакола, каб гэта ды замацаваліся лютаўскія проціанты! Эх, дарагі таварыш, якое-б атрымалася ўражаньне!.. Хлебная проблема, сапраўды, зьяўляецца аднэй з найважнейшых проблем нашае народнае гаспадаркі... Уяві сабе абраз—як угледзець воку—мора колгаснае збажыны! Неаглядныя прасторы выганаў і тысячныя стады кароў!..

— Муляе?

Віктарава рука лягла на Ігнатавым плячы.

Будзе, яшчэ год, яшчэ два і будзе... Ты ведай, Ігнась, тое, што зараз індывідуальнік згубіў усякую веру ў свой кавалак... Колгаснае будаўніцтва выбіла з-пад яго ног апошнюю падпору... Вось што мы забываем, калі тужым па збаўленых проціантах.

— Во гэта праўдзіва... Ды я, таварыш, па інэрцыі...

Звонкі, зычлівы гудок Каворынскага комбінату апавясьціў палудня.

## XVII

— А ты ўжо вярнуўся? Вось добра! А то без цябе мне вельмі цяжка аднаму... Проста не разарвацца.

Загкультпропу пераняў дарогу Ігнасю, мяшаючы ўвайсьці ў райком.

— Падумаеш! А каб ды я з тыдзень не вярнуўся?

— Тады-б іначай: мы-б абгаварылі як і што, даў-бы мне дырэктыву...

— Вучыся, дарагі таварыш...

Сакратар райкому прайшоў у свой габінэт, загкультпропу—за ім. У габінэце чакалі сакратара Зяленіч і Абутка.

— Справы?

Ігнась палажыў на крэсьле брэзэнтавы плашч і кінуўся да кучы корэспондэнцыі на стале.

Газэты і кніжкі, пакеты і лісты перакладаліся ім з месца на месца, зьліваючы ўваччу непарыўны радок тэксту.

Апошні пакет, з чырвонымі пячаткамі ён перакінуў за другімі, адаля раптам падняў з сталу і абарваў з ператочнага канту.

Ліст не выцягваўся, бо быў перашыты ніткай. Ігнась безабдумна паднёс яго да роту і спрытна нітку перацяў зубамі.

Маленькая сакрэтная запіска паведамляла, напэўна, пра нешта ня цікавае—бо Ігнась, прачытаўшы яе, зморшчыўся і задумаўся.

Але яму думаць было некалі.

Абапёршыся на стол, да яго цягнуўся Зяленіч. І Абутка нэрвова барабаніў пальцамі па стале: ён прынёс матэрыялы пра становішча ў комсамоле.

— Таварыш Чарада, я на хвіліну!

— Кажы!

— Я буду вас прасіць—ня майце вы справы з гэтымі дурасамі... Мы згадзіліся даць ім апошнюю ўступку—і годзі... Іначай канца ня будзе... Ганеце ад сябе балбатуху Бабковіч...

— Добра!

Са сьпеху Зяленіч забыў паведаміць Ігнася, што зараз да райкома павінны падыйці колгасьнікі з рапартам.

Ён вышаў з габінэту, адступіўшы гутарку з сакратаром—Абутку.

І Чарада самае, што вайшоў у распытаньне кіраўніка раённага комсамолу, калі Зяленіч зьбянтэжаным вярнуўся ў габінэт і прагукаў:

— Колгасьнікі-сталінцы просяць вас выйці на ганак!

Ігнась недаўменна паглядзеў на Зяленіча і тут-жа адвярнуўся ў вакно.

Перад будынкам райкому пачыналася імпозантная маніфэстацыя колгасьнікаў. З сахарамі і рыдлёўкамі на плячах, у справоджаньні сьцяганосца яны набліжаліся да ганку, разьліваючы па плошчы гулкую рэзвую гутарку. Некаторыя з іх старэнна маталі рукамі шэрагу падвод, па задзе якіх грукацелі два Жон Дэры і два Інтэрнацыяналы.

Калі Ігнась вышаў на ганак і падводы, і трактары набліжаліся да грамады, аколіўшы яе гэтай цікавай агароджаю. З ўсіх канцоў плошчы беглі да райкому людзі, павялічваючы грамаду. Прыбег зьдзіўленым і старшыня райвыканкому.

Нечаканае відавошча ўзьняло Ігнасеў настрой, і ён экспромтам прывітаў колгасьнікаў.

Грамада не пасьпела скончыць воплескі, у аддзяку за прывітаньне, як Зяленіч прачытаў райкому рапарт ад колгасьнікаў.

„Мы паведамляем раённы камітэт КПБ пра нашу дружную спайку, пра нашу цьвёрдую працоўную дысцыпліну; мы завяраем раённы камітэт партыі, што станем прыкладнымі працоўнікамі колектыву і ня выпусьцім з рук сьцягу ленінскае партыі... К дзесятаму травеня мы ўжо ўзьнялі увесь зяб і скончылі сваю сяўбу на ўсе сто процантаў...“

Віктар адказаў на рапарт пажаданьнем посьпеху і бальшавіцкае загартаванасьці ў далейшай працы.

Гучныя воплескі разьнясьліся ва ўсе канцы плошчы і расталі ў галосным стройным сьпеве Інтэрнацыяналу.

Яго пераможныя ўзьнёслыя гукі папоўніліся стальным грукам чатырох харашуноў-трактараў...

З ганку райкому яшчэ доўга глядзелі і Ігнась, і Віктар, любуючыся працоўнай урачыстасьцю новае маладое арміі колгасьнікаў...

## XVIII

Ты падумай, Ігнась, колькі вялікасьці ў гэтым вобразе! А вось знаходзяцца брахунцы і зларадні чаюць з прычыны адсеву...

— Ёсьць... Бачыш—гэта сьляпыя бюрократы, або наяўныя ворагі...

Віктар многазначна паглядзеў на Ігнася, той з няменшай уважлівасьцю аглядаўся.

— Так, дарагі таварыш, у нашым захапленьні быў яўны адрыў ад мас. Мы плылі на хвалях, падганяныя энтузыязмам... І нарабілі памылак... Факт... Нідзе ня дзенешся, дарагі таварыш... Ускідаць памылкі на другіх не даводзіцца.

І вось выпускаем з выгляду гэткага значэньня фактар—як крутое разуверра серадняка ў сваю зацьвілую прыватнасьць... Той, хто пакінуў колгас—зараз намерамі з намі. Ты паўзірайся, з якім замілаваньнем праводзяць індывідуальнікі гэту маніфэстацыю... Прыслухайся да гутарак—і амаль ўсе яны зводзяцца ў адно: працуйце—мы да вас вернемся. Гэта значыць—кончым год і пойдзем у колгас.

Ігнась адчыніў акно, высунуў голаў і з напруджаньнем пачаў лавіць заціхаючыя водгукі дэмонстрацыйных песьняў...

— А гэта, што Бабковіч крычыць—надворнае, пустое... На восень яна іначай крычацьме, і ўжо за колгас... Прыпамятаеш мае словы, Ігнась...

Думкі пра конфэрэнцыю настойна пралазілі ў голаў і аднімалі ўвагу ад працягу гутаркі.

Ігнась выбіраў патрэбныя матэрыялы і адкладаў іх у „справу“, каб забраць дахаты.

Віктар на хаду вылаўліваў лічбы, на хаду-ж запісваючы іх у памурзаны блёкнот.

І адзін і другі парываліся як хутчэй пакінуць сакратароў габінэт.

Але гутаркі было не абабрацца.

— З жывёлаю дрэнь...—рахуючы сьпешна накіданыя лічбы, паскардзіўся Віктар:—Кулаччо ўмела націснула на гэты вучастак і здорава падвяло нас...

Ён разьвёў рукамі, пасьля хлопнуў імі па нагах:

— Ну, і мы падкачалі!

— Праваронілі, дарагі таварыш!.. А зараз, бок, які процант зьнішчанае жывёлы?

Ігнась настаражыўся.

— Да пятнаццаці падбіраецца...

— Ажно пятнаццаць? Многа!.. Тарэся, ну, пачакай... Можна будзе і ў дому...

Мікалайчук, як ішла, раптам спынілася ў парозе, і вырачыла на мужа вочы.

— Ня ў добрую хвіліну?

Яна дэмонстрацыйна швырнула недапаленую цыгарку і пакінула габінэт Ігнася...

Чырвоныя яблыкі ружу, што ўспыхнулі на яго твары—хутка расталі.

— Пятнаццаць процантаў?

— Каля гэтага...

— Трэба прымаць належныя меры... Трэба зьвярнуць нашу ўвагу ў гэты бок...

Заклапочаныя гэтым пытаньнем, яны моўчкі вышлі з будынку райкому.

## XIX

Тарэся як з грому варвалася ў дзьверы пакою і раптам спынілася. Ігнась стаяў над разгорнутым плянам раёну.

— Адышоў? Як табе ня брыдка, пры чужых людзях! Сараматнік!

— Кінь, Тарэся... Ну, я быў не ў настрої цябе слухаць... Убачай!

— Я ішла да цябе не з прыватнымі інтарэсамі. Запуталася справа з ясьлямі, і мы з Сарай ня можам без цябе вырашыць...

— З ясьлямі?

— Ну, так... Купаўскі колгас распаўся, а ясьлі на хаду... А ў Бубнаве колгас працуе, а хоць ты лопні—няма памяшканьня... Яно фактычна ёсьць—ды старшыня сельсавету занадта ўжо непаваротлівы... Ты-б сказаў Віктару, каб ён яго падштырхнуў. Ды з грашыма таксама туга... Пра ўсё гэта я мушу з табою гаварыць, ці не? А ты...

— Слухай, Тарэся, ты-ж павінна ведаць, што пазаўтра конфэрэнцыя... Два вечары часу, а ў мяне, бачыш, даклад усяроўна, што непачаты... Накідаў некалькі тэзысаў, ды хачу зьмяніць...

— Зьмяніць?

Яна нагнулася да пляну. Чырвоныя гвязды на блакітным полі адзначалі колгасы. Да дзесяці гвяздаў шчыльна набліжаліся да тлустае чорнае лініі, якая паказвала граніцу з фашыстаўскаю Польшчаю...

— Х-хі-хі-э-а! Ты чуеш, бок?

Ігнась зацікаўлена паглядзеў на жонку.

— Мне надовечы расказвалі, як нашы трактары напалохалі фальбаркоўскіх коні за мяжою... Нашы пуцілаўцы строем, тры ў рад, з прарэзьлівым ляскатам праўцом да граніцы, а шляхецкія коні—наўцякача... Гэта што значыць? Ці-ж гэта ня сымбаль будучага поступу соцыяльнае рэволюцыіі...

Радасная ўхмылка, прасычаная натхненьнем, заліла сакратароў твар.

Ігнась выпрастаўся ва ўвесь свой роўны, стройны рост і стаў цалкам—адна баявая рашучасьць...

— А колькі разоў я бачыў, як нашы сялянкі захопна цешыліся з трактароў. Стаяць гэта на сьценцы і з ухмыльнасьці, з непасрэднай уцехай, гадзінамі сачаць за іх бегам па разьмежаваных нівах... А гэта аб чым кажа?

— Зразумела!..

Тарэся адышла да этажэркі і спынілася ўзрокам на томе твораў Леніна.

— Слухай, а лічбы пра жанработу дасі мне калі?

У спальні, за непрычыненымі дзьвярмі пачуўся плач Люціка.

— Адну хвіліну...

Тарэся на цыпачках пабегла да сына.

## XX

За вакном мэрам-бы хто тупаў.

Ігнась падняўся з-за стала і працягнуў голаў к вакну. Паўторны стук крокаў па новаму тратувару працягнуўся ў бок школішча.

„Няўжо хто слухаў пад вакном?“

І не адказаўшы на запытаньне, ён ізноў пачаў праглядаць „Адказы тав. Сталіна колгасьнікам“.

Праглядаючы апошнія аддзелы, ён спыніўся на характарыстыцы Леніным кулака:

„Кулакі—самыя зьверскія, самыя грубыя, самыя дзікія эксплёататары, якія ня раз аднаўлялі ў гісторыі іншых краёў уладу памешчыкаў, цароў, папоў, капіталістых... Кулакоў больш...“

Справа раскулачваньня ў раёне, раптам крануўшы яго думак, перабіла Ігнасева чытаньне.

Ігнась праверыў зьнізак эпізодаў вострае і рашучае барацьбы з кулацтвам і праказаў:

„Бядняцка-серадняцкія гушчы ўздыхнуць вальней. Раён бадай у асноўным вызвалены ад гэтых драпежнікаў і крывасмокаў... Далейшае разьвіцьцё колектывізацыі да рэшты зьнішчыць доўгавяковыя сьляды кулацкіх хутароў і фальбаркаў“...

— Люцік прастудзіўся...

Тарэся падала Ігнасю шамкія лісты табліц.

— У нас яго ніхто не даглядае, да дзіва што... Ты не забыла нічога?

— Правер...

Яна зрабіла некалькі крокаў да спальні.

— Тарэся!

— Слухаю.

— А табе неабходна ўзмацніць працу сярод жанчын... Трэба сказаць...

— Натацыю чытаць?.. Гэта і твой абавязак ..

Ігнась пачуў стук дзьвярэй, у якім прагучэла жончына нездавальненьне.

Але пяро выводзіла далей:

„Асноўная работа раённага камітэту прайшла па лініі“...

Увёўшы гэты сказ у роўна напісаныя радкі ўступнае часткі дакладу, Ігнась павярнуўся да дзьвярэй і пазваў:

— Тарэся!

Гэты яго вокліч астаўся бяз адказу; ён расплыўся на белым полі паперы, на якой рука накідвала лічбы аб становішчы колектывізацыі ў раёне.

Менск, чэрвень 1930 г.

---

# ПОЭМА ІМЯ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ...

**Андрэй Александровіч**

*(Агляд пачынаю за дзесяць год, так званага краю лясоў і балот)*

1

Лёзунгаў мітынг
ў акопы
бег—
з візай культпропа
ЦК КПБ.

Лёзунг—
грозны
кліч-плякат.
Лёзунгамі пачынаю
генэральны агляд.

№ а

Шчыльней пролетарскія рады,—
Даёш пяцігодку ў чатыры гады!

№ б

Узброім трактарамі колгасы,
ліквідуем кулацтва як клясу!

№ в

На лом заржавелыя краты—
гора-тэорыяў нац. дэмократаў!

№ г

Сырая вада—
атруты шкадней,
як шовінізм усіх масьцей.

№ д

Будаўніцтва жывыя лічбы
складзены, як Ільліч быў.

Штодзень над краем кліч бег—
жыве Ільліч
у жывой лічбе.

2

Бяз схватак сэнсацый,
бяз сіплых слоў
бюро рэгістрацый
гісторыі чало
аздобіла датай
надзвычайнага сьвята:
Вызваленьня год дзесяты.

3

Урачыстасьць
стальлю сочыцца
каб над краем
датай выліцца—
каму хочацца,
і ня хочацца,
і лацінікай,
і кірыліцай,
і на Захад,
і на Ўсход—
Будаўніцтва дзесяць год!

4

На рыштаваньнях
сонцаўсход
віталі,
штораньне—
— Дзесяць год.
А ў 10 год
закон—
3600
дзён.

5

Беларусь у Янкі Купалы
безназоўнаю векавала.

А ў Якуба Коласа
і пазбаўленая права голасу.

У Бядулі—бядой бедавала.
У Гартнага—ледзь бунтавала.

А выйшла—
безназоўная і безгалосая
па Чароту на вогнішча босая.

Па Александровічу Андрэю
ахрысьцілася ў завеях
і цяпер завецца
Беларусьсю Савецкай.

6

Было-бывала...
(Вока
глыбей кінь!)
На кожным кроку:
цымбалы,
дудкі
і жалейкі:

Песьні жальбы,
гусьляры...
Край пакутуе.

Жах—
жаль быў.
Земляры:
пот
працы
лютае.

Гне з берагоў гнеў,—
і ў завірусе—
радзіў новы сьпеў
Новай Беларусі.

7

Беларусь была арэнай
векапомных схватак.

Пілсудзкага выгналі
каленам
пролетарыяту.

І яшчэ нямала
быў стан біты:
панавала
банда
наймітаў-бандытаў.

Беларусь была экранам,
дзе наплывам,
буйным плянам
наплывала ўся жахлівасьць
панаваньня пана.

Сьцяўшы вякоў пятлю—
убачыла краіна:
рабочыя рукі,
зямлю
і на зямлі
руіны.

8

Было-бывала
градам
протэставала
Рада:
О, божа, як пасьмелі
пасады
і портфэлі
браць
на штыкі—
бальшавікі!

Самі
хоць з вусамі,
толькі
мала толку.

Разьбітыя пагрозай,
што Рады
біты
козыр—
давай лізаць аравай
Пілсудзкага халявы.

Кайзаравы пяткі—
каб навёў парадкі.

9

Напорам войск чырвоных
павыганялі вон іх.

Замоўклі крыкі, рэхам стрэла,
бела-чырвань-белых.

Бывае, хмара асядае,
як заслона дымавая—
іх краіна ўспамінае.

Хоць яны далёка і
з міністраў
сталі
лёкаі.

10

Ня ўсе, што з Рады
зьбеглі за мяжу.
Дзеля праўды
даскажу.

Іх і ў нас—
не пералічыць.

Як сычы—
якраз,
глядзяць на нас.

І знойдуць момант
выйсьці з дому—
на вуліцу—
на барыкады—

супроць савецкае ўлады.
Адным словам,
ідэолёгія Рады
і савецкія чырвонцы.
Мая парада:
прачытайце
„Цені на сонцы“.

11

Белых арлоў страі
стрыножвалі гарады:
душыў на вуліцах дым—
стогн гарадзкіх руін.

Братоў і сясьцёр зьбяром мы
ахвяры жандарскіх пагромаў.

Плачуць, як дзеці, хвалі
на разваліnах мастоў.
Забінтоўвае нас зноў
упартасьць—упорысьцей сталі.

Руін у крыві камень,
— будзем бальшавікамі.

Пад сьцяг барацьбы аднаўленьня
выйшлі рабочыя сотні.
Першым на першы суботнік
выйшаў таварыш Ленін.

І сэрца фабрычных кварталаў
песьняй машын ажывала.

12

Іржавы бінт
з ран машын
зьняты
пролетарыятам.

Засьпявалі
стальлю
зьмеі—
магістралі
рэек.

Быў завод
зруйнован.
Пусьцілі ў ход—
два
        новых!

Уздыхнулі
ў бальшавіцкім
гуле—
камяніцы
вуліц.

Скарыстаем
нетры краю,
ведама,
да дна мы—
і сьвет дала
дынамо.

Больш апалу—
больш запалу.

Кожны рух—
як у двух!

Дум агонь,
як страі—
ў аднаго,
за траіх.

Мазалі
ня плылі
на руку
рухавіку.

Рух
            руш
                    ток сонца.
Высячы
            тысячы
                    ратацыёнка:

                        — Адзяецца
                        Беларусь—
                        Беларусь,
                        Савецкая.

13

Галавой павісла
высахшая Сьвіслач.

Ход
вод
дзе ён?
Сталіца чырванее.

Бяроза гулам
вод—
адамкнула
сход.

Дняпро віхрыста ўсьпенены
ўрачыста
славіў Леніна.

Дзьвіны віталі
хвалі нас
палітыкаю Сталіна.
Плаўнакрылы
Сож прабег
уславіць сілы
КПБ.

Прыбег на пераклічку
і Нёман прыгранічны.

Змагла краіна сьлед знайсьці—
сьвяткуе сьвята еднасьці.

14

Мільёнам заяўляю
сёньня я:
была-б векавая
Беларусь-калёнія.

Каб ня ўздыблены наш гарт—
мела-б губэрнскі пашпарт.

Савецкага Саюзу ня было каб—
была-б заплесьненай затокай.

І славілася-б на Эўропу
сельтэрскай вадою з сыропам.

Але сёньня—
выроўнівай стан ты!
Мы маем
імя ім—
гіганты!

І чаго было-б варта
каб ня было
ў Беларусі компартыі?!

15

Супроць—
прарываў,
прагулаў
і браку.

За—
промфінплян
і высокую якасьць.

Таварыш—рабочы,
Таварыш—араты—
з заводу,
з колгасу
гані бюрократа.

Мільёны краіне дае
без замінкі—
савецкая бесьперапынка.

16

Яшчэ ўчора танулі
ў раскопаных пятах вуліц.

Давялося зямлі расьці
на вуснах сталічнай цярплівасьці.

Горад, як труп быў.
Клалі-перакладвалі трубы...

Зьдзекваліся нават і дзеці:
— Выкідваюць грошы
ў зямлю,
калі трэба
на вецер.

І лаялі іх за
гэтую каналіза...

...Засыпалі трубы ў ямы.
Пусьцілі па вуліцы
электро-трамы.

рэйкі і трубы ў рух загулі
і пад зямлёю і на зямлі.

17

Разьлівала
песьні
шыр балот Палескіх,
зазывала
зьдзейсьніць
песьні
хваль Арэсы.
Зазывала-звала
пракапаць каналы.

Як ні дзе на сьвеце
ў Ленінскім сталецьці.

Балоты, як акопы
капаюць землякопы.

Закасаўшы ногі—
за новыя дарогі!

Рукі закасаўшы
за перамогі нашы!

Штурмуюць агрономы...
— Ваду ў канал зьбяром мы!

Досыць суму сейбіты—
прыдзецца за сеў біцца.

Ня зьвісай чало ніцам,
ураджай паклоніцца.

18

Па самакату
бервяно
ідзе пад нож
варштату.

З лесапілкі—
веерам
апілкі.

Па конвэеру
з парылкі
зноў альховыя
кражы
кладуць
пад новыя
нажы.

Істужкай шэрай,
як тканіна—
йдзе фанэра
праз машыну.

Роўнамерна
б'е вал люта:
— не фанэра,
а валюта!

Працы бег
не адстае:
суседні цэх
сваё пяе...

Гудуць валы:
— Складай сталы.

І міма ходам:
— Ёсьць камода.

І... ў міг
шкаф для кніг.

Звыш програмы—
вокнам рамы.

Быстрагонам
пад вагоны

груз падвёз
аўтовоз.

Машыністаму нарад
даў
Бабруйскі комбінат.

19

Змрок гісторыі
штовечар
запальваў сузор'е,
як сьвечы.
Закурылася краіна
і ад звычайнае лучыны.

Чалавека вякамі
працы нялюдзкае пот
скручваў,
як ланцугамі—
калючы
дрот.

Поступам шквала
ўсім краем
паўстала
навала
людзкая.
Заве, каб
чалавекам
і ў дрыгве
стаў чалавек!

І пайшло так...
У балотах
загула-была
работа.

І праз год
сярод
балот—
пе-
ра-
ва-
рот!

Тысяча
дзевяцьсот
трыццаты
год.
З балот
у гарады
пабеглі правады.
Загудзелі поўным ходам
гмахі фабрык і заводаў.

І ў селяніна
замест лучыны
і карча—
лямпачка Ільліча...

Абвязаў краіне стан
правадамі—
Сталінстан.

20

Іграйце
маршы
заўтрашняму дню.

Жыцьцё
наша
агнявей агню!

Нашаніўцы
і ў сьне ня сьнілі,
што мы ў Беларусі
зрабілі.

Званлі
адно—
ткалі
валакно.
А час прышоў
мы робім шоўк.
Роспачным крыкам
магілы
рыла—
рылам
саха-матыка.

Цяпер над краем
крыляе
звонам—
гонар
трактарнай колёны.
І пяе наўсьцяж
наш
Сельмаш.

На небе хмаркі,
што фальваркі,
з бандай зор
вялі згавор:
— „жыцьця разьбег
скарыць сабе!“

І хутары
да гэтых пор
на зямлі
вялі
згавор.

Зьвязаўшы моц сваю вузлом,—
бліскавіца
быццам
нож—
нанесла ўдар
па зграі хмар—
і грымнуў гром,
і лінуў дождж!..

Сабе
хутары
ў барацьбе
пакарыў
і ў нас—
колгас.

21

1900 і 17 зім
краіна была
няпісьменнай зусім.

Тры крыжыкі—спадчына
з даўных вякоў.
(Таму і так многа
ў краіне крыжоў!)

Прывязалі
дні на палях
і ў навале
далі
бой.

Забінтавалі
стальлю
стыннай
стан краіны
маладой.

Пакарылі,
як на крыльлях,
дзён нязьлічаныя мілі.
Уздыхнулі
гулкім вульлем!
Дасягнулі
сілай рук—
ад вяскова - пачатковай
да Акадэміі Навук!

22

На біржах працы ў нас няма
майстроў, якіх варштат баіцца.
Рабочых рук, як быццам, шмат,
а не стае ў завеі будаўніцтва.
Крыляйся рух!
Мы ўдаль ідзем!..
Адзін за двух—
ударны тэмп!
Перамога
ў грудзі б'ецца:
з бальшавіцкім
зьліцца
сэрцам
. . . . . . . . . . .

Агляд закончу праз адну
найболей дзьве ўрачыстых песьні.
Міжнароднае становішча—крануць—
чаму
жаданьне гэтае
ня зьдзейсьніць?

23

23 гадзіны...

Сілай нястрымнай,
як ветрарэз,
крануўся ў даль
экспрэс.

| |
|---|
| ...Увага! |
| Будучыня вабіць. |
| Падзея ў плянэтным маштабе. |
| Зьвяжамся поясам рэек |
| аднэю пад сонцам ідэяй. |

Але праз гадзіну
ў 24—
касьцьмі ляглі пасажыры.
Выбух!
Крушэньне!
Экспрэс у попел.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Таварышы, ціха!
Крушэньне ў Эўропе!

. . . . . . . . . . . . .

Крушэньня (на жаль!) ня было...
Гэта толькі... паніка слоў.
Яшчэ ня было...
Але-ж будзе яно—
рэволюцыя зьменіць
жыцьця старно!
Раскатамі чуюцца зрухі
гісторыі Заўтрага...
Слухай:

Паясьніцу
краю
разьядае
як іржа—

вераніцаю
мяжа.
Казэматы,
зьдзекі,
плаха.
Векі
катам
жмурыць Захад.

Беражы
замок мяжы!
Ĭ хрыстос
вайной
на нас—
мобілізованы
ў процівагаз!
Эўропа
ў акопах!
Што дзень,—так і
блізяцца схваткі атакі!

...Зазьзяе сонцам Сталінстан
там—
над краем катаржан!

24

Краіна набыла
жалезную закалку.
Расла прымежная
ў разьбежнай барацьбе.
Ухваляем
поўнасьцю і цалкам
генэральную
лінію
КПБ.

Не любавацца
тым—
што маем.
Нашай працы
наш уздым
гады пераступае!
Ўвысь галава!
Раз, два!

Будзе садам расьці
песьня радасьці.

І як бор расьці
песьня гордасьці.

25

На варту дні ліпнёвыя
к нам новыя прышлі.
Мінулыя, суровыя
падмуркамі ляглі.

Жыцьцё агнём завеена,
як зарывам усход.
Сягоньня жыць заве яно
на ўсе, на дзесяць год!

Жылі мы бедна ў горы—і
змаглі залом зламаць!

Калісь была ў гісторыі
расійская турма...

Жыцьця законы зьменены
турмы прайшла пара.
Пад гордым сьцягам Леніна
у людзі выйшаў край.

Была няхай крываваю
і не адна вярста,—
Савецкаю Дзяржаваю
Край вызвалены стаў.

Узьвіцеся імкненьні!
Зерне шчасьця сей—
Поэма Вызваленьня
Беларускай
ССР.

Май—Чэрвень
1930 год.

# СЯМ'Я ЮРЫЯ ГАРЭЙКІ

**Кузьма Чорны**

*(Новэля)*

Вайна адышла наперад: цяпер ужо фронт ні гадзіны ня трымаўся на адным месцы, палякі адыходзілі шпарка і лесавая дарога вось ужо тры дні жыла нашым паходам. Мы прайшлі Наваградчыну за хмурыя дні, а на Гародзеншчыне мы адчулі сухую сьпёку ліпеньскага сонца.

Цэлую ноч мясілі мы сухі пясок, жорсткі, калючы; па дарозе гэтай губілі мы свае сілы і чулі, як выростае ў нас неперaможная патрэба кінуцца на зямлю і тут-жа забыцца на ўсё. Але мы ішлі, думаючы калі скончыцца пясок. Цьвёрдая зямля ўжо здавалася нам за той самы салодкі сон на зямлі. З самага вечару мы мінулі мястэчка Ражанае ці Ражаны—наш зводны, таварыш Скабакоў глядзеў на карту, але не знайшоў яго і сказаў назву гэтак, як сам пачуў—нявыразна. За поўнач пясок пачаў мінацца, а напярэдадні зачарнелі лясы і над імі месяц. Мы-б адчулі гэтае хараство ночы (ціхае хараство ў вайну!), але дрымота і здрантвеласьць цела туманіла нам галовы і зацягвала сэрца карою абыякавасьці. Чацьвертую пору мы ня спалі!

Мы дайшлі да лесу—яшчэ не пачынала сьвітаць і тут нам быў загад спыніцца. Мы маглі цяпер перадыхнуць; вартавых зьменьвалі часта і прычаклі гэтак дня. Досьвіткам дазналіся, што будзем чакаць тут наступнае ночы, тады рушым далей, а цяпер—мы ўсе ўпокат ляжалі за паўзьлеснымі хмызьнякамі, на мяжы лесу і поля. Гэтак застаў нас сонечны дзень.

Ён зіхацеў над зямлёю гэты дзень. Мы-ж яго ня чулі і ня бачылі. Варушыцца мы пачалі тады, як сонца стаяла коса над лесам, сьвятло яго ружовілася ўжо; лес і поле маўчалі.

Мы адыходзілі ў тыл і чакалі пакуль прамаршыруюць паўз нас дагэтуль тылавыя каманды. І яны маршыравалі, сьпешна, ня спыняючыся надоўга.

Поле было перад лесам шырокае—спрэс усё адзін палетак, а далей, за жытам і бульбаю—чырвоніўся дах палацу, абрысы-ж усяго маёнтку, можна сказаць, зусім хаваліся ў вясёлым зялeніве тапаляў і клёнаў. Мы тут-жа высыпалі на поле даставаць бульбу. Нас ня лішне было шмат—у Наваградчыне мы мелі гарачую сутычку і пасьля яе ў нашай роце засталося чалавек сорак. Пасьля гэтага мы слаўна выканалі марш свой

аж дагэтуль і толькі адзін з нас, Юры Гарэйка зусім выбіўся з сіл, зваліўся з ног і мы разьвіталіся з ім у паходным шпіталі: ён падняў руку ўгару і памахаў ёю, пасьля з асалодаю палажыў яе ўздоуж тулава і адразу задрамаў. Вядома, ня ўсе мы выкорпвалі штыкамі і цесакамі бульбу, з палова нашых яшчэ адлежвалася на гэтакай мяккай і жаданай зямлі.

Поплеч са мною ішоў цяпер, сагнуўшыся і арудуючы цесаком, мой паходны друг і таварыш Скабакоў, высокі, здаровы і адважны хлопец. Мы адпачылі ня кепска (праспаць маглі-б яшчэ ночай дзьве засаб, але на вайне зусім сваё, асаблівае, адмысловае, разуменьне адпачынку, спакою, трывогі, гадзіны, ночы...)—дык мы чулі сябе цяпер добра. Скабакоў спрытна біў цесаком у зямлю, выварочваў бульбяныя карчы, а бульба тая была яшчэ дробная, вадзяная—сьпела яна толькі ўвосень. Пан не дачакаўся гэтага свайго ўраджаю, уцёк.

Апошнюю ноч і дзень Скабакоў быў ужо няпрывычна маўклівы— утома прымусіла яго маўчаць і гэтак, сьціснуўшы зубы, мясіць жвірыстую дарогу. А гэта зноў ён рабіўся сам сабою.

На Наваградчыне, пасьля таго, як нас засталося чалавек сорак, ён гаварыў:

— Ну, цяпер пойдзем, браткі. Дарогу прачысьцілі, работа была гарачая, але добра, што сонца не пякло, усё менш поту вылілі. (З тае хвіліны ён стаў нашым ротным—ранейшага свайго камандзіра мы тут не далічыліся).

Жартаваць ён ня ўмеў, ня быў да гэтага здатны. Але мы ведалі яго натуру і былі ўдзячны яму за гэтыя „жарты". Гэтакімі няспрытнымі „жартамі" ён бадзёрыў нас, гэтак мы чулі ад яго жаданае нам слова. Проста сказаць—мы яго любілі. Некаторыя з нас былі босыя—спрэс растоптаныя чаравікі зусім пазлазілі з ног і ён вось ужо больш за тыдзень цешыў нас кожны дзень:

— Мы самі вінаваты. Даўно пара нам адбіць дзе-небудзь хвост або галаву польскага транспорту.

Перад гарачаю Наваградзкаю справаю мы паабедалі былі гэтакім чынам: у дрэнным паўпанскім маёнтачку знайшлі былі ў гумне паўсьцірты жытніх снапоў. Зараз-жа паабівалі зерня аб ток і сьцены і варылі кашу. Елі і хвалілі, але ці льга раўняць той абед з цяперашняю бульбаю?

— Мы і забылі.

— Што мы забылі?

— А ну ўспомні. Ну ўспамінай. Паглядзі навакол і ўспомінай... Эх ты, дзівак! Галаву й сэрца ня згубіў яшчэ?.. Ну от глядзі цераз поле, упоперак на гасьцінец. З самае Наваградчыны мы прыйшлі сюды гасьцінцам. Так? Ну, а пасьля пяскоў, за мястэчкам, увайшлі куды? У лесе! Гасьцінец увайшоў у лес, усёроўна як ён рассунуў гэты лес папалам. Памятаеш, як ён казаў: „Гасьцінец рассоўвае лес папалам". Перад лесам, збоку крыху ад гасьцінцы, маёнтачак у таполях і клянох...

— Успомніў! Ну і таварышы-ж мы.

Але Скабакоў гаварыў да канца:

— ... Цяпер яшчэ скрозь паўз лес, між ельнікам і хмызьняком, дарога пойдзе ўлева, калі стаць тварам да лесу, дарога—як з калясьмі праехаць. Ну?

— Ну, я ўспомніў,—з прыкрасьцю нейкаю да самога сябе сказаў я. Я чуў, што Скабакоў упікае і мне і сабе.

— Прайсьці крокаў з тысячу ад гасьцінцу і ў ельніку будзе хата.

Гэта я ўжо запабягаў наперад перад Скабаковым.

— Шпіталь едзе паволі. Ён, можа, праз некалькі дзён усяго будзе тут, калі куды ў бок ня зьверне,—задумённа сказаў Скабакоў.

— Добра. Да захаду сонца яшчэ добры кавалак часу. Усьпеем да ночы. Ліст захаваўся?

— Згубіў!—панура пазьдзекаваўся з мяне Скабакоў.

Пасьля абеду мы пайшлі туды. Нам трэба было спраўляцца шпарка—мы спадзяваліся, што пад поўнач будзе нам загад рушыць далей. Дазвол нам быў дадзен на гадзіну ўсяго.

За дзень вайна адышлася далёка наперад. Перафармаваньне нас у новыя часьці павінна было адбыцца праз дзён тры, пункт быў назначаны кілёмэтраў за сто адгэтуль. Пра гэта мы дазналіся пасьля полудню. Тут ужо спакайнела ўсё, быў ужо тыл. Мы бачылі, як у спаленай палякамі вёсцы сяляне са звыклаю павольнасьцю сваёю выбіралі на попелішчах асмаленае бярвеньне, як ужо браліся дажынаць перасьпелае жыта...

Мы прайшлі паўз ельнік ня тысячу крокаў, як думалі, а мо ўсяго пяцьсот. Адразу-ж зірнула на нас з узьлеску за хмызьняком прысадзістая хата, старая, з старасьвецкага смольнага бярвеньня.

— Ці ня тут?—сказаў Скабакоў.

— Можна запытаць.

Яму давялося нагнуцца, каб глянуць у вакенца. Спачатку ён нічога там ня ўбачыў. Ён пастукаў у шыбу. Ніхто не адазваўся. Мы ўвайшлі ў двор—звыклы сабе сялянскі двор, з хлявушкамі, павецьцю, весьніцамі на прыгуменьне. Ля парогу ў сенцы ляжаў камень—палова вялікага млынавога каменя. Дзьверы ў сенцы былі адчынены. Там сядзеў стары чалавек і спакойна глядзеў на нас. Ля яго стаяла конаўка з квасам, корч зялёнае цыбулі і тоўстая луста хлеба. Мы спачатку й не заўважылі што ён вельмі стары—відаць ён галіўся, або нізка выстрыгаў бараду і вусы—была на твары толькі нізкая сівая шчэць. Твар быў шырокі, але паморшчаны і худы. Ён агледзеў нас спакойна і холадна сказаў:

— Нічога няма. Ідзеце, таварышы, далей. А калі вам паначаваць дык таксама няма як—у хаце ў нас хворая ляжыць, а ў пуні нідзе саломы і каліва няма. Хіба ў садку, але-ж лепш ужо ў лесе.

— А нам нічога і ня трэба,—сказаў я.

— Гэта Гарэйкава хата ці не?—запытаў Скабакоў.

Тут чалавек ажывіўся крыху. Ён высока ўзьняў твар, цяпер мы заўважылі, што ён вельмі стары. Вочы яго былі чырвоныя, за жыцьцё, відаць, папсаваныя, лоб высокі, прыгожы і нізкі сівы чубок тырчэў над ім.

— Што-ж вы за людзі, служывыя, што нашу хату ведаеце? Адкуль вы?

— Далёкія,—пачаў гаварыць Скабакоў,—я алонецкі.

— Ня чуў ніколі,— затрос галавою стары.

— Далёка гэта, на поўнач, усю Расію трэба прайсьці.

— О-ё-ёй!

— А я з-за Слуцку.

— Дык от,—гаварыў Скабакоў,—мы разам служым з Юрыям. Ён змарыўся і на некалькі дзён лёг у паходны шпіталь. Ён адстаў ад нас і напісаў вам ліст. От ён.

— Юры гэта мой сын.

Стары сказаў гэтак спакойна, што нам дзіўна гэта здалося. Юры гады два як разлучыўся з сваімі, мы гэта ведалі. Нават расчараваньне агарнула нас. Мы падумалі—аддалі ліст і пойдзем.

Стары трымаў ліст у руках. Ён стаяў і мы бачылі, што гэты стары— высокі, сухі, калісьці мусіць быў вельмі моцны. Маўчанка цягнулася з хвіліну. І тут у хаце пачуўся жаночы голас:

— Тата, тата.

Стары адчыніў дзьверы ў хату і мы адчулі адтуль душны змрок. Пасьля разгледзелі, што на пасьцелі ляжыць укрытая кужэльнаю коўдраю жанчына. Стары, здавалася, забыўся на нас на гэты момант. Ён падаў жанчыне ў медзянай конаўцы квасу, яна памачыла губы і піць не захацела. Стары штосьці зашаптаў ёй, ківаючы ў наш бок галавою. Мы прыселі ў сенцах на лаве. Стары неўзабаве вярнуўся, але мы бачылі, як у хаце пачаўся неспакой: дзяўчына дзіўна заварушылася, падушка з пад яе галавы зьехала на самы край ложка, коўдра сьцягнулася на ногі, яна зноў паклікала бацьку. Бацька цяпер даў ёй у рукі ліст, яна паднесла яго да воч і пачала прыглядацца. Пасьля з вінаватаю ўсьмешкаю працягнула назад старому. Той кіўнуў у хату нас.

— Ну дык прачытайце хто-небудзь,—сказаў ён,—я ня ўмею.

Скабакоў узяўся чытаць ліст. Юры апісваў свае два гады. Мы самі з цікавасьцю даведваліся яго гэтую гісторыю.

Таму назад з год мы сышліся разам у сваёй роце. Ён быў добры дружака, але пра сябе гаварыў неахвотна, ня любіў лішне займацца сабою, ня любіў расказваць. Мы дружылі з ім вельмі, але ўсяго і ведалі пра яго, што ён з тэрыторыі занятай палякамі, што ўцёк адтуль, але як і што—не гаварыў ніколі. І вось цяпер мы, разам з яго роднымі, даведваліся гэтую гісторыю.

Ён пачынаў апісваць з таго, як сядзеў ужо ў польскім астрозе. Да гэтага, вядома, у хаце ведалі ўсё.

Была ноч, як у астрозе ён даведаўся, што яго будуць страляць. Перад гэтым яго білі, разьдзелі і ўвапхнулі ў астрожную камару толькі

ў адных споднiках, нават без сарочкi. Быў на дварэ вецер, раньняя зiма, зямля была яшчэ голая, але замерзлая i сыпаўся зьверху сьнег—крупы. Зьмеркла рана, ноч цягнулася доўга, з другога паверху, дзе была камара, праз вакно вiдаць было поле за астрожнаю агароджаю. Цымантовая падлога ў камары намерзла, босыя ногi пачалi карчанець i ён скiнуў споднiкi i падслаў пад ногi. Цяпер ён чуў, што пакуль застрэляць, дык з холаду зойдзецца. Раптам ён заўважыў, што краты ў вакне як-бы пагнутыя крыху, мусiць хтосьцi тут спрабаваў ужо свайго шчасьця. З роспачы скочыў на вакно i скалынуў крату. З правага боку яна ледзьве ўпiралася ў мур, два гвазды былi выцягнуты. Ён павiс усiм целам на ёй i ўпёрся нагамi ў мур. Колькi разоў гэткае патугi i крата сагнулася. Ён раскалываў яе яшчэ i ўжо льга прасадзiць у дзiрку галаву i плечы. Ён хапiў свае споднiкi, калоцячыся ледзьве ўзьдзеў iх i палез у дзiрку. Пад вакном была вартаўнiчая будка з бляшаным дахам, а адтуль крокаў чатыры да агароджы, на ёй таксама бляшаны дах. Iншага нiчога ня было ўжо выбiраць i ён скочыў на вартаўнiчую будку, а адтуль на агароджу. З агароджы ўжо скацiўся на мерзлае поле, скрываўлены аб краты i бляху. Яму самому пасьля дзiўна было, як гэтак шпарка ўсё адбылося. Як адбегся крокаў дзьвесьце ад астрожнае агароджы, пачуў, як там пачалася трывога, выстралiлi, закрычалi. Ён пабег шпарчэй, задыхаючыся. Сухi сьнег сек яго голае цела; i ён гэтак даскачыў да ляска. Там зусiм аслабеў. Забiвала дух, халодны пот змачыў яго ўсяго. На ўзьлеску ён перадыхнуў самы найкарацейшы момант i пабег далей, але ня ў лес, а паўз яго, дзе як праз туман вочы ўбачылi будынак. Тады ўжо сьнег пакiнуў сыпацца, бялявае месячнае сьвятло лягло на зямлю.

У хаце гарэў агеньчык. Ён застукаў у шыбу:

— Жаўнеры не стаяць тут?

— Не,—адказаў з хаты мужчынскi голас.—А што?

Тады ён убег у хату. I адразу прызнаўся:

— Я ўцёк з астрогу. З пад расстрэлу. Бачыце, якi я.

— Лезь на печ,—адказаў чалавек.

На печы ён адчуў, як забалела моцна ў нагах.

— Гэта па табе стралялi? Чуваць было,—пытаўся мужчына.

— Па мне.

— Здарава-ж ты бег, за хвiлiн якiх пяць даскочыў сюды... Ты-ж доўга не сядзi тут, а выбiрайся. I табе самому, i мне... На выпi малака i iдзi... Пашукай яму чаго апранущца (гэта да жонкi сказаў чалавек).

Баба прынесла з гары старую кажушаную, усю аблезлую, шапку, каравыя старыя нагавiцы, кажушок бяз воўны i каўняра i лапцi. Начапiла яшчэ на яго торбу i палажыла туды акраец хлеба. Цяпер гэта быў сапраўдны старац. Гэтак ён i рушыў у дарогу. Iшоў ён да фронту начамi, туляўся па лясох, здолеў перабрацца цераз фронт i от...

Жанчына нэрвавалася. Пакуль Скабакоў дачытаў ліст, твар яе быў мокры ад сьлёз і нам толькі дзіўна было, чаму стары як дзеравяны ўсё адно. Холадам веяла ад яго твару.

А дзе цяпер той шпіталь?—запытала жанчына.

Голас яе дрыжаў ад хворасьці, быў слабы і хрыпаваты.

— Дзе шпіталь—мы цяпер ня ведаем. Ён можа нават тут праехаць, а можа ўбок куды падацца, як патрэба будзе.

— Першая вестка ад яго з самага таго часу,—сказала жанчына.

Нас дзівіла вельмі холаднасьць старога. Здавалася, што ён думае пра штосьці сваё, перад чым уся гэтая важная яму навіна пра сына—нішто.

Мы пачакалі крыху, нам здавалася, што мы павінны пра штосьці тут даведацца, пачуць высьвятліць. А пасьля нехаця паспрабавалі разьвітацца, але жанчына тады спыніла нас:

— А вы яго будзеце бачыць?

— Цяжка сказаць. Калі паправіцца хутка—дагоніць нас, а калі не—можам і ня ўбачыцца.

— Няўжо-ж ён дадому ня гляне?

— Як выйдзе. Калі тут прайходзіцьме...

— А так. Няўжо ня мог-бы, каб хацеў, збочыць з дарогі, хоць на дзень сюды?

У голасе яе была хворая раздражненасьць, але тут-жа яна прымусіла сябе зрабіцца інакшаю. Як-бы адчуваньне вінаватасьці засьвяцілася ў ваччу яе. Стары гэта заўважыў. І мы тут аж сумеліся, як убачылі гэта: халодны гэты стары гэтак чула ўспрымаў кожны рух пачуцьця і думкі маладое жанчыны.

Стары патупаў ля парогу, паглядаючы на нас, пасьля пакашляў у сенцах. Мы не здагадаліся выйсьці. Дык ён паклікаў нас.

— От што, вы яго таварышы,—загаварыў ён, садзючыся ў сенцах на сваё ранейшае месца,—вы яго трэба каб убачылі. Скажэце яму, што я ўсяго гэтага так не пакіну... Дык от... Пасьля таго, як яго тут злавілі і як ён уцёк быў цераз фронт туды, яе забралі і яна сядзела доўга. Іх ганялі ўсіх, што сядзелі, убіраць ельнікам дарогу, па якой варочаўся назад пан, выгнаны паўстанцамі (і наш Юры там быў!) з маёнтку. Пан, як варочаўся, дык яго ахоўвалі салдаты. Ехалі на конях, а мужыкоў усіх выгналі ісьці спатыкаць. Нас гналі цераз поле сьнегам нацянькі і загадалі яшчэ здалёк зьняць шапкі. Пан праехаў у фаятоне, а мы ззаду ішлі бяз шапак. І я ішоў бяз шапкі. Ня далі мне нават і апрануцца цяплей, я, стары, увесь адубеў. Тымчасам у дварэ нас выбралі колькі чалавек—выбралі з кожных дзесяці аднаго. Якраз папаўся і я. Нас пагналі ў скарбовае гумно, а там адсьцябалі лазою. Пан сам то ня прышоў глядзець на гэтую сваю пацеху, а прыслаў аканома свайго. Той глядзіць ды адно прыгаворвае: „Лес панскі секлі, а лазы і не здагадаліся спляжыць, усё адно як наўмысьля, каб было чым вас сьцябаць. .“

Але ня з гэтага ўсё. От яна,—паказаў у хату на жанчыну,—прышла дадому з астрогу зусім хворая. Там яна ў холадзе і голадзе ўсе сілы пакінула. Абы за работу цяпер возьмецца, зараз і дрэнна. Унь-жа пазаўчора гэта на полі цэлы дзень рабіла, а сёньня ўжо ляжаць ёй цалюткі дзень трэба... Я дзьве ночы і два дні вартаваў ля дарогі ў хмызьняку на тым тыдні, як пан выяжджаў зусім адгэтуль. Я не пашкадаваў-бы сябе, зьвёў-бы яго з сьвету, а сам тады хоць памёр-бы спакойна. Але ён выехаў гэтак, што і доступу да яго ня было—за ім з дваццаць вайсковых коньнікаў. Ну як я даступіўся-б!.. Так яму ўсё і раскажэце, няхай тады, што хоча думае. Каб яшчэ яны тут крыху пабылі, можа я што яшчэ і прыдумаў-бы... Я яшчэ яго спасьцігну дзе.

— Дык вы раскажэце, што было тут у вас?

Мы бачылі: у старога пануе адна думка, з-за яе ён забывае на ўсё.

— Хто-ж у вас больш у хаце ёсьць?

— Хлапчуку дзявяты год, каровы пасе,—абазвалася ўжо гэта жанчына з хаты,—а дзяўчына, сястра Юрасёва, жыта жне сёньня. Пазаўчора мы з ёю ўдзьвёх жалі...

Мы бачылі—яна была рада цяпер пагаварыць з людзьмі. Мы стаялі ля парогу, стары варушыўся штосьці ў сенцах і неўзабаве сьціх. Мы бачылі ў ім адно—вялікі цяжар крыўды, панаваньне над усім ідэі помсты і бунту ў гэтай перапоўненай бядотамі істоце.

Мы праз якіх мо‘ хвілін пятнаццаць пашлі адгэтуль, больш як добрыя знаёмыя, блізкія людзям у гэтай хаце, а пад дзень пакінулі зусім гэтую мясцовасьць. Уночы мы прайшлі паўз самую Гарэйкаву хату (абходзілі лес берагам, дзе, за ім, загінаўся ўлева гасьцінец). Усё было ціха ў Гарэйкавым двары, хата ледзь была прыметна пад высокімі пнямі чорнага лесу. Тут, на хвойных карнявішчах, пахла адсырэлым, за ноч жвірам, нага часамі пападала ў жвірыстую каляіну.

— Ці не пясок зноў будзе?—хтосьці сказаў з прыкрасьцю.

Але пяску больш ня было.

Мы некалькі дзён ішлі цьвёрдым гасьцінцам, пераходы былі цяпер меншыя, адпачынкі—большыя. Мы дайшлі да месца фармаваньня новых часьцей так, на дзень пяты. Пункт гэты быў у баку ад гасьцінца кілёмэтраў за сорак, там ужо ішла чыгунка. Вагзал быў спалены, пажарышча было яшчэ сьвежае, усё ў белым попеле, сама-ж чыгунка ня была папсавана, тут чакалі цяпер першага цягніка. Гэта быў эшалён такіх самых як мы чырвонаармейцаў. Мы пазайздросьцілі ім: на зборны пункт яны ня йшлі пеша. Тут нас і дагнаў Юры.

Цяпер, калі ўсё ўжо гэта адышло ў час і толькі ўспаміны хвалююць сэрца, больш як тады адчуваю я тую зьмену, што раптам у тую хвіліну адбылася ў Юрыя. Як пачуў ён, што мы ліст аддалі, што самі нават яго чыталі, што былі ў яго хаце, ён страціў адразу сваю панураватасьць, страціў яе надоўга, аж *да таго самага моманту*, што вызначыўся праз некалькі дзён, у хмурны здаровы адвячорак, за межамі ўжо

Гародзеншчыны. Мы пазналі які, сапраўды, Юры Гарэйка жыцьцёрадасны чалавек і як мы не разумелі дагэтуль яго, думаючы пра яго, як пра „панураватага“. Нейкая інтымнасьць цяпер між намі зусім раскрыла яго нам. Мы ўжо зусім зблізіліся.

— Дык вы бачылі і старога, і жонку, і сына?..—гаварыў ён, увесь загарэўшыся. Ну, а як бацька? Ох, зазнаў ён гора за век свой. За парабка быў, аратага, у дварэ цэлы век свой і нас там павыгадоўваў. Гэта я ўжо з парабкоўства вылез як-бы... Ну, а як спаткалі вас?..

Скабакоў нехаця расказаў пра наша спатканьне з яго роднымі. І от тут выявілася яго падабенства з бацькам: гэтак, як і стары, ён нейк холадна спаткаў навіну пра хворасьць жонкі, пра астрог, пра панскі двор... Мусіць гэта з таго, што прывык ён да цяжкіх падзей і навін.

Ажыўленьне яго мінулася, але маўклівасьць не варочалася, мы ўтраіх трымаліся разам усе дні *да таго адвячорку*.

Фронт трэці дзень стаяў на адным месцы. Мясцовасьць была скрозь узгоркаватая, з рэдзенькім хмызьнячком у лагчынах—там, дзе мы, перафармаваныя часьці, стаялі. Гэта было яшчэ крыху ў тыл, але мы выходзілі на той бок хмызьняку,—дзе трымаўся фронт. Пасьля Наваградчынскае сутычкі мы ня бачылі ўжо больш засьцілаў бою. На вайне дзень—часта—эпоха, мы прывыклі да спакойных пераходаў і цяпер зноў разварушваліся. Памятаю, як Юры ляжаў поплеч са мною на пескавым беразе дробнае рэчкі. Бераг быў пляскаты, вада за намі плыткая: хмурны цёплы вецер нават ня мог раскалыхаць яе, яна дробна дрыжала, а ўсё-ж і ад яе ішоў водыр. Ён здаваўся нам вельмі моцны, вельмі востры—жыцьцё адчувалі мы цяпер з падвоенаю сілай.

Мы ляжалі доўга, цэлы ланцуг шэрых людзей. З паўдня, аж да змроку.

— Няўжо яна не паправіцца?—ціха сказаў мне Юры.

— Хто?

— Жонка. Як ты... ты-ж бачыў яе, гаварыў з ёю...

Што я мог сказаць, сам нічога ня ведаючы...

— Бацька дзівак,—гаварыў Юры,—ён думае, як адпомсьціцца аднаму пану, дык і ўсё на сьвеце выратуе. Няхай-бы лепш паменш думаў пра гэта, а...

Ён ня скончыў, ня могучы, мусіць, упікнуць бацьку.

— Ён чалавек мяккі, мой бацька. Крыўду заўсёды пераступаў... Як ты думаеш, будзем мыісьці сёньня наперад, ці чакаць?

Узгоркі засланіся змрокам і мы адчулі як прабегла па ўсіх нас адно адчуваньне чагосьці блізкага. Мы пачулі, далёка дзесьці вельмі, загаварылі кулямёты і неўзабаве перад намі абазваліся вінтоўкі. Зараз мы будзем выбірацца на той бок рэчачкі!

Перад намі ішла ўжо гарачая работа, як мы рушылі туды з рэзэрву. За намі яшчэ беглі, ад гэтага моманту залежала ўдача. Як і заўсёды ў гэтакія хвіліны, мы бачылі толькі тое, што было блізка для нас—зямлю

пад нагамі, хмызьнячкі, узгорачкі перад намі... На небе запальваліся зоры, але нам было не да іх, мы іх ня бачылі... Неўзабаве нам давялося заняць першую лінію і там мы пачалі недалічвацца аднаго за адным сваіх таварышаў. Шэрая маса нас бегла ўсё наперад, аж пакуль не пачулі каманды лажыцца. Лежачы мы стралялі. Быў самы гарачы момант. Налева быў адзін куток дзе больш, як усюды, сыпаліся варожыя кулі Там сакатаў наш кулямёт і раптам мы пачалі заўважаць, што ён змоўк. Юры кінуўся туды, там было пуста—ляжалі параненыя і няжывы кулямётчык. Юры нарыхтаваўся ў момант, кулямёт адсунуў наперад, няжывы кулямётчык застаўся за ім. Праз колькі доўгіх хвілін кулямёт зноў загаварыў: арудаваў у ім ужо Юры. Самае страшнае месца там было. Тут мы зноў пабеглі, пасьля пайшлі і ішлі ўжо ўсю ноч, займаючы шырока мясцовасьць. Але Юры застаўся. У той момант, калі мы рушылі, калі ўсё ўжо было зроблена, адна з апошніх варожых куль урэзалася яму ў руку ля локця. Я сам яго ўжо ня бачыў, але хто быў ля яго, расказвалі, што тады ён гукнуў немым голасам „ну, цяпер не магу“ і споўз крыху ўніз з узгорачку.

Перад сьвітаньнем мы ішлі ўжо ў цішыні. Цяпер мы заўважаць пачалі зоры—яны тухлі на палавым небе і ўсход засьцілаўся бялявымі прасторамі.

Мы йшлі ўсе наступныя дні. Сяляне выходзілі спатыкаць нас. Партызаны далучаліся да нас. Нас цешыла гэта, і вітаньне сялянскіх натоўпаў.

Я цяпер ня ведаю дзе Юры і што з ім. Таксама сышоў з майго далягляду і Скабакоў. Ён недзе там, дома на поўначы Савецкага Саюзу. Каб я ведаў яго адрас, я напісаў-бы яму, што вычытаў нядаўна ў нашых беларускіх газэтах. Перадавалася паведамленьне з польскіх газэт: успаміналіся прозьвішчы кіраўнікоў першамайскіх дэманстрацый у Заходняй Беларусі. Іх вінавацяць у комуністычнай дзейнасьці. Сярод іх вычытаў я імя Паўла Гарэйкі.

Я ўспамінаю: у тую часіну, як распытваў Юры—як спаткалі нас у яго хаце і каго мы там бачылі, ён гаварыў:

— А сына майго ня бачылі? Паўла? Паўлючка, майго сына?

# БАЯВЫЯ ПЕСЬНІ

**Мікола Хведаровіч**

*(Эпізоды)*

## З МІНУЛАГА

Вось тут
Груганы балявалі
Заўчора,
І моцна крычалі
Над сьнежнасьцю
Соннай.
А мёртвая постаць
Рукой сэмафора
Стрымала разьбежнасьць
Паслушных вагонаў.

А з Вільні да Менску
Вужакамі рэйкі
Змыкалі пляцформы
Разьбітых вакзалаў.
І сумныя вёскі
Нямыя калекі...
Краіна жабрачкай
Выгнаньніцай стала.

Палі зарасьлі
Дурнап'янам жвірыцай,
Снарады разбурылі
Грудзі вагонаў.
Калючых дратоў
Заржавелыя гліцы,
Раскінулі дзіка
Сьмяротныя скроні.

Пад гром кананады,
Што крок—
Небясьпека,

Трымайся зямліцы
Халоднай і роснай...
І поўзалі ў муках
І стогнах калекі,
Пясок цалавалі
Халодныя вусны.

Калі-ж загасалі
Агні навальніцы,
Зямелькі разьбітай
Чарнелі скляпеньні...
Сюды груганы
Прылятталі жывіцца,

Як страшныя здані,
Як чорныя цені.

Сюды налятталі
Навалаю чорнай,
І моцна крычалі
Над сьнежнасьцю соннай.
А мёртвая постаць
Рукой сэмафору
Стрымала разьбежнасьць
Паслушных вагонаў.

## ПАНЫ ІДУЦЬ

Беларусь, мая краіна,
Сьветлы цёплы ранак.
Сустракай-жа, гаспадыня,
Зноў гасьцей нязваных.

Адчыняй-жа шырай дзьверы,
Нізка бі паклоны,
Бараніць зямлю і веру
Едуць легіёны.

Хто рабіў з бальшавікамі
На паноў аблаву.
Навядуць сягоньня госьці
Суд свой і расправу.

Каля цэрквы у сумоце
Журацца асіны.
Камісар штырчма на плоце
Весь крывава-сіні.

Сам паніч з вайсковай сьвітай
Аддае загады:
— Расстраляць, панове,—квіта
Ад імя ураду.

Ў паніча кашуля бела
Чысьценька памыта.
Беларускаю каймою
Навакол абшыта.

Паплавоў яго, зямліцы
Не акінеш вокам.
У маёнтку камяніцы
Да нябёс высокі.

Хто-ж даваў такому гаду
Ды чыны высоцтва?
Ад вайсковага ураду
Хто даў паўнамоцтвы?

Рабаваць абрабаваных
Бяз жалю патолю.
Адабраць адну ўцеху
Дарагую волю.

Бедны люд ня здраднік, пане,
Ня слуга прадажны.
Яшчэ сонейка загляне
І да нас сярмяжных.

Мы сталёваю кагортай
Зьдзейсьнім нашы мары,
Ў бойцы мы адзіным фронтам
Разам з пролетарам.

І ня станем з паўдарогі
На краю бяздоньня.
Надыходзіць перамога
Над нядоляй сёньня.

Глянь! Усход як чырванее
Полымем, зарою.
Мы для новага паўстаньня
Рыхтавалі зброю.

## НАДЫХОДЗІЦЬ БУРА

Не вятры навалу гоняць,
Не маланка сьлепіць вочы.
Навальніца будзе сёньня
Драсаваць маўклівасьць ночы.
Галасіць і выць па-воўчы
Навальніца будзе ноччу.

Пазрывае стрэхі бура,
Схрабустае ўвесь асіньнік.
Долю бацькаву разбурыць
І на горла стане сыну.
Вецер будзе выць, як дурань,
Над жыцьцём спраўляць хаўтуры.

І апусьціцца над краем
Гэтым сіверам калючым
Банды ўзброеная зграя,
Гадаў чорных і паўзучых.
Будзе ноч усю да раньня
Крывавае баляваньне.

Звоняць конскія падковы,
Палашы грымяць паходам.
Едзе „бацька Балаховіч“,
Падаруе ўсім „слабоду“.
Надыходзіць бура з громам,
Пачынаюцца пагромы.

## ...І ПАГРОМЫ...

Сонным мястэчка блукае
І дым
Вісьне хаўтурна,
Як чорная здрада.

Балаховіч:

— Пане харунжы,
Заходзьце сюды!
Бэндземо, пане,
Вось тутай абядаць!

Пане харунжы,
Сядайце вось тут,
Добраму госьцю

Ад сэрца пашана.
Эй, гаспадар!
Закусіць прыгатуй
Ды прынясі нам
Гарэлкі і шклянак.

Яўрэй:

Слухаю, пане,
Вячэру падам,
Ну, а гарэлкі...
Няма і ў мястэчку.
Проша агледзець
Хаціну маю,
Верце, паночку,
Ня знойдзеце з сьвечкай.
. . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . .

Рукі калоцяцца,
Ногі дрыжаць,
Сьцены і лямпа
Упалі нібыта.
К грудзям упалым
Пристаўлен кінжал
Жорсткай рукою
Бандыта.

Дзеці з запечку
Да бацькі і ў крык!
— Тата,
Каханы наш тата!
Бачыць стары,
Як мястэчка гарыць,
Хутка займаюцца
Пуня і хата.

З крыўды і болю
Нястрыманы крык,
З горкім узрыдам
Зачынены вочы...
Вогненны ўгору
Узьняўся язык,
Цемру залізвае
Чорнае ночы.

О, хто даруе
І крыўду, і зьдзек
П'янай разьюшанай
Зграі бандытаў...
Хай вызваленьне
І помста ідзе,
Дзень загарыся
Прыгожы і сьветлы!

## У ЧЫРВОНЫМ ЛЯГЕРЫ

Ціхі салодкі сон.
Сьпіць баявы батальён.

Толькі ня сьпіць вартавы
Трыста аднэй галавы.

Строгі адданы загад—
Назад ні адна нага!

Хай сабе сьмерць на скаку,
Мы пераходзім раку.

Вось падышоў вартавы
Стаў ля аднэй галавы.

Пётра Іванавіч Краб,
Зараз зьявіцца ў штаб!

Роўна а поўначы ў шэсьць
Ёсьць, батальённы!
Ёсьць!

Ціха падняўся адзін
Ўзяў баявы карабін.

Роўна а поўначы, у шэсьць,
Ёсьць! Я, батальённы,

— Знайце, таварыш, атрад
Вам аддае загад!

Ранак надыйдзе пакуль
Мы пераходзім раку.

Там, дзе праложаны мост,
Дрэмле варожы пост.

Гляньце! Як шкло перагіб
Ў смузе туману другі.

Толькі надыйдзе ноч
Шызым туманам ізноў,

Хай сабе будзе што хоць—
Вам абаіх прыкалоць.

Ведай загад баявы
— Хай лепш памрэ вартавы,

Чымся увесь батальён
Згубіць сугучнасьць колён.

Ёсьць, батальённы,—рад
Выканаць ваш загад!

•

## УДАР ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ

Армейцы, наперад!
Шаблі, бронь!
Алюрам на першы
Выстрал.
Стук капытоў
І страмёнаў звон,
Кулі шалёнае сьвісты.

Коні нагамі
Ўздымаюць мяцель,
Вецер сярдзіты
Зрывае шынэль;
Шэрыя цені
Цалуюць панэль,
Чорныя здані
Паўзуць па панэлі.

Там, дзе істужкаю
Сіняю лес,
Стромкія сосны,
Як пікі.
Белыя сотні
Наперарэз
Мчацца шалёна
І дзіка.

— Гэй-жа, наперад,
Ня схілім галоў,
Ў бойцы, браты, не здамося,
Волю, таварышы!..
. . . . . . . . . . . .
Коні, галоп!

І куляметы навокала косяць.
Ўспыхамі магнія
Рвецца шрапнэль,
Коні гайсаюць праз трупы.
Кроўю замазана
Бела панэль,
Шызым туманам
Атрутным.

Рукі байца—
Гартаваная сталь,
Ў бойцы
Ня знаюць утомы
Панства—
Крываве рыхтуючы баль,
Нашы удары
Прыпомніць.

Ў гэтым чаду
І сьмяротным агні,
Ў гэтым уздыме
Шалёным,
Мы паказалі,
Як край бараніць
Армія ўмее
Чырвоных.

## ЗАКОНЧАН ПАХОД

Мы зьмералі многа
Палёў і дарог.
І зроблена многа
Ліхіх перамог.
З Усходу
На Захад,
З Паўдня
На Заход.
Закончан вялікі
Славуты паход.
Хто згінуў
Бяз бою,
Хто ў бойцы
Прапаў...
І ў полі
Над трупам

Крычыць гарлапан.
Ня вернуцца болей,
Ня прыдуць яны...
З Усходу на Захад
Стаяць курганы.
Ім песьні
І гімны
Складае поэт.
—А вецер сярдзіты
Памінкі пяе.

---

І гром кананады
Варожай замоўк.
Вярнуўся дахаты
Дванаццаты полк.

## ДА СЬВЕТЛАЙ КОМУНЫ

Гарыць маяк
Сусьветнае Комуны,
Што дзень міне—
Ярчэй яго прамень.
І гімны творчых дум
Імпэтам звонкаструнным
Імкнуцца прывітаць
Вялікі новы дзень.

Ў адважным голасе
Напружнасьць вольнай працы,
Ў магутным подыху
Жаданьняў і трывог...
Мы будзем жыць,
І ўсё жыцьцё змагацца,
І будзем сьмела йсьці
Да новых перамог.

Няхай цярністы шлях—
Нястрашны перашкоды,
Ў змаганьні выкуты
Магутны творчы дух.
На працу нашых рук
Глядзяць вякі, народы,
Да мэты блізіцца
Наш будаўнічы рух.

І ў гэтай радасьці
Ў няспынным гэтым руху—
Стазвонны гул
Бурлівага жыцьця.

На ясным-жа шляху
Ня страшны завірухі.
Мы сьмела пранясём
Комуны вольнай сьцяг.

Прайшлі мы цяжкі шлях,
Змаганьняў і руінаў,
Паходы дальнія,
Варожы дзікі шквал.
Нядарам сёньнячы
Пяюць машыны гімны
І славяць сьветлы час
Дзесяты перавал.

Спраўляе сёньнячы
Краіна урачыстасьць;
Узьвей сьцягі,
Мільённы цьвёрды крок!
Дык хіба-ж страшна нам
Варожай ночы мглістасьць,
Калі рашучасьцю
Палае творчы зрок?

І ў гэтым руху дзён,
І ў перамозе кожнай,
Пад сьвісты дзікія
Варожых страшных бур,
Няспынны бег жыцьця
Імчыць непераможна,
Расьце вышэй ўгару
Эпохі новай мур.

І што ні крок—
Бліжэй маяк Комуны,
Што дзень міне—
Ярчэй яго прамень.
І гімны творчых дум
Імпэтам звонкаструнным
Імкнуцца прывітаць
Вялікі новы дзень.

## ЗЬМЯНЯЕМ ТВАР ЗЯМЛІ

Дні праскакалі шалёнай віхуры
„Заўтра“ над „сёньнем“ спраўляе хаўтуры.

У творчым запале прайшлі рубіконы,
Нашым імкненьням бязьмежны разгоны.

Там, дзе стаялі старыя капліцы,
Там, дзе ад гора хадзілі маліцца,

Дзе ня каленях прасілі збавеньня,
Дзе паміралі ў глухім сутарэньні,—

Сёньня ўздымаем магутныя гмахі
Рэюць ў паветры сталёвыя птахі.

Вохкім дарогам падкладваем шпалы
Новыя ў строй становяцца кварталы.

Гул аўтабусаў, аўто перагонкі,
Сьледу ня стала ад царскае конкі.

Трупам ляжыць камяніца старая,
К грудзям прывінчаны рэйкі трамваю.

Новы рытмы і новыя песьні
Звоняць трамвайныя шпаркія рэйсы.

Нават магутнейшы рух тротуараў,
Нават румяная радасьць на тварах.

Новае заўтра заўсёды прарочыць,
Дык палымнейце-ж пясьнярскія вочы.

Каб не патухла у вершах сталёвасьць,
Каб запалялі поэтавы словы:

Клічу!
Радкі,
Станавіся да строю
З новым юнацкім бадзёрым настроем.

## 11. „НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН“

Як страшны гураган,
Як цемра чорнай ночы,
Як коньнікаў налёт,
Што зброяю зьвіняць.
Усюды сьмерць

Жывых істотаў сочыць,
А імя ёй:
Вайна...

У цьвітучых кабарэ
Пад шальныя фокстроты,
Дзе музыка грыміць
І пеніцца віно,
Сьмяротны пішуць плян,
І сотні кулямётаў
Халодным градам куль
Прастрэляць сэрца зноў.

Ізноў пральлецца кроў
Нязьлічаных істотаў,
Мільёны ўзьнятых рук
Раздушаных ахвяр.
Дык накіруй-жа рулі кулямётаў
У капіталістаў,
Пролетар!

Вайна—вайне!
Замоўкніце, гарматы!
Прыцэл.
Зважай...
Пальба па ўсіх дварцох.
Няхай спакой
Пануе ў нашых хатах,
Хай вольны гімн
Гучыць ва ўсіх канцох.

Вайна—вайне...
Пагібель капіталу...
Сталёвей крок!
Таварыш, цьвёрда вер,
Што будзе жыць
Напружнасьць творчай працы
У Сусьветнай СССР.

## ЧЫРВОНЫ СТРАЖ

Гучэце ж вы, словы,
Як трубная медзь!
Іграйце гучней
Перамогу!
Вы чуеце—

Сталі гарматы
Грымець,
І клічуць, нас клічуць
Ў дарогу.
Знаёмы іх грукат,
Знаёмы іх кліч,
Як помнік
Далёкіх паходаў...
Глядзеце...
Як чорныя хмары
Ляглі
І сунуць навалай
З Заходу.
Глядзеце...
Зышліся маланкай,
Агнём,
І клічуць прызыўнай
Трубою..
Трымай, Чырвоная,
Свой штык гартованы
Мазольнаю рукою.

Кастрычнік 1929 г.
Менск

# БАЛАКЛАВА

**Л. Піонтэк**

Зьверху— блакіт. Унізе—блакітная зелень. Збоку—плямы колеру вохры. Гэта—неба, горы і бухта.

Ї невялічкая чырвоная зорка: крывавая з пяцьцю гострымі жаламі. На шэрым фоне. Гэта ўсё—Балаклава.

Ня ўсякі ведае, што такое Балаклава. Нават той, які ведае Купрына ўсё-такі ня ведае, што Балаклава, гэта—ціш. Моцнае, п'янае паветра Чорнага мора. Яно тут,—адразу, калі выплыць за вароты бухты—дзьве скалы: жоўтая і шэрая. Яны замкнулі бухту, каб ня пусьціць туды з мора шторму, каб спакойна была Балаклава.

А Балаклава—гэта невялічкі гарадок у Крыме. Не на ўсякай карце вы знойдзеце, крапінку, якая азначае Балаклаву.

Балаклава старая, старая.

На верхавіне гары, што зьвісла над морам, тырчаць сьцены старых, зруйнованых вежаў. Калісьці яны былі недаступнымі. Ніякі вораг, ніякаю зброяй ня мог бы іх узяць. Першы, хто-б адважыўся ўзьлезьці на гару, у момант апынуўся-б у моры. Вежы былі недасяжнымі. А цяпер дзьве сьцяны бездапаможна і няўпэўнена ўсьміхаюцца трэшчынамі і маленечкім ваконцам. Ї бачылі яны не адну вайну. Шмат людзей бачылі. Усякіх. А цяпер пазіраюць на бухту, якая зарасла некалькімі дзесяткам будыначкаў, белых і наіўных. На маленькіх моцных грэкаў з бронзавым абліччам. Патомкі ваяўнічых прадзедаў ловяць у моры рыбу, а хто мае больш тонкую прадпрыемчую жылку—ловіць рыбу і на сухазем'і.

Ї сапраўды, калі вы змучаны, зморавы бязупыннаю працаю цэлае зімы, а мо' і некалькіх гадоў, з выглядам выкручанае анучкі прыедзеце ў Балаклаву, каб супачыць, падмацавацца салёным паветрам і блакітнасьцю, на вас накінуцца рыбакі.

Гэта будзе:

Смуглявы Сашка—комісіянэр з пышнымі рудаватымі вусамі. Ён прапануе вам свае паслугі наняць памяшканьне, добра раскажа, што вам патрэбна. Вы паверыце яму. Ён прывядзе вас да ціхага белага пакою: адсюль вам будзе відаць і бухта і горы. Ї за гэта Сашка-комісіянэр злупіць з вас комісійныя.

Пасьля да вас зьявіцца чарнавокі, самаўпэўнены Пеця Капітанакі і пераканае вас у тым, што ён мае найлепшы ялік; найлепшы ня толькі ў Балаклаве, але і ў Севастопалі, у Алупцы, у Гурзуфе—і ва ўсім Крыме.

Вы ніколі ня бачылі яго яліка, вы толькі ўчора дазналіся, што ялік— гэта човен, але вы паверыце, што Пецяў ялік—найлепшы ва ўсім сьвеце, і папросіце Пецю, каб ён, кожны дзень даваў вам яго на гадзіну. Вам захочацца паехаць у поўнае мора. Сам на сам. Ва ўсякую гадзіну. Але вы ўзбурыце найлепшыя струны ў душы чорнавокага Пеці.

— Хіба-ж ён не гаварыў вам цэлых дзьве гадзіны аб тым, што яго ялік—*найлепшы?*

— Ну, казаў.

— Казаў! Гэта вы маглі зразумець, а як-жа вы не разумееце, што гэтага скарбу ён нікому не даверыць! Нікому! Калі вам хочацца езьдзіць у мора, Пеця можа вас павезьці, але аддаць вам на гадзіну ялік... на паўхвіліны ён яго нікому не аддасьць!

Пеця Капітанакі абальле вас абурэньнем, пагардаю з самае глыбіні сваіх чорных вачэй.

Вам ніякава стане, вы зразумееце, што спаролі страшэннае глупства. І выправіце сваю памылку і будзеце езьдзіць у мора з Пецем Капітанакі... на просьценькім рыбацкім чоўне.

У Балаклаве ва ўсіх такія чаўны. У Балаклаве ўсе рыбакі.

І вам пакажуць усё, што ёсьць у Балаклаве цікавага. А гэтага нямала.

Калі паўдзённае сонейка нагрэе шэры асфальт набережнае так, што сам пачырванее ад сьпекі і нырне паўтварам у мора, на невялічкай прыстані, што на набережнай, пачынае зьбірацца Клюб Гультаёў. Улетку ім няма чаго рабіць. Улетку рыба ў моры ня ловіцца. І яны зьбіраюцца тут, смокчуць кароценькія люлькі, успамінаюць асеньнія штормы, успамінаюць маладосьць.

Яны ня маюць дач. Члены клюбу—найбяднейшыя рыбакі ўсяе Балаклавы. А гультаямі іх празвалі гаспадары, бо амаль увесь клюб паклаў свае сілы на рабоце ў тых самых гаспадароў.

Калі вы пройдзеце паўз Клюб Гультаёў пад крыжаваным, пранізваючым поглядам членаў і спадабаецеся ім,—вас паклічуць, далікатна дадуць вам месца на шэрых дошках прыстані і, калі вы ня горды чалавек дык вы сядзеце з імі і адкажаце на ўсе іхнія запытаньні.

— Хто вы? Адкуль? Чым займаецеся? Колькі ў вас дзяцей?—ды ці можна ведаць аба ўсім пра што вас запытаюць.

А вам будуць расказваць хто і як жыве ў Балаклаве і як лавілася мінулае восені рыба.

Паўз прыстань праскача на аднэй назе жвавы з вяснушкамі хлопчык. Абавязкова хто-нібудзь з членаў клюбу пакліча яго і скажа:

— Міколка, бачыш?—і кіўнуць галавою ў ваш бок. Колька таксама кіўне галавою і стане ў позу. Тады стары Капітанакі (не сваяк Пеці Капітанакі, не, а старшы Капітанакі ў Балаклаве) са смакам плюне на асфальт і Міколка, раптам ляснуўшы сябе нагою ніжэй сьпіны, сарвецца з месца і бяжыць. Усе ўважна будуць сачыць то за хлопцам, які за

паўхвіліны апыніцца на другім беразе падковы-бухты, то на белую плямку сьліны, якая ў момант сохне на гарачым ад сонца асфальце.

Вы нічога не разумееце, анічога і не пасьпееце запытаць, бо Міколка абабяжыць бухту і зьвернецца, а сьліна яшчэ не пасьпее высахнуць.

У гэтым штука. Ніхто ня ўмее так шпарка бегаць і Міколку празвалі „пярыстэры“—голуб.

Вам пакажуць і сагнутага чалавека. Так сагнутага, нібы яго стукнула па сьпіне нечым вельмі важкім і ён ніколі больш не разагінаўся.

Гэта—стары Раду.

Вам скажуць, каб вы ніколі ня езьдзілі ў мора з Раду, бо ён... і прыложаць да свайго ілба палец і пакруцяць галавою.

Можа скажуць:—Гэта ўсё праз Кайрам-дырэ.

І як-бы вы ні распытвалі,—больш вам нічога ня скажуць.

І калі вы ня вельмі цікаўны чалавек, дык усё гэта пройдзе паўз вас, не закрануўшы глыбока вашае душы.

Сапраўды, што вам да Сашкі-комісіянэра, і Пеці Капітанакі, да Міколкі—пэрыстэры і старога Раду?

* * *

Шэры суровы дзень пахмура павіс над Балаклаваю.

На моры разгулялася бура. Хвалі, разгойдаўшыся раўлі, драпаліся аб скалы і з бясьсільнай злосьцю разьбіваліся--падалі назад у мора.

Усе рыбакі сядзелі дома. Ехаць у мора было небясьпечна.

Пеця Капітанакі наадрэз адмовіўся везьці мяне.

— Жыцьцё яму капейка, але я, відаць, забылася, што ў яго найлепшы ялік.

Мора гуло.

Мора так таўклося за бухтаю, што не хапала сілы ўсядзець у хаце. Я пашла на набярэжную. На ўсходцах прыстані сядзеў стары Раду і наладжваў невад. Я прывіталася і села каля яго.

Ён не адказаў мне, толькі няўпэўнена закурыў.

Погляд на сьмерць перапужанага зьвера кальнуў маё сэрца.

Заскарузлыя чорныя рукі нэрвозным павуком заплялі падраны невад.

Раптам здрыгануліся.

І зноў глянуў. Незразумела перапужаны.

Стрыжана... Стрыжана дзяўчына,—абарвалася.

А пасьля: „Чаму ты пастрыжана? Надзя пастрыжана! Мая Надзя!

Ціха, лагодненька, як толькі магла, я адказала: „Тыфус, ды і зручней так“.

— Не, не, ты—адтуль: я ведаю.

Я дзесьці, зусім глыбока, пачала разумець.

— Ты ведаеш Надзю? Ты бачыла яе?

— Я ня бачыла Надзі. Гэта ваша дачка?

— Ты ня ведаеш Надзі? Дачка, адзіная дачушка!—у спужаныя вочы скокнуў зайчык. Голас зазьвінеў і абарваўся.

— Яна тут, у Балаклаве ваша Надзя?

Зайчык зьнік з вачэй.

— Няма Надзі. Была Надзя і пашла Надзя. Няма!

Вочы—застылае шкло.

— Раскажэце мне пра Надзю.

Разьбілася шкло, і ўжо здэтанаванасьць у вачох.

— Казаць? Я ня ўмею...

Рукі бяз ладу мятусіліся ў невадзе. Раптам, вельмі напятая нітка, абарвалася. Нага адштырхнула сетку.

— Паедзеш да Кайрам-дырэ? Там была Надзя.

— Давайце!

— Не баішся? Мяне людзі баяцца. Ня езьдзяць са мною. А чаго баяцца мора?

Я ня ведала, чаму людзі баяцца. Ці-ж трэба баяцца дзядуню з перапужанымі вачыма?

Мора гуло.

Раду кіраваў ялікам упэўнена. А сьпіна яго так і не разгіналася. Хвалі зьдзіўлена пераскаквалі праз човен і рассыпаліся каралямі. Вочы напружана чагосьці чакалі.

Раптам човен крута павярнуў і стукнуўся ў бераг.

„Тут“—сказаў Раду. Вылез, прывязаў да вяровачкі камень. У човен палажыў другі.

Скамянеў стары. У вачох штосьці нарастала і раптам прарвалася. Ён пачаў гаварыць, хутка гаварыў, нібы баяўся, зноў хто-небудзь замкне яму вочы перапудам і ня выпусьціць з сэрца слоў.

— Ты не баішся мора. І Надзя не баіцца. Яшчэ малою езьдзіла са мною закідаць невад, а ўжо калі я стаў на работу ў старога Схіна, дык браў яе з сабою. Памёрла жонка, Косьця малы застаўся, Надзя тады ўжо большанькаю стала, даглядала яго.

Ты ня бачыла Надзі. Людзі казалі, што яна красуня. Ня ведаю. У яе былі доўгія косы. Вачыма грэла ўсіх.

Глядзела Косьцю. Любіла яго. Расказвала яму казкі. Пра мора. Нідзе ня была. Сядзіць і расказвае, а Косьця ня любіў казак і кусаў Надзю.

Ну, а тады Надзя падрасла. Ужо дзяўчынаю стала. Пашла ў Севастопаль—служыць. Не забывалася пра мяне. Прыехала, на пільчак прывезла. Моцнага шэранькага матэрыялу. Ужо знасіў цяпер. І сама пашыла.

А тады доўга ня чутно было Надзі. Косьця падрос. Я пасылаў яго ў Севастопаль, каб знайшоў Надзю. Але ён не знайшоў. Мусіць не хацеў, так я думаю цяпер.

І доўга ня чуваць было Надзі. Косьця мне не дапамагаў. Ужо дарослым хлапцом недзе прападаў.—У мора ня езьдзіў, мора ня любіў.

І вось прышлі гэтыя белыя, з пагонамі. Гэтыя белыя былі тут і ў нас у Балаклаве: стралялі тут усё.

Косьця раз набіў мяне. Ня было ў мяне грошай справіць яму на сьвята адзежу. А ён па начах прападаў усё, а да яго пачаў падыхо-дзіць такі, у пагонах. І бачыў я, што ён да Косьці насіў нешта, а дзе яго Косьця дзяваў і што гэта было—ня ведаў.

А то аднаго дню ў каморцы пад старымі сеткамі знайшоў я пісталеты і стрэльбы. Запытаў у Косьці,—ён ланцугом замахнуўся на мяне, але ўвайшоў сусед і кажа: „падыходзяць Чырвоныя“.

Косьця вышаў і ня ўдарыў мяне.

Сусед пашоў, пачалася страляніна. Але нядоўга стралялі.

Вышаў я на набережную, бачу: Косьця ў яліку перавозіць на другі бераг бухты таго з пагонамі, што хадзіў да нас. На ўправе—Чырвоны сьцяг. Пашоў далей, але там войска. Вярнуўся дадому. А падвячоркам увайшла ў хату Надзя. Я не пазнаў. Думаў—хлопец. На ёй скураны пільчак і шапка.

— „Як маецеся, тата, ці жывы?“

А я і ня гневаюся, што так надоўга пакінула мяне. Узрадаваўся.

Яна скінула шапку.

„Надзя, дзе-ж ты падзела свае косы, галубка мая?“

А яна: „навошта яны мне? кажэце, як жывяце?“

Расказваю, але яна змарана; толькі калі пачаў я скардзіцца на Косьцю, яна пачала ўважна слухаць. А калі я пра зброю—яна пабляднела і:

„Я думала, што гэта ён па простаце перавозіў белага. Зброя тут?“

Я павёў яе, паказаў.

„Ну, тата“, кажа, „ня тужэце. Што-ж рабіць?“—і пашла.

А мне чаго тужыць? Надзя мая прыехала, толькі бяз кос.

Неўзабаве чую—пад'ехала нешта. Углядаюся—тачанка. Надзя і два вайсковыя з вінтоўкамі.

Палажылі яны вінтоўкі на тачанку, аж тут і Косьця зьявіўся да хаты. Пабачыў і назад. Надзя кіўнула салдатам. Тыя—да яго: „сядай, бо арыштаваны“.

Косьця да Надзі: „А, гэта ты так, бальшавіцкая сьцерва!“

А яна бледная, бледная:

„Я, табе Косьця, казала і папярэджвала?“ Косьця наўцёкі,—а салдаты з вінтоўкамі.

Надзя напісала запісачку, перадала, салдату, кажа нешта: „Політкому, ці што, ня ведаю, а я, кажа прыду “

Тыя паехалі, а Надзя—да мяне:

„Вось, тата расстраляюць Косьцю“

А я:

„Як гэта расстраляюць?“

„А так: вось-жа сёньня перавозіў афіцэра, той так і ўцёк. А вось яшчэ і зброя. Ой, многа-ж ён нарабіў шкоды!“

„Так, кажу. Я думаў, што ён толькі мне, а ён, значыць і табе... Ты толькі, Надзя, выратуй яго. Сын-жа, брат твой. Як-жа можна?“

Яна бледная, бледная, аж пахіснулася, а ня плача.

„Не, кажа, ня мне, а нам нарабіў шкоды“.

Я ня ведаў—каму, дык сын-жа. Зноў прашу: Дапамажы яму.“

Яна тады, як адсекла: „Нельга, тата, нельга“.

Павярнулася ўжо, каб ісьці: нават пашла ўжо, а ў дзьверах затрымалася і застагнала: „Ох, тата, люблю-ж я яго. Мамы ў нас ня было. Даглядала яго...“

Вярнулася, пагладзіла мяне па галаве і пашла.

Я да самага цямна сядзеў і думаў, што гэта такое.

Вечарам вышаў на вуліцу. Гамоняць суседзі, што многа арыштавана. Мусіць усіх расстраляюць. І на мяне ўсе так дзіўна пaглядаюць.

Чакаў я Надзі, не дачакаўся. Лёг спаць—ня спіцца.

Раніцаю, яшчэ не разьвідніваласяя, вышаў на вуліцу; каля ўправы стаяць два грузавікі на іх сядзяць хлопцы, усе нашы балаклаўскія, і Косьця там. Каля іх салдаты з вінтоўкамі. Пасьля вышаў мужчына ў скураным пільчаку, і Надзя. У абоіх рэвольвэры. Селі і паехалі.

Я ня ведаў. А гэта-ж яны расстрэльваць іх паехалі. Да таго глыбознага рову.

Над берагам вісела скала. Я ня бачыла таго рову балкі—Раду зразумеў чаго шукае мой пагляд.

— Роў з таго боку. Я там ня быў...—надрыўна прастагнаў стары. У вачох зноў замятусіўся на сьмерць перапужаны зьвер.

Мора ўжо ня гуло. Сьцішылася. Толькі ў глыбіні стагнала.

Раду ўстаў і пачаў адвязваць камень. Човен урэзаўся ў бераг, і Раду доўга спіхаў яго з месца.

Назад мы даехалі хутка. Таксама ўпэнена гроб вёсламі Раду. Толькі тупая пакорлівасьць засланіла яму вочы.

У бухце ён ня прыстаў да Клюбу Гультаёў, а да маленькага каменнага выступу.

На разьвітаньні я моцна цiснула руку Рады. Сьвечачкі ў вачох прагналі тупасьць, і ён ціха прамовіў: „Надзя таксама цiснула руку. Не цалавала ніколі. А калі цяжка было, дык гладзіла па галаве“.

„Надзя—добрая“,—ціха сказала і я.

Вочы Раду засыпалі мяне залатымі праменьнямі.

## II

Ня многа скажуць вам пра Раду ў Балаклаве.

А калі вы запытаеце, што такое Кайрам-дырэ, дык пачуеце неахвотны адказ:

— Крывавы роў. Там расстралялі сорак дзевяць душ. Больш вам нічога пра Кайрам-дырэ ня скажуць.

III

Балаклава—гэта ціш. Спакой. Моцнае п'янае паветра Чорнага мора. Яно гудзе тут, за жоўтаю і шэраю скаламі, якія варотамі замкнулі бухту ад марскога шторму.

Часамі ў бухту заскочыць маторка.

Яна сьпявае і дыхае бадзёрасьцю. Гэта з суседняга санаторыя заплывуць комсамольцы, якія адпачываюць там улетку. Маладыя галасы парушаюць спакой Балаклавы песьнямі і маладосьцю, будзяць сонны асфальт. Яны залятаюць да Балаткаўскага выканкому, да ячэйкі, а пасьля разьвітаюцца радаснымі выгукамі, адплываюць з бухты.

На беразе натоўп грэкаў. Яны нічога не гавораць. Яны ківаюць галавамі, але вясёлыя чорненькія масьлінкі іхніх вачэй адбіваюць дрыжачы сьмех маладосьці, нібы люстэрка. Яны блішчаць нават любоўю да тых, хто ўзбудзіў іхні пакой.

Пераклаў з украінскай мовы **В. Сташэўскі**.

# ТРЭЦЯЯ ПОЭМА

**Алесь Звонак**

**Лірычны уступ**

Зноўку дума за думай бяссоньніцай
Разганяюць спакою туман.
Гэта доўгі такі караван
У пустэльні, апаленай сонцам.

Ні канца ёй ні краю няма
Толькі марываў вабных мана...
Толькі неба аквамарын
Ды пяскоў неабсяжных гладзь.
Усё—адно—дзе ты вокам ня кінь
Аднастайны такі далягляд:

Караваны аднолькавых дум
Па пустэльні раздум'я ідуць...

І бясконца прастор пескавы,
Хоць шакалам з нуды завый...

Налятай-жа хутчэй гураган.
Разганяй гэтых дум караван.

Налятай гураган хутчэй.
Разьмяшай іх у пыл, ушчэнт.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усё прапала... Бяссоньніцы вынік—
Напамінкам зусім непатрэбным...
У шыбы б'ецца сьвітанак сіні,
Трапыхаючы крыльлем срэбным...

Я сьмяюся, я меру нагамі
Квадратуру сваёй падлогі:
Не хадзіў да мяне ў госьці Гайнэ,
Як хадзіў па начах да Сьвятлова.

І ня сьніўся ў ночы мне так-жа
Страшны суд над поэты душою.

І ня сьніўся бязвусы Алтаўзэн
З бесшабашнай поэмай сваёю...

А праходзіла ноч... І сьвітанак
Біўся ў вокны сінявым крыльлем,
Біўся ў сэрца... І думкі-паўстаньні
Нечакана загаварылі:

І прапалі раздум'я пустэльні,
І расьсеяны дум караваны,
І зрабіліся цеснымі сьцены
І ўварвалася з песьнямі раньне...

І рассыпала сонечным сьветам
Залатыя свае дыядэмы
. . . . . . . . . . . . . . . .

Так пачуцьці бунтуюць поэта,
Так прыходзіць пачатак поэмы.

**Разьдзел першы, які можа быць пролёгам**

Восень.
Над горадам чорны строп,
Неба апранутага
У чорны крэп.
Вуліцы пустой
Ашчэраны рот
Ляскае зубамі
Жалезных стрэх.

Вокам сьлепаватым
Ліхтар на рагу
Упарта ўглядаецца
Ў цемравы спакой
Ды вецер-вяршак,
Вецер-дзікі гунн,
Раптоўна праімчыцца
Па вуліцы пустой...

Наігрывае вецер
На домры правадоў,
Наігрывае песьню
Бясконцую адну.
І вушы вакяніц
Натапырыў дом,
Услухваючыся
Ў цішыню.

А цішыня
Напоўнена трывогай
І цяжка так вісьне
Валавяны спакой:
Прышоў-бы хоць вецер
Бадзягаю станогай
З бярозавай навеяй,
З лісьцывянаю пургой.

Хто-ж гэта ведаць мог?
Хто-ж гэта чакаць мог?
Што тут будзе дзеяцца,
Як стане відно?..
Так. Гэту ноч
Ты запамятуй, чытач мой.
Ты запамятуй, чытач мой,
Гэту ноч.

Ночы тэй
Спакой той
Болей быў-бы дараг,
Болей быў-бы дараг
Стралянін і груку.
Поначы ўварваліся
Ворагі ў горад
Капыты зацокалі
Па каменьні бруку.

Капыты зацокалі...
Капыты заляскалі...
Зазьвінелі шыбы...
Затрашчэлі дзьверы...
Пагуляць тэй сволачы,
Пагуляць дык раз калі...
Чым стрымаеш шал
Разьятранага зьвера?

Вы ня плачце, сёстры мае,
Ня рыдайце мацеркі,—
Сэрца-камень ўсё стрымае
Нават сьлёзаў пацеркі...

Неўспадзеўкі-ж рынула
Злая тая навалач.
Белыя ўварваліся
Чорным вараньнём.

І пайшла па вуліцах
Дзікай вакханаліяй
Ноч варфаламеевская
З кроўю і агнём.

Вы ня плачце, сёстры мае,
Ня рыдайце мацеркі,—
Сэрца-камень ўсё стрымае,
Нават сьлёзаў пацеркі...

**Разьдзел другі, які фактычна зьўляецца таксама пролёгам**

Як немарасьць
прышла такая наслань.
У тую страшную,
у тую злую ноч
На бруку
полыскі крыві ня гасьлі...
І ты запамятуй, чытач,
яшчэ адно:

...Паручнік Чарны з папяроскаю ў зубах,
Паручнік Чарны робіць вышук...

...У таварыша Люшні кроў на губах
І кожнае вока нянавісьцю дыша...

Паручнік трысьцінкай па халяве,
Зіркам калючым праз пэнснэ:
— М... м... так... для якое такое забавы
У вас вінтоўка і багнэт?

Паручнік пакручвае вусікі, цярэбіць іх,
Паручнік высьвістывае нейкую сонату...
— Хм... так... А для якое такое патрэбы
У вас пад падушкаю граната?

З расьсечанай губы ў Люшні капае кроў...
У паручніка сківіца ад гневу скача:
— Бальшавік Люшня, раскрыйце рот
І скажыце імёны...
Інача й...

Надзвычай выразны ў паручніка гэст
Пры тым, калі маўзэр у руце падрыгвае.
— Даю вам тэрміну хвілін пяць ці шэсьць
І... Кропка. Нечага уноту разыгрываць...

Але Люшня маўчаў...
А разьюшаны паручнік
Далікатна гэтак сьціснуў
маўзэра ручку
І рраз... з размаху ў вісок.
Люшня ўпаў...

**Разьдзел трэці, у якім дзея адбываецца значна пазьней**

Гарэлі ўначы
за Бярозай кастры
І плавалі
белыя хмарынкі дыму,
Гарэлі ўначы за Бярозай кастры
І сьцені скакалі
нагамі худымі.

І глуха маўчала
асеньняя ноч
І волагкі вецер
ня дзьмуў з-за Бярозы.
Зіма падыходзіла
сіберным сном
І сьнежань суровы
стаяў на парозе.

І сьнілі
цудоўныя сны ваяры
Пра цёплыя печы,
гарачых жанок,
Ня гасьлі пакуль
за Бярозай кастры
І ўсход пачынаў
ціхім золакам жоўкнуць...

І сьнілі ня раз
па ночах ваяры,
І ў мрыях здаваліся
бойка, паходы
Праз пушчы, лясы,
пералескі, яры
Вазёр і балотаў
іржавыя воды,
Дзе сьпіць Белавежа,
дзе Нёман шуміць
Дзе коні ўланаў
траву здрасавалі...

І кроў ўзбунтавана
у жылах кіпіць
І помста зьбіраецца грознай навалай...
*Там* нейдзе
жураўлівым напевам адно:
„Дакуль-жа нядоляю
будама скуты?
„Хто-ж верне матулям
забітых сыноў?
„Хто-ж вычарпаць можа
глыбіні пакуты?..
„Праклятая скарга
пад стрэхамі хат...
„Хто даў гэта права
драпежным злачынцам?—
„Каб наскае збожжа
каньмі драсаваць?
„Каб вешаць найлепшых сыноў
пры гасьцінцы?..

„Дык згінь-жа
нядолі адвечнае кон.
„Дык згінце
драпежнікаў—чорныя гурмы.
„Мы створым
інакшае долі закон
„Пад покліч,
пад посьвіст навалы".
. . . . . . . . . . . . . . .

Гарэлі ўначы
за Бярозай кастры
І плавалі
белыя хмарынкі дыму...
Гарэлі ўначы
за Бярозай кастры
І сьцені скакалі
нагамі худымі...
У чорнай імгле—
за Бярозай дазор,
У чорнай імгле
за Бярозай патруль.
Ня сыплюцца полыскі
зор бірузой...
Дазор за Бярозаю,—цемру вартуй.

...І часта
скрозь хомар асеньняй смугі.
Ідзе да Бярозы
адзін камандзір,
І пільна глядзіць ён
на бераг другі,
І ціха шуршыць
ад хады яго жвір...
Ён Люшню чакае
праз кожную ноч,
Ён Люшню на бераг
ідзе спатыкаць...
...Ня падаюць полыскі
ў цёмнае дно,
Як гойдае ціха
калыбаў рака...

...У чорнай імгле
за Бярозай дазор,
У чорнай імгле
за Бярозай патруль.
Ня сыплюцца полыскі
зор бірузой...
Дазор за Бярозаю,—
цемру вартуй.

**Разьдзел чацьверты, у якім дзея адбываецца па другі бок Бярозы, і які пачынаецца адступленьнем ад тэмы**

Калі мой горад гул сьцішае,
І больш трамвай не зазьвініць,
Мне часта мірсьціцца Варшава,
Палацаў яркія агні...

І праімчацца думак плоймы
Набракне болем згадак сон...
Саймуюць дужа часта ў сойме,
Хоць часта разганяюць сойм...

Саймуюць часта дэпутаты
А там—Лукішкі, Беласток...
Растуць глухія казэматы
У адказ на кожны вольны крок.

Растуць палацы і... астрогі
Вартуюць маршалкаў спакой...
А там, дзе „крэсы“, пад мяжой,

Прыбіты пыльныя дарогі
Сьлязьмі і чорнаю тугой...

...І пусьціць хтось свае Намеры
І пазірае на ўсход
Каб зноў устаў дваццаты год.

...Ляцяць дэпэшы з Бэльведэра
І барабаны б'юць паход...
перад войскамі маршалак
Гарцуе зноўку на кані...
. . . . . . . . . . . . . .

Варшава, панская Варшава,
Твае падлічаны ўжо дні.
Бо ўстануць, устануць Лодзь і Кракаў
Варшава, Вільня й Беласток,
Каб разламаць астрогаў краты
І перайначыць фашыстоўскі край з краіны
казэматаў
У краіну—вольнай працы...
. . . . . . . . . . . . . .

Ізноў імчацца думак плоймы,
Набракне болем згадак рой,
І ў іхным голасе нястройным
Раўнуецца поэмы строй.

Ходзіць Чарны паручнік
За Бярозай суровай,
Шчасьце Чарнаму ручаць
За чужыя галовы...

На сваю на айчыну
Хутка вернецца Чарны:
Будзе Чарны у чыне
Ня ніжэй капітана...

(Так цяпер у Варшаве
Гострыць шашку маршалак).

Ходзіць Чарны і мысьліць:
Хай крывёю шлях зьліты,—
Ад Дняпра і да Віслы
Будзе рэч Посполіта.

Хай міне толькі восень
Прашуміць вясна лесам,—
Пойдуць польскія войскі
Да Дняпра і Смаленску...

Праз лясы ды паляны
Праімчацца уланы...

Праляцяць яны лесам,
Полем лугам і жытам,—
За Дняпром і Смаленскам
Будзе рэч Пасполіта...

Шмат крыві і пажараў
Бачыў край ад тых крозаў...

. . . . . . . . . . . . . .

Дык зьбірайцеся хмары,
Па той бок за Бярозай.

Дык зьбіраліся хмары,
Дык зьбіраліся грозна,
Над шырокім абшарам
Па тэй бок за Бярозай.

. . . . . . . . . . . . . .

Ходзіць Чарны ўначы
Ачмурэлы ад мараў,—
Чуе блізка хтось крычыць
Нібы нечага шарыць...

І выходзіць з туману
Чалавечаю зданьню...
Чарны ў твар яму глянуў,
Адступіў на тры крокі:
Гэта ты?

Расстраляны??

— Згінь праклятая амарока.
Ляснуў з маўзэра Чарны:
— Адыйдзі амарока.
Стала ўсё, як звычайна
Сьціхлі ў далечы крокі...

Толькі голас з туману
Прагучэў на растаньне:
— Мы разьлічымся, пане,—
Час настане...
... Гэта быў Люшня...

**Разьдзел пяты, які фактычна зьўляецца працягам разьдзелу другога**

А было яно гэтак:
Плакаў дождж над зямлёю
Невядома аб чым,
Як ішлі яны двое
У асеньняй начы...

Пад асеньнія скрыпкі,
Ды пад ветравы грай
Янкуш юны і спрытны
Люшню вёў паміраць.

Бязудзельнае неба
Зоркі на'т не гараць
— Закурыць мусіць трэба
Ўсё лягчэй паміраць.
І набракла тугою
Цішыня ад тых слоў...
І курылі абое...
І так ціха было...

...І ўздыхнуў Янкуш хмуры
Зьняў вінтоўку з пляча
І прамовіў панура:
— Час.

І затвор суха шчоўкнуў
У цяжкую імглу...
. . . . . . . . . . . . . . . .

Кінуў Янкуш вінтоўку
На сырую зямлю...

Ціха Янкуш прамовіў—
— Ты-ж мне брат, бальшавік.
І ад гэтага слова
Закіпела ў крыві...
. . . . . . . .

І пайшлі яны двое
У васеньнюю ноч
І рыдаў над зямлёю
Лістападаўскі дождж...

**Разьдзел шосты**

Невядома адкуль
Пракацілася вестка такая
У белых войсках пайшлі
Хваляваньні, нялад, непакой...
Звадыяшаў даўно
Дэфэнзыва упарта шукае—
Ад палка да палка
Скача нечы уночы конь...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ціха падае сьнег,
Белай роўніцай сьцелецца поле...—
І канца ім няма
Паркалёвым зыбучым сьцягам.
Воўчай зграяю скачуць салдаты
Па вёсках і сёлах,
А за імі
Над шэрымі хатамі вісьне туга.

Але сьледам за імі
Сьцяжынкай засьцежанай воўчай
Скачуць коньнікі два
Пад аховай начное імглы
І адным захапленьнем
Гараць маладыя іх вочы
І хаваюцца іх сілуэты
У лясовую глыб...

Ім насустрач
Працягваюць лапы калматыя хвоі,
Ім шапоча
Суровыя былі задуманы лес...
Гэта Янкуш і Люшня
Дарогай сьнегавою,
Гэта Янкуш і Люшня
Качаюцца лёгка ў сядле.

Іх панура спаткае
Маўклівая вёска ўночы,
Уранку коньнікі скачуць
Далей скрозь мяцеліцы дым...
Але помстай пасьля
Не адны загарацца вочы
Але будуць расьці ў лясох
Партызанаў рады.

**Разьдзел сёмы**

Ня выкінеш з сэрца,
што раз пражыта,
Што зьліта крывёю,
што нэрвамі шыта.
Што з болем
у сьвядомасьць навек урасло.
Пра даўнія справы,
пакрытыя славай
Мы нашчадкам выпяем
выкіпам слоў.
І наноў паўстануць
суровыя былі
Касьцямі ўсланыя
вёрсты і мілі,
Таптаныя нівы
варожай нагой,
І грозна паўстане
крываваю зданьню
У аўрэолі пажараў
дваццаты год...

І там,
дзе шумуе высокае жыта
Сьлязьмі і крывёю
зямля тройча зьліта...
І там,
дзе колгаснае поле шуміць,—
Мы грызьлі зубамі
зямлю пад нагамі
І кожны мілімэтр
бралі грудзьмі...

Ці захад гарэў
залацей ад марэлі,
Ці зоркі над намі
дзівосна гарэлі
Ці дзікіх мяцеліц
разносіўся сьвіст,—
Мы дружна ўставалі
нястрыманаю хваляй,
Як покліч да бою
зайграе гарніст.

Наперадзе мэтай
былa перамога
І цьвёрда ступалі
разутыя ногі,
На вуснах апаленых
песьня цьвіла,
Каб вызваліць край наш
пабіты на раны,
Каб вольна ўздыхнула
радзімы зямля
І зараз відзежы
уяве убачыў:
Два коньнікі
ноччу зімоваю скачуць
І лес іх вітае
галовамі хвой,—
То Янкуш і Люшня
скрозь гул завірушны
Ляцяць да паўстанцаў
пуцінай лясной.
І зіркі іх радасьцю
ў цемры гарэлі—
Адзін і другі
уцяклі ад расстрэлу,
І вецер
і сьнег
зацярушылі сьлед...
Павоўчаму вочы
сьвяціліся ўночы
І рыпаў
абмёрзлымі соснамі лес...
І кожны з іх думаў
прыгожую думу
Пад сівер халодны, пад сьнежную дую:
Адзін пра Палесьсе
другі пра Пазнань...
І кожны ў раздум'і,
і кожны ў задуме,
І ў кожнага песьня на сэрцы адна:

„Радзіма, радзіма. Дарогі твае
„Схаваны пад наміткай белых навей...

„Тралюе трывога цябе у цішы,
„І вораг дрылюе абшарную шыр...

„І топча цябе капытом сваім конь,
„І гвалт пад табою ўчыняе закон...

„Радзіма, радзіма. Абшараў развой
„Касьцямі усланы, паліты крывёю...

„Хай злыднямі злымі ляцяць груганы,
„Ня выклююць вочы радзіме яны...

„Далёка пралажыш ты слаўны свой шлях,
„Радзіма рабочых, радзіма сялян...

„Ад Белага мора—за Рэйн,—за Парыж
„Ты водблескам волі заўсёды гарыш...

„Хай ворагі кліньмі дратуюць цябе,
„Але ня стрымаць рэволюцыі бег,

„Хай ранай крываваю ляжа мяжа,
„Але ня стрымаць яе грозны пажар...

„Устануць народы, устануць на бой
„Распаліцца новы пажар над зямлёй..."

„Радзіма, радзіма. Дарогі твае
„Вядуць да наступных вялікіх завей...

. . . . . . . . . . . . . .

А там за Бярозай, а там на Палесьсі
Сумуе нявеста і песьні пяе...
Лясамі Палесься разносяцца песьні
І радасьці ў песьнях, у тых не стае...

А там аж за Віслай, а там на Пазнані
Па мужу там жонка сумуе што-дзень

І жджэ не дажджэцца, як час той настане
Каб к любаму голаў схіліць да грудзей...

**Разьдзел восьмы, баявы**

І вось вясна. Красавіка цяплынь.
І стромай крыгі рынулі ракою,
І белых хмар у небе айсбэргі плылі
І ў паветры стала пахнуць непакоем...

І хутка ўраз віхор зашумаваў
Замест красавіковай ціхай гліцы,
Заўжды вось так—тускнее неба сінява,
Калі зьнянацку падыходзіць навальніца.

Так раптам загрымеў гарматаў рык
І разарваў цішы мусьлін празрысты:
— У паход... Таварышы...
Да бою, ваяры...
У бой, таварышы...
Наперад, комуністы...

І з-за Бярозы
рынулі палкі
Пяхотай,
артылерыяй
і коньніцай...
У паход, таварышы...
У паход, бальшавікі...
Упартасьць ворага
штыкамі зломіцца...

І белыя палкі
распушаны ўдрызг,
І ворагу прышлося
падмазаць пяткі.
І шпокамі гранаты,
ды ад гармат уздрыг—
Такія заварылі
на сьвеце непарадкі.

А батарэі шпарылі
оркестрам трохдзюймовак,
За ротай рота,
пёрлася пяхота ў атаку,
З тачанак кулямёты
вясёлаю размоваю
Бясконца барахолілі
і жарылі па пятах...

Ды так яно-ж наскочылі,
ды жарнулі з нахрапу,
Такога перцу ўсыпалі,
такога далі пэнту,
Ды наўздагонку здорава
сьвінцовы дождж капаў
Аж пёрлі ў падштаніках
куды мага з'апэнту.

А лесам-пералескамі
падаквалі з вінтовак

Малойчыкі лясныя —
партызанскія атрады.
Да батарэі шпарылі
оркестрам трохдзюймовак,
Ды гаўбіцы бухалі
густым шрапнэльным градам...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мусіць болей ня марыць
Чарны быць пад Смаленскам.
Бегам-подбегам шпарыць
Ад Бабруйску да Менску...

Ĭ разьбітыя крэзы
Цяжкай хмараю віснуць:
— „Учора мы на Бярозе,—
„Заўтра вораг на Вісьле...“

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мы песьні наварачвалі
ў іх радасьць перамог.
Ĭ ўчынкаў найвялікшых,
ня выслаўленых славай.
Дарогамі разьбітымі
ступалі нашы ногі,
Папаленымі вёскамі
ішлі мы пад Варшаву.

**Разьдзел дзевяты, на наш погляд, крыху романтычны**

Скрозь туман тых гадоў
успаміны плывуць
Амарокай Лятучых Галандцаў.
Скрозь туман тых гадоў
нібы зноў наяву
Бачу
захад працягвае пальцы.
Ĭ крывавыя полыні
кідае ён
На яры,
на лясы,
на лагчыны
І ўсплывае прыгожы тады Орыон,
Халаджавымі зорыць вачыма...
У адамантах бліскучых
глядзіць Млечны Шлях

Скрозь туману
                    празрыстую штору,
Як унізе крывёю набракла зямля
І са сьлёз назьбіралася-б мора...

Але ноч падыходзіць нячутнай хадой,
Але ноч падкрадаецца лісам...
Нібы страшны і дзіўны які мастадонт
Чорнай глыбаю лес наваліўся...

І здаецца сыходзяцца гурмы хвой
І таемна аб нечым саймуюць,
Быццам вікінгі ўночы зьбіраюцца ў бой,
Калі мора прыбоем шумуе...

О, романтыка тых прастраляных гадоў.
О, романтыка дзеяў крывавых.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Падкрадаецца поўнач нячутнай хадой
Морам цемры з бакоў падплывае...
Паглядзеце: гарыць на грагале касьцёр,
А навокала постацяй гурма.
Паглядзеце: як лес свае рукі прасьцёр
І хавае іх словы ў шуме...

Дваццаць дзён і начэй партызанскі атрад
Гнаў па пятах варожую банду.
І хавалі ад іхніх вачэй далягляд
То лясы, то балотныя багны...

Дваццаць дзён і начэй караблём праплылі
Скрозь баёў гураганы і слоту.
Дваццаць дзён Янкуш з Люшням атрад свой вялі
Пад оркестравы гром кулямётаў.

**Разьдзел дзесяты**

Вось цяпер, калі голаў схіліў над сталом
І пішу: не атрамантам—нэрвамі,
Час экспрэсам імчыцца
                    і чорным крылом
Ноч махае
                    і стукамі мернымі
Вецер б'ецца ў ваконнае шкло,
Мне здаецца:
                    ікласты ашчэраны рот
Траглядыта з зубамі гнілымі.

Гэта вобраз Эўропы ўстае ва ўвесь рост
А Парыжу, ад Лёндану, Рыму.

І ўздымае высока струхнелы свой сьцяг
Над сусьветам бірж і шантанаў.
І ад Цемзы да Рэйну, да Віслы наўсьцяж
Ходзіць здань завірух нячуваных...
І куецца жалеза і твары гармат
На ўсход паварочваюць жорлы.
Грымне гром—і гарматы ізноў загрымяць,
Люізіт цэпка схопіць за горла.
І з брытанскіх марэй зноў на Крым
і Кронштадт
Паплывуць броненосцы ад Францый і Англій
І ашчэрыўшы жорлы дрэдноўтаў рад
Паплыве скрозь ільды на Архангельск.
А цяпер, калі голаў схіліў над сталом
І пішу: не атрамантам—нэрвамі,
Час экспрэсам імчыцца,
і чорным крылом
Ноч махае,
і стукамі мернымі
Вецер б'ецца ў ваконнае шкло.
І мне рояцца справы далёкіх гадоў,
У аўрэолі пажараў дваццаты:
...Ноч падходзіць нячутнай і мяккай хадой,
...Вочы—у цемру, і зубы—сьцяты...
І ідуць...
І ідуць...
І ідуць...
І ідуць
Па лясох ды па сьцежках вузкіх
У начную туманную вогкую муць
Выхаванцы лясоў беларускіх...

**Разьдзел адзінаццаты**

...А ў тую далёкую ноч
Люшня з Чарным усё-ж ткі спаткаўся...

**Разьдзел дванаццаты, напалову маршавы**

Не.
Не забыць,
Не пазбыць
Той успамін.

Вецер усходні,
Мацней і дзьмі.

Не.
Не забыць
Той ліхой
Непагоды,—
Былі суворай
Дваццатага году.

Вецер усходні,
Мацней і дзьмі.
К чортавай мацеры
Настлань—успамін.
Сэрца ня лопне,
Як некалі граната.

Ветразі пад вецер.
Нацягвайце канаты.

Мы
Адчынілі
Новую зямлю
Наш рэйс—соцыялізм—
Дарогу карàблю.
Хай нашыя эскадры
Плывуць у будучыню—

Мы
Старыя землі
Нанава адчынім.

Мы новых эпох
Мараплаўцы і матросы.
Мы
Заваёўнікі
Заўтрашніх эр;
Дужай напружвайце
Мускулаў тросы
Рэйс—соцыялізм.
Старт—СССР.

. . . . . . . . . . . .

Але часта скрозь холад
Навекі мінуўшых падзей
Прыгадаю ўспамін,
Адгучэўшы на струнах гадзін:
На заходняй мяжы,

У баку ад жыцьця і людзей
Іх было толькі двое—
Адзін на адзін.

І сказаў тады Янкуш.
Прыклаўшы руку да грудзей:
„Ноч тускнее
„І хутка ўжо загараецца дзень...“
— Я іду—
„*Там* чакаюць
„Змаганьне і праца другая...
„Ну бывай...
„На ўсходзе дзень новы сьвітае...“

І нічога ў адказ
Яму Люшня ня здолеў прамовіць,—
Былі-б лішняй пакутаю
Лішнія Люшнявы словы.
Толькі сьціснуў да болю
Найлепшага сябра руку
І сказаў:
„Сьцеражыся, браточак, ад куль...“

І адзін патануў
У прадсьвітальнай туманай імгле,
А другога схаваў
У абоймы хваёвы лес...

**Эпілёг першы**

Нястрыманай хадой
прамінулі гады—
Гэта поступ
Жалезнай хады,
Гэта поступ
няўхільнай хады,
Гэта май малады.
Сонца, полыскі
лявой лі
Каб сады
па зямлі цьвілі.
Разгараецца бой
на зямлі,
Бой—за со-цы-я-лізм.
У тых гадох
мы пранесьлі пакуты і сьмерць

У тых гадох
мы прайшлі скрозь сьвінцовы
сьмерч
У тых гадох
мы ўзьнялі скрозь крывавы
сьмерч,
Рэволюцыі меч.
Расьсявайцеся
Хомары хмар.
Міліённыя роты,
марш.
Будзе праўдаю
мора мар.
Дык вядзі-ж,
Командарм.

І цяпер
з-за далёкіх марэй і гор
Ад аўстралій,
ад азій,
да афрык,
эўроп
Распаляе
распаліць
ўсіх расаў народ
Рэволюцыі горн.
Годзе голавы
нізіць уніз.
У паход
заіграў гарніст.
Гэй, рабы
гневу, зьвязвайце зьніз.
Каб зрабіць
ко-му-нізм.
Вышай голаў
пад песенны звон.
Мы аратыя
новых, другіх баразён.
Мы—ударнікі
новых вялікіх дзён.
Мы—эпохі разгон.
Цьвёрда крокі
і рук мах.
Праз руінных
муроў прах.

Вырастае
за змахам змах,
Пяцігодак размах.

. . . . . . . . . . . .

Сонца палыскі
лявою лі.
Каб сады
на зямлі цьвілі.
Разгараецца
бой на зямлі,
Бой за
со-цы-я-лізм.

**Эпілёг другі**

### Ліст з Беластоку

Люшня! Калі-б зразумець ты мог
Боль стамлённай душы і цела...
Праглынуў усе сілы мае астрог...
Шмат бязрадасных дзён праляцела...

Люшня! Ніколі за мой парог
Ня ступаюць сонца праменьні...
Успомні Люшня, колькі дарог
Мы праехалі... Колькі імгненьняў
Прамінула—прыгожай відзежай
У баявых тых гадох...
І жаданьняў высокую вежу
Хто тады разбурыць мог?

Успомні: холад і сівер, і сьцюжа...
Нашы коні імчацца стралой...
І лясы ў сьнежна-белых ружах...
І дарогі ўсе замяло...

Успомні, Люшня: пад хрыплы сьмех
І пяяньне варожых куляў,
Колькі раз халодная сьмерць
Нас тады абнімала?

Люшня, Люшня! Таварыш мой!
Друг найлепшы вялікіх паходаў.—
Пахаваны панурай турмой
Мае лепшыя годы...

Ї тады толькі дух мой жыве,
Калі ўранку... на ўсходзе... зара там...
Ї на міг бляск адзін уплывае
У маю цёмную камеру раптам...

Ї тады прыгажэйшай віdзежай
Прада мною надзеі ўстаюць,
Ї жаданьняў прыгожую вежу
Бачу зноў праз асьлізлую муць...

А калі патухае дзень
У апошнім праменным мігценьні,
Мне здаецца—ізноў Бэльведэр
Шле крывавыя сьцені...

Але чую: крывавая помства
Б'ецца ў сьцены астрогу майго:
Праляціць над фашыцкаю Польшчай
Рэволюцыі грозны агонь...

Толькі зараз мне цяжка і душна,
Толькі душыць няшчадна астрог...

Усё-ж я веру,
мы стрэнемся, Люшня,
На ростані
новых,
вялікіх,
сьветлых,
дарог.

Беласток 1930 г.

Янкуш.

Май 1930 г.
Менск.

# ШЛЯХ ПРОЛЕТАРСКАЙ ПЕРАМОГІ

**Аркадзь Лясны**

Хуткі цягнік імчыцца на ўсход, насустрач маёваму яснаму раньню. Сярод камароўскага лесу мільгаюць у вакне менскія будынкі сельскагаспадарчае выстаўкі.

Зялёная жыта і сьветлая рунь чарадуюцца з лясамі і яшчэ не засеянай шэрай зямлёй.

Шырокае колгаснае поле чарадуецца з вузкімі палоскамі адзіночак, параненымі дзедаўскімі межамі.

Балота перарэзана канаўкамі і пырскае чорнымі кавалкамі торпу.

Хутка маляўнічы краявід Меншчыны мяняецца на аднастайны Барысаўскі сасоньнік і пяшчаную зямлю. Праз гадзіну з невялікім гакам я ўжо на месцы свайго падарожжа ў Барысаве.

## Тры эпохі

Рамізьнік павольна вязе мяне са станцыі ў горад. Да „цэнтру" пяць кілёмэтраў. Мы едзем шырокім і доўгім Проспэктам Рэволюцыі. Ён ідзе амаль што да самага гораду праз увесь Новы Барысаў. Спачатку ля станцыі тыповая вуліца павятовага гораду. Далей каменныя гарадзкія будынкі чаргуюцца з маленькімі дамамі, схаванымі ў зяляніне бэзу, жоўтых акацый і дрэў. Паміж імі агароджаныя оазісы высокага сасоньніку, пясчаныя пустэчы.

Але што гэта? Раптам нібы ў нейкай казцы, прад вачыма вырасла вялічэзная белая галава трохпавярховага будынку, яшчэ спавітага рыштаваньнямі. Пытаюся, што тут будзе, і чую ў адказ:—Гэта дом для рабочых.

Рамізьнік аказаўся добрым гідам і патрыётам. Пасьля майго першага запытаньня ён бязупынна дырыжыраваў у паветры пугай і расказваў пра новыя будынкі.

— Вось гэта таксама дамы для рабочых. Тут цэлы пасёлак. Гэтыя двухпавярховыя будынкі—жылкоопэрацыя. Рабочыя кватэры. Там белы вялікі дом—новая школа. А за ім новы клюб хімікаў. Тут будуецца цэлы новы горад.

Нас абганялі перапоўненыя пасажырамі аўтобусы. Гарбатыя жоўтаю гарою скрынак грузавікі і ламавікі. Паветра рэзалі гудкі заводаў.

Я забыўся, што тут усяго крыху больш гадзіны ад Менску і адчуваў сябе так, як адчуваеш дзе-небудзь у ваколіцах вялікага прамысловага гораду.

І гэтак скрозь да „Прыстані“—маляўнічай зялёнай вуліцы паўз берег Бярозы.

Пераяжджаем мост—і мы ў старадаўнім „слаўным горадзе“ Барысаве заснаваным, як кажа гісторыя, полацкім князем Барысам Усяславічам у 1102 годзе.

Гэты „слаўны горад“ цяпер уяўляе сабою горад раённага маштабу, сапраўды, вуліцы яго за выключэньнем аднэй-двух цэнтральных, больш нагадваюць мястэчка.

У мінулым „уездный город Борисов“ ён нельга сказаць, каб вельмі ветліва сустракаў прыежджага падарожніка. Толькі пераедзеш Бярозу, як цябе „вітае вастрог“. Здаецца адзіны ва ўсім „горадзе“ трохпавярховы будынак, ён да таго-ж стаіць да вуліцы не тварам, а як кажуць украінцы „зовсім навпаки“, ашчаперыўшыся на падарожніка сярдзітымі закратаванымі вокнамі, якія змрочнымі плямамі ўтыкалі белае цела муроў.

Цяпер ужо і зусім бліжка да цэнтру. Цэнтр гэта рынак—вялікі і брудны пляц. На ім у зялёным квадраце старых дрэў—царква. Вакол аднастайнага цёмна-цаглянага колеру будынкі ў адзін і часам два паверхі. Пошта, РВК, Гарсавет, Ашчадкаса, крамы ЦРК, сталоўка ды іншыя новыя раённыя ўстановы.

Прайдзеце адзін два кварталы ад цэнтру і тамака ўжо каменныя будынкі—рэдкія госьці. Там старыя і новыя мяшчанскія дамы сярэдніх памераў пераходзяць у шэрую пыльную вуліцу, далей зусім маленечкія сялянскія хаткі з азяродамі і бруднымі панадворкамі.

І ня дзівіцеся калі на вуліцы ў цэнтры горада вы папаткаеце мілую гогалеўскую ідылію, калі гаспадыня, адчыніўшы фортку і высунуўшыся напалову на вуліцу, пяшчотным голасам кліча на полудзень шчасьлівую сямейку пярэстых дзюдзячак.

Ня дзівіцеся калі вы ўбачыце, як перад самым носам аўтобуса філёзофскі павольнай хадой перастулае вуліцу рабая сьвіньня, ня дзівіцеся, калі вы ўбачыце соннага міліцыянэра, які няма ведама нашто носячы на плячох стрэльбу, пройдзецца ўраньні па вуліцы, пасядзіць, пагаманіць з людзямі, палашчыць стрэчнага сабаку і пойдзе далей да таго маруднай хадою, што здаецца нібы ён кульгае. Ня дзівіцеся, калі вы сустрэнеце на вуліцы сялянскага хлапца ў лапцёх і страшэнна падраных і пералатаных галіфэ і ён з блакітлым сумам у вачох запытаецца ў вас:

„Дзе біржа працы?“

Але прадпрыемны местачковы дзялец перайме яго па дарозе і ўгаворыць за якога-небудзь рубляісьці да яго цэлы дзень рэзаць дровы.

Ня дзівіцеся, калі не знайшоўшы ў гасьцініцы нумара і начуючы ў доме Селяніна, за адну ноч некаторыя жывыя істоты растатуіруюць вас ня горш за тых аўстралійскіх сьпецаў, а ў 1-й гадзіне ночы два-

наццаты начлежнік, займаючы апошнюю койку разбудзіць вас наступнай гаворкай:

— Усё-ж такі выбачайце, грамадзянка, але тут у вас прасьцірадла ня чыстае.

— І чаго вы ад мяне хочаце, я яго толькі пазаўчора заслала, а дзе мы за дваццаць пяць капеек набяромся чыстых?

І калі ён захоча спрачацца далей „грамадзянка“ аўторытэтна яго супакоіць.

— Дзядзька! я сплю яшчэ на гразьнейшым,—пасьля чаго, ён уздыхаючы і нешта мармычачы, пачне распранацца.

Ня дзівіцеся, калі вы яшчэ ўбачыце і цэлы шэраг падобных зьяў.

Дух і побыт павятовага провінцыяльнага гораду яшчэ толькі разьбіт і пераможан. Ён яшчэ ня зьнішчан зусім, але-ж за адно дзесяцігодзьдзе гэтага і нельга зрабіць. І тут няма чаго баяцца. Ён не ажыве ніколі, бо з ім вядзецца жорсткая барацьба, у якой узяты курс на канчатковае яго выкарчоўваньне.

І ці ведаеш ты, дарагі чытач, якія ўжо слаўныя перамогі мы маем на сёньняшні дзень на фронце гэтае барацьбы? Ці ведаеш ты, што за дзесяць год ад вызваленьня Беларусі лік школ у Барысаве павялічыўся больш як у два разы (ня кажучы ўжо пра іх новы характар, лік і соцыяльны склад вучняў). У ліку гэтых школ ёсьць пэдагогічны тэхнікум, профшк лы, 4 рабочых курсаў дзеля падрыхтоў і ў ВНУ і тэхнікумы. Рабфак, увосень будзе адчынены індустрыяльны тэхнікум. Ці ведаеш ты, што ў даўнейшым вастрозе цяпер Рэформаторыум НКУС, у якім недарослыя злачынцы атрымоўваюць працоўнае перахаваньне і вучацца рамёслам. Ён організаваны нядаўна, праца ў ім яшчэ ня зусім добра наладжана, але ня гледзячы на гэта, за першы год свае працы, ён здолеў зьвярнуць Савецкай краіне дзесяць бяспрытульных і перадаць іх на заводы Барысаву і Менску. Далей, у гэтым самым раённым горадзе ёсьць гурток краязнаўцаў, які налічвае 77 сяброў, і апублікаваў ужо каля 10 досьледаў аб горадзе і раёне. Апрача таго, ён зараз рыхтуе да друку 1 выпуск зборніку „Барысаўшчына“ і організоўвае краязнаўчы музэй. Нарэшце ёсьць сьветлая, прасторная і чыстая сталоўка, ня горш за Менскія, у якой смачныя абеды і нават вешалка, дзе за захаваньне вопраткі адказвае адміністрацыя, і цэлы шэраг іншых дасягненьняў, якія тут нельга пералічыць і апісаць.

Каб зразумець вялікія памеры гэтых дасягненьняў трэба ўспамянуць у якім выглядзе дастаўся горад Савецкай Беларусі дзесяць год таму назад.

Усё было ў ім зруйнавана, спалена, разбурана. Вось дзьве гістарычная цытаты з летапісі ўспамінаў пра тыя дні.

*„За 27 і 28 мая белапалякамі было спалена і зруйнавана каля $^2/_3$ дамоў г. Барысава“.*

*„Жахі сьмерці, пагібель бацькоў, братоў, сёстраў і матак і нячуваныя пакуты, голад, нэндзу, галечу і руіны—вось што пакінула пасьля сябе барысаўцам 9-месячная белапольская окупацыя“.*

(Газэта „Зьвязда“ за 27-У-30 г. № 122 „10 год назад, Разгром г. Барысава белапалякамі“).

І зусім праў быў той мясцовы краязнаўца настаўнік пэдтэхнікуму які казаў мне:

— Дасягненьняў, ведаеце, за гэтыя дзесяць год ёсьць шмат. Тут дасягненьні на кожным кроку. Аб іх тут можна напісаць цэлую кнігу.

Я ў гэтым нарысе магу расказаць толькі пра самае галоўнае. Яшчэ я не сказаў нічога пра адно з самых важных дасягненьняў соцыялістычнага будаўніцтва ў Барысаве—гэта пра організаваны ў гэтым годзе прыгародны колгас „Маяк соцыялізму“. Аб ім я скажу пасьля, а пакуль, пойдзем у Стары Барысаў і паглядзімо, што цяпер дзеецца.

## Там, дзе панавалі князі

— Вось вы ідзіце проста гэтай вуліцаю, а там за горадам пяройдзеце праз нашу „Сахару“, паўз яўрэйскія могілкі і тады проста сьцежкаю на цянькі праз сасоньнік—казаў мне старшыня раённага гуртка краязнаўцаў, т. Нікіфаровіч, расказваючы дарогу ў Стары Барысаў.

Горад адразу зьмяніўся на звычайнае мястэчка, а апошняе ў сваю чаргу хутка перайшло ў сяло. Толькі коміны невялічкіх старых заводзікаў, агорнутыя чорнымі пасамі дыму, парушалі гэтую патрыярхальную ідылію.

Праз колькі хвілін пасьля гарадзкое сьпякоты гарачага дню на мяне павеяла вільготным і сьвежым ветрам з Бярозы. І разам з ім з глыбокай канавы, берагам якой, я ўздымаўся на пяшчанае ўзгор'е, пайшоў няпрыемны пах смуроду і пылу. У гэтую канаву, мабыць, звозяць мусар з усяго гораду.

У полі над зялёным жытам і сьветлаю руньню ярыны бясклопатна і весела шчабяталі жаўранкі. Мае ногі задорліва змагаліся з страшэннымі чырвона-жоўтымі пяскамі барысаўскай „Сахары“, у якіх з кожным крокам безнадзейна танулі камашы.

Горад з мернымі рытмамі заводаў і стукам сякер на будоўлях застаўся ззаду. Толькі коміны дальніх заводаў Новага-Барысава ўздымаліся сярод лесу па ўсім небасхіле, адзначаючы межы зямлі, заваёванай і перайначанай чалавекам.

А калі ён зусім зьнік з вачэй за „Сахарай“, мне ў цішыні маладога сасоньніку здалося, нібы я пераступіў парог некалькіх мінулых стагодзьдзяў.

Паўз бераг Бярозы прыліп да зямлі шэраг маленькіх сялянскіх хатак. Па дарозе лёгкай трусцою пляцецца конік. На возе сявец з бараною і мехам. На рацэ тут і там паселі рыбаловы з вудамі. Яны прымасьці-

лiся, i на платох, i ў чаўнох, i проста на беразе. Нiбы iхнiя далёкiя продкi на зары разьвiцьця чалавечай культуры, яны сядзяць тут за сваёй маруднай працай, цэлымi гадзiнамi чакаючы здабычы.

За хаткамi рум. Тут цэлыя горы белых, яшчэ сьвежых i смольных сасновых бярвеньняў. На грэблi каля руму iзноў глыбокi сыпучы шэры пясок. Дарога цяжкая i конi вельмi часта супыняюцца. Iх падганяюць сяляне асiплымi ад крыку галасамi, але конь праз некалькi крокаў прыстае iзноў i нарэшце прыходзiцца аблягчыць яму воз, скiнуўшы якую пару бярвеньняў. I яны цягам валяюцца на грэблi, як помнiкi нашай тэхнiчнай адсталасьцi. Але пасьля новых фабрык i пабудоў гораду ўвесь гэты малюнак успрыймаецца толькi, як здань аджыўшай старасьвеччыны, якая яшчэ па iнэрцыi назаляе вачам. За грэбляй па шашы, як весьнiк новай эпохi, гулка бяжыць аўтобус, абганяючы сялянскiя вазы.

Перайшоўшы шашу, сьцежка iзноў iдзе ўгору. На вяршынi ўзгорку расьлiннасьць мяняецца. Замест сасоньнiку—рознастайны лiставы лес. На дарозе прысады. На полi вiдаць, як блiшчаць на сонцы адчыненыя шыбы парнiкоў. Гэта i ёсьць Стары Барысаў. Надзвычайна маляўнiчая мясьцiна з прыгожым старым паркам. Па ўзгорках усюды раскiданы невялiчкiя каменныя будынкi ружовага i белага колеру. Калiсь тут быў маёнтак князя Радзiвiла. Ад яго застаўся цяпер толькi адзiн драўляны „напаляонаўскi“ дом, у якiм у часе адступленьня французаў спыняўся на 2 днi Напалеон. Пасьля паўстаньня 63 г. маёнтак дастаўся вялiкаму князю Мiкалаю Мiкалаевiчу, якi адразу праявiў свой гаспадарчы талент у тым, што спалiў усе будынкi, за выключэньнем аднаго „напалеонаўскага“ дому, пакiнутага, як гiстарычную рэлiквiю, i пасадзiўшы ўпраўляюшчага, прыяжджаў сюды раз у некалькi год на паляваньне.

Пасьля вызваленьня Беларусi ад белапалякаў, яшчэ ў студзенi 1921 г. ў Старым Барысаве была заснавана сельска-гаспадарчая школа. Праз год яна была рэорганiзавана ў сельска-гаспадарчы тэхнiкум—i ў адноўленых пасьля вайны будынках, што засталiся сьведкамi сярэднявяковай фэўдальнай эпохi, пачалося новае жыцьцё.

З таго часу тэхнiкум даў не адну сотню савецкiх аграномаў. Зусiм пановаму пайшла гаспадарка. На палёх загулi трактары. Замест ранейшай дапатопнай экстэнсыўнай сыстэмы паляводзтва пайшлi новыя мэотды гаспадараньня. Пайшло наступленьне на балота. У 1925 годзе з 42 гектараў непраходнага балота былi зроблены сенажацi. Была арганiзавана малочная фэрма, у якой налiчваецца зараз 320 галоў жывёлы. На адным з узгоркаў у лесе бялеюць новыя драўляныя будынкi. Там органiзоўваецца сьвiнагадоўчая фэрма. Тэхнiкум мае жывёлагадоўчы ўхiл. У iм два аддзяленьнi: 1) буйнай рагатай жывёлагадоўлi i 2) сьвiнагадоўлi i бэконiзацыi.

Зараз тэхнiкум рэорганiзуецца i пашыраецца. З наступнага навучальнага году ў iм будзе больш за 500 студэнтаў. Зараз працуюць курсы для падрыхтоўкi ў тэхнiкум батракоў i колгасьнiкаў. 500 спэцыялiстых—

аграномаў будуць рыхтавацца там, дзе раней жыў адзін сіяцельны упраўляюшчы князь Мяшчэрынаў з кучкай іншых чалядвікаў, куды раней раз у некалькі год наяжджалі пазабавіцца паляваньнем „аўгусьцейшыя“ царскія дзядзькі.

І ня верыцца, што ад тэй сярэднявяковай фэўдальнай эпохі нас аддзяляе ўсяго трынаццаць год. Так далёка мы адыйшлі ад яе зараз.

І цяпер, ходзячы па зямлі гэтага старога княжаскага маёнтку, аглядаючы тыя вялікія зьмены, што зроблены ў ім творчай рукою працоўных, я ніяк ня мог уявіць сябе тых бязглуздых і дзікіх інтарэсаў, якімі жылі гэтыя аджыўшыя людзі. Сапраўды ў пpacторным каменным будынку зоотэхнічнай лябораторыі, дзе паказваючы мне шэраг колекцый, дырэктар не бяз гордасьці дадаў:

— Вось гэта ўсё зроблена нашымі студэнтамі, —я ня мог уявіць сабе... панскай стайні...

— А вось у гэтым будынку, дзе цяпер таксама лябораторыі і інтэрнат, жылі... два мядзьведзі...“

Гэта таксама гучэла зьмярцьвелым рэчам мінулых стагодзьдзяў і я ніяк ня мог уявіць сабе ў старым парку, ажыўшым увечары вясёлымі галасамі студэнтаў і мэлёдыямі гармоніка і балалаек п‘яны панскі разгул і дзікія крыкі чаляднікаў, прыехаўшых з паляваньня.

Затое надоўга застанецца ў памяці поўныя жыцьцярадаснасьці і энэргіі творы новых насельнікаў Старога Барысава, на долю якіх выпала вялікая праца і вялікая задача—соцыялістычнай рэконструкцыі нашай сельскай гаспадаркі. І доўга не забыць, якою гордасьцю бліскалі вочы т. Дворкіна, студэнта, прымацаванага да падшэфнага Стахаўскага колгасу, калі ён расказваў мне як студэнты сваёй дружнай працай, консультацыяй, трактарамі, васкрэсьнікамі дапамагалі колгасу замацавацца.

— Вось і зараз яны працуюць там на пасяўной кампаніі і ўжо заўтра канчаюць сяўбу.

Я вышаў з Старога Барысава позна ўвечары, калі сонца патанула дзесьці далёка за зялёнымі паплавамі Бярозы. Старыя хвоі ў бары стаялі ў глыбокай задуме і толькі моўчкі туліліся адна да аднэй сваімі верхавінамі. Цяжка згадаць, аб чым яны гэтак задумаліся. Ці яны дзівяцца дасягненьням новага жыцьця, ці журацца ў трывозе за свой далейшы лёс. Самотныя зоркі выглядаюць з-за іх верхавін, і плачуць срабрыстымі сьлёзамі. Яны плачуць з зайздрасьці, таму што поэты цяпер пакінулі іх апяваць. Ім шкода даўнейшых вячэрніх ідылій. Ім шкода таго, што цяпер

Дзе ў люстра вод глядзеліся вярніцы
І ў змрок над рэчкай плакаў салавей,
Там будуць фабрыкі сталёвым рытмам
Расстрэліваць ідылію палей.

(Т. Кляшторны).

Прад маімі стомленымі нагамі ізноў пяскі Барысаўскай „Сахары“. Унізе ў лагчыне, у цьмяным засьціле вячэрняга туману, прарэзаным рэдкімі агнямі, дрэмле ціхі мяшчанскі Барысаў. А па-за ім, ля самага небасхілу яскрава блішчыць цэлы пас электрычных зорак зямлі. Яны трымцяць, жывуць, пераліваюцца, гамоняць і войстрым клінам уразаюцца ў змрочнае сутоньне надыходзячага вечару.

Я мінаю яўрэйскія могілкі.

Тры эпохі праходзяць у мяне прад вачыма.

Там, за сасоньнікам Стары Барысаў, спавіты легендамі фэўдалізму і амаладжаны творчым геніем пролетарыяту.

Тут пад нагамі горад Барысаў, які зусім нядаўна вылез з балота павятовай провінцыі „российской империи“ і яшчэ канчаткова ня змыў яго сьлядоў.

І там на небасхіле, дзе электрычныя зоры, Новы Барысаў. Там ужо зусім новая эпоха. Эпоха „Пролетарскай перамогі“ і соцыялістычнага будаўніцтва.

— „Будучыня Барысава там“—зусім справядліва сказаў мне т. Нікіфаровіч.

Але—

і ў старым горадзе скрозь цьмяны туман індывідуальных саматужніцкіх гаспадарак і старога провінцыяльнага быту прарэзваецца прамень, які кліча ў будучыню і які носіць прыгожую гучную назву

## „Маяк соцыялізму“

Раньне.

Я ляжу на ложку ў гасьцініцы і перачытваю ў „Нашым Краі“ артыкулы мясцовых краязнаўцаў пра горад, барысаўскія заводы і раён.

Да рэчы сказаць, гасьцініца пабудавана нейкім вельмі дзіўным чынам. Вакно майго пакою ўпіраецца ў процілеглую сьцяну, адлегласьць да якой ня больш 2—3 мэтраў. У выніку—у пакоі ніколі ня бывае сьвятла і чыстага паветра.

Але я з захапленьнем чытаю „Наш Край“.

Пасьля яго застаецца яшчэ адна старая кніжка. „Город Борисов. Наружное описание с 24 видами... і г. д. Вильно 1910 г.“.

У кніжцы прыведзены вельмі доўгія цытаты з дзеньніку сучасьніка францускай вайны Івана Іванавіча Сухецкага, які насіў у свой час громкі тытул „доктора философии и профессора русского языка Борисовского уездного училища“. Запіскі напісаны да таго „высокім штылем“, што чытаючы іх нельга ўстрымацца ад рогату. Але на вялікае дзіва, канчаючы кніжку даводзіцца пераканацца ў тым, што стыль 1910 году вельмі не далёка адышоў ад стылю 1812 г.

Кніжка канчаецца „цудоўнай“ цытатай, але да таго характэрнай, што яе варта прывесьці.

„Благодаря тому, што Борисов окружен со всех сторон лесами, воздух его чист и прозрачен. Песчаная подпочва делает его кроме того сухим и препятствует распространению миазмов. Если тем не менее бывают болезни, то они обязаны своим происхождением, главным образом, употреблению в сыром виде речной воды и *невозможным гигиеническим условиям, в которых живет некоторая часть населения.* (Падкрэсьлена мною *А. Л.*) В общем климат Борисова можно считать здоровым, местоположение красивым, а потому естественно ожидать, что Борисов может развиваться как дачный уголок для г. Минска“.

Я прывёў гэтую цытату, галоўным чынам, таму што зараз буду расказваць аб тых пэрспэктывах, якія адчыняюцца пры соцыялістычным будаўніцтве для тэй „часткі насельніцтва“ (якраз непараўнана большай часткі), якая да рэволюцыі была прымушана жыць „в невозможных условиях“ і ня толькі гігіенічных, але ў экономічных і соцыяльных.

Нядзеля. Рынак хваляюецца стракатым натоўпам. Людзкі гоман мяшаецца з прарэзьлівымі зыкамі розных жывёл. Тут шамаціць шапялявымі губамі аджыўшая свой век, адзіная ў старыя часы форма змычкі гораду з вёскай.

Праз лябірынт аглабель, конскіх хвастоў і пагаспадарску намазаных дзёгцям калёс я прабіраюся ў белы будынак Райколгассаюзу, дык мяне вабіць невялічкі пакой з шыльдай.

БАРЫСАЎСКАЯ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЯ АРЦЕЛЬ
„МАЯК СОЦЫЯЛІЗМУ“

У пакоі бясконца наведвальнікаў. Тут жыцьцё, як кажуць поэты, і бурліць і дынаміць. Людзі прыходзяць сюды за самымі рознастайнымі справамі.

Малады колгасьнік з батракоў у глыбокай задуме нахіліўся над сталом старшыні. Яго данімае кватэрны крызіс. Няма як перабраць сюды сям'ю і ў яго зьявіўся распачлівы настрой уцякаць з колгасу.

І побач з ім стары селянін, маршчыністы твар якога нібы апраўлен у рамку срабрыстай падстрыжанай барады. Ён нейкім баязьліва-ціхім голасам заяўляе старшыні аб сваім жаданьні ўступіць у колгас.

У аднэй колгасьніцы выйшла нейкае непаразуменьне пры раздачы малака і яна прыйшла скардзіцца на загадчыка малочнага пункту. Яе губы нэрвова дрыжаць і яна закрывае іх хусткай. У прарэзьлівым устурбованым голасе ўжо зараней чутны блізкія сьлёзы.

І трэба бачыць з якою ўважлівасьцю і цярплівасьцю кіраўнікі колгасу колектыўна дабіраюцца да кожнай драбніцы і тут-жа абмяркоўваюць, як пазбавіцца гэтых прыкрых драбніц.

А людзі ўсё ідуць і ідуць.

Ідуць за запытаньнямі, ідуць па справах, а некаторыя, нарэшце, проста заходзяць закурыць.

І, адрываючыся на некалькі хвілін, старшыня і колгасьнікі знаёмяць мяне з кароткай яшчэ гісторыяй колгасу, мовай лічбаў і фактаў абрысоўваюць свае першыя крокі і вялікія пляны. І колькі нязломнай энэргіі, колькі сілы колектыўнай волі трымціць у гэтых, здаецца, звычайных і простых лічбах пратаколу, у гэтым шматку газэтнай паперы з дагаворам аб соцыялістычным спаборніцтве, у гэтых нямногіх словах.

Колгас організаваўся 10 лютага гэтага году. Ён аб'яднае 162 сяброў. У пераважнай большасьці гэта гарадзкая бедната і вясковыя батракі. Ёсьць 16 рабочых і служачых, 24 сераднякі з якіх толькі адзін лічыцца заможным.

— Наогул наш колгас бядняцкі—кажа мне старшыня—і на першых парах працаваць яшчэ цяжка.

Няма дзе разьмясьціць батракоў, адчуваецца недахоп рабочай і цягавай сілы.

Пакуль што быў усяго адзін трактар. Цяпер атрымалі другі. Ен будзе працаваць на мэліарацыйных работах, дзе колгасьнікі вядуць наступ на балота.

У далейшым прыбудзе яшчэ 4 па закупленных трактарных абавязацельствах. Каб набыць іх колгасьнікі ахвяроўвалі хто што мог—аблігацыі дзяржпазык, кароў і іншую маемасьць. Куплен таксама грузавік, які зараз знаходзіцца ў дарозе.

У гэтым годзе будзе засаджана 50 гектараў саду. Зараз колгас мае толькі 2 гект.

Будзе мэліаравана 30 гект. балота. Будзе пабудаваны скотны двор на 600 галоў, стайня на 100 коняй і сьвінарнік на 200 галоў.

Нядаўна мы заключылі з Глівенскім колгасам „Шлях Леніна“ дагавор аб соцыялістычным спаборніцтве.

І асноўны пункт дагавору—скончыць сяўбу да 1 чэрвеня мы ўжо выканалі.

Каб выканаць яго, заместа 7 гадзін працу канчалі ў 9. Стара-Барысаўскі тэхнікум дапамагаў нам трактарам. Мы таксама дапамагалі Глівенскаму колгасу цягавай сілай. 11 мая зрабілі васкрэсьнік. 36 плугоў выйшлі ў поле і ўзьнялі 25 гект. яру.

Так дружнаю воляй перамагаючы цяжкасьці закладаецца моцны падмурак буйнай соцыялістычнай гаспадаркі.

І беспарадкавы гоман і гам стракатага бруднага рынку гучэў рэзкім і дзікім дысонансам. Так гучэў-бы оркэстр перашабытных драўляных барабанаў на сымфонічным концэрту.

Але дарма. Я сеў на аўтобус ехаць у Новы-Барысаў. І гэты рынкавы гул слабеў, адлятаў у далячынь і зьнікаў у унісон маім думкам. А яны былі ахоплены радасьцю таго, што ланцугі прымітыўнай і анархічнай індывідуальнай гаспадаркі, якія цягам вякоў і аж дагэтуль яшчэ скоў-

ваюць жыцьцё селяніна, рвуцца і дажываюць апошнія дні, што там на старасьвецкай плошчы барысаўскага рынку, у белым будынку Райколгассаюзу

*новыя людзі*

*новымі тэмпамі*

*будуюць „Маяк соцыялізму“.*

— У нас яшчэ толькі пачатак. Яшчэ толькі першыя крокі. Прыязджайце да нас праз паўгода і мы пакажам тады свае першыя дасягненьні,—казалі мне на разьвітаньне колгасьнікі.

А я з захапленьнем жадаў ім посьпеху ў працы.

## Новы Барысаў

Новы Барысаў у параўнаньні з Старым яшчэ зусім малады горад. Ён зьявіўся на сьвет у васьмідзесятых гадох мінулага стагодзьдзя, пасьля таго, як праклалі чыгунку.

Тады, дзякуючы выгаднасьці шляхоў зносін—скрыжаваньне чыгункі і Бярозы—тут пачалі зьяўляцца заводы і фабрыкі—панурныя цягляныя муры крывава-чырвонага колеру з задымленнымі комінамі і маленькімі змрочнымі вастрожнымі вокнамі. Да рэволюцыі ён лічыўся прыгарадам і, напэўна, меў мізэрны выгляд неданоска рахітычнага беларускага капіталізму.

Тут засталіся яшчэ цэлыя вуліцы маленькіх мяшчанскіх домікаў з прытульным ценем бэзу і жоўтых акацый, але цяпер яны глядзяць зьбянтэжана і сарамліва, бо дзе ім раўняцца з каменнымі волатамі, або стройнымі шэрагамі драўляных, але вялікіх, у большасьці двохпавярховых дамоў новых вуліц рабочага пасёлку, што вырасьлі тут за дзесяць год соцыялістычнага будаўніцтва.

Тут расьце новы індустрыяльны горад і ён увесь хвалюецца ліхаманкавым трымценьнем будаўніцтва.

Будуецца новая прамысловая электрастанцыя, будуюцца новыя заводы, школы, клюбы, новыя вялікія сталічнага тыпу дамы для рабочых. І ня верыцца, што ўсяго дзесяць год таму назад тут было ўсё разбурана, зруйнована, спалена.

— Будучыня Барысава там—глыбока ўрэзаліся мне ў памяць гэтыя словы настаўніка—краязнаўцы. Але вялікі іх сэнс можна адчуць толькі тады, калі ўбачыш сваімі вачыма, як нараджаецца гэтая Будучыня, калі станеш твар да твару з яе жывым подыхам, калі пройдзеш ува ўсе патаемныя куткі яе волатоўнага электрычнага сэрца і падслухаеш як моцна б‘ецца яно, даючы рух, і жыцьцё вялікаму целу савецкай індустрыі.

Некалькі дзён я з раньня да вечара слухаў магутныя рытмы гэтай чароўнай, казачнай Будучыні. Я ўспрыймаў іх, як найцікавейшую лекцыю вялікага і выдатнага вучонага. Але прызнаюся, што ніводная лекцыя ніколі не рабіла на мяне такога вялікага ўражаньня, як гэтая некалькі дзён, за якія я толькі ў агульных рысах, толькі коратка мог азнаёміцца з тым размахам будаўніцтва, які прынесла Барысаву.

## „Пролетарская перамога“

Такую-ж назву носіць новая фабрыка запалак. Яна, як прыгожая задорная маладзіца, адважна і горда ўздымае высокія муры і коміны сваёй электрастанцыі побач са старой, згорбленай і зморшчанай „Бярэзінай“. Будаўніцтва яе пачалося ў сэзон 27 году. Пушчана ў ход 1 сьнежаня мінулага году. Разам з электрастанцыяй пабудова яе каштавала савецкай дзяржаве каля 4 мільёнаў. Цяпер гэта гордасьць і хараство ўсяго Барысава. Мала таго, тут сэрца яго будучыні, яго аднаўленага індустрыяльнага цела.

Конструкцыя гэтага валатоўнага організму яшчэ ня скончана. Пакуль, што працуе толькі адна турбіна, якая дае 1000 кілёуат. У хуткім часе пачне працаваць другая таксама на тысячу і ў наступным годзе трэцяя ўжо на 3000 кілёуат. Цяпер яна ляжыць спавітая пакрывалам, як парадзіха, чакаючы вялікага акту нараджэньня.

Тэхнік станцыі правёў мяне па ўсіх паверхах і паказаў мне самыя патаемныя куточкі гэтай складанай і, здавалася, жывой істоты.

Па стромкіх і вузенькіх жалезных драбінках, трымаючыся за гарачыя парэнчы ён вадзіў мяне між катлоў высокага ціску, паміж хітрага спляценьня сталёвых нэрваў і мускулаў, па сьветлай залі машыннага аддзяленьня, дзе лёгка калышуцца стрэлкі маномэтраў, пільна слухаючы электрычны пульс, дзе трапечуцца і напрагаюцца сталёвыя мускулы дызэляў, каб ажывіць і прывесьці ў рух гіганцкае цела машын і конвэйераў.

І крок за крокам станцыя „Пролетарскай перамогі“ выціскае з Барысаўскіх фабрык старасьвецкія паравыя катлы з іх пякучай гарачынёю. Дзякуючы ёй пераведзены на электроэнэргію на 80 проц. гута імя Домбаля, папяровая фабрыка „Профінтэрн“ і інш.

Па драцяных артэрыях яе нячутна пабяжыць электрычная кроў да новых фабрык, якія зараз будуюцца і ажывіць сьветлыя залі цэхаў вясёлым бражджаньнем электраматораў.

І наведваючы гэтыя фабрыкі, мне давялося шмат разоў пачуць словы: „Пролетарская перамога“.

Яна як маці, ажывіць іх і будзе карміць іх электраэнэргіяй. І кожны раз гэтыя словы вымаўляліся з такой урачыстай пашанай і любоўю, з якой гавораць толькі аб дарагім і блізкім чалавеку.

---

Новая фабрыка запалак „Пролетарская Перамога“ ў параўнаньні з дарэволюцыйнай „Чырвонай Бярэзінай“ выглядае палацам. З надворнага выгляду—гэта прыгожы будынак сьветла-цьмянага і сьветла-жоўтага колеру з вялікімі вокнамі і зялёным дахам. У сярэдзіне яе сьцены нагадваюць вялікія сьветлыя залі. Вокны займаюць большую палову плошчы сьцен. Правільней кажучы, самыя сьцены зроблены з вокнаў, апраўленых у каменныя асадкі. Усюды прасторна і сьветла. Дышыцца лёгка. Ня душыць гарачыня і едкі пах кісьлін. Гэта дасягаецца добрай



Запалкавая ф-ка „Пролетарская Перамога“ (гор. Барысаў).

вэнтыляцыяй і дастатковай кубатурай памяшканьня. Столі няма зусім. Асілкавыя белыя плечы кроквaў трымаюць дах проста пад корпусам фабрыкі.

Усе процэсы працы мэханізаваны. Бязупыннымі струменямі плывуць конвэйеры. Яны мочаць запалкі, перадаюць іх у сушыльныя шафы. Адтуль па трубах спэцыяльныя вэнтылятары гоняць запалкі ў суседні цэх. Там увесь час рухаюцца мэханізаваныя рашоты. Як аграмадныя дзікі, яны ашчаперылі свае выгнутыя сьпіны белаю поўсьцю запалак. У часе гэтага руху яны апранаюцца ў серкавыя галоўкі. Чырвоныя зубчыкі конвэйера гоняць запалкі далей і зьбіраюць у чорныя бляшаныя скрынкі.

А ў гэты момант, у каробачным цаху сталёвыя рукі лоўкімі пальцамі складаюць, клеяць, сушаць у вялічэзных шафах і кідаюць на конвэйеры гатовыя каробкі. Бліскучыя шырокія пальцы напаўняюць іх запалкамі.

Рабочыя спакойна стаяць ля станкоў і толькі кіруюць, контралююць, выпраўляюць памылкі машын. Ніякай сумяціцы, ніякай мітусьлівай беганіны.

Калі новая фабрыка ў параўнаньні з старой выглядае, як палац, дык старая пасьля новай здаецца вастрогам. Нізкая столь. Цёмныя цэхі. Драўляныя адасобленыя ручныя станкі. Траскатня. Нэрвовыя сьпешныя рухі рабочых. Тут машына яшчэ пануе над чалавекам. Хаця зараз каробачны цэх таксама і тут мэханізаваны. Хочацца хутчэй выбрацца з гэтага хаосу гулу, у той час як на новай бясконца любуешся разьмераным рухам машын, пакорна падначаленых чалавеку.

Я прыйшоў на старую фабрыку ў часе перапынку, калі мяняліся зьмены. У адным з цэхаў аб нечым заўзята спрачалася група хлапцоў. Разам з ім быў стары рабочы. Ён падыйшоў да мяне і зьвярнуўся з такім запытаньнем:

— Ну, каго трэба раней паслаць? Мяне старога, ці маладых? Я трыццаць шэсьць год працую на заводзе і ні разу ня быў у доме адпачынку.

Але заместа мяне, энэргічна махаючы рукамі, яму адказалі хлапцы.

— Ёсьць дырэктывы 15 проц. моладзі ў дом адпачынку і канец.

— Нашаму цэху семнаццаць месцаў, значыцца нам прыходзіцца два.

— Што ты два—шэсьць!

— Ну, гэта ня важна. Мы проценты як-небудзь вылічым. Але гэта павінна быць моладзі.

— А ты што, ні разу ня быў у доме адпачынку?

— Ось у тым-жа і справа.

— Ну, дык, вядома і цябе трэба пасласць. Але 15 проц. павінна быць для моладзі.

Рашучыя, сымпатычныя хлапцы.

Тут-жа я спаткаў двух гомельскіх рабочых з фабрыкі „Вэзуві". Яны вылучэнцы. Працуюць у ВСНГ па рацыяналізацыі. Гомельскія таварышы падверглі суровай самакрытыцы самыя дробныя недахопы.

На пераможным шляху новай фабрыкі ёсьць яшчэ шэраг цяжкасьцяй. Працоўная дысцыпліна яшчэ не стаіць на належнай вышыні. Мала спэцыялістых. На 1000 рабочых усяго 4 тэхнікі. Няма ніводнага інжынэра. Рабочыя ўзяты з біржы. Яны ўпяршыню прыйшлі на завод. Сярод іх яшчэ шмат няпісьменных. І зразумела, няма тэй загартаванасьці, якая ўласьціва тым рабочым, што выхаваліся сярод рабочага колектыву на заводзе.

Аднак за красавік промфінплян выканан на 112 проц. Дзякуючы мэханізацыі працы 1 рабочы вырабляе за сямігадзінны працоўны дзень 2250 кар. запалак. Да канца пяцігодкі гэтая лічба будзе даведзена да 2500. У той час, як на старой „Чырвонай Бярэзіне" яна не перавышае 1500. За першае паўгодзьдзе сваёй працы фабрыка дала 165000 скрынак экспортных запалак, якія пайшлі ў Амэрыку. Гэта складае каля паловы ўсяе прадукцыі фабрыкі.

Зараз будуюцца склады. Яшчэ трэба пабудаваць спэцыяльны будынак для канторы і пад'ездныя шляхі.

На фабрыцы з аднаго боку шырока разгорнута праца ліквідацыі няпісьменнасьці, а з другога—працуюць профтэхкурсы, на якіх рабочыя павялічваюць кваліфікацыю і выкоўваюцца кадры пролетарскіх спэцыялістых.

Гэтак ажыцьцяўляецца лёзунг, які сярод іншых баявых лёзунгаў і плякатаў на фабрыцы, вісіць на відным месцы ў каробачным цаху сярод двух вялічэзных, як казаў мне загадчык вытворчасьці фабрыкі,—адзіных у Саюзе, сушыльных шафаў.

*„Вышэй сьцяг тэхнічнай рэконструкцыі савецкай прамысловасьці і незалежнасьці СССР ад капіталізму".*

## Гута імя т. Домбаля

Гарачае маёвае раньне. Скрозь сонечную сьпякоту павявае легкі ветрык. Барысаўскі шэры пясок каля гуты ўсеян шклянымі аскалёпкамі; блакітнымі, белымі, сьветла-зялёнымі.

Цэнтр гуты—круглая ванная печ выглядае нейкім стагаловым драконам. Праз маленькія вокны—разяўленыя зяпы—ён высоўвае пякучыя агністыя языкі і дыхае пякельным подыхам.

Высока ўгары пачарнелы дах. Шырокія дзьверы адчынены з абодвых бакоў. Ня гледзячы на вецер і электрычныя вэнтылятары нясьцерпная гарачыня. Кашулі рабочых намоклі потам. Некаторыя хлопцы працуюць у трусох і майках, а іншыя ў сетачках. Сярод іх я пазнаю некаторых артыстых—сяброў драмгуртка. З такой самай лоўкасьцю і спрытам з якім яны ўчора гралі на сцэне свайго клюбу, яны зараз арудуюць доўгімі трубкамі і выдуваюць экспортныя стаканы.

Тут-жа побач станкі. Напрагаючы мускулы рабочыя налягаюць на рычагі і выціскаюць на формах 5—7 шклянак у хвіліну. Гэтыя станкі

дажываюць апошнія дні. У хуткім часе яны будуць заменены амэрыканскімі аўтаматычнымі станкамі, якія давацьмуць у хвіліну 50 шклянак.

У гуце горача і змрочна. Хлопцы і дзяўчаты, якія ўвесь час бегаюць з доўгімі віламі ды носяць на іх у сушыльныя печы доўгія экспортныя шклянкі, яшчэ больш павялічваюць асоцыяцыю нейкага пякельнага малюнку.

Праца цяжкая. Таму працоўны дзень усяго пяць з палавінай гадзіны.

Сакратар фабкому правёў мяне па ўсіх цэхах. Ён паказаў пабудову новага мэханізаванага састаўнога аддзяленьня, дзе гатуецца шыхта, паказаў новыя абрэзачныя, затопачныя, травільныя, шліфавальныя ды інш. станкі.

Даўней гэтыя процэсы рабіліся рукамі. Цяпер мэханізаваныя станкі, як жывыя істоты, бязупынна рухуюцца электраэнэргіяй „Пролетарскай Перамогі", і выпускаюць штодзенна тысячы бліскучых экспортных шклянак і сотні скрыняй лямпавага шкла. Першыя, гладка адшліфованыя і празрыстыя, як крышталь, яскрава гавораць аб нашых дасягненьнях, а другія—у сваіх мутна-цьмяных зьвівах нібы хаваюць яшчэ сум па згубленым жыцьці, тых рабочых, што пакутвалі і гінулі да рэволюцыі ў старой пякельнай гуце, і сьлёзы іншых жонак і матак.

Стары рабочы т. Стахоўскі абяцаў мне, як кончыцца зьмена, расказаць пра жыцьцё гуты за апошняе дзесяцігодзьдзе.

Бяз чвэрці дванаццаць прагучэў гудок і новыя рабочыя пачалі заступаць месца сваіх спацелых таварышоў.

Бязвусы хлапец у белай як сьнег кашулі, яшчэ ня выспаўшыся мабыць пасьля доўгага гуляньня, некалькі разоў пацягнуўся і жартаўліва крыкнуў свайму сябру:

— Ізноў „страдаць" пойдзем, Васька!

Але ён напэўна, ніяк ня здолеў-бы ўявіць сабе сапраўдную дарэволюцыйную катаргу, калі працавалі ў гэтай сьпякоце па дванаццаць гадзін, а гаспадары настолькі дбалі аб рабочых, што ня было нават... вэнтылятараў.

Пра гэтую катаргу яму мабыць шмат мог-бы расказаць т. Стахоўскі. А мне ён расказаў героічнае апавяданьне, вартае любога мастацкага твору, як савецкія рабочыя з старое разбуранае, абакрадзенае былым уласьнікам гуты (ён у часе польскай акупацыі вывез усё абсталяваньне). Зрабілі завод на якім зараз працуе 1100 рабочых і які выпускае 2.800 тысяч штук рознай пасудзіны. 10% гэтага ліку экспортуецца ў Турцыю і Эгіпэт. У апошні час атрыман заказ з Нямеччыны на сталовую пасудзіну.

А дзесяць год таму назад, пры акупантах у памяшканьні гуты была стайня, у абрэзачным цэху была пральня і г. д.

Рабочых засталося ўсяго 80 чалавек. Да вайны было каля 400 чал., але большасьць іх пайшла ў Чырвоную армію. І як толькі прагналі акупантаў, гэта невялічкая кучка іх таварышоў ўзялася за аднаўленьне заводу.

Рабочым удалося схаваць ад гаспадара некалькі прэсавых формаў. Цяпер яны пачалі сьцягваць свае інструмэнты, жалеза, хто што меў, і распачалі рамонт. У жніўні месяцы 1922 году завод быў пушчан.

Бязумоўна на гэтым героічным шляху было шмат цяжкасьцяй.

— Калі-б хто запытаў нас у той час—„што вы робіце?“—дык рабочы павінен быў адказаць:

— „Мы б‘ем пасудзіну“—апавядае т. Стахоўскі.—Таксама былі выпадкі крадзежу, як гэта бывала ў той момант усюды.

Барысаўскі павятовы савет народнай гаспадаркі пастанавіў быў разабраць завод і прыслаў 250 падвод. Мабыць ён не спадзяваўся, што з гэтай разбуранай спадчыны былых гаспадароў можна зрабіць што-небудзь людзкое.

— Але мы ня далі. Паехала дэлегацыя ў Маскву і адстаялі. Адразу-ж пасьля гэтага мы склікалі актыў і ўзьнялі пытаньне аб пашырэньні заводу.

Колькі творчага запалу, колькі энэргіі і любві да свайго заводу хаваецца ў гэтых нямногіх словах!

І т. Стахоўскі расказаў мне, як паступова крок за крокам, упарта перамагаючы цяжкасьці зусім нанава пераабсталявалі завод і давялі яго да сягоньняшняга становішча.

Ён падрабязна расказваў, ілюструючы лічбамі, як пачынаючы з таго, што ў 23 годзе разбурылі старую гаршковую печ, і зрабілі пэрыядычную ванную печ на 700 пуд. (у 25 годзе замянілі на цяперашнюю з загрузкай на 10000 пуд.), з кожным годам расьлі новыя цэхі, зьяўляліся новыя станкі, павялічваўся лік рабочых, узрастала і паляпшалася прадукцыя.

— Ранейшыя цэхі здаюцца цяпер зусім мініятурнымі. Нельга добра разгарнуць працу.

І пачынаецца будаўніцтва. Яно ня спыняецца і да гэтуль. У 1930-31 годзе будзе затрачана 1 мільён на пабудову новага двохпавярховага шліфавальнага аддзяленьня. Будзе зроблен новы артэзіянскі калодзеж і новая мэханічная кузьня.

Таксама, як і ўсюды пабудована пры заводзе сталоўка. Будуецца вялікі двухпавярховы каменны дом, дзе будзе агульнае памяшканьне для рабочых і душ.

— Адным словам—скончыў т. Стахоўскі—завод на гэты час вырас разоў у 500.

І хаця колькасна гэтая лічба яшчэ зьяўляецца гіпэрболічнай, але толькі такімі лічбамі можна мерыць гіганцкія тэмпы разьвіцьця соцыялістычнае гаспадаркі.

Нарэшце ён з гордасьцю паведаміў аб тым, што ўвесь завод абвясьціў сябе ўдарным, што соцыялістычнае спаборніцтва ў поўным уздыме, што паляпшаецца якасьць і павялічваецца продукцыйнасьць працы.

І давёў гэта лічбамі. Калі ў 1928-29 г. 1 станок даваў у зьмену за $5^1/_2$ гадзін 1600—1800 штук, дык зараз ён дае 2100—2200. Ёсьць нават, выпадак 2400. А ў ваенны час за 10 гадзін даваў 800 штук.

Т. Стахоўскі не пасьпеў мне ўсяго расказаць, як яго паклікалі на нараду аб рацыяналізацыі.

Ідучы між новых дамоў рабочага пасёлку, я доўга думаў аб тым, колькі цікавых гісторый могуць расказаць старыя рабочыя.

А ў нас-жа гэтак мала ёсьць кніжак пра жыцьцё рабочых, пра фабрыкі і прамысловасьць.

Мне здаецца, што Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва з вялікім посьпехам магло-б скарыстаць іх, прынамсі, для бібліотэкі школьніка, замест розных часам зусім пуставатых „Воўчкоў, фінціфлюшак“ і „качачак“, якія часам без належнага крытычнага адбору, запоем перакладаюцца з з расейскай мовы. На мой погляд апавяданьні і ўспаміны пра жыцьцё нашых фабрык будуць вельмі карысным матэрыялам для чытаньня і школьнікам і маладым рабочым. Апошніх яны навучаць глядзець на сваё прадпрыемства з такой пашанай і любоўю, якая сьвіціцца ў кожным слове старых рабочых, калі яны пачнуць расказваць пра яго мінулыя і нядаўныя дні.

## Макаронавая фабрыка „Профінтэрн“ і „Комінтэрн“

Па той бок чыгункі канчаецца горад і пачынаецца мора розных лясных матэрыялаў.

Паўз самую пуць навалены цэлыя горы тоўстых яваровых круглякоў. Сыравіна для запалкавых фабрык.

Далей за апошнімі хатамі і макаронавай фабрыкай, уздымаюцца белыя грэбні шпал. Як высокі маяк стаіць комін шпалапрапітачнага заводу.

Паўз бераг Бярозы жоўта-белыя сасновыя бярвеньні. Між імі як караблі, стаяць цёмна-чырвоныя таварныя вагоны.

Уся зямля заслана дошкамі, карою, апілкамі. На тэрыторыі дрэваапрацоўчага камбінату высокія штабелі, нібы модэлі амэрыканскіх хмарачосаў, засьцілаюць неба.

Далёка на небасхіле бялеюць крокны новых лесбелаўскіх складаў, якія зараз яшчэ будуюцца. За імі схаваўся ў лесе таксама новы каніфольны завод.

І ў белых хваляхляснога мора ўсюды звонкі стук сякер. Куды-б ні пайшоў, усюды напаткаеш новую пабудову. Мерныя рытмы яе ўсюды трымцяць у гарачым паветры яснага дня.

---

Тут было комбінаванае прадпрыемства: млын, лесапільня, дрожджавы завод і бровар, Савецкай уладзе яно дасталося разбураным на большую палавіну і то толькі дзякуючы таму, што дробныя станкі рабочыя пахавалі, а цяжкія акупанты не маглі вывезьці.

Цяпер завод перарабляецца на макаронавую фабрыку.

Мяне перш за ўсё зацікавіў стракаты выгляд будынку знадворку. На цёмным цагляным фоне ўсюды шырокія сьветлыя плямы. Гэта павялічваюцца старыя „вастрожныя“ вокны.

Фабрыка будзе абсталявана па апошнім слову тэхнікі. Уся праца будзе мэханізавана. Элеватар будзе проста з вагону падаваць пшаніцу ў млын. Гатовая мука драўляным жолабам падавацьмецца ў сіта. Далей яна апускацьмецца ніжэй на паверх у мясілку. Пасьля такім самым чынам у прэсы і сушылкі.

Перабудова і новае абсталяваньне па пачатковаму пляну каштуе 450 тысяч. Большасьць абсталяваньня з савецкіх заводаў. Замежнага будзе толькі на 100 тысяч. Цяпер намечана яшчэ больш пашырыць ранейшы плян. Гэта каштавацьме ўсяго 100.000, і даст вялікі эфэкт. У выніку гэтага выраб павялічыцца амаль што на 100 проц.

Цяпер ужо зусім скончана пераабсталяваньне млыну. У сушыльным аддзяленьні фабрыкі стаяць 50 сушыльных машын. Яны шырока разявілі свае вялікія раты, быццам сасмаглі ад бязьдзейнасьці. Каля кожнай электарматор. Побач пяць соцень белых шафаў. Фабрыка будзе пушчана з кастрычніка гэтага году. У першы год сваёй працы яна дасьць 5 тысяч тон макаронаў. А пасьля, калі скончыцца пашырэньне, давацьме штогод 8 тысяч тон.

Гэта будзе першая ў БССР макароновая фабрыка імя Леніна.

---

Папяровая фабрыка „Профінтэрн“ прытулілася побач з „Комітэрнам“, на ўскраі лесу.

У параўнаньні з іншымі Нова-Барысаўскімі прадпрыемствамі—гэта невялічкі стары заводзік. На ім працуе 130 рабочых. Яны вырабляюць у дзень да 11 тон жоўтай абгортачнай паперы.

Але і ён мае сваю героічную гісторыю.

І тут рабочыя хавалі ад акупантаў часьці машын, а перад прыходам іх з апошнім цягніком вывезьлі паперу. Яны не маглі ўправіцца з гэтым сваімі сіламі, пабеглі ў суседнюю вёску і паклікалі на дапамогу сялян.

Пасьля, не жадаючы, каб фабрыка працавала пры панох, пахавалі часьці ў вялікім чане і па хатах.

Загадчык зьмены, т. Кучынскі, які працуе на фабрыцы з 1905 году, адрываючыся ад работы, расказаў мне сярод машыннага гулу, пра тыя цяжкія гады, якія прайшлі рабочыя, пакуль аднавілі і паставілі на ногі сваю фабрыку.

— Цяжка было працаваць у 20 годзе. Рабочыя самі хадзілі ў лес рэзаць дровы. Нарэжуць, працуюць, пасьля фабрыка стаіць. Вырабатка была зусім малая. Пудоў трыццаць у зьмену.

— Увесь час трэба было рабіць рамонт. Дождж прабіваў старую толевую страху і заліваў станкі. Прыходзілася накрываць паперай. Рабілі тоўстую паперу і мазалі смалой.

— Трымаліся толькі старыя рабочыя. Маладыя паразыходзіліся па вёсках.

— Толькі ў 25 годзе праца пайшла нормальна. Праўда, выработка спачатку была малая, але ўсё-ж фабрыка выглядала, як фабрыка. З таго часу, што дальш то лепш, а цяпер працуе і зусім добра.

І з дакладнымі гаспадарскімі тлумачэньнямі т. Кучынскі паказаў мне новае абсталяваньне. Паказаў новую сартыроўку, бягуны, якія мелюць макулатуру, лёкамабілі.

Некаторыя станкі пераведзены ўжо на электраэнэргію. Прадукцыя павялічылася амаль што ў 3 разы.

З змрочнай гарачыні і машыннага гулу мы выйшлі на двор. Ціха. У санлівай сьпякоце навакол дрэмле сасоньнік. Тут няма гіганцкіх размахаў, новага будаўніцтва. І фабрыка здаецца самотным, пакінутым астраўком.

— Але скажэце, чаму гэта ўсё старыя заводы мне страшэнна нагадваюць вастрог?

— Зусім зразумела. Раней будавалі і думалі хіба аб рабочых. Абы выціснуць грошы.

Гэты самы адказ, толькі ў іншай формулёўцы я пачуў ад дырэктара „Комінтэрну“.

— Дык гэта-ж будаваў прыватнік гаспадар. А цяпер у нас соцыялістычнае будаўніцтва.

І жывой ілюстрацыяй непараўнанага контрасту стаяў агорнуты чорным дымам стары завод і новыя корпусы.

Тав. Кучынскі ў глыбокай задуме моцна цісвуў маю руку. Мы абодвы глядзелі ў бок суседняга „Комінтэрну“, дзе ўздымаецца рунь новай будучыні.

## Гэта немагчыма

„Комінтэрн“ — дрэваапрацоўчы комбінат. Чалавек з энэргічнымі вачыма—яго дырэктар—сядзеў у сталоўцы, чакаючы абеду, заняты гаспадарчымі гутаркамі.

Пасьля абеду ён паказаў мне новую сталоўку, якая будзе ў вялікім драўляным доме, пабудаваным пад клюб. Але паколькі рабочыя жывуць у горадзе, клюб перанесен у Новы Барысаў. Я ўспамянуў двохпавярховы цёмна-цагляны будынак каля станцыі.

Тут сьветлая прасторная заля. Сцэна. Цікавыя лаўкі. Яны вельмі проста рассоваюцца, і ў дзьве хвіліны з іх можна зрабіць стол.

Пасьля мы пайшлі на завод.

— А што вас цікавіць на самым заводзе?

— У вас ідзе будаўніцтва. Пакажэце мне старое і новае, каб я мог уявіць сабе вашы дасягненьні і розьніцу за апошнія дзесяць год.

— Вы хочаце правесьці паралель паміж тым, што было ў дваццатым годзе і цяперашнім? Гэта немагчыма! Гэта зусім немагчыма! Мы вельмі далёка адыйшліся наперад.

І сапраўды ніякім чынам нельга правесьці паралель і параўнаць старыя заводы з тымі, якія будуюцца зараз. Там духата паравых катлоў, там змрочныя чорныя цэхі, там нізкая столь і падслепаватыя мініатурныя вокны.

На заводзе працуе 600 рабочых. Завод працуе амаль што выключна на экспорт. На пяці лесапільных рамах тысячы бярвеньняў падстаўляюць пад калючыя зубы піл сваё цела, каб даць савецкай краіне валютны скарб белых пахучых дошчак. У гэтых старасьвецкіх вастрожных цэхах напружна працуюць савецкія ўдарнікі, каб хутчэй замяніць іх новымі, прасторнымі, сьветлымі, як ясны дзень соцыялізму, соцыялістычнымі фабрыкамі. Такімі як „Пролетарская Перамога“, як два даўжэзных карпусы калодачнай і мэблявай фабрыкі, якія будуюцца зараз на „Комінтэрне“.

— Вы бачылі калодачную фабрыку ў горадзе? Яна дажывае апошнія месяцы. З новага гаспадарчага году калодачная фабрыка будзе тут. Тут будзе працаваць 400 рабочых.

Я ня бачыў яе і мне хацелася паглядзець гэтую старую бабульку, засуджаную на сьмерць. Ня было часу. Але нарэшце... Яна напэўна, як і ўсе іншыя старыя фабрыкі, выклікала-б у мяне ўяўленьне вастрогу, бо ўсе яны будаваліся з аднэй мэтай: выціскаць грошы і эксплёатаваць рабочых.

А вось побач такі самы корпус. Тут будзе фабрыка гнутай мэблі. Яна будзе вырабляць у год 30—40 тысяч тузін крэслаў. На ёй працаваць ме 500 рабочых.

Замежнае абсталяваньне ляжыць ужо ў скрынях і чакае монтажу. Высока ўгары белыя плечы трымаюць дах. Знадворны выгляд пабудовы такі самы, як і новых цэхаў „Пролетарскай Перамогі“.

Апрача гэтага намечана яшчэ пабудова новага механізаванага лесапільнага заводу і электрастанцыі на 3000 кілёўат.

Так будуецца новы сацыялістычны Барысаў. І гэта яшчэ толькі першае дзесяцігодзьдзе, яшчэ толькі першыя крокі. Але і яны ўжо зусім зьмянілі твар гораду. Яны паставілі ўжо бліскучыя вежы новага сьвету, імя якому соцыялізм.

## На фронце культурнай рэволюцыі

„Несмотря на 17 тысячное население, общественная жизнь г. Борисова не отличается особенным оживлением. Этому препятствует расовая и религиозная обособленность евреев, составляющих большинство населения, а отчасти и замкнутость интеллигенции, преимущественно чиновного класса. От времени до времени кружок



Новая больніца ў Барысаве.

любителей сценического искусства дает благотворительные спектакли. Периодически наезжают сюда „малороссы“ и еврейско-жаргонная труппа. Иногда удостаивают Борисов кратковременным посещением „звезды“ театрального мира 2 величины. В минувшую зиму заезжая оперная труппа дала несколько представлений. Хотя роль оркестра исполнил пианист и зал общественного собрания мало приспособлен в акустическом отношении, однако публика осталась очень довольна. Летом вольно-пожарное общество устраивает гулянья на „батареях“ с музыкою, танцами, фейерверками и проч. Странствующие цирки, кинематографы, балаганы исчерпывают сумму развлечений гор. Борисова“.

Гэта яскравая цытата з памянёнай ужо старой географічнай „працы“— „Город Борисов“. Наружное описание с 24 видами і г. д. вельмі выразна паказвае тую гнілую атмосфэру „развлечений“, якою жыў дарэволюцыйны мяшчанскі Барысаў. І ня верыцца, што гэта пісана ўсяго дваццаць гадоў таму назад. Здаецца, пасьля таго мінулі цэлыя стагодзьдзі.

Справа ня толькі ў тым, што замест розных халтурных „трупаў“ цяпер прыяжджаюць сілы культурных цэнтраў Саюзу, як квартэт Вільёма, ансамбль Веры Майя і г. д., што рабочы тэатр ЦСПСБ ставіць „Стрэл“ Безыменскага і частымі гасьцямі зьяўляюцца беларускія пісьменьнікі, але якая вялікая культурная праца вядзецца цяпер штодня ў рабочых клюбах, адно з першых месцаў сярод якіх займае новая белая

## „крэпасьць“

— Вы ня былі яшчэ ў нашай крэпасьці?—запытаўся ў мяне адзін малады рабочы з „Чырвонай Бярэзіны“.

— А вось зараз іду туды.

Ён меў на ўвазе нядаўна пабудованы клюб хімікаў. Называў яго гэтак, мабыць, з прычыны орыгінальнай архітэктуры. Але гэта і сапраўды крэпасьць. Гэта крэпасьць культурнай рэволюцыі. І тут адбываюцца сапраўдныя баі.

25 мая а шостай гадзіне ўвечары ў клюбе быў назначан урачысты вечар, прысьвечаны дню друку і выпуску лікпункту. Пасьля гэтага, як заўсёды водзіцца, у програме мастацкая частка.

Таму скончыўшы свае вандраваньні па заводах, я хутчэй сьпяшаўся на плыты Бярозы выкупацца, каб якраз у пору пасьпець у клюб хімікаў.

Але я сьпяшаўся зусім дарэмна. А палове сёмай у вялікай залі клюбу, якая налічвае каля 700 крэслаў, было зусім пуста. На сцэне яшчэ толькі ішла рэпэтыцыя. Хлопцы і дзяўчаты беларускага драмгуртка (апрача яго ёсьць таксама і яўрэйскі) былі ўсе яшчэ дужа маладыя. Часамі рэпэтыцыя перарывалася сьмехам. Тады некалькі хвілін яны пакачваліся з рогату. Пасьля рабілі сур'ёзныя твары і з запалам рыхтавалі спэктакль далей.

Клюб пабудован вельмі прыгожа. Сьветлы. Вялікія вокны і досыць прасторныя пакоі. Ёсьць вялікая спортыўная заля, шэраг пакояў для гурткоў, спэцыяльны пакой для адпачынку. На вялікай плошчы пры клюбе будзе пабудован стадыён.

Публіка прыбывала вельмі марудна. Прыходзілі, садзіліся на ганку, гаманілі і разыходзіліся ізноў.

— У нас заўсёды неяк позна зьбіраюцца—кажуць мне хлопцы. Сядзім, чакаем.

Бібліотэчны актыў прынёс цэлы шэраг кніг і выстаўляе ў фойэ вітрыны. Прыбівае да сцэны газэту з рэцэнзіямі чытачоў, сьпіс рэкомэндованых кніг.

Сьцямнела, а народу ўсё яшчэ мала. Ды й то большасьць стаўпілася каля клюбу. Я пайшоў у рабочы пасёлак.

Не пасьпеў я прайсьці і аднэй вуліцы, як напаткаў вялікі агарожаны пляц, завалены будаўнічымі матэрыялямі.

Побач, на ганку таксама новага, але маленькага драўлянага дому за ціхай вячэрняй размовай сядзела група рабочых. Я запытаўся у іх, што тут будавацьмуць.

— А гэта будзе вялікі дом для рабочых на 38 кватэр—адказаў мне адзін з іх.

— А таксама вунь яшчэ адзін будзе, а ў гэтым баку другі – дадала жанчына.

— Дзе другі? а як-жа тады будзе з вашымі гародамі?—запытаўся ў яе адзін яшчэ ня стары чалавек.

— Ну цяперака кажуць, што гародаў ня трэба. Дадуць нам усё колгасы. Ня трэба будзе нечага цягаць ваду ды паліваць.

І праўда-ж, пясчаная Барысаўская зямля, здаецца, зусім не падыходзіць для гародаў.

Я ўяўляў сабе, як зьменіцца выгляд гораду, калі паўстануць тут і там гэтыя волаты будынкі. Пакуль што першы з іх трохпавярховы на Проспэкце Рэволюцыі вылазіць з пялёнак рыштаваньняў. Яны ўжо вядома будуць пабудованы па ўсіх правілах тэхнікі, з водаправодам, цэнтральным апалам і г. д. А самае галоўнае, што ў іх будуць зроблены грамадзкія сталоўкі, ясьлі, чырвоныя куткі. У гэтых новых дамох жанчына будзе канчаткова вызвалена ад нуднай і непродукцыйнай працы хатняй гаспадыні.

Пакуль я вярнуўся ў клюб, таксама пачаўся сапраўдны

## б о й

Заля была напоўнена амаль што да адказу. У праходах стаўпіліся людзі. На сцэне сядзеў прэзыдыум. Маладая жанчына ў мужчынскай кашулі з рашпіленым каўняром і падпяразанай беларускім поясам рабіла даклад. Моцным рашучым голасам яна проста і ясна тлумачыла

значэньне культурнай рэволюцыі ў рэконструкцыйны пэрыяд, яна заклікала ўсю залю ўзяцца за ліквідацыю сваёй няпісьменнасьці і культурнай адсталасьці.

Публіка, у асноўнай масе сваёй, ня менш рашуча не хацела яе слухаць. Здавалася, нібы прэзыдыум і заля падзелены нейкім нябачаным кітайскім мурам, і тое, што робіцца там на сцэне, ня мае аніякага дачыненьня да гэтых людзей, што сядзяць тут, у залі. Яны ўвесь час хадзілі, гаманілі, сьмяяліся, шапталі і нарэшце стварылі такі шум, які нічога не даваў слухаць і тым, хто прыйшоў сюды толькі за гэтым.

Дакладчыца час-ад-часу спынялася і моўчкі пазірала на старшыню сходу. Тая, таксама жанчына, тады ўставала і спрабавала суняць гэты ўзварушаны, людзкі мурашнік. Яна прасіла, заклікала да парадку, звярачалася да іх грамадзкай сьвядомасьці, гразілася, абуралася. І ўсё дарэмна. Публіка сьціхала на некалькі хвілін і пасьля ізноў пачынаўся галдзёж.

Тады дакладчыца крыху адхілялася ад сваёй тэмы. Ілюструючы свае словы жывым прыкладам сёнешняга сходу, яна яшчэ з большым запалам заклікала рабочых да рашучага змаганьня з культурнай адсталасьцю, гэтай агіднай спадчынай, старага веку. І мацней, надрываючы свой голас, вяла прамову далей.

Нарэшце даклад скончыўся.

Старшыня сходу яшчэ раз бяз ніякага посьпеху паспрабавала ўсьцішыць публіку і заклікала задаваць пытаньні.

Заля маўчала.

Заклік паўтарыўся другі раз, але ніводзін чалавек не адгукнуўся.

— Хто хоча выказацца?

Публіка ў адказ яшчэ больш галдзіць.

Запытаньне было паўторана другі і трэці раз, але таксама бяз ніякага выніку.

Мяне ахапіў нейкі жах. Мне здавалася, што даклад ужо безнадзейна правален.

Старшыня сходу кінула публіцы некалькі абурлівых слоў і запрапанавала сваю рэзолюцыю.

І ў гэты апошні момант здарылася дзіва.

У адным з пярэдніх радоў узьняўся пажылы рабочы.

— Пачакайце! Тут шмат хто хоча выказацца...

— Дайце мне слова!

І каротка, але завастраючы кожнае слова, першы прамоўца адрэзаў на расійскай мове.

— Надо политпросвету ударить по всем швам. По культкомиссии и по профкому. Я бригадир и у меня были такие случаи. Спрашиваю работницу—почему не ходишь на занятия?—говорит перегружена—идет в профком, и профком освобождает ее от школы. Это, товарищи, безобразие! Надо решительно взяться всем организациям и ликвидировать неграмотность на все 100 проц.

Рабочая маса загаварыла.

Гаварылі аб ліквідацыі няпісьменнасьці, аб вячэрніх школах і сямігодцы, аб тым што іх трэба зрабіць політэхнічнымі і прыблізіць да заводу. Гаварылі па рознаму, крытыкавалі фабком і клюбнае кіраўніцтва за непарадак на сёнешнім сходзе. Жанчыны скардзіліся, што дзеці і чаргі шмат каму не даюць магчымасьці вучыцца. Стыдзілі маладых, якія нядбайна адносяцца да вучобы.

І ў кожным слове, у кожным выступленьні адчувалася, як новае дае рэванш старому, якое толькі што нахабна скаліла на яго свае гнілыя зубы. Новае сашчапілася з ім у рашучай бойцы. Але пераможанае старое яшчэ ня хоча здавацца. Яно, як ашалелы зьвер, у распачлівай злосьці сваёй спрабуе кусацца і атручваць сваімі мікробамі яшчэ неакрэплыя маладыя парасткі новага быту.

І сьляды гэтай бойкі вы можаце ўбачыць на кожным кроку. І на сходзе, дзе заля галдзіць і ня слухае дакладчыка, і на вуліцы, дзе вінаватай хадою целяпаецца каля новых дамоў адзінокі п'яны і ў цэху, дзе на чорнай дошцы вісіць вымова за лаянку, і ў хатнім жыцьці, і ўсюды, дзе толькі ёсьць чалавек.

Заля крыху сьціхла. Прыслухоўвалася. Пасьля некаторых прамоў пераможным гімнам прагучэлі аплёдысмэнты.

А калі ў задніх радох прыбіты галдзёж узноў паспрабаваў узьняць галаву, прэзыдыум адказаў яму рашучай прапановай:

— Таварышы! будзем у клюбе працаваць так, як трэба ў клюбе. А калі хто прышоў сюды толькі каб перашкаджаць нам, дык давайце расправімся з ім па рабочаму,—па-пролетарску.

І апошнім пераможным акордам прагучэла баявая рэзолюцыя:

— *„Ніводнага няпісьменнага на фабрыцы да XVI партыйнага зьезду“.*

Бялявы хлапец у сіняй майцы прачытаў сьпіс тых 132 таварышоў, якія ўжо ліквідавалі сваю няпісьменнасьць.

А на стале ў гэты момант зьявілася цэлая гара кніжак, назначаных у падарунак выпускнікам. З прычыны позьняга часу пастанавілі раздаць іх пасьля на фабрыцы. Толькі аднаму сябру прэзыдыума, які таксама скончыў лікпункт, старшыня сходу перадала кніжку, сказаўшы пры гэтым некалькі цёплых слоў прывітаньня.

Пад гул аплёдысмэнтаў оркэстр зайграў яму туш.

Пасьля яшчэ адбылося прэміяваньне лепшых чытачоў бібліотэкі. У гэты вечер прайшло на сцэне клюбу хімікаў 12 чалавек гэтых ударнікаў культурнай рэволюцыі. Людзі рознага ўзросту: ад хлапчука піонэра да пажылых і зусім старых. Яны моцна усьвядомілі вялікае значэньне друкаванага слова і атрымалі ад сваіх таварышоў ганаровую прэмію—бібліотэкі і кнігі. Яны бралі іх ў рукі, як зброю, з урачыста сур'ёзным выглядам. Зьвінелі аплёдысмэнты. Музыкі гралі туш. Яны адказвалі кароткімі прамовамі. У іхніх нямногіх словах гучэў залог канчатковай перамогі культурнай рэволюцыі над старасьвецкай векавою цем-



Новая электростанцыя на запалкавай фабрыцы ў Барысаве.

рай. Хай сабе на гэтым фронце ёсьць яшчэ шмат слабых мясьцін, але яна падыходзіць і набліжаецца з кожным крокам пераможнай хады пролетарыяту.

А другой гадзіне начы канчаецца апошняя частка вечару—спэктакль. Шырокія вуліцы Новага Барысава патанулі ў пяскох і змроку. Праз чатыры гадзіны гудкі паклічуць на працу першую зьмену рабочых.

На Проспэкце Рэволюцыі я даганяю групу моладзі. Яны вядуць жвавую дыскусію пра „Стрэл“ Безыменскага, які толькі што бачылі ў рабочым тэатры. Пасьля размаўляюць пра заўтрашнія заданьні, конфэрэнцыі і залікі.

На берагох Бярозы на ўсё галасы равуць, надрываюцца жабы. Над сонным горадам днее празрыстая маёвая ноч.

Мае думы ахоплены паводкай надзвычайна багатых і рознастайных уражаньняў бачанага і пражытага за гэтыя дні.

Неба на ўсходзе палае сьвітаньнем. Я гляджу з мосту на Новы Барысаў, дзе гэтак буйна ўзьнімаецца рунь новай будучыні і ў змрочных сілуэтах золаку мне ўяўляюцца яе сталыя дні.

Прад вачыма ўстаюць абрысы белых каменных волатаў, дамоў—камун соцыялістычнага гораду-саду. Цяперашнія пяскі і пустэчы апранаюцца ў сады і асфальт. Між ім мільгаюць аўто.

Старыя вастрожныя заводы, як загоеныя болькі, зьнікаюць з адноўленага твару зямлі.

Электрычнае сэрца „Пролетарскай Перамогі“ пасылае сваю нябачную кроў у хрустальныя палацы новых фабрык.

І ў залітых сьвятлом залях цэхаў электраматоры сьпяваюць сёнешнім ударнікам нячуваныя песьні шчасьлівай і вольнай зямлі.

---

## ПЕРАМОГА

### Максім Лужанін

Буду йсьці і паліць
ўсе масты за сабою!
Ўсе масты,
што вядуць
на старыя шляхі.
Стала песьняй вясна,
стала песьня вясною,
бурнай хваляй паводкі
жыцьцёвай ракі.

Перад намі дарога—
шырокія пасмы!
Недарэмна крывёй
абліваліся дні.
Мы знайшлі у змаганьні
адзінае шчасьце—
бурны подых
заводаў
і
шастаньне ніў.

Стану,
ўпарта як месяц,
на гэтай дарозе,
каб на блудныя сьцежкі
поэты ня йшлі,
каб агульнаю сілай
расплавіць марозы,
што куюць кайданы
зацьвітаньню зямлі.

Радасьць толькі для тых,
хто сьцяжыны пратопча,
цераз гром барыкад,
к сонцу дзён,
на прасьцяк!

Хто раней апалошча
засмаглыя вочы,
у крынічнай халоднасьці
хваляў жыцьця.

Дык сьмялей-жа!
Наперад!
Напорнаю лавінай!
Нам-жа сонца
ярчэйшыя колеры тчэ.
Нам даручаны век
перамогі і славы,
нам даручаны дні
што за сонца ярчэй!

І расьвеціца радасьць
бесплямным вясельлем,
колектыўнаю сілаю
новай зямлі.
Гэта першы вянок
падарожнікам сьмелым,
што да мэты вялікае
крок прывялі.

Буду йсьці і паліць
ўсе масты да старога!
Нашы вежы павінны
ярчэй зазіяць.
Мы напорна ідзем
па яскравай дарозе,
каб да вечнай ясноты
масты збудаваць!

## ПЕСЬНЯ ПРА ПОРТФЭЛЬ

**Пятрусь Броўка**

Я не магу ўаднэй строфе
ушанаваць портфэль мой стары...
Прайшоў віхуры мой портфэль
ўспамін стальнога камісара.

Калі гляджу на твой замок,
які згубіў сваю бліскучасьць—
пераплываюць перад мной
гады над вогненаю кручай:

. . . . . . . . . . . .

... Два дні скакалі наўздагон.
Храпелі стомленыя коні...
А вораг кідаў нам праклён
агнём на кожным перагоне.

Ці хіба, хто, спыніць нас мог?
Мы помстай сыпалі на зьдзекі.
— За маці ў сініх пісягох,
за бацьку раньняга калеку.
Вілейка.
Золак.
Трэці дзень.
Усход горматамі загракаў...
Сьцяною шабель і грудзей
мы стрэлі ворага атакай.
І вось у полымі крыві,
зацяўшы маузэр рукой,
пагоны бліснулі ў страі...

. . . . . . . . . . . .

І ветрам мчаўся ваянком.
Падковы пенілі траву.
Пад звоны шабельных удараў
згубіў палкоўнік галаву
ад гострай шаблі камісара.

Уланы клаліся старчма,
масьціі мёртвую дарогу...
... Пад вечар сонца біла марш,
фанфары гралі перамогу.

Тады з колекцыі трофэй
ён выняў мне цябе такога.
Ты сябра мой стары портфэль
дарунак сябры баявога.

* * *

Вуліца.
Грае вясна
на замурзаных шчоках...
Па дахах бляшаных
разьбеглася вока.

Шныпараць людзі,
шалеюць трамваі,
портфэль каля боку
лагодна трымаю.
Таксі па Савецкай
імчыць і скуголіць
ў каморках пажоўклых
нарысы будоўлі.
Там пляны, падлікі,
монтажы, проекты—
—дакуманты нашага новага
сьвету.
Праходжу ў думах
квартал з кварталам,
Вясна на панэлі даклад
напісала.
Іду.
Як асілкі,
стаяць рыштаваньні,
тут скора пасёлак
фабрычны ўстане.
Прамчацца па рэйках
электра-вагоны,
ў рубільнік індустрыі
ўключана Сёньня.
Апошні завулак.

Павеяла дымам,
пульсуе агнямі
завод
маладымі.
Адвозяць, прывозяць
рабочых трамваі...
портфэль каля боку
лагодна трымаю.
Твайму, ваянком,
падарунку я рады:
ён мейсца аховы
конспэктаў, дакладаў.
Няхай стараваты,—
я ім не пагрэбаў!
Як цьвік на будоўлі,
і мне ён патрэбен.
Ён разам са мною—
да новых трофэй.
Ты сябра сягоньня,
мой стары портфэль!

гор. Менск, 1930 г.

# НОВЫЯ ЭТАПЫ КОНСОЛІДАЦЫІ ФАШЫЗМУ І СОЦЫЯЛ-ФАШЫЗМУ

М. Канаплін

## 1. Суадносіны паміж фашызмам і соцыял-фашызмам

У адозьве VI Конгрэсу Комінтэрну да працоўных усяго сьвету змаганьне з італьянскім фашызмам, які ператварыў краіну ў вялізны вастрог і вялізны арсэнал, служачы імпэрыялізму, лічыцца найвялікшым абавязкам міжнароднага пролетарыяту. Гэтае ўказаньне Конгрэсу павінна быць аднесена і да іншых краін, дзе з часоў Конгрэсу назіралася і назіраецца да гэтае пары консолідацыя фашыстоўскіх сіл. Мобілізацыя рабочае клясы супроць злачынных замыслаў фашызму і сусьветнае рэакцыі павінна праводзіцца асабліва інтэнсыўна ўсімі, каму дарагі інтарэсы перамогі рабочае клясы, хто ня зьбіраецца зрадзіць ідэі соцыялістычнай рэволюцыі.

Да апошняй катэгорыі ніякім чынам ня можа быць аднесена соцыял-дэмократыя, якая ператвараецца ўсё больш у лютую падсобніцу фашызму. Разьвіцьцё соцыял-дэмократыі па шляху да соцыял-фашызму зрабілася рэальным фактам. І калі яшчэ нядаўна гаварылася толькі аб тым, што афіцыяльная ідэолёгія соцыял-дэмократыі—ідэолёгія клясавага супрацоўніцтва—у шмат якіх пунктах датыкаецца да ідэолёгіі фашызму, што фашыстоўскія мэтоды, ужываныя ў барацьбе з рэволюцыйным рухам, ёсьць у практыцы многіх соцыял-дэмократычных партый *толькі ў зародкавым відзе,* то зараз з поўнаю ўпэўненасьцю можна гаварыць, што *ва многіх выпадках і вельмі ўпарта соц.-дэмократыя карыстаецца мэтодамі фашыстоўскай рэакцыі ня горш саміх фашыстых*. Прыкладам гэтага могуць служыць паводзіны нямецкай соцыял-дэмократыі, забараніўшай „саюз чырвоных франтавікоў“ і расстраляўшай у 1929 г. рабочыя першамайскія дэманстрацыі і інш.

Гэтыя мэтоды нічым па сутнасьці не адрозьніваюцца ад політыкі гвалту і провокацыі, якая праводзіцца фашызмам. Не дарма-ж правадыр фінскіх фашыстых *Доннэр* адкрыта прызнаў, што „ў соцыял-дэмократыі наступіла значная і ўцешная перамена“ і выразіў надзею, што „фашыстоўскія організацыі і на будучы час будуць атрымоўваць беспасрэдную падтрымку з боку соцыял-дэмократычнай партыі“[1]). Гэта

[1]) Стенографический отчет VI Конгресса, вып. I, стр. 357.

сьведчыць аб тым, што соцыял-дэмократыя разьвіваецца зусім пэўна ў напрамку соцыял-фашызму. У адваротным выпадку, як тады зразумець паводзіны нямецкіх рэформістых, якія насаджваюць нацыянальна-соцыяльную ідэолёгію ў „Імпэрскім сьцягу“, закліканым „абараняць“ рэспубліку? Трэба сказаць, што гэтая соцыял-дэмократычная організацыя—„Імпэрскі сьцяг“,—галоўным чынам складаецца з маладых людзей, роля якіх, як выразіўся адзін соцыял-дэмократ на сходзе організацыі, заключаецца ў тым, каб „дапамагчы паліцыі пры мажлівым путчы“. Таму членам гэтай організацыі ня раіцца быць „надта вялікімі пацыфістымі“[1]). Як паказалі першамайскія здарэньні, дадзеная ў свой час парада вельмі ўдала была скарыстана праз год. А як кваліфікаваць неаднакратную падтрымку польскай фашыстоўскай паліцыі з боку ППС альбо заяву аднаго з правадыроў нямецкіх фашыстых—*Гітмана* аб неабходнасьці для адратаваньня краіны „моцнага“ чалавека, пры чым, па думцы *Гітмана*, такім можа зьявіцца і соцыял-дэмократычны міністр *Зэвэрынг*, бо наогул прыходзіцца думаць, што „гэты соцыял-дэмократ здольны пакінуць ідэю інтэрнацыяналізму і сваю партыйную політыку павядзе на карысьць нямецкага народу“[2]).

Хіба гэта ня сьведчыць аб тым, што сувязь паміж фашыстоўскім і соцыял-дэмократычным рухам робіцца ўсё шчыльней, што абое яны знайшлі агульную мову? Абое яны (фашызм і соц.-дэмократызм), так сказаць, дапаўняюць політыку адзін другога. Так, прыстасоўваючыся да зьмены політычных акалічнасьцяй, буржуазія скарыстоўвае побач з мэтодамі фашызму і мэтоды коаліцыі з соцыял-дэмократыяй. У той самы час соцыял-дэмократыя ў сваёй зрадніцкай барацьбе супроць надыходзячай рэволюцыі гатова ўчыніць крывавую лазьню „зарваўшамуся“ пролетарыяту і адначасова даводзіць аб тым, што для „заваяваньня“ соцыялізму неабходна часова падтрымліваць асновы існуючага капіталістычнага ладу.

Як адзначае програма Камінтэрну, гэты мэтод, „будучы мэтодам нязвычайным для „нормальнага“ капіталізму і зьяўляючыся азнакамі агульнага капіталістычнага крызысу, скарыстоўваецца буржуазіяю для зьмяншэньня хуткасьці пастульната ходу рэволюцыі“ і гэтым самым „соцыял-дэмократыя ў моманты, найбольш для капіталізму крытычныя, нярэдка адыгрывае фашыстоўскую ролю“[3]).

Такім чынам, па сутнасьці трэба гаварыць аб паступовай і досыць энэргічнай фашызацыі соцыял-дэмократыі. Вярней,—трэба гаварыць аб *суадносінах паміж фашызмам і соцыял-дэмократыяй.*

Гэтае пытаньне набывае вельмі сур'ёзнае політычнае значэньне і няправільнае яго вырашэньне можа прывесьці да сур'ёзных політычных памылак. Справа ў тым, што нярэдка рэформісцкая абарона буржуазнай

[1]) Там сама, стар. 335.

[2]) „Rote Fahne“, № 87, за 14/IV—29 г.

[3]) Стенографич. отчет VI Конгресса, вып. 6, стар 18.

дэмократыі разглядаецца, як барацьба супроць рэакцыі альбо фашызму. Соцыял-дэмократыі прыпісвалася і дзе-ні-дзе прыпісваецца і цяперака роля рэальнай абаронцы буржуазна-дэмократычнай рэспублікі ад фашыстоўскага перавароту. Горш за ўсё тое, што ў некаторых краінах паасобныя групы комуністых бачаць барацьбу паміж соцыял-дэмократыяй і фашызмам, прычым дапушчаецца нават, што першая згодзіцца нават змагацца разам з компартыяю. Гэтае фальшывае становішча прыводзіла да вельмі цяжкіх тактычных памылак. Трэба ўспомніць, напрыклад, нямецкія здарэньні 1923 г. Нямецкая комуністычная партыя паверыла тады, што дзяржаўны апарат і соцыял-дэмократыя, сядзеўшая ва ўрадзе, накіруе свае ўдары супроць фашызму. Замест таго, каб змагацца наогул з буржуазіяю і яе прыхільнікамі, нямецкая компартыя ня хоча дапусьціць „перамогі фашызму над лістападаўскаю рэспублікаю“, фактычна дапамагала нямецкай буржуазіі прыдушваць нарастаючую рэволюцыю ў Нямеччыне. Найлепшым прыкладам гэтае недапушчальнае памылкі можа служыць факт пасылкі ў Саксонію і Цюрынгію рэйхсвэра, які нібы павінен быў змагацца супроць баварскага фашызму, а на справе быў скарыстаны ў барацьбе супроць рабочых. Такая-ж памылка была дапушчана і некаторымі польскімі таварышамі ў ацэнцы перавароту Пілсудскага, якія запэўнялі, „нібы фашыстоўскі пераварот зьявіўся перамогаю дробнай буржуазіі, якая пад кіраўніцтвам Пілсудскага нібы пяройдзе ў наступленьне супроць буйнага капіталу“[1]).

Прыблізна, такое-ж становішча наглядалася і ў Аўстрыі, дзе група таварышоў ня зусім правільна ацаніла здарэньні 15 ліпеня і наступны пэрыод.

Гэтыя здарэньні ацэньваліся, як апошняя рэволюцыйная ўспышка, якая завяршае пасьляваенны крызыс, і гэтым самым гэтая група салідарызавалася з пунктам погляду соцыял-дэмократыі. Але ёсьць і другая група, якая мысьліць, што ў выніку ліпнёўскае перамогі і з прычыны об'ектыўных умоў наступіла не палявеньне, а паправеньне пролетарыяту. Гэтым самым група становіцца на пункт погляду ўстойлівасьці стабілізацыі капіталу і об'ектыўна прыводзіць да позыцыі абароны ідэі буржуазна-дэмократычнае дзяржавы ад фашыстоўскае рэакцыі. Фактычна гэта мяжуе з палажэньнем, якое дазваляе сумесную з соцыял-дэмократамі абарону „дэмократыі“, г. ё. асновы капіталістычнага ладу.

У Нямеччыне пасьля майскіх выбараў 1928 г. узьнікла па пытаньні аб фашызьме дыскусія з прымірэнцамі. Апошнія трымаліся таго погляду, што ўдзел соцыял-дэмократыі ва ўрадзе дае некаторую гарантыю супроць фашызму, і што ў сучасны пэрыяд галоўнаю небясьпекаю зьяўляецца буржуазная дэмократыя. Тав. Тэльман у сваёй прамове на XII зьезьдзе нямецкай компартыі працытаваў пляцформу прымірэнцаў, у якой гаворыцца: „Характэрныя рысы сучаснага становішча заключаюцца

[1]) Стенографический отчет VI Конгресса, вып. I., стар. 372.

ў тым, што буржуазія імкнецца ажыцьцявіць пакуль сваю імпэрыялістычную політыку не фашыстоўскімі і не дыктатарскімі мэтодамі, але на грунце капіталістычнай дэмократыі ў шчыльным яднаньні з соцыял-дэмократыяю.

Абарона падобнае тэорыі пасьля здарэньняў апошняга часу ў Нямеччыне і пасьля магдэбурскага зьезду соцыял-дэмократыі павінна разглядацца, як апраўданьне сутнасьці нямецкага соцыял-фашызму.

Соцыял-дэмократыя, ператварыўшаяся ў буржуазную „рабочую“ партыю, натуральна, павінна была разам з эволюцыяю агульных законаў, што азначаюць разьвіцьцё буржуазнае дзяржавы, мяняць сваю позыцыю. У гэтым няма нічога дзіўнага. „Нормальныя“ мэтоды буржуазнай дэмократыі ня могуць ужо задавольваць фінансава-капіталістычную олігархію. Ёй патрэбны новыя мэтоды кіраўніцтва гаспадаркаю і дзяржаваю, якія маглі-б супроцьстаяць усё ўзрастаючаму завастрэньню клясавых супярэчнасьцяй, усё часьцеючым клясавым сутычкам. Гэтыя новыя мэтоды і формы кіраўніцтва, як паказвае програма Комінтэрну, выражаюцца, напрыклад, у сыстэме „малых габінэтаў“, дзейнасьці олігархічных груп за кулісамі, упад і скажэньне ролі „народнага прадстаўніцтва“, урэзваньне і ўхіленьне „дэмократычных вольнасьцяй“ і інш.

Абслугоўваючы і прыстасоўваючыся да інтарэсаў буржуазіі, стоячы цалкам на грунце клясавага супрацоўніцтва і коаліцыі з ёю, міжнародная соцыял-дэмократыя, зьяўляючыся адначасна агентураю буржуазіі ўнутры рабочае клясы, павінна цалкам ужываць тыя-ж мэтоды, якія ўжывае яе гаспадар—буржуазія. Таму, калі фашыстоўскія спосабы, а ня іншыя, могуць на даны адцінак часу задаволіць буржуазію, то ў ролі вернага лёкая выступаюць соцыял-імпэрыялістыя і, нічтожэ сумняшэся, вядуць атаку супроць пролетарыяту паводле ўсіх правіл „чорных кашуль“.

Але свой соцыял-фашыстоўскі твар соцыял-дэмократыя старанна трымае пад вэлюмам. За фіранкаю ашуканства куды лепей падрыхтоўваць рэальную глебу для ўсялякіх комбінацый і здрады. То яна (с.-д.) выступае ў ролі кокэтуючай пацыфісткі, за кулісамі ідэолёгічна і політычна падрыхтоўваючы вайну і гэтым самым дапамагаючы імпэрыялістычным тэндэнцыям фашызму, то чуюцца „радыкальныя“ сказы „левых“ соцыялдэмократаў, якія „энэргічна“ рэкамэндуюць „змагацца“ супроць фашызму і раючых нават адмовіцца ад коаліцыі з буржуазіяю. Але гэтая „левая“ фразэолёгія па сутнасьці прыводзіць да тэорэтычнага абгрунтаваньня найноўшай практыкі соцыял-дэмократыі, якая орыентуецца ўсё больш на тыя пласты рабочае арыстакратыі і дробнай буржуазіі, у якіх клясавая сьвядомасьць і соцыялістычнае пераконаньне зьяўляюцца пустым месцам.

Асабліва-ж гэта адбіваецца на пытаньнях ідэолёгічнага характару. Тутака рабочая кляса менш за ўсё разьбярэцца, у гэтай галіне лепш за ўсё можна чым-небудзь падфарбаваць сваю рэволюцыйную сутнасьць

Так, напрыклад, у пытаньнях абароны „дэмократычнае“ дзяржавы ад рэакцыі, соц.-дэмократыя ўсімі спосабамі спрабуе давесьці неабходнасьць яе абароны ад фашыстоўскага націску. Але гэтая об'ектыўнасьць вытрымліваецца ня доўга. У апошнія часы ў шэрагу соцыял-дэмократычных пэрыодычных выданьняў і паасобных працах тэорэтыкаў соцыял-фашызму ўсё часьцей чуюцца галасы, аналёгічныя голасу заўзятых ідэолёгаў фашызму. Усё часьцей фашызм параўноўваецца з бальшавізмам, пры чым першаму аддаецца значная перавага. Фашызм, на думку адных, жыве ня гвалтам, як бальшавікі, а ідэяю. Фашызм, як бачыце, „разьвівае агульную работу па вядзеньні нацыянальнае гаспадаркі“ [1]). Тутака, між іншым, вельмі яскрава ўскрываецца *ідэолёгічнае сваяцтва паміж соцыял-рэформісцкаю тэорыяю гаспадарчай дэмократыі і фашыстоўскай тэорыі корпорацыйнага ладу.* Тутака, так сказаць, выступае ва ўсёй сваёй велічы ідэя „міру ў прамысловасьці“. Збанкрутаваная дэмократыя ў рамках загніваючай капіталістычнай сыстэмы „чакае свайго ратунку ад Монда, г. ё. ад экономічнага фашызму. Монд у экономіцы гэта—Муссоліні ў політыцы“ [2]).

Іншыя соцыял-дэмократычныя тэорэтыкі ідуць значна далей і вельмі спрытнымі спосабамі даводзяць крызыс сучаснага парлямантарызму, які ва ўмовах барацьбы з фашызмам часамі засьмечваецца непажаданымі элемэнтамі і ня можа, таму, выражаць інтарэсаў „чыстай дэмократыі“. Таму сучасная дэмократыя, на думку гэтых ідэолёгаў, павінна стаць на іншы шлях разьвіцьця. *Гэты шлях—шлях корпораваньня парляманту, узьняцьце на належны п'едэстал профэсіянальнай ідэі, ідэі прадстаўніцтва нацыянальнай прамысловасьці.*

Побач з офіцыйнаю дзяржаўнаю політыкаю сучаснага соцыял-фашызму прыходзіцца мець напагатове рэзэрвы буржуазнай дзяржаўнасьці, якія-б дапамагалі соцыял-фашыстым тармазіць процэс палявеньня шырокіх рабочых мас, рэзэрвы, якія маглі-б у патрэбны момант „соцыялістычна“ і „рэволюцыйна“ абгрунтаваць правільнасьць політычнага дзеяньня сучаснай міжнароднай контр-рэволюцыйнай соцыял-дэмократыі.

Гэтымі рэзэрвамі соцыял-фашызму зьяўляюцца аўстра-марксыстыя і так званыя „левыя“.

Гэта „левае“ крыло соцыял-фашызму заклікана часова замаскаваць сапраўдную сутнасьць соцыял-дэмократыі. Яно павінна, прыняўшы гордую постаць і б'ючы сябе ў грудзі, крычаць усюды аб фашыстоўскай

---

1) „Sozialistische Monotshefte“ № 6—1928 г., стар. 490.

2) Стенограф. отчет. Вып. I, стр. 282.

Сэр Альфрэд Монд—старшыня хэмічнага трэсту ў Англіі. Галоўны ідэолёг рацыяналізацыі і „міру ў прамысловасьці“. У верасьні 1927 г. конгрэс трэд-юніонаў прапанаваў склікаць сумесную конфэрэнцыю з прадстаўнікоў Генсавету і брытанскіх капіталістых, імпэрыялістых і прамыслоўцаў. У выніку гэтае прапановы конфэрэнцыя адбылася, пры чым на чале групы ўплывовых капіталістых стаў *Монд.* „Конфэрэнцыя Монда“ выпрацавала асновы „міру ў прамысловасьці“ ў Вялікабрытаніі.

небясьпецы, аб неабходнасьці ўтварэньня адзінага фронту барацьбы супроць капіталізму, словам, яна заклікана ўсякімі спосабамі намаўляць рабочай клясе думку аб сваёй цноце па частцы фашыстоўскай рэакцыі. Яшчэ з часу няўдалага захопу італьянскімі рабочымі фабрык і заводаў шэраг аўстра-марксыстых рабіў палітычныя вывады з гэтага італьянскага уроку. І кожны раз яны прыходзілі да вываду, што італьянскія кіраўнікі рэволюцыйным рухам (г. ё. комуністыя) не падлічылі сіл супрацiўніка і без належнай рэальнай сілы зайшлі вельмі далёка ў сваіх рэволюцыйных патрабаваньнях. Трэба быць палітычным тупіцаю альбо сьвядомым здраднікам інтарэсаў рабочае клясы, каб не зразумець захаванага сэнсу гэтага палажэньня. Хіба ня ясна, што гэтыя паны з лягеру герояў рэволюцыйнага сказу мелі тутака на ўвазе захаваньне буржуазнай дзяржаўнасьці. Хіба не зразумела, што аўстра-марксыстыя лічаць барацьбу рабочае клясы за дыктатуру пролетарыяту няпрыймальнай, і што зроблены вышэй вывад зьяўляецца нічым іншым, як парадаю міжнароднаму пролетарыяту пачакаць з пераходам да соцыялізму. На працягу шэрагу год „левыя“ ўсё больш скачваюцца на позыцыю абароны заваёў капіталізму. Тутака і хаваецца ўся небясьпека гэтай „левізны“. Як было адзначана на X пленуме ВККІ ў ліпені 1929 г., соцыял-фашызм у сваім лёгічным разьвіцьці ўсё больш набліжаецца да „чыстага фашызму“ з яго-ж „чыстымі“ мэтодамі дзейнасьці. Але калі тактыка агню і мяча робіцца рэальным спосабам фашыстоўскай палітыкі, і разам з тым, усё больш шырокія масы працоўных паварочваюцца сьпіною да сваіх былых правадыроў, на сцэну сьпешна выступаюць ратунковыя колёны „левых“, якія маніпулююць усялякімі пацiфісцкімі, дэмократычнымі і „соцыялістычнымі“ лёзунгамі. Больш таго, вельмі часта гэтыя „левыя“ „галосна“ папярэджваюць сваіх правых калег, утвараюць тэорэтычную опозыцыю і заклікаюць да адмаўленьня ад сучаснай палітыкі падтрыманьня буржуазнага дзяржаўнага апарату і інш.

Усё гэта робіцца дзеля таго, каб утрымаць нязгодных з урадаваю палітыкаю соцыял-дэмократыі пад сваім уплывам і гэтым самым унікнуць хуткага тэмпу рэволюцыянаваньня рабочых мас. Але гэта толькі для вока. На самай-жа справе „левыя“ найабуральным чынам благаслаўляюць соцыял-фашыстых на чарговыя „подвігі“. Апошнія некалькі год асабліва ярка падкрэсьлілі рэнэгацкі і ня менш контр-рэволюцыйны твар гэтай „левай“ хэўры. Узяць хаця-б венскія здарэньні 15 ліпеня 1927 г. У гэты дзень здрадніцкія кулі аўстрыйскай дэмократычнай рэспублікі расстралялі венскіх рабочых ня толькі фізычна, але яны значна разьбілі і дэмократычныя ілюзіі аўстрыйскага пролетарыяту. Здавалася-б, што наступленьне рэакцыі на рабочую клясу павінна было нечаму навучыць аўстра-марксыстых. Было зусім зразумела, каб яны, гэтыя абвесьнікі „соцыялізму“ ў такі адказны гістарычны момант заклікалі рабочых да зброі, звалі-б будаваць барыкады, сталі-б на чале паўстаньня. Але замест усяго гэтага адбылася клясычная здрада рэволюцыі. Аўстра-марксыцкія

„правадыры“ дапамагалі буржуазіі „супакоіць“ узварушаны пал паўстаўшых пролетараў.

Зрабіўшы сваю ганебную справу здрады і захаваўшы „грамадзянскі мір“ у краіне, аўстра-марксыстыя, палегчана ўздыхнуўшы, усё далей скатваюцца да аўстра-фашызму, займаючы ў сучасны момант пачэснае месца ў шэрагах соцыял-фашызму. Аўстра-марксыстыя з „Дэр Кампф“ вельмі старанна даводзілі былому прэм'еру Аўстрыі, што яны нічога супольнага з бальшавізмам ня маюць і ні аб якой дыктатуры ня марадь, а таму, для захаваньня далейшага спакою ў краіне, трэба ўнікаць раздражняць насельніцтва. Выразіўшы рабскі свае вернападаныя пачуцьці, аўстрыйскія с.-д., поўзаючы, як скаціна, перад сваімі панамі, упэўніваюць рабочых, што „Зэйпель зусім не Муссоліні, і што ён ня хоча ім быць. І калі ўсё-ж такі ён зрабіўся важатым фашызму, то не па сваёй віне. Тутака дзейнічаюць іншыя цёмныя сілы, якія зьяўляюцца пагрозаю для грамадзянскага міру і рэспублікі“ [1]). Бясспрэчна, што гэтымі „іншымі цёмнымі сіламі“ зьяўляюцца комуністыя і рэволюцыйныя рабочыя, гатовыя да змаганьня з капіталізмам не паводле рэцэпту Баўэраў і хто з імі. Таму супроць гэтых „цёмных сіл“ трэба падтрымліваць нават Зэйпэля, якога, як бачыце, здань комунізму зрабіў „мімавольным“ фашыстым. Баючыся парушыць „грамадзянскі мір“ і дзеля захаваньня „дэмократычнай“ рэспублікі з фашыстоўскім урадам на чале, аўстра-марксыстыя поўнасьцю падтрымалі політыку Зэйпэлеўскага ўраду і 7-га кастрычніка 1928 г. Тады ізноў рабочая кляса, якая рыхтавалася належным чынам спаткаць мобілізаваныя аўстрыйскім фашызмам кадры, заклікалася да спакойнасьці і адмаўленьня ад тэрорыстычных выступленьняў, каб не вярнуцца да вынікаў 15 ліпеня“. Ня менш здрадніцкімі і соцыял-фашыстоўскімі сваім зьместам зьяўляюцца позыцыі аўстра-марксыстых па пытаньні ад разброеньні. На чале з тым-жа О. Баўэрам падтрымліваецца ідэя ўзбраеньня краіны, дзе пануе „дэмократыя“. Але гэтая ўзброеная дэмократыя, як паказала практыка, бясспрэчна, скарыстае сваю зброю і кадры ў першую чаргу для ўмацаваньня свайго, ідучага па шляху да фашызму, дзяржаўнага апарату. На мове аўстра-марксызму падобная позыцыя называецца: „Утварыць умовы для ўстанаўленьня эўропэйскага міру і зьнішчэньня небясьпекі вайны“.

Перад наяўнасьцю фактаў мобілізацыі соцыял-фашызму трэба як мага глыбей і шырэй ускрываць усю ілжывасьць манэўраў „левых“, паказаць, што іх позыцыя ў адносінах да фашызму па ганебнасьці сваёй нічым не адрозьніваецца ад практыкі заядлых соцыял-фашыстых, хіба толькі сваёю крыклівасьцю і мыльнапузырнаю атакаю вышынь капіталістычнай сыстэмы.

У любым нумары нямецкага органу „левых“ соц. дэмократаў „Дэр Кляссэнкампф“—трыбуны такіх слупоў „левых“, як Макс Адлер і памершага Пауля Леві, можна спаткаць „бурную“ артылерыйскую атаку

[1]) „Der Kampf“ № 11—1928 г., стар. 534-535.

політыкі ўрадавай дэмократыі. Часамі гэтая „крытыка зьлева", якая робіцца пад прымусам і вядзецца, галоўным чынам, пад націскам усё ляве-ючага пролетарыяту, выціскае з сябе такія-сякія гістарычныя прызнаньні, што мяжуюць з праўдаю.

Гэта асабліва выяўляецца ў пытаньнях па сутнасьці нямецкага парляманцарызму і ўдзелу соцыял-дэмократыі ў коаліцыйным урадзе. „Левым" з болем у сэрцы прыходзіцца сазнавацца ў тым, што гэты ўдзел зусім не ўзмацняе парляманцкіх тэндэнцый, а акурат наадварот,—фашыстоўскія тэндэнцыі ўзмацняюцца і знаходзяць лепшую глебу для свайго разьвіцьця, калі ва ўрадзе сядзяць соцыял-дэмократы[1]).

Але адначасова з гэтым аўтар, падымаючы вочы к небу, угаварвае, нямецкіх фашыстых і даводзіць, што ўсякі вораг дэмократыі, адносячыся да апошняй нясумленна, гэтым самым вельмі значна шкодзіць сабе" [2]).

Гэта трэба разумець так:—мы супроць офіцыяльнай падтрымкі нашымі правымі колегамі нашай політыкі, панове фашыстыя,—гэта некалькі шокіруе соцыял-дэмократыю, што выступіла на выбарах з шэрагам абяцаньняў рабочай клясе, якая за апошнія часы зрабілася вельмі вымагальнаю, і таму с.-д. трэба быць вельмі асьцярожнаю. Але калі ўжо лёс вас зьвязаў і перашкодзіць гэтаму шлюбнаму саюзу ніяк нельга то будзьце-ж прынамсі трошкі церплівей да вашай другой палавіны і падлічвайце, пры выпадку, яе адданасьць справе ўзмацненьня падвалін існуючага ладу.

Такая наскрозь прастытуцыяваная ідэолёгія „левых" праявілася і ў пытаньні аб першамайскіх здарэньнях. Яны паказалі, што ў „левым" лягеры соцыял-дэмократыі соцыял-фашызм са сваімі лідэрамі—Цэргібэлямі, Гжэзінскімі і інш. знайшоў верных і вельмі практыкаваных абаронцаў. Беспасрэдна перад расстрэлам рабочых *„левы" Макс Адлер у артыкуле „Сэнс 1-га мая"* пісаў: *„1-ае мая ня проста дзень адпачынку рабочых,—ён перш за ўсё баявы дзень міжнароднага соцыялізму, гэта абвяшчэньне вайны... інтэрнацыянальнаю рабочаю клясаю міжнароднай капіталістычнай сыстэме"*. Гэта значыць, як зусім правільна адзначае далей аўтар, што *дзень першага мая* павінен зрабіцца *днём вялікай няпрыемнасьці для пануючых клясаў* [3]).

Зусім зразумела, што такія „няпрыемнасьці" ня могуць абыйсьціся без таго, каб у дзень 1-га мая рабочыя ня выйшлі на вуліцу з належнымі рэволюцыйнымі патрабаваньнямі. Гэта, зразумела, павінна выклікаць парушэньне буржуазнага „парадку" і цэлым шэрагам іншых дзеяньняў. Гэта разумее і М. Адлер, калі ён заяўляе, што „вулічная" дэмонстрацыя 1-га мая зьяўляецца рэкрутаваньнем рэволюцыйнай арміі, якая рыхтуецца адсунуць старую грамаду" [4]).

[1]) „Der Klassenkampf" № 5—1929 г. Стар. 133.

[2]) Там сама. Стар. 132.

[3]) Там сама. Стар. 258.

[4]) Там сама. № 9—1929 г. Стар. 259.

Але выявілася, што ўсё гэта чарговая балбатня, меўшая на мэце падтрымаць у масах ілюзію аб „рэволюцыйнай“ сутнасьці гэтага крыла соцыял-дэмократыі, такім чынам, напярэдадні мобілізацыі рэволюцыйных сіл пролетарыяту стварыць некаторы эфэкт і прыцягнуць на свой бок тых, хто зьняверыўся ў „сумленнасьці“ ўрадавай соцыял-дэмократыі. На самой-жа справе, ужо падводзячы ітогі першамайскім здарэньням, пяром другога „левага“ Курта Розэнфэльда—накрэсьлена ўся соцыял-фашыстоўская сутнасьць гэтага „левага“ контр-рэволюцыйнага балота. У артыкуле „Бярлінскі крывавы май“, пасьля павярхоўнага аналізу здарэньняў, аўтар прыходзіць да вываду, што прычына расстрэлу рабочых у Бэрліне заключаецца: 1) „у тым, *што ў горадзе не знайшлося досыць сіл, якія-б маглі своячасова дазволіць першамайскія дэмонстрацыі*“ і 2) „*Што паліцыя не зрабіла свае справы досыць разумна і прадбачліва*“ (курсыў мой. *М. Н.*)[1]). Да рэчы і „Форвэрст“ у унісон з Цэргібэлем заяўляў, што „паліцыя зрабіла ў асноўным толькі неабходнае“.

Як бачыце, правыя і „левыя“ ў асноўных пытаньнях дапамогі буржуазіі для прыдушэньня рабочае клясы зусім зыходзяцца. Але ўскрыўшы „асноўныя памылкі“ першамайскіх здарэньняў, Розэнфэльд расьпярэзваецца на чыстую і зяўляе, што асноўнаю вінавайцаю ў расстрэле рабочых зьяўляецца нямецкая комуністычная партыя, рашчапіўшая адзінства фронту выступленьня 1-га мая і рушыўшая колёны дэмонстрантаў супроць паліцэйскіх куль. Праўда, мімаходзь кідаецца некалькі лёгкіх папрокаў у бок некаторых паліцэйскіх, якія „*неасьцярожна зачаплялі сваімі кулямі і гумовымі дубінкамі рабочых і іх жонак*“. (Курсыў мой. *М. Н.*[2]).

І толькі ніякага абвінавачаньня ўраду, ніводнага крыўднага слова ў бок сапраўдных першамайскіх катаў-правадыроў нямецкай соцыял-дэмократыі.

Так яшчэ раз трубадуры „левых“ песьняў перарабілася ў аполёгэтаў капіталізму і соцыял-фашызму.

Тая акалічнасьць, што на Магдэбургскім зьезьдзе нямецкай соцыял-дэмократыі, дзе прысутнічалі і „левыя“, не раздавалася ніводнага голасу протэсту ні супроць першамайскіх здарэньняў, ні супроць забароны Саюза Чырвоных Франтавікоў, сьведчыць аб тым, што „левая“ соцыял-дэмократыя, закрыўшы свой сапраўдны твар радыкальнымі сказамі і пацыфісцкімі заявамі, здавалася бяз усякіх умоў на ласку правых соцыял-фашыстых.

Адзіны фронт імпэрыялістычнай буржуазіі з правымі і „левымі“ соцыял-фашыстымі ўстаноўлены ў тэорыі і на практыцы. Ролі разьмяркованы, і кожная з дзеючых асоб заняла свае месца на авансцэне клясавае барацьбы. Акты здрады зьмяняюцца актамі яўнай падтрымкі катаў рабочае клясы. І заўсёды ў гэтай справе кіруючую ролю адыгрывае

---

1) „Der Klassenkampf“ № 10--1929 г. Стар. 291.

2) Там сама. Стар. 292.

блёк права-„левых“ соцыял-фашыстых. Усюды соцыял-дэмократыя зусім адчынена выступае супроць рэволюцыйнае рабочае клясы. З гэтага міжнароднага пункту погляду барацьба з ёю павінна разглядацца, як першачарговая задача пролетарыяту і ўсіх працоўных. Рашучыя клясавыя бойкі ўпарта набліжаюцца. У гэтых бойках соцыял-фашыстыя, бясспрэчна, будуць адыгрываць першаступенную ролю. На іх плечы цяперака перакладваецца абарона капіталістычнае эксплёатацыі, гэта яна цяперака благаслаўляе буржуазію на ліквідацыю рэволюцыйнага руху, гэта соцыялдэмократыя розных колераў ня менш, чым уся кляса капіталістых зацікаўлена ва ўтварэньні дыктатуры, якая ў паасобных краінах можа быць часова выражана ў соцыял-фашыстоўскай дыктатуры.

Здарэньні апошніх год і, асабліва, апошняга часу паказалі, што „*гэтая дыктатура*“, як яе ахарактарызаваў тав. Тэльман на XII зьезьдзе нямецкай компартыі,—*будзе дыктатураю супроць рабочае клясы, дыктатураю самае рэзкае экономічнае і політычнае рэакцыі.* Ад буржуазнае дэмократыі яна будзе адрозьнівацца тым, што пусьціць у ход супроць пролетарыяту значна больш лютыя мэтоды“.

Але гэтыя-ж мэтоды расьсеюць апошнія рэшткі ілюзій і дапамогуць канчаткова разабрацца рабочым у сутнасьці соцыял-фашызму. Пасьля гэтага пачнецца новы акт гісторыі: рабочая кляса скіне навязаную яму дыктатуру і на яе месца паставіць сваю пролетарскую дзяржаву.

## 2. Ад ліпнёўскіх здарэньняў да фашыстоўскага перавароту ў Аўстрыі

„Аўстрыйскі фашызм настолькі-ж разностайны, наколькі і відазьменлівы“—заяўляў Карл Гэйнц яшчэ задоўга да венскіх здарэньняў 1927 г. З гэтым можна зусім згадзіцца, бо за апошнія гады аўстрыяцкі фашызм выявіў сябе сапраўды вельмі многагранна. Але Гэйнц, як і іншыя аўстрамарксыстыя, не заўважыў аднае вельмі істотнае грані ў разьвіцьці сучаснага фашызму. Ён не заўважыў таго, што сучасны фашызм усё больш і больш зрастаецца з міжнароднай соцыял-дэмократыяй.

Некалькі год таму назад аўстрыйскі фашызм знаходзіўся ў стадыі першапачатковага накапленьня сіл. У 1927 г. ён ужо настолькі ўзмацніўся і консолідаваўся ў грозную сілу, што адчынена пачаў рыхтавацца да дзяржаўнага перавароту [1]).

Прыдушэньне ліпнёўскага паўстаньня 1927 г. у Вене разьвязала буржуазіі рукі і Аўстрыя хуткімі крокамі накіроўваецца ў лягер адкрытай фашыстоўскай дыктатуры.

Буржуазія пачала інтэнсыўна ўзбройвацца. Яна прадубачыла ўсе магчымасьці і таму асабліва ўзялася за організацыю так званых „хэймвэраў“—фашыстоўскіх саюзаў абароны.

---

1) Гл. мой артыкул у „Бальшавік Беларусі“ № 1—1928 г. *М. К.*

Трэба адзначыць, што разьвіцьцю гэтага хэймвэрскага руху дапамагалі і дапамагаюць дэмагагічныя абяцаньні ўраду, які пужае буржуазію і дробную буржуазію рознымі страхамі надыходзячай рэволюцыі. Паміж іншым, у справе організацыі сваіх атрадаў, фашыстоўская буржуазія скарыстала і моцнае аб'яднаньне шырокіх рабочых мас, прыцягваючы на свой бок рознымі абяцаньнямі і больш адсталыя рабочыя групы.

У сучасны момант гэтая організаваная фашыстоўская армія налічвае ў сваіх шэрагах каля 100.000 чалавек. Зусім зразумела, што ўрад і фінансавы капітал ня скупіцца ў сродках дзеля ўзбраеньня свае надзейнае апоры. Гэтыя атрады, якія накіроўваюцца рукою аўстрыйскае буржуазіі, у апошнія два гады праявілі вельмі вялікую актыўнасьць у замацаваньні позыцый буржуазіі і фашызацыі краіны. Прычынаю гэтага наступальнага процэсу капіталу зьяўляецца экономічны крызіс, які ўсё, працягваючыся і абвастраючыся, выклікае моцнае беспрацоўе, дарагоўлю і шэраг іншых цяжкасьцяй, што вельмі кладуцца на плечы рабочае клясы. Гэта становішча прывяло да выбуху. Буржуазія перайшла адкрыта ў наступленьне на рабочую клясу. Але з другога боку рабочая кляса таксама рыхтавалася да контрнаступленьня. І гэтая падрыхтоўка ішла далёка праз голавы правадыроў аўстрыйскае соцыял-дэмократыі, яе буржуазнае верхавіны.

Шэраг выступленьняў рабочае клясы Аўстрыі паказвае, што яна перайшла ў сур'ёзнае наступленьне. Пра гэта могуць сьведчыць здарэньні 7-га кастрычніка 1928 году, гэта-ж пацьвярджаюць і бойкі ў сакавіку 1929 г., а таксама і рэволюцыйныя сутычкі на вуліцах Санкт-Пельтэні 4 і 5 мая 1930 г.

У адказ на гэтае наступленьне буржуазія высоўвае програму рашучае фашызацыі краіны. На парадак дню становіцца пытаньне аб паходзе на Вену ўзброеных хэймвэраў і ўтварэньні моцнага ўраду, ураду „парадку“.

У парадку дню была пастаўлена таксама грунтоўная замена канстытуцыі і замена яе адкрытаю фашыстоўскаю дыктатураю.

Адбываецца імпэтная консолідацыя ўсіх буржуазных сіл, заявіўшых аб сваёй згодзе ўвайсьці ў „хэймвэр“ і цалкам прыняўшых фашыстоўскую програму. Адначасова з гэтаю ўзмоцненаю падрыхтоўкаю фашыстоўскага перавароту, буржуазія падае свайго рода ультыматум соцыял-дэмократыі, у якім ставіцца пэўная альтэрнатыва—безагаворачна прыняць фашыстоўскую „рэформу“, альбо фашыстоўскі пераварот з усімі выцякаючымі адсюль для парляманцкай дэмократыі вынікамі. Што засталося рабіць парляманцкай меншасьці—соцыял-дэмократыі?

Напэўна, згадзіцца на ўстанаўленьне фашыстоўскай дыктатуры „конституцыйным“, „праўным“ і парляманцкім шляхам. Гэта, так сказаць, утварае для яе мажлівасьць формальна заставацца ў „опозыцыі“ і, жанглюючы на палітычнай арэне, рабіць ілюзію ратаваньня ёю краіны і рабочых ад дзяржаўнага перавароту.

Але ў той самы час, што і ўласьціва соцыял-дэмократам, лідэры аўстрыйскай соцыял-дэмократыі ня толькі падрыхтоўвалі масы да супору насоўваючайся фашыстоўскай небясьпекі, але вельмі фальшыва заклікалі рабочую клясу да супакою.

Калі ўжо было відаць, што фашызм узмацняецца на занятых пры дапамозе соцыял-дэмократыі позыцыях, апошняя было загаварыла для адводу вачэй пра абарону констытуцыі шляхам барацьбы. Але гэтая-ж соцыял-дэмократыя заклікала пакідаць бяз увагі выступленьне хэймвэра 29 верасьня 1929 году. Гэты дзень, як вядома, зьявіўся днём афіцыяльнага зацьверджаньня фашыстоўскай дыктатуры ў Аўстрыі.

Адстаўка ўраду Зэйпэля і прыход да ўлады былога паліцэйпрэзідэнта гор. Вены і ката 15 ліпеня 1927 г.—Шобэра таксама была скарыстана аўстра-марксыстымі ў мэтах заспакоеньня шырокіх працоўных мас. Утварэньне гэтага ўраду было спаткана ўзьнёслымі прывітаньнямі з боку соцыял-дэмократычнага друку. Соцыял-дэмократычныя правадыры гаварылі аб тым, што ўрад Шобэра нясе заспакаеньне, палепшаньне становішча ў краіне, ратаваньне парляманцкай дэмократыі ад фашыстоўскага пасяганьня.

Соцыял-дэмократычны друк з захапленьнем гаварыў пра Шобэра, як пра „адзінага чалавека, адпаведнага для заняцьця пасады канцлера, і які стаіць на грунце закону“.

Надзвычайнае падабенства да таго, што гаварылася з прычыны прыходу да ўлады Шобэра правадырамі фашыстоўскіх хэймвэраў.

Так, напрыклад, Штэйдле і Пфрымер з прычыны ўрадавае дэкларацыі Шобэра ў дзень 29-га верасьня заявілі аб тым, што яны таксама моцна стаяць за новы ўрад, што гэта іх урад, гатовы выканаць праграму палітыкі хэймвэра.

Яны нават гатовы абараняць яго, у выпадку патрэбы, са зброяю ў руках.

Такое шчыльнае яднаньне хэймвэра з соцыял-дэмократычнымі правадырамі не магло ня выклікаць абурэньня сярод рабочых мас.

Кожны дзень даваў усё новыя довады няпрыкрытага падзелу працы і супрацоўніцтва, якія ўстанавіліся паміж фашызмам і соцыял-дэмократамі. Соцыял-фашыстоўскі твар апошніх усё больш выкрываўся.

Адбываўшыяся ў той час пад кіраўніцтвам аўстрыйскай комуністычнай партыі масавыя вулічныя дэмонстрацыі паказалі, што рэволюцыйная рабочая кляса ня спыніць у далейшым свае барацьбы супроць фашыстоўскай дзяржавы. Але тутака-ж яшчэ раз соцыял-дэмократыя праявіла рашучы супор справе мобілізацыі рабочых мас супроць фашыстоўскай небясьпекі. Соцыял-дэмократыя была вельмі ўдзячнай ураду за „легальныя“ мэтоды ўвядзеньня фашызму і ў сувязі з гэтым заклікала рабочых падтрымаць „легальныя“ мэтоды барацьбы і ні ў якім разе ня выходзіць з рамак гэтай „легальнасьці“, каб не „распаліць“ грамадзянскай вайны. Гэтая капітуляцыя соцыял-дэмократыі перад фашызмам па ўсёй лініі

пераводзіць яе цалкам у соцыял-фашыстоўскую партыю, накіраваўшую сваю зброю ня супроць фашыстоўскага тэрору, а супроць нарастаючай грамадзянскай вайны ў Аўстрыі.

На адратаваньне аўстрыяцкіх соцыял-фашыстых прыходзяць „левыя" са сваею „рэволюцыйнаю" фразэолёгіяю.

Так, П. Леві ў артыкуле „Аўстрыйская трагэдыя" заключае, што „цяперака ўжо ня варта зачыняць вочы на тое, што... у Аўстрыі суаднosiны сіл устанавіліся не на карысьць соцыял-дэмократыі... Урад Шобэра азначае паражэньне соцыял-дэмократыі" [1]).

Аўтар не задаволены прызнаньнем Шобэрам „констытуцыйных" мэтодаў барацьбы.—„Як можа вінавайца ліпнёўскіх здарэньняў клясьціся ў замілаваньні да рэспублікі,—выкліквае „гнеўна" аўтар,—бо Шобэр-жа зьяўляецца адказным за крывавыя эксцэсы 1927 г.

Тутака гэты „левы" рэнэгат з рэнэгатаў хоча скінуць усю віну на Шобэра і адвесьці ўвагі рабочае клясы ад здрадніцкае ролі соцыял-дэмократыі ў гэтыя дні.

Перамога буржуазіі тлумачыцца аслабленьнем соцыял-дэмократыі, у адваротным выпадку апошняя „ніколі не пацярпела-б міністэрства Шобэра, будзь яна (соцыял-дэмократыя—*М. К.*) хаця-б, напрыклад, такою моцнаю, як 3-4 гады назад" [2]).

Леві ня хоча і ня можа прызнацца ў тым, што соцыял-дэмократыя за гэтыя 3-4 гады прайшла шэраг этапаў свайго перараджэньня ў соцыял-фашызм, а ў некаторых выпадках поўнасьцю пераняла фашыстоўскія мэтоды.

Але Леві ад такога звароту рэчаў настрою свайго ня траціць. Ён лічыць, што ў краіне, дзё „рабочая кляса вельмі організавана, дзе комуністыя не зьяўляюцца ніякая сілаю, дзе марксызм—няхай аўстра, а ўсё-ж такі марксызм—распрацован вельмі грунтоўна, перамога павінна надыйсьці. Трэба толькі знайсьці прычыну гэтага часовага замяшаньня і няўдачы".

У чым-жа, на думку Леві, заключаецца прычына гэтай няўдачы? Аказваецца ў тым, што соцыял-дэмократыя надта моцна наступала". Гэта трэба разумець так, што рабочай клясе трэба было і трэба трымаць сябе больш прыміральна ў адносінах да буржуазіі. Гэта значыць на мове рэнэгата, што 800.000 венскіх рабочых, што складаюць аснову аўстрыйскага пролетарыяту, могуць яшчэ „паправіць" становішча тым, што яны згодзяцца мірным шляхам уступіць Шобэру і спыненьне гэтага наступленьня залежыць ад яго. „Левы" соцыял-фашыст не дапушчае магчымасьці прыпыненьня гэтага наступленьня з боку рабочае клясы; ён выключае магчымасьць контр-наступленьня організаванага аўстрыйскага про-

[1]) „Der Klassenkampf" № 19—1929 г. Стар. 581.

[2]) Тамсама. Стар. 581.

летарыяту. П. Леві мысьліць, што „дысцыплінаванасьць венскіх рабочых, іх загартаванасьць падскажа ім шляхі да вырашэньня стварыўшагася становішча“ [1]).

І толькі. Ну, а калі венскія рабочыя выйдуць з-падпарадкаваньня сваім соцыял-фашыстоўскім правадыром,—што тады рабіць? На гэтае пытаньне, якое застаецца адкрытым, дае адказ другі „левы“—Макс Адлер. Ён, прадчуваючы абвінавачаньне аўстра-марксыстых і „левых“ ва ўстрымцы рэволюцыйных сіл пролетарыяту і ў здрадзе інтарэсаў рэволюцыі, папярэджвае сваіх апанэнтаў і кажа:

„Могуць знайсьціся крытыкі, якія, бачачы наступленьне капітала і консолідацыю фашыстоўскіх сіл у Аўстрыі, скажуць: вось вам вынікі затрымкі рэволюцыйнай энэргіі рабочае клясы, вось вам трагэдыя аўстрамарксызму. Але так гаварыць,—кажа далей аўтар,—гэта толькі паўтарэньне бяссэнсоўнага абвінавачньня з боку буржуазіі... гэта сьмешнае сьцьвярджэньне і з боку комуністых...“

Адлер ня згодзен, што соцыял-дэмократыя пакідае дэмократычны шлях дасягненьня соцыялізму. „*Таму*,—кажа ён,—*мы так рашуча змагаемся з комуністымі, бо мы ня згодны з іх тактыкаю і мысьлім, што ў Сярэдняй і Заходняй Эўропе прымусовы скід капіталістычнага сьвету абсолютна няпрыймальны*“ [2]).

О, спрытнасьць і бессаромнае глыбокадум'е! „Левыя“ гора-марксыстыя хочуць абмыць рукі ў здрадзе, што адбываецца і яшчэ раз засьведчыць свае міралюбівыя настроі да разъюшанай буржуазіі.

З другога боку, такою ўстаноўкаю „левыя“ ўхваляюць дзеяньні соцыял-фашыстых, якія шляхам заховы дэмократыі нібы захоўваюць сілы рабочае клясы. Якая справа соцыял-фашыстым розных колераў да таго, што аўстрыйскаму пролетарыяту пагражае голад, што заработная плата рабочых вельмі нізкая, што за кошт рабочае клясы свойская буржуазія праводзіць капіталістычную рацыяналізацыю.

Аўстрыйская соцыял-дэмократыя ня вельмі непакоіцца тою акалічнасьцю, што фашыстыя ўжо пранікл і ў прадпрыемствы і адчынена разбураюць нават сучасныя рэформістаўскія, згодніцкія профсаюзы.

Асабліва свой соцыял-дэмократычны твар аўстрыйская соцыял-дэмократыя паказала ў дні прыходу да ўлады ўраду Шобэра, калі рабочыя ва многіх мясцох Аўстрыі дэманстравалі сваё абурэньне. У гэтыя дні соцыял-дэмократычны шуцбунд выступаў разам з хэймвэрам супроць дэмонстрантаў, біў іх, дапамагаў жандарам і паліцыі арыштоўваць рабочых і праявіў узмоцненую ініцыятыву ў справе арышту комуністых. Застаючыся лёгічнымі да канца, соцыял-фашыстыя падтрымліваюць Шобэра ў ажыцьяўленьні ім спробы зьнішчэньня экономічнага і політычнага крызысу, а таксама згадзіліся прыняць правадзімую фашызацыю

[1]) Тамсама. Стар. 582.

[2]) „Der Klassenkampf“ № 20—1929 г. Стар. 631.

аўстрыйскай констытуцыі. Новая „констытуцыйная рэформа“, праведзеная ў пачатку студзеня 1929 г., зьяўляецца компромісам паміж буйнай буржуазіяй і соцыял-дэмократамі. У той самы час яна зьяўляецца выкананьнем програмы сучаснага фашызму: паступовае зьнішчэньне парлямантарызму, парляманцкай рэспублікі. Гэтым актам буржуазная дэмократыя зводзіцца са сцэны. Паводле заявы самога Шобэра „чыста парляманцкая“ рэспубліка перарабілася ў „рэспубліку прэзыдэнцкую“. Такім чынам, ідэя народнага прадстаўніцтва, гэта аджыўшая свой век бабка, здаецца ў архіў, і на сцэну зьяўляецца фактычнае ўзмацненьне выканаўчай улады, у руках якой будзе сконцэнтравана ўся ўлада дзяржавы. Ідэя перавагі выканаўчае ўлады над законадаўчай, гэта агульная тэндэнцыя сучаснай буйнай буржуазіі і фашызму.

Але характэрней за ўсё тое, што на скасаваньне існаваўшай буржуазнай дэмократыі дала згоду соцыял-дэмократыя. Гэта яшчэ раз сьведчыць аб яе соцыял-фашыстоўскай ролі. Цікава адзначыць, што ў выпрацоўцы новай фашыстоўскай констытуцыі актыўнейшы ўдзел браў адзін з віднейшых аўстра-марксыстых Даннэнбэрг. З чаго-ж у асноўным складаецца гэтая „рэформа“?

Аўстрыйскаму прэзыдэнту надаюцца дыктатарскія паўнамоцтвы. Яму даецца права выдаваць выключныя законы. Калі ўзяць пад увагу, што на далей урад павінен залежаць выключна ад прэзыдэнта, то наяўнасьць гэтых паўнамоцтваў азначае поўную ліквідацыю парлямантарызму. Прэзыдэнт ад гэтага часу павінен выбірацца ўсім насельніцтвам, якое мае права голасу. Яму-ж даецца права распушчаць парлямант. Значна мяняюцца ўзаемаадносіны паміж цэнтральнаю і мясцовымі ўладамі. Усе паліцэйскія функцыі і адміністрацыйная ўлада концэнтруюцца ў руках цэнтральнае ўлады. Разам з гэтым Вена пазбаўляецца свайго становішча самакіруючайся саюзнай дзяржавы.

Тутака паказаны толькі коратка асноўныя моманты „констытуцыйнай рэформы“ [1]). Але ўжо названыя зьмены паказваюць яе фашыстоўскую сутнасьць. Прыняўшы новую констытуцыю, аўстрыйская соцыял-дэмократыя гэтым самым узяла на сябе задачу абароны ідэі агульнасьці інтарэсаў свае нацыянальнае дзяржавы і ў далейшым павінна будзе высунуць думку аб організацыі „корпорацыйнае“ дзяржавы. Яблыка ад яблыні далёка ня падае.

Але зусім відавочна, што пытаньне аб уладзе будзе вырашацца не паводле новай констытуцыі. У Аўстрыі ў сучасны момант востра стаіць пытаньне „дыктатура фашызму альбо дыктатура пролетарыяту“. Вырашэньнем гэтага пытаньня займецца рабочая кляса не ў парляманце і не праз выбарчы бюлетэнь, а пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі шляхам рэволюцыйнага паўстаньня супроць фашыстоўскай дыктатуры.

---

[1]) Больш падрабязны аналіз фашызаванай аўстрыйскай констытуцыі будзе дадзены ў спэцыяльным артыкуле *(М. К.)*.

Адбываючаяся фашызацыя Аўстрыі бясспрэчна мае вялікае міжнароднае значэньне. Ня гледзячы на шэраг супярэчаньняў паміж Аўстрыяй і суседнімі з ёй краінамі, апошнія ўсё-ж такі гатовы яе падтрымаць. Перш за ўсё ў разьвіваючымся аўстрыйскім фашызьме яго нямецкі брацанік бачыць моцную для сябе базу, пра што ўжо ня раз у апошнія часы заяўляў „Сталёвы шлем“. Такія-ж шчыльныя і інтымныя сувязі існуюць паміж аўстрыйскімі і нямецкімі соцыял-фашыстымі. Апошнія часы даюць прыклад збліжэньня італьянскага фашызму з аўстрыйскім. Нядаўна Шобэр заявіў у сваёй дэклярацыі, што італьянскі ўрад Муссоліні даў Аўстрыі довад свае солідарнасьці. Ня гледзячы на тое, што паміж гэтымі краінамі яшчэ з вясны 1928 году існуе конфлікт у сувязі з прыгнечаньнем нямецкага насельніцтва Паўднёвага Тыроля, адыйшоўшага да Італіі, Муссоліні працягвае руку дапамогі свайму былому ворагу.

Гэты паварот у бок Італіі павінен выклікаць і некаторыя зьмены ў політыцы цэнтральных дзяржаў, бо трэба ўлічыць наяўнасьць супярэчаньняў італьянскага і францускага імпэрыялізму. У такіх самых прыязьненых адносінах Аўстрыя знаходзіцца з Вэнгрыяй. У апошнія часы значна зьмяніліся адносіны і Малое Антанты. Усё гэта дае права гаварыць аб консолідацыі рэакцыйных сіл супроць нарастаючай рэволюцыі з аднаго боку і аб організацыі надзейнага блёку фашызму супроць Савецкага Саюзу—з другога.

### 3. На шляхох ліквідацыі буржуазнай дэмократыі ў Нямеччыне

Калі пасьля вайны ў Нямеччыне ўтварыўся сучасны касьцяк нямецкіх фашыстых—саюз франтавікоў, прыняўшы пазьней назву „Сталёвы шлем“, то яго кіраўнікі яшчэ не гаварылі пра зьнішчэньне дэмократыі. Гэта рабілася зусім сьвядома. Трэба было ўцягнуць мажліва больш людзей у сваю організацыю, падлічаючы нездаволенасьць шырокіх мас працоўных склаўшымся цяжкім становішчам. Пасьледаваўшая рэволюцыя, якая ўстанавіла буржуазна-дэмократычную рэспубліку, асабліва падкрэсьліла для рэакцыйнай буржуазіі патрэбу часова адмовіцца ад заклікаў да ліквідацыі існуючай дзяржаўнай формы. Але ўжо хутка „Сталёвы шлем“ пачынае выступаць са сваімі асноўнымі політычнымі запатрабаваньнямі, якія зводзяцца да наступнага: „адхіліць рэспубліканскую форму кіраўніцтва і на яе месца ўтварыць нацыянальную дыктатуру“.

Разам з гэтым пачынаецца пропаганда ўтварэньня моцнай улады, для чаго ў першую чаргу ўзмацніць уладу прэзыдэнта. Гэта патрабаваньне як нельга лепей адпавядае тэндэнцыі буйнага капіталу. Усё цэнтралізаваць, усё концэнтраваць, утварыць моцны кулак, які-б здолеў раскрышыць чэрап рэволюцыйнаму руху і паставіць на каленкі парлямантарную сыстэму. Нямецкія нацыяналістыя, нездаволеныя існуючым коаліцыйным урадам, вялі шалёную атаку на компромісную Вэймарскую конституцыю,

стараючыся ўсімі спосабамі скомпромэтаваць нямецкую „чыстую дэмократыю“. Падрыхтоўка нямецкіх фашыстых розных толкаў да перавароту ішло вельмі ўпарта. Ужо чуліся галасы, якія паказалі нават прыблізны тэрмін устанаўленьня фашыстоўскай дыктатуры. Гранічным тэрмінам перавароту меркавалася вясна 1930 году, калі абавязкова коаліцыя павінна была сама сябе зжыць. „Тады,—кажа адзін з правадыроў нямецкіх нацыяналістых,—прыдзе гістарычны момант, калі нацыянальная опозыцыя, нарэшце, здолее давесьці, што не палавінчатасьць і ня згоднiцтва нам патрэбны, а адратаваць становішча можа толькі *поўнае зьнішчэньне існуючай сыстэмы* [1]). А дзеля гэтага трэба ўтварыць такі ўрад, які-б здолеў гэтую дырэктыву ажыцьцявіць“ [2]).

Больш празрыста і сказаць было нельга. У гэтых словах адбіты ўсе настроі сучаснага фашызму.

У сучаснай Нямеччыне, дзе клясавыя бойкі надмерна абвастрыліся, дзе рэволюцыйны рух нарастае з дзіўнаю хуткасьцю, дзе ўсё вастрэй становіцца пытаньне аб уладзе, дзе рабочыя масы ўсё часьцей і часьцей выкідваюць лёзунгі аб Савецкай Нямеччыне, капіталізм ня можа не адчуваць набліжэньня свае пагібелі, і таму буйная буржуазія і ўсе, хто гэтую сыстэму падтрымлівае, так настойліва і імпэтна—патрабуюць утварэньня такое сыстэмы дзяржаўнага кіраўніцтва, якая-б магла, па прыкладу Італіі, хаця-б часова ўтапіць у крыві рабочых нарастаючую рэволюцыю і часова затрымаць сваю пагібель.

У справе консолідацыі фашыстоўскіх сіл і арганізацыі для сябе надзейнай апоры, буржуазія ўскладае вялікія надзеі на нямецкі рэйхсвэр. Ён павінен у свой час адыграць ролю аўстрыйскіх хэймвэраў і італьянскіх „чорных сарочак“. Прымаюцца ўсе захады, каб у шэрагу рэйхсвэру ўліць самыя чорнасоценныя і рэакцыйныя элемэнты, забясьпечыць іх надзейнымі камандзірамі з гіндэбургаўскай арміі. Усякая спроба „дэмократызаваць“ рэйхсвэр разглядаецца як тэндэнцыя разлажэньня дысцыпліны нямецкай арміі. Гэтае ператварэньне рэйхсвэра ў дапаможную фашызму арганізацыю ў апошнія часы фальшыва бярэцца пад абстрэл нямецкімі соцыял-дэмократамі. Але ім прыходзіцца прызнавацца ў сваёй слабасьці і таму завуць рабочых уступаць у „рэйхсбаннэр“, якія таксама паказалі сябе гатовымі абараняць капіталістычную сыстэму. Нямецкія соцыял-фашыстыя сваім удзелам ва ўрадзе, прыняцьцем новага закону аб „абароне рэспублікі“ і выкананьнем дырэктыў політыкі буйнага капіталу цалкам і поўнасьцю солідарызуюцца з наступленьнем фашыстоўскіх элемэнтаў. Соцыял-дэмократызму ня менш важна, чымся буйнаму капіталу, разлажыць і разьбіць рэволюцыйны рух пролетарыяту. Гэтым, паміж іншым, можна вытлумачыць падтрымку ваеннага міністэрства ў яго дзейнасьці па ўзмацненьні рэйхсвэра, як міліцыі буржуазіі.

[1]) Як вядома, часткова гэта прараканьне збылося. Габінэт Брюньнінга пасьля ліквідацыі ўраду „вялікай коаліцыі“ нядрэнна выконвае соцыяльны заказ нямецкага фашызму.

[2]) „Der Kampf“ № 11—1929 г. Стар. 489.

Нядаўна адна з фашыстоўскіх груповак у Нямеччыне вельмі пэўна накрэсьліла праграму дыктатуры, дзе належная і вельмі адказная роля адведзена рэйхсвэру. Лідэр „ландбунду“ (саюз буйных зямельных уласьнікаў) у адным лісьце да свайго калегі паказвае на тое, што „*ў сучасны момант абсолютная манархія немагчыма, бо яна ня можа высунуць кіраўніка, які быў-бы здольны павесьці да дыктатуры. Але манархія, дзе побач з каралём стаіць лепшая галава дзяржавы ў якасьці дыктатара, такая манархія была-б самай пажаданай... Час для гэтага ўжо пасьпеў*. Сучасны ўрад і кіруючыя дзяржаўныя фігуры ня маюць сілы, каб гэтага дабіцца [1]). Патрэбныя для гэтага мерапрыемствы ні ў якай меры ня могуць быць зьвязаны ні з існуючай канстытуцыяй, ні з парлямантам. *Гэта можа зрабіць толькі дыктатура.* Гэтага дыктатара можа высунуць *толькі рэйхсвэр*“ [2]).

Комэнтарыі нэпатрэбны. Праз галавы соцыял-фашыстых махровыя нацыяналістыя і рэакцыянэры сказалі праўду. Такім чынам ваенная праграма фашызму ўнутры краіны зусім адпавядае такой самай праграме і соцыял-дэмократыі. Ваенныя крэдыты, прапанаваныя коаліцыйным урадам і зацьверджаныя парлямантам—гэта вельмі моцнае сьцісканьне рукі ня толькі нямецкім імпэрыялістым, але і выкананьне праграмы па аднаўленьні парадку ў краіне. Гэтае патрабаваньне парадку імпонуе і „левай“ соцыял-дэмократыі, якая дабіваецца захаваньня сухаземнай арміі гіндэнбургаўскай рэспублікі „дзеля абароны самавызначэньня яе народу“.

„Левая“ соцыял-дэмократыя, праўда, патрабуе апроч таго ў сваёй ваеннай праграме парляманцкага контролю над рэйхсвэрам, дэмократызацыі арміі і інш. Але ўсе гэтыя прыгожыя сказы і левыя загібы левага крыла соцыял-фашызму разьлічаны на танны эфэкт. Усякі зразумее, што гэта за „абарона самавызначэньня нямецкага народу“. Гэта перш за ўсё ўзмацненьне буржуазна-дэмократычнай рэспублікі шляхам прыдушэньня нарастаючай рэволюцыйнай хвалі. Гаворачы пра абарону краіны, і правыя і „левыя“ соцыял-дэмократы перш за ўсё думаюць пра абарону свае буржуазнае бацькаўшчыны супроць бальшавіцкай заразы—СССР. Гэтым самым соцыял-фашыстыя сваёю практычнай палітыкай давялі буржуазіі, што яны зьяўляюцца ня менш надзейнымі барацьбітамі з рэволюцыйным пролетарыятам, чымся буржуазныя фашыстыя. Гэта сьцьвярджаюць бойкі на вуліцах Франкфурту—на Майне, Лейпцыгу і інш. гарадох, што адбываліся ў 1929 і 1930 г. г. Пра гэта яшчэ раз сьведчыць і „перамога“ германскай коаліцыі ў рэйхстазе па пытаньні аб фінансавым пляне, паданым у свой час с.-д. *Гільфэрдынгам.*

Трэстаўскі капітал у асобе соцыял-дэмократыі знайшоў адданага выканаўцу свайго соцыяльнага заказу. Цяперака ён (капітал) можа ўжо ўтвараць конкрэтныя ўмовы для адкрытай дыктатуры. Соцыял-дэмо-

[1]) Гаворыцца аб коаліцыйным урадзе. *М. К.*

[2]) „Der Kampf“ № 11—1929 г. Стар. 492.

краты дапамаглі буржуазіі ажыцьцявіць плян *Юнга*, пералажыць на плечы працоўных падатковыя цяжкасьці, пасьля чаго трэстаўскаму капіталу заставалася ўжо проста падаць ультыматум соцыял-дэмакратыі, як гэта было зроблена і ў Аўстрыі, і буйны капітал, пэрсоніфікаваны ў асобе *Гугэнбэрга*, узяўся сам за аднаўленьне краіны. Соцыял-фашыстоўскім псам пакуль што выпадае на долю ў няпрыкрытай злобе накідвацца на рэволюцыйных рабочых і гэтым апраўдваць давер'е буржуазіі. Што трэстаўскі капітал ня думаў спыняцца на паўдарозе і ня зьбіраўся здымаць пытаньня аб поўнай фашызацыі Нямеччыны, пры ласкавым удзеле соцыял-дэмократыі, відаць хоць-бы з наступнага факту. У аднэй з сваіх заяў за некалькі месяцаў да падзеньня „вялікай коаліцыі" новы міністр чужаземных спраў *Курцыус* выказаў думку аб тым, што коаліцыйны габінэт *Мюльлера* галоўным чынам быў утвораны для таго, каб дабіцца больш гібкага і небалючага перагляду пляну *Даўэса* і эвакуацыі Рэйнскай вобласьці. Сапраўды, *Мюльлер* паказаў, што соцыял-дэмократы ўмеюць дагаварвацца з імпэрыялістымі Антанты, што з апошняю ў яго (Мюльлера) можа быць супольная мова.

У той час, калі правыя соцыял-дэмократы адкрыта рыхтуюць пятлю для рабочае клясы, „левыя" фразісты шумяць аб фашыстоўскай небясьпецы ў краіне, заклікаюць да „дбайнасаці і разважнасьці".

Так, у „Кляссэнкампфе" за 1 лістапада 1929 г. *Макс Адлер* навучае нямецкіх рабочых „рэволюцыйным" мэтодам барацьбы з буржуазнадэмократычнай рэспублікай і з разьвіваючымся фашызмам. Факт сьвяткаваньня 9-га лістапада (дзень констытуцыі) аўтарам прыводзіцца, як асноўнае зьвяно, за якое пролетарыят Нямеччыны павінен ухапіцца для вырашэньня вельмі паважных палітычных проблем. Вось якая практыка „рэволюцыйнага" марксызму павінна быць здабыта з гэтага здарэньня.

*Адлер* не разглядае „ўстанаўленьне дэмократычнай рэспублікі як паваротны пункт у клясавай барацьбе і пачатак новай эры мірнага парляманцкага разьвіцця ў бок народнае дзяржавы,—гэта толькі дзіцячы оптымізм" [1]).

Таму, мысьліць аўтар, няма асобных даных, каб 9-га лістапада ў пролетарыята быў асабліва ўрачысты настрой, аднак у гэты дзень соцыялістычны пролетарыят усё-ж такі павінен сьвяткаваць.

„Гэта перш за ўсё дзень утварэньня *дэмократычнай* рэспублікі. (Заўважце, чытач, дэмократычнай, а не якой-небудзь іншай. *М. К.*). І таму гэты дзень зьяўляецца вялікім *нацыянальным сьвятам*, бо 9 лістапад ажыцьцявіў палітычныя ідэалы і імкненьні да вольнасьці ў эпоху аб'яднаньня Нямеччыны ў *нацыянальную дзяржаву*" [2]).

Аддаўшы дань эпосе разьвіцьця буржуазнай дэмократыі, аўтар заўважвае, што цяперака толькі пачынаецца „перманентная рэволю-

[1]) „Der Klassenkampf" № 21—1929 г. Стар. 645.

[2]) „Der Klassenkampf" № 21—1929 г. Стар. 647.

цыя“, якая павінна зьявіцца (разумеецца, у рамках буржуазнай дэмократыі“. *М. К.*)—„духоўнай, моральнай і організатарскай школаю і падрыхтоўкай для ўтварэньня соцыялістычнай грамады. Пачаткам гэтае справы зьяўляецца 9 лістапада“ [1]).

Якія-ж вывады *Адлера*?

Вельмі і вельмі паказальныя для соцыял-фашыстага „левага“ погляду. Паслухайце толькі. „*Сапраўдная перамога пролетарыяту... мажліва толькі* зацьверджаньнем *соцыяльнай дэмократыі*, шляхам перамогі клясавае дзяржавы і капіталістычнае грамады. Але, кажа далей аўтар, — *рабочая кляса сёньня павінна яшчэ заставацца абаронцаю буржуазнай дэмократыі*“ [2]). (Курсыў мой. *М. К.*).

Зьдзіўлены чытач можа задаць пытаньне, чаму якраз „абаронцаю *буржуазнай* дэмократыі“? Рэч простая чаму. Справа ў тым, што на буржуазную дэмократыю наступае фашызм і таму пролетарыят абавязан, змагаючыся супроць фашызму, абараняць хаця-б некаторую бачнасьць дэмократыі, няхай сабе і буржуазную. *Адлер* лічыць усякі напад на гэтую рэспубліку ў першую чаргу нападам на пролетарыят, таму трэба змагацца ня супроць фашызму, а за захаваньне існуючага дзяржаўнага ладу.

Яшчэ далей ідзе *Паўль Леві*. Падводзячы ітогі комунальным выбарам, ён знаходзіць, што пераход значнае колькасьці галасоў да нацыянал-соцыялістых, г. ё. да фашыстых гітлераўскага погляду, не зьяўляецца вялікаю бядою, бо яны, нацыянал-соцыялістыя, усё-ж апэлююць да соцыяльнага, да клясавага пачуцьця рабочых і адрываюць частку незадаволеных ад правых партый [3]). *Леві* рад таму, што павялічваюцца шэрагі нацыянал-фашыстых за кошт комуністых. Вось да чаго могуць дадумацца рэнэгаты.

Такое шчыльнае яднаньне „левага“ рэнэгата з яўнымі фашыстымі павінна разглядацца, як поўная капітуляцыя перад наступленьнем капітала, як няздольнасьць опэраваць ужо і рэволюцыйнаю фразэолёгіяю.

У асобе *Леві* пролетарыят можа прадбачыць пэрспэктывы разьвіцьця „левай“ соцыял-дэмократыі.

Апошняе выступленьне *Леві* зьяўляецца яўна соцыял-фашыстоўскім выступленьнем, якое паставіла ідэолёгію „левых“ побач з політыкаю буржуазнага фашызму.

Больш за ўсё свой сацыял-фашыстоўскі твар як правыя, так і левыя соцыял-дэмократы праявілі незадоўга да падзеньня „вялікае коаліцыі“ і пасьля гэтага.

Як вядома, 14 сьнежаня 1929 г. урад, тады яшчэ коаліцыйны, патрабаваў вотуму давер'я. Выказанае тады часовае давер'е паказала, што програма зьніжэньня падаткаў, якая палягчае становішча заможных і

[1]) Тамсама, стар. 647.
[2]) Тамсама, стар. 649.
[3]) „Der Klassenkampf“ № 23—1929 г., стар. 710.

пагаршае палажэньне працоўных, ухваляецца нямецкаю буржуазіяю, і што на гэтым этапе разьвіцьця соцыял-дэмократыя яшчэ можа быць скарыстана ў якасьці паслушнага падручнага.

Цікава адзначыць, што навакол гэтага выпадку быў падняты ў соцыял-дэмократычных колах досыць вялікі палітычны шум. Справа ў тым, што парляманцкая фракцыя соцыял-дэмократыі не згаджалася *з Мюльлерам і Гільфэрдынгам* па пытаньні прыняцьця новага фінансавага закону. Тады апошнія пачалі пужаць фракцыю ўрадавым крызысам, які можа выклікаць і іншыя непажаданыя зьявішчы ў краіне. Пры галасаваньні проекту ў парляманце за яго выказалася і фракцыя с.-д., апроч 22 устрымаўшыхся. „Левыя“ *Караль Бэхэль і Макс Зэйдэвіц* з гэтае прычыны абураюцца і дзівяцца, як маглі правадыры соцыял-дэмократыі „прыняць нязносныя для пролетарыяту законы аб падатках“. Але далей яны мяняюць гнеў на ласку і тлумачаць такое становішча тым, што падтрымка ўраду фракцыяю адбылася, відавочна, таму, што ў Нямеччыне разьвіваецца фашызм, супроць якога трэба концэнтраваць усе сілы дэмократыі, каб зжыць гэтую насоўваючуюся небясьпеку „соцыялістычнымі“ мэтодамі [1]).

Гульня ў „опозыцыю“ як раней устрымаўшайся с.-д. фракцыі парляманту, так і групы „левых“ зьяўляецца звычайным манэўрам соцыял-дэмократыі, які павінен паказаць яе імкненьне абараняць інтарэсы рабочае клясы. Але ў такіх выпадках заўсёды на сцэну выступае „цьвёрдасьць“ правадыроў, якія даводзяць патрэбу падтрыманьня іх палітыкі, і да пары ізноў устанаўляецца гармонічнае супрацоўніцтва і парляманкая падтрымка палітыкі „вялікай коаліцыі“. Гэтую „цьвёрдасьць“ нельга, разумеецца, назваць іначай, як чарговаю капітуляцыяю соцыял-дэмократыі перад сваімі панамі, у даным выпадку, перад дырэктарам дзяржаўнага банку *Шахтам* і перад буйнай банкаўскай і прамысловай буржуазіяй.

„Левыя“ разумеюць, што коаліцыйная палітыка, якая праводзілася, не імпонавала рабочай клясе, і таму, дзе толькі мажліва, заклікала сваіх прыяцеляў па партыі пакінуць коаліцыю. Гэта, па іх думцы, дало-б магчымасьць соцыял-дэмократыі большае вольнасьці манэўраваньня і заставацца на чале працоўных мас. У сваім захапленьні яны нават лапочуць нешта падобнае да праўды. Так, названы ўжо *Макс Зэйдэвіц*, у запале „выяўляльнага“ выпаду супроць „неразважных“ *Мюльлера і Гільфэрдынга* заўважвае, што далейшае знаходжаньне ў коаліцыі толькі дыскрэдытуе соцыял-дэмократыю і шкодзіць ёй і дапамагае разьвівацца фашызму [2]).

Але гэтая заклапочанасьць расшыфроўваецца на далейшых старонках. Аўтар, прадбачачы набліжаючаяся банкруцтва коаліцыі, асабліва пасьля выхаду Гільфэрдынга, хоча вырагаваць прэстыж соцыял-дэмократыі

[1]) „Der Klassenkampf“ № 2—1930 г. Стар. 36 і № 1—1930 г., стар. 3.

[2]) „Der Klassenkampf“ № 1—1930 г. Стар. 5.

ў цэлым, аўтарытэт якой становіцца на карту. Таму раіцца парляманцкай фракцыі, устрымаўшайся было пры абмеркаваньні ў сябе проекту закону аб падатках, стаць ізноў у самастойнае палажэньне, бо пасьля прыняцьця проекту яна ўжо не зьяўляецца зьвязанаю з програмаю яго выкананьня і таму можа быць зусім вольнаю ў сваіх дзеяньнях. Гэтаю нікчэмнасьцю і цынізмам „левыя“ хацелі нажыць сабе палітычны капітал. Але ніякая поза, ніякія ваяўнічыя мігі ў бок буржуазіі ня здолеюць закрыць здрадніцкага і соцыял-фашыстоўскага твару „левых“. Жадаючы „адкрычаць“ масы ад комуністычнага ўплыву, „левае“ крыло нямецкай соцыял-дэмократыі досыць „рашучым“ манэўрам ратавала правых ад буржуазнага абкружэньня, утвараючы адначасна гэтым уражаньне свае нібы рэволюцыйнасьці і вернасьці інтарэсам пролетарыяту.

„Левыя“ манэўры соцыял-фашызму зьяўляюцца рэакцыяю на паглыбленьне экономічнага крызысу ў краіне, на пад'ём рэволюцыйнага руху шырокіх рабочых пластоў, на рост комуністычнай партыі ў Нямеччыне.

Усё гэта выклікае патрэбу пераходзіць да комбінаваных мэтадаў нашчупваньня глебы і манэўраваньня. Маўклівая згода па асноўных пытаньнях абароны буржуазнае дзяржавы і ашукваньня рабочае клясы застаецца ў сіле і надалей, але перад асобаю нарастаючай рэволюцыйнай сітуацыі яна (с.-д.) праводзіць палітыку падзелу працы. Частка ўнутры коаліцыйнага ўраду „змагаецца“ за „палепшаньне“ становішча рабочае клясы, другая-ж частка аслабляе і адцягвае рэволюцыйнае абурэньне тактыкай „рэволюцыйных“ сказаў і гульнёю ў опозыцыю.

Але такое жонгляваньне рэч досыць цяжкая і доўга заставацца ў прынятай баявой позе немажліва нават практыкаванаму прэстыдыжытатару.

Баючыся, што яна ня справіцца з выкліканымі ёю духамі, „левыя“ с.-д. заклікаюць рабочых да змаганьня з наступаючым фашызмам на „дэмократычных асновах“. Апроч гэтага, ужо ў апошні час анёлам-ахоўцаю консолідуючагася фашызму абвяшчаецца прэзыдэнт Гіндэнбург. Гэтым хочуць змыць ганьбу простытуіруючай соцыял-дэмократыі.

Пасьля 21 месячнага знаходжаньня ва ўрадзе „вялікай коаліцыі“ соцыял-дэмократычныя міністры, на чале з старшынёю Германам Мюльлерам, прымушаны былі пакінуць габінэт.

„Вялікая коаліцыя“ звалілася і замест яе ўтварыўся правы габінэт Брюньнінга.

Чаму-ж звалілася і што значыць гэтае падзеньне коаліцыйнага ўраду?

Напэўна тутака павінна быць узята пад увагу не знадворная прычына да адстаўкі габінэту, выявіўшаяся ў „рознагалосьсях“ паміж соцыял-дэмократамі і народнаю партыяю па пытаньні аб разьмеры дапамогі беспрацоўным. У гэтай справе соцыял-фашызм досыць напрактыкаваўся, і яшчэ да правалу соцыял-дэмократычныя міністры ня раз згаджаліся з патрабаваньнямі буржуазных партый аб скарачэньні разьмераў стра-

хаваньня ад беспрацоўя. Гэтыя лёкаі буржуазіі былі гатовы і на гэты раз выцягнуцца ў струнку перад сваімі панамі. Хто як не соцыял-дэмократычныя міністры ў коаліцыйным урадзе дапамаглі падрыхтаваць прыняцьце пляну Юнга. Яны ажыцьцявілі павялічаньне ўкосных падаткаў, увозных мытаў на продукты спажываньня. Гэта яны сваёю політыкаю прымусовага правядзеньня пасярэдніцкіх прыгавораў выступалі супроць спроб супраціўленьня рабочых капіталістычнай рацыяналізацыі. А соцыял-дэмократычная поліцыя Цэргібэляў, Гржэзінскіх і Зэвэрынгаў хіба мала залівала крывёю кожную спробу рэволюцыйне барацьбы пролетарыяту супроць наступленьня капіталу? *Хіба ня рукамі соцыял-дэмократаў завяршыўся першы этап грунтоўнай фашызацыі нямецкай дзяржавы?*

Значыцца, нязначныя формальныя рознагалосьсі па пытаньні, па якім буржуазія ўжо часткова перамагла яшчэ раней, не маглі зьявіцца прычынаю ліквідацыі коаліцыі.

Тутака трэба шукаць больш глыбокія прычыны. Перш за ўсё іх трэба шукаць у тым, што ажыцьцяўленьне програмы буйнай буржуазіі ўсё больш пападала ў цяжкія ўмовы. Разьвіцьцё міжнароднага экономічнага крызысу, сур'ёзная экономічная дэпрэсыя ў самой Нямеччыне, дзіўна хуткі рост беспрацоўя ў краіне, дасягнуўшы да $3^1/_2$ міл. чалавек— усё гэта прымушала буйную буржуазію перайсьці на больш высокую стадыю фашызацыі дзяржавы, а разам з гэтым і праводзіць політыку больш лютага націску на рабочую клясу.

Недарма-ж газэта „Нямеччына“, сучасны афіцыяльны ўрадавы орган перад утварэньнем новага ўраду заяўляў аб тым, што ўвесь народ катэгорычна патрабуе ад ураду *„моцнае дзяржаўнае політыкі ў парляманце, а калі патрэбна, то і супроць парляманту“*.

Тады-ж горача абгаварвалі пытаньне аб магчымасьці скарыстаньня *48 параграфу констытуцыі*, які надае ўраду *дыктатарскія правы* для вырашэньня тэрміновых фінансавых пытаньняў. Але і ня толькі фінансавых. Гэты параграф дае права прэзыдэнту ў асаблівых выпадках часова ліквідаваць усе артыкулы констытуцыі, якія даюць грамадзянам правы і „дэмократычныя“ вольнасьці. Пры такім становішчы рэчаў буржуазіі было мэтазгодней прымусіць соцыял-дэмократаў выйсьці з ураду і даць ёй магчымасьць больш вольнага манэўраваньня для прыкрыцьця новага яшчэ больш магутнага націску на пролетарыят. Соцыял-фашызм павінен выступаць у ролі дымавой заслоны, за якой буржуазны ўрад— некоаліцыйны і па-за парляманцкі падрыхтоўвае *наступны, больш высокі этап фашызацыі краіны. Але гэта-ж азначае і далейшы этап ліквідацыі буржуазнай дэмократыі ў Нямеччыне.* Што гэта так, даводзіць першы політычны акт новага прэм'ер-міністра Брюньнінга.

Па-першае, ён у сваёй дэкларацыі даў зразумець, што ў яго асобе знойдуць падтрымку ўсе, хто імкнецца да ўзмацненьня магутнасьці Нямеччыны і замацаваньня „парадку“. Такую дэкларацыю, натуральна, могуць падтрымліваць усе партыі, пачынаючы з соцыял-дэмократаў

і канчаючы Гугэнбэргам. Дэкляруючы „арганічнае разьвіцьцё таго палітычнага курсу, якога Нямеччына прытрымлівалася да гэтай пары“, Брюньнінг сваімі вуснамі выразіў прыхільнасьць соцыял-фашызму за „старанную службу“ і ў думках заклікаў быць такімі ж вернымі „падданымі“ ўраду параграфу 48. У адзнаку солідарнасьці з новым курсам 15 соцыялдэмократаў на чале з „опозыцыйнымі“ Мюльлерам і Гільфэрдынгам *устрымаліся пры галасаваньні вотуму недавер'я* габінэту Брюньнінга. Гэта сьведчыць пра тое, што *соцыял-фашызм яшчэ не сказаў свайго апошняга слова ў справе супрацоўніцтва з буржуазіяй.* У чым гэтае супрацоўніцтва можа выразіцца на новым этапе разьвіцьця клясавае барацьбы, для кожнага працоўнага зразумела.

Па-другое, у момант чытаньня дэклярацыі побач з Брюннэрам ляжаў портфэль, у якім знаходзіўся падпісаны ўжо дэкрэт аб роспуску парляманту, калі будзе вынесены вотум недавер'я. Гэтым штурхачом у бок „дэмократыі“ і парляманцкіх традыцый пачаў сваю дзейнасьць новы ўрад, даўшы яшчэ раз зразумець гэтым самым, што на этапе загніваньня капіталізму парляманкія ілюзіі ў сучаснай буржуазнай дзяржаве не даюць гарантый для ўзмацненьня магутнасьці буржуазіі.

Як-жа рэагавала на гэтыя здарэньні „левае крыло“ соцыял-фашызму?

Перш за ўсё яно ўвесь час пераконвала „жалезнага канцлера“, як яны жартам называлі Мюльлера [1]), выходзіць як мага хутчэй з коаліцыі і сваім выхадам стаць на абарону Вэймарскай конституцыі.

Названы вышэй Макс Зэйдэвіц досыць празрыста намякаў на тое, што „дзяржаўная ўлада ў нямецкай рэспубліцы знаходзіцца ня ў руках народу, як гэта паказана ў конституцыі, а распараджаюцца ёю (уладаю, *М. К.*) генэралы ад капіталу і ваеннае міністэрства“ [2]).

Аўтар прыводзіць шэраг выпадкаў, калі габінэт прымаў законапроекты, не даводзячы аб гэтым да ведаму парляманту і не абмяркаваўшы іх у ім. Прычым усе гэтыя законы прымаліся з надзвычайнай хуткасьцю.

Вось усё гэта асабліва і непакоіць „левых“. Ну, як-жа не непакоіцца. Гэта-ж „цяжкі“ выпадак так званага крызысу парлямантарызму. Вось, калі-б усё абгаварвалася ў рэйхстазе, калі-б народ быў інформаваны пра ўсё,—вось тады справа іншая. Тады, нават калі-б законы і былі прыняты, аўтар абмыў-бы рукі і сказаў-бы, што здымае з сябе і з соцыялдэмократычных міністраў усякую адказнасьць.

Падобныя дзеяньні габінэту, не даводзіўшага да ведаму „народнага“ прадстаўніцтва аб непрактычных сваіх кроках, па думцы *Зэйдэвіца*, даюць магчымасьць укарэньвацца ў сыстэму дзяржаўнага кіраўніцтва фашызму. Апошні ва ўмовах нямецкай сапраўднасьці інакшым спосабам прабіраецца да ўлады, чымся ў Італіі. Гэта так званы „халодны“ фашызм, які ўкарэньваецца ў сыстэму кіраўніцтва *на глебе закону*.

[1]) „Жалезным канцлерам“ у свой час называўся Бісмарк (*М. К.*).

[2]) „Der Klassenkampf“ № 5—1930 г. Стар. 130.

Але аўтар ня хоча бачыць, як сама соцыял-дэмократыя дапамагае буржуазіі ў яе імкненьні ліквідаваць парляманцкую дэмократыю, як яна, зрастаючыся з буржуазным дзяржаўным апаратам, ажыцьцяўляе аднача-сова і ідэю фашызацыі дзяржавы на глебе закону.

Застаючыся гледачом з боку, заклікаючы да змаганьня супроць фашызму „дэмократычнымі" шляхамі, не расшыфроўваючы зрадніцкую соцыял-фашыстоўскую сутнасьць і дзейнасьць правых, „левыя" зьяўляюцца на гэтым этапе клясавых сутычак асабліва небясьпечнымі, і змаганьне рэволюцыйнага пролетарыяту павінна быць асабліва завострана супроць „левых" фразёраў.

Асаблівую „рэволюцыйнасьць" „левыя" праявілі безадкладна-ж пасьля таго, як загаварылі аб магчымасьці прыстасаваньня параграфу 48 констытуцыі і выхаду соцыял-дэмократычных міністраў з ураду.

На гэтым тачыле яны спрабавалі бояздольнасьць соцыял-дэмократыі. Справа ў тым, што частка соц.-дэмократаў была згодна заставацца ў габінэце і пры ўжываньні 48 артыкулу констытуцыі.

„Але тады,—кажа ўсё той самы *Зэйдэвіц*, які зрабіўся пасьля сьмерці *Леві* адказным кіраўніком „Klassenkampf'а",—усякія надзеі народу на дэмократыю і парляманцкую сыстэму пролетарыяту паляцяць к чорту... Таму рукі прэч ад падобнай небясьпечнай гульні, пачаток якой мы ўжо бачым, але вынікі якой нам яшчэ невядомы"[1]).

Гэты гістэрычны лямант „правыдыра" павінен быў, відавочна, „прывесьці да пачуцьця" нейкага такога з „зарваўшыхся" с.-д. і паказаць масам разважнасьць і адданасьць справе рабочай клясы „левых". Падзел працы, як бачыце, ня дрэнны. Адны непакояцца аб чыстасьці і цноце с.-д. міністраў і папярэджваюць працоўных аб наступленьні бюрократыі і „халоднага" фашызму, а іншыя „ратуюць" краіну ад крызысу шляхам устрыманьня пры галасаваньні недавер'я ўраду гэтага „халоднага" фашызму, прычым гэты гэст вялікадушнасьці ў адносінах буржуазіі быў абойдзены маўчаньнем. Але трэба было толькі с.-д. міністрам выйсьці з габінэту, як „левыя" монтары на ўсе лады пачалі апраўдваць політыку соцыял-дэмократаў. Больш таго. Гэтыя заядлыя супраціўнікі ўдзелу с.-д. у коаліцыі, папракаючы, паказваюць, што вінаватымі ў развале вялікай коаліцыі зьяўляюцца не соцыял-дэмократы, а буржуазныя коаліцыйныя партыі, якія паставілі с.-д. сваімі патрабаваньнямі ў немажлівае становішча[2]).

„Левыя" ня ўпэўнены ў тым, што ў далейшым правыя ізноў ня вернуцца ў лягер коаліцыі. Заядлыя спрэчкі, што адбываюцца зараз навакол гэтага пытаньня, даюць права ўважаць, што некаторыя крокі ў гэтым напрамку будуць прадпрыняты як з боку буржуазных партый, так і соцыял-дэмократыі.

[1]) „Der Klassenkampf" № 6—1930 г. Стар. 164.

[2]) Тамсама, № 7—1930 г. Стар. 195.

Покуль-жа трэба замацаваць вынікі дзейнасьці габінэту *Мюльлера*. Гэта можна зрабіць і без яго ўдзелу. Такім спосабам буржуазія вызваляе с.-д. ад адказнасьці за ранейшую яе ўрадавую дзейнасьць. Гэтая „перадышка“ напэўна прысьпешыць новы этап разьвіцьця нямецкага фашызму. Напэўна таксама, што ў „ценю фашыстоўскага кулака“ соцыял-дэмократы розных колераў будуць дапамагаць прыдушэньню рабочае клясы. Перадышка, атрыманая с.-д. з ласкі буржуазіі, можа быць скарыстана для концэнтрацыі навакол с.-д. тых груп рабочае клясы, якія яшчэ ня вызваліліся ад уплыву соцыял-фашыстых. „Левыя“-ж, заклікаючы да адзінства ўсе соцыялістычныя сілы, пераконваюць рабочую клясу, што гэтае адзінства „ўтварае такі кулак, у ценю якога ў хуткім часе не ўстаіць ніякая фашыстоўская небясьпека“[1]).

Утварыўшаяся ў Германіі сытуацыя такая, што рэволюцыйны пролетарыят краіны павінен усё з большаю энэргіяю ставіць на парадак дню пытаньне аб няпрымірымым і рашучым змаганьні супроць соцыял-фашызму як правага, так і „левага“ яго крыла. Асабліва-ж гэтае вастрыё барацьбы павінна быць накіравана супроць „левых“.

Фашыстоўская рэакцыя выростае на падрыхтаванай соцыял-фашызмам глебе. З гэтаю рэакцыяю трэба змагацца, выкрываючы адначасова яе зброяносцаў і бліжэйшых памочнікаў. Удар рэволюцыйнага пролетарыяту па кулаку фашызму будзе нанесены адначасова з перамогаю над аб‘яднаным фронтам соцыял-фашызму.

---

[1]) „Der Klassenkampf“ № 7—1930 г. Стар. 197.

# ПОЛЬШЧА Ў ЦІСКОХ ЭКОНОМІЧНАГА КРЫЗІСУ

**М. Вісьлянскі**

Пэрыод параўнальнага экономічнага дабрабыту скончыўся ў канцы 1928 году. З пачатку 1929 г. Польшча ўступіла ў паласу крызісу, які да гэтага часу не дасягнуў яшчэ свайго апогею, і які відавочна ўвосень бягучага году значна абвастрыцца.

Пэрыод экономічнага ўздыму, што быў перад сучасным крызісам, быў вельмі і вельмі адносным. Штыршок гэтаму ўздыму, як вядома, дала ангельская вугольная забастоўка, дзякуючы якой Польшча атрымала магчымасьць вывезьці на замежныя рынкі вялізарную колькасьць вугля і затым, пасьля сканчэньня забастоўкі, замацавацца на некаторых рынках. Ангельская забастоўка дала польскай вугальнай прамысловасьці магчымасьць ня толькі компэнсаваць страту германскага рынку, але і значна перавысіць ранейшыя экспортныя контынгэнты ў Нямеччыне. Ажыўленьне-ж у вугальнай прамысловасьці зьявіліся стымулам ажыўленьня і ў іншых галінах прамысловасьці. Ангельская забастоўка дала вялікія заработкі не адным толькі прамыслоўцам: зарабіла таксама дзяржаўная казна. Дзяржаўныя прыбыткі значна павялічыліся, тым больш, што цяжар падатковага прэсу непарыўна павялічваўся, які да таго пашыраў свае дзеяньні на ўсе больш шырокія масы насельніцтва. Дзякуючы гэтым акалічнасьцям, у 1928-29 бюдж. годзе ў дзяржаўных касах зьявілася некалькі сот мільёнаў злотых бюджэтных лішкаў. Урад Пілсудзкага, ліхаманкава рыхтуючыся да вайны з Савецкім Саюзам, без дазволу і ведама Сойму выдаткаваў з гэтых сум каля 600 мільёнаў злотых на ваенныя заказы, якія былі пераважна разьмешчаны ўнутры краіны. Адначасна (у канцы 1927 г.) Польшча атрымала амэрыканскую пазыку ў суме каля 550 млн. злотых. Гэтыя два фактары далі далейшы штыршок унутранай кон'юнктуры і зьявіліся прычынай працягу пэрыоду экономічнага ўздыму. Калі-ж выпадковыя фактары, як ангельская забастоўка, перасталі дзейнічаць, і калі ў распараджэньні ўраду не засталося больш сродкаў для штучнага стварэньня кон'юнктуры, да таго-ж адначасова падышоў сусьветны крызіс, крывая экономічнага разьвіцьця хутка паляцела ўніз.

Але, як мы ўжо паказалі вышэй, і экономічны ўздым у пэрыод „дабрабыту“ быў вельмі адносным. Калі ў эпоху часовай пасьляваеннай стабілізацыі асноўныя капіталістычныя дзяржавы (за выключэньнем

Англіі) дасягнулі і нават перавысілі ў важнейшых галінах прамысловасьці даваенны ўзровень продукцыі, то гэта ні ў якім выпадку не датычыцца Польшчы.

Для ілюстрацыі вышэйпаказанага прыводзім параўнальныя даныя па некалькіх асноўных галінах цяжкой індустрыі.

Вытворчасьць чыгуна ў ПАЗШ раўналася ў 1913 г. 31.463 тыс. тон; у 1928 г.—38.448 тыс. тон. У Нямеччыне—у адпаведныя гады—10.916 тыс. тон. і 11.808 тыс. тон. Ва Францыі—10.449 тыс. тон і 12036. У Бэльгіі—2.485 тыс. тон і 3.905 тыс. тон. У Чэха-Славаччыне—1.128 тыс. тон і 1.320 тыс. тон. (у 1927 г.). У Польшчы-жа адпаведна: 1.055 тыс. тон і 684 тыс. тон.

Суадпаведны малюнак дае продукцыя сталі. У Злучаных Штатах у 1913 г.—31.803 тыс. тон, у 1928 г.—50.656 тыс. тон. У Нямеччыне 11.768 тыс. тон і 13.808 тыс. тон. Ва Францыі 8.749 тыс. тон і 11.460 тыс. тон. У Бэльгіі— 2.467 тыс. тон і 3.936 тыс. тон. У Чэх-Славаччыне—1.229 і 1.637 тыс тон. (у 1927 г.).—Польшча—1.660 і 1.438 тыс. тон.

У такім-жа становішчы справа з дабычай нафты ў Польшчы. У 1909 г. здабыча нафты перавышала 2 млн. тон; у 1928 г. раўналася ўсяго 723 тыс. тон.

Разьвіцьцё асноўных галін польскай мэталюргіі ў пасьляваенныя гады ілюструецца ніжэйнаступнымі данымі:

**Сярэдняя месячная продукцыя (у тонах)**

| год | чыгун | сталь | пракат |
|---|---|---|---|
| 1913 | 87,500 | 138,377 | 101,900 |
| 1922 | 40,010 | 83,957 | 62,301 |
| 1923 | 43,303 | 94,359 | 64,788 |
| 1924 | 27,871 | 56,867 | 89,238 |
| 1925 | 26,214 | 65,673 | 48,820 |
| 1926 | 27,289 | 65,188 | 46,839 |
| 1927 | 51,451 | 103,706 | 72,912 |
| 1928 | 56,984 | 119,754 | 87,075 |

Лічбы гэтыя зьяўляюцца навочным доказам дэградацыі польскай цяжкой індустрыі. Мы бачым, што нават „рэкордны“ ў вытворчых адносінах 1928 г. дае лічбы значна больш нізкія, чымся лічбы продукцыі 1913 г.

Прыблізна такі-ж малюнак уяўляе сабой апрацоўчая прамысловасьць. У прыватнасьці мы спынімся тут на самай буйнай галіне апрацоўчай прамысловасьці—на тэкстыльнай.

Калі мы зазначым цыфрай 100 колькасьць машына-ці—варштата-гадзін, прапрацаваных паасобнымі галінамі лодзінскай прамысловасьці ў 1913 г., ды за апошнія пасьляваенныя гады—атрымаем наступныя лічбы.

**Індэксы прапрацаваных машына-гадзін**

| Год | Бавуняная прамысловасьць | | | Ваўняная прамысловасьць | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Верацёны тонкапражн. | Верацёны вігоньевыя | Варштаты | Верацёны чэсаначн. | Верацёны груб. воўны | Варштаты |
| 1913 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| 1925 | 81,5 | 49,4 | 57,8 | 39,8 | 31,6 | 23,3 |
| 1926 | 91,0 | 43,8 | 52,5 | 43,0 | 28,0 | 20,8 |
| 1927 | 115,2 | 47,4 | 79,1 | 80,4 | 39,8 | 21,4 |
| 1928 | 109,4 | 47,2 | 74,9 | 73,3 | 34,9 | 20,7 |

З гэтых лічбаў відаць, што ў аднэй толькі тонкапражнай прамысловасьці Польшчы ўдалося рэорганізавацца і прыстасавацца да патрэбаў унутранага рынку; рэшта-ж галін тэкстыльнай прамысловасьці знаходзілася ў стане заняпаду, і нават у гады „рэкорднай“ кон'юнктуры вельмі далёка ад даваеннага ўзроўню вытворчасьці.

Ня ў лепшым стане знаходзілася справа з шматлікімі іншымі галінамі народнае гаспадаркі, як: гарбарная прамысловасьць, галянтэрэйная, машына-будаўнічая і г. д.

Прыведзеныя намі даныя даводзяць, што па сутнасьці за ўсе пасьляваенныя гады капіталістычная Польшча перажывае глыбокую экономічную дэпрэсію і што сучасны крызіс зьяўляецца фактычна толькі значным паглыбленьнем існаваўшай і да 1929 г. дэпрэсіі.

## II

Крызіс, адзнакі якога зьявіліся ўжо ў канцы 1928 года, выбухнуў у пачатку 1929 г. Спачатку польскія экономістыя ні якім чынам не хацелі прызнаць налічча крызісу. Яны запэўнялі, што гаспадарчыя цяжкасьці зьяўляюцца толькі вынікам „замінкі“, выкліканай вельмі суровай зімой 1928-29 году. Затым, калі летам 1929 г. выбухнуў сусьветны аграрны крызіс, які ахапіў таксама Польшчу, польскія экономістыя згадзіліся, што ў наяўнасьці ёсьць „рэцэсія“ (па прыкладу сваіх амэрыканскіх сабратаў яны вельмі ня любяць слова „крызіс“), выкліканая зьмяншэньнем цаны на сельска-гаспадарчыя продукты. У сапраўднасьці справа ўяўляецца наступным чынам. Крызіс 1929 г. быў выкліканы зьмяншэньнем ёмкасьці ўнутранага рынку, у выніку паўпэрызацыі шырокіх працоўных мас насельніцтва. Ёмкасьць унутранага рынку пачала шпарка скарачацца

ўжо ў другой палове 1928 году, калі надыходзячы крызіс нельга было прадбачыць. Ёмкасьць унутранага рынку пачала шпарка скарачацца ў выніку таго, што насельніцтву быў не па сілах надмерна павялічаны дзяржаўны бюджэт, разьмер якога дасягнуў да 3.000.000.000 злотых. Пры 30.000.000 насельніцтва Польшчы адны толькі дзяржаўныя выдаткі складаюць каля 100 злотых на душу, ня лічачы муніцыпальных выдаткаў, статыстыку якіх мы тут ня маем магчымасьці прывесьці, але разьмер якіх мала чым ўступае дзяржаўнаму бюджэту. Пры гэтым, як вядома, у польскім бюджэце вялізарную ролю граюць усякага роду ўкосныя падаткі, якія кладуцца надмерным цяжарам на працоўныя масы. Буржуазія ўхітраецца нават тую нязначную частку простых падаткаў, якія прыпадаюць на яе долю, ператвараць ва ўкосныя падаткі, перакладаючы цяжар іх на шырокія масы. Так, напрыклад, у такім стане справа з прамысловым падаткам, які з формальнага пункту гледжаньня зьяўляецца простым падаткам, а фактычна-ж ператвараецца ва ўкосны, бо прамыслоўцы ўключаюць яго ў сваю гандлёвую калькуляцыю і адпаведным чынам павялічваюць цану тавараў. Падатковы насос, выкачваючы грошы з кішэняў шырокіх мас і выдаткоўваючы іх на непродукцыйныя, галоўным чынам, ваенныя мэты, абяскроўлівае экономічны організм і прыводзіць да такога зьявішча, як узровень вучотнага процанту ў 5 проц. і больш месячных.

Апрача вышэйсказанага, прычынай надышоўшага крызісу быў бязумоўна той факт, што стымулы, якія садзейнічалі „экономічнаму ўздыму" ў 1927 і 1928 годзе перасталі дзейнічаць, дзяржаўная-ж каса засталася пустой, што аб далейшым стварэньні ўрадам штучнай кон'юктуры не магло быць гутаркі.

Аграрны крызіс, які вубухнуў улета 1929 г., нанёс новы ўдар народнай гаспадарцы Польшчы. Калі мы пакажам агульны ўзровень гуртавых цэн на прамысловыя тавары і на сельска-гаспадарчыя продукты ў 1927 г. цыфрай 100, то за апошні год, г. зн. з сакавіка 1929 г. па сакавік 1930 г. атрымаем наступны малюнак:

**Індэксы гуртавых цэн**

| | Агульны індэкс | Індэкс цэн на с.-г. продукты | Індэкс цэн на прамысл. тавары |
|---|---|---|---|
| 1929 III | 99,0 | 91,6 | 104,7 |
| „ IV | 98,3 | 90,3 | 104,3 |
| „ V | 95,4 | 84,2 | 104,1 |
| „ VI | 95,2 | 84,3 | 103,6 |
| „ VII | 95,5 | 85,1 | 103,4 |
| „ VIII | 95,1 | 84,3 | 103,2 |
| „ IX | 93,9 | 82,0 | 102,9 |
| „ X | 93,1 | 80,6 | 102,7 |
| „ XI | 94,6 | 84,5 | 102,0 |
| „ XII | 92,8 | 80,2 | 101,1 |
| 1930 I | 88,2 | 74,8 | 99,1 |
| „ II | 84,9 | 69,3 | 98,2 |
| „ III | 85,3 | 70,1 | 98,3 |

У сувязі з агульным экономічным крызісам зьніжаецца агульны індэкс цэн. Летам-жа 1929 года пачынаецца асабліва шпаркі тэмп зьніжэньня цэн на сельска-гаспадарчыя продукты, пры чым, як мы бачым, цэны на сельска-гаспадарчыя продукты зьніжаюцца параўнальна шпарчэй, чымся на прамысловыя тавары, і „ножніцы“ адчыняюцца ўсё шырэй. Асабліва зьнізіліся цэны на продукты расьліннага паходжаньня (галоўным чынам на збожжа), індэкс якіх зьніжаецца ў сакавіку г. г. да ўзроўню 61,3. Значна павальней зьніжаюцца цэны на продукты жывёлінага паходжаньня, але і тыя ў першым квартале бяг. году зьніжаюцца з 91,8 да 84,9.

Аграрны крызіс ў першапачатковай сваёй стадыі, як павінна было здавацца, павінен быў пагражаць у першую чаргу інтарэсам абшарнікаў і кулакоў, якія зьяўляюцца асноўнымі вытворцамі таварнага збожжа. Трэба, аднак, прыняць пад увагу, што сярод абшарнікаў, а таксама і кулакоў досыць моцна прывілася сыстэма картэлізацыі, пры дапамозе якой сельская буржуазія пачала змагацца і не бяз пэўнага посьпеху з паніжэньнем цаны. Так, напрыклад, экспорт збожжа монополізуецца (пры актыўным падтрыманьні ўраду) абшарніцкімі організацыямі, якія не дапускаюць узаемнай конкурэнцыі польскіх экспорцёраў на замежных рынках. У інтарэсах вясковай буржуазіі польскі ўрад заключыў з Нямеччынай умову аб экспорце жыта. Дзякуючы гэтаму абшарнікі і кулакі экспортуюць сваё збожжа за межы па цане больш высокай, як на ўнутраныя рынкі. На вывазное збожжа ўрадам устанаўляецца высокая экспортная прэмія. Таксама шляхам законаў аб стандартызацыі экспорту сельска-гаспадарчых продуктаў урад дае організацыям абшарнікаў магчымасьць монополізаваць гэты вываз. У выніку гэтай політыкі аграрны крызіс у цяперашняй сваёй стадыі ўсім сваім цяжарам лёг на шырокія масы працоўнага сялянства і батрацтва. Як мы бачылі вышэй, зьменшыліся таксама ў вельмі значнай ступені цэны на продукты жывёлінага паходжаньня, якія выкідваюцца на рынак у вельмі значнай ступені серадняцкімі і бядняцкімі масамі. Да таго яшчэ ў апошні час выявіўся вельмі цікавы і характэрны факт: нэндза ў вёсцы ўзрасла нагэтулькі, што малазямельны селянін і нават парабак, які раней не прадаваў збожжа, бо яно было патрэбна для пракармленьня сям'і, у апошні час, каб зьвесьці канцы з канцамі, пачаў выкідваць збожжа на рынак. Устаноўлена, што асноўнымі рэчамі харчаваньня ў вёсцы ў апошні час зьяўляецца бульба, спажываньне-ж хлеба ў вёсцы значна зьменшылася. Для сваіх патрэб працоўнае сялянства садзіць цяпер галоўным чынам бульбу, збожжа-ж яно пачало, у асаблівасьці ў апошні час, выкідваць на рынак. Гэтым відавочна тлумачыцца той факт, што плошча засеву бульбы раўналася ў 1929 г. 2.636 тысяч *га* супроць 2.404 тыс. *га* ў 1913 г., ураджай бульбы ў 1929 г. выразіўся цыфрай у 317 млн. цэнтнэраў супроць 248 млн. цэнтнэраў у 1913 годзе. Трэба пры гэтым улічыць факт, што адначасна скарацілася пераработка бульбы прамысловымі прадпрыемствамі (1931 г.

каля 35 млн. цэнтн., у 1929 г. каля 10 млн. цэнтн.). Скараціўся таксама вываз бульбы. У гэтых умовах рост засеву больбы адбываецца відавочна галоўным чынам за кошт росту яго ўнутранага спажываньня і зьмяншэньня спажываньня збожжа. Гэтым у пэўнай ступені тлумачыцца вялікая прапанова збожжа на польскім рынку.

Цяжкое становішча паглыбляецца політыкай польскага ўраду, які орыентуецца на гарадзкую і вясковую буржуазію, робячы шкоду інтарэсам мас. Урадам уведзены забарончыя экспортныя мыты на цэлы шэраг сельска-гаспадарчых продуктаў (на яйкі, масла, быдла і г. д.). Гэтае мерапрыемства прадыктавана быццам жаданьнем упарадкаваць экспорт шляхам вывазу толькі стандартнага тавару. У сапраўднасьці-ж вызваленьне ад вывазной мыты дадзена толькі некалькім абшарніцкім і кулацкім аб'яднаньням, якія працуюць супольна з банкамі. Такім чынам экспорт асноўных сельска-гаспадарчых продуктаў монополізуецца організацыямі аграрыяў, якія зьяўляюцца монополістымі ў галіне экспорту, гэтыя організацыі паніжаюць цану на сялянскі тавар і сумесна з банкамі нажываюць вялізарныя прыбыткі на экспорце.

У гэтых умовах трэба констатаваць, што аграрны крызіс, які разгарнуўся, б'е ў сучасны момант з усёй сілай па інтарэсах серадняцкіх і бядняцкіх мас, а таксама па інтарэсах парабкоў. У агульнай, аднак, абстаноўцы крызісу народнае гаспадаркі аграрны крызіс не зьяўляецца прычынай агульнай экономічнай дэпрэсіі, але фактарам толькі паглыбляючым крызіс, які перажывае капіталістычная Польшча.

III

Калі год таму назад польскія буржуазныя экономістыя яшчэ ўпарта гаварылі аб „замінцы“, калі ўлетку мінулага году яны яшчэ захоўвалі сапраўдныя разьмеры крызісу фігавым лістком „рэцэсіі“ і т. п. словамі, мала зразумелымі для шырокіх мас, то ў сучасны момант слова „крызіс“ нарэшце вайшло ў штодзённы ўжытак. Ды да таго-ж: навошта гэты маскарад. Лічбы, сухія статыстычныя лічбы маюць бязумоўна свой глыбокі патос. Яшчэ больш глыбокі і больш небясьпечны патос маюць шматтысячныя дэмонстрацыі беспрацоўных і рабочая кроў, якая была праліта на вуліцах прамысловых гарадоў фашысцкай Польшчы.

Пачнем з лічбаў.

Для зазначэньня індэксаў вытворчасьці афіцыяльная польская статыстыка выходзіць з сярэдняга ўзроўню продукцыі ў пэрыодзе 1925—27 г., якая азначаецца цыфрай 100. Гэта рабілася для таго, каб захаваць сапраўднае становішча рэчаў, бо ў пэрыод 1925-27 г. узровень вытворчасьці быў вельмі нізкі, бо палова гэтага пэрыоду супадае з паласой крызісу. І таму параўнаньне з нізкім індэксам 1925-27 году павінна зрабіць ураджаньне, што цяперашні ўзровень продукцыі не такі ўжо нізкі. Тым ня менш нават гэтыя афіцыяльныя даныя даюць досыць поўны малюнак цяжкага экономічнага становішча Польшчы.

**Індэксы прамысловай продукцыі**

Індэксы спраставаны шляхам ухіленьня сэзонных хістаньняў
(1920—1927=100)

| Год і месяц | Агульны індэкс прам. продукцыі | Індэкс вытворч. спажывецк. тавараў | Індэкс вытворч. сродкаў вытворч. | Індэкс вдабыв. каменнага вугля | Індэксы продукцыі жалезнай мэталюргіі |
|---|---|---|---|---|---|
| 1929 III | 129,9 | 126,8 | 140,7 | 132,2 | 145,5 |
| „ IV | 133,9 | 120,5 | 150,9 | 143,4 | 166,1 |
| „ V | 129,4 | 112,3 | 151,4 | 134,8 | 159,6 |
| „ VI | 127,5 | 110,7 | 149,9 | 129,8 | 147,4 |
| „ VII | 126,2 | 109,3 | 142,7 | 138,7 | 143,4 |
| „ VIII | 126,4 | 111,6 | 142,4 | 135,9 | 140,9 |
| „ IX | 128,6 | 116,0 | 142,0 | 138,9 | 136,5 |
| „ X | 129,8 | 119,1 | 141,8 | 169,9 | 132,9 |
| „ XI | 125,5 | 114,6 | 139,6 | 133,6 | 134,0 |
| „ XII | 124,9 | 114,2 | 136,6 | 137,8 | 121,7 |
| 1930 I | 116,6 | 102,0 | 132,0 | 125,7 | 139,6 |
| „ II | 108,3 | 95,4 | 125,5 | 107,2 | 134,2 |
| „ III | 102,8 | 93,8 | 115,8 | 98,9 | 127,0 |

У першую чаргу крызіс закрануў прамысловасьць, якая вытварае спажывецкія тавары. Мы бачым, што ўжо ў пачатку мінулага году продукцыя шпарка згортвалася. Больш трывалай была цяжкая індустрыя; аднак і тут у сярэдзіне мінулага году адбыўся пералом у горшы бок і ў апошні час, як мы бачым, вытворчасьць цяжкой індустрыі шпарка скарачаецца. Узровень вытворчасьці спажывецкіх тавараў заняпаў ніжэй сярэдняга ўзроўню 1925—1927 году, г. зн. пэрыоду, у якім 1925 год і першая палова 1926 года зьяўляюцца гадамі крызісу.

Мы бачым, што тое самае датычыцца і вугольнай прамысловасьці. У працягу 1929 году гэта прамысловасьць пераживала яшчэ пэрыод ажыўленай кон'юнктуры. Аднак-жа ў апошнія месяцы, у зьвязку з рэзкім скарачэньнем ёмкасьці ўнутранага рынку (зьмяншэньне попыту на вугаль для прамысловых прадпрыемстваў і чыгунак) і з пагаршэньнем кон'юнктуры на замежных рынках, здабыча вугля значна зьмяншаецца. У асаблівасьці катастрафічна кон'юнктура пагоршылася на замежных рынках. Агульны экономічны крызіс у капіталістычным сьвеце стымулюе скарачэньне ёмкасьці ўнутраных рынкаў, значыцца абвастраецца конкурэнцыйная барацьба вугляпрамыслоўцаў на замежных рынках. Ня гледзячы

на ўжываньне дэмпінгу ў экспорце вугля, Польшча ня ў стане вытрымаць цяпер конкурэнцыі Англіі і Нямеччыны на замежных рынках і польскі вугаль у апошні час сыстэматычна выціскаецца з краін, у якіх ён узмацніў сваё становішча ў часе вугольнай забастоўкі Англіі. Аб рэзкім зьмяншэньні польскага экспорту вугля даюць уяўленьне наступныя лічбы:

**Экспорт вугля за апошнія 6 месяцаў (у тонах)**

| | |
|---|---|
| кастрычнік 1929 г. . . | 1.487.464 |
| лістапад „ . . | 1.270.359 |
| сьнежань „ . . | 1.230.823 |
| студзень 1930 г. . . . | 1.166.089 |
| люты „ . . . | 866.783 |
| сакавік „ . . . | 748.325 |

Гэтыя лічбы даводзяць, што ў працягу апошняга паўгодзьдзя вываз вугля скараціўся амаль напалову.

Таксама вельмі значна зьменшыўся збыт вугля на ўнутраным рынку. Уяўленьне аб гэтым дае нам параўнаньне продажу вугля на ўнутраным рынку ў працягу першых двух месяцаў мінулага і гэтага году.

**Збыт вугля на ўнутраным рынку (у тонах)**

| | |
|---|---|
| студзень 1929 г. . . . | 2.507.496 |
| люты „ . . . | 2.144.197 |
| студзень 1930 г. . . . | 1.762.634 |
| люты „ . . . | 1.433.466 |

Адпаведна скарачэньню вывазу і ёмкасьці ўнутранага рынку згортваецца і здабыча вугля.

**Здабыча вугля ў апошніх месяцах (у тонах)**

| | |
|---|---|
| сярэдняя месячная здабыча ў 1913 г. . | 3.415.441 |
| кастрычнік 1929 г. . . . . | 4.392.370 |
| лістапад „ . . . . | 4.107.325 |
| сьнежань „ . . . . | 4.016.150 |
| студзень 1930 г. . . . . . | 3.800.399 |
| люты „ . . . . | 2.984.608 |
| сакавік „ прыблізна . . . | 2.821.973 |

Ня менш цяжкім зьяўляецца становішча мэталюргіі. У першай частцы нашага артыкулу мы на падставе лічбовых даных давялі дэградацыю польскай мэталюргіі, якая выражаецца ў тым, што ўзровень продукцыі далёка адстае ад даваеннага ўзроўню нават у гады „рэкорднай“ кон'юнктуры. Прыведзеныя намі вышэй індэксы даводзяць, што апошнія месяцы крызісу нанесьлі мэталюргіі новы значны ўдар. Таксама вельмі красамоўнымі зьяўляюцца абсолютныя лічбы продукцыі.

**Месячная продукцыя (у тонах)**

| ГОД | Чыгун | Сталь | Пракат |
|---|---|---|---|
| 1913 (сярэдн. мес.) . | 87.500 | 138.377 | 101.900 |
| 1929 " " . | 58.712 | 114.705 | 80.165 |
| 1930 " " . | 50.700 | 105.896 | 76.402 |
| " люты . . . | 42.459 | 101.472 | 75.864 |
| " сакавік . . | 43.890 | 105.737 | 79.189 |

Такім чынам выплаўка чыгуна ў лютым сакавіку на 50 проц. ніжэй даваеннай нормы. Значнае зьніжэньне даюць таксама вытворчасьць сталі і пракату. Скарачэньне продукцыі было зроблена, галоўным чынам, у выніку зьмяншэньня ўнутранага збыту. Так, напрыклад, у лютым г. г. мэталюргія атрымала ўсяго ўнутраных заказаў на 27.455 тон жалеза, г. зн. на 3.067 тон менш, як у студзені, ня гледзячы на тое, што ў гэтым-жа месяцы ўрад павялічыў свае заказы мэталюргіі на 7.052 тон, бо іменна ў лютым прыватныя заказы зьменшыліся на 33,7 проц. У асаблівасьці зьменшыліся заказы з боку мэталяапрацоўчай прамысловасьці (на 66,17 проц.), а таксама заказы з боку заводаў, вырабляючых цынкованае жалеза (на 75,69 проц.). У агульным параўнаньні з лютым мінулага году заказы, атрыманыя мэталюргіяй, зьменшыліся на 56,19 проц.; заказы-жа з боку будаўнічай прамысловасьці—на 74,65 проц. У сакавіку наступіла далейшае скарачэньне ёмкасьці ўнутранага і часткова заказы зноў зьменшыліся на 20,32 проц.

Параўнальна „высокі“ ўзровень продукцыі сталі тлумачыцца тым фактам, што важнейшым спажыўцом сталі зьяўляецца ў Польшчы ваенная прамысловасьць, якая, ня гледзячы на крызіс, працуе бесьперабойна і, здаецца, з поўнай нагрузкай.

Што-ж датычыцца продукцыі пракатных вырабаў, то яна была-б значна больш нізкай, каб ня вываз у СССР. Ня шмат каму з чытачоў напэўна вядома, што адзіным амаль замежным пакупнікам польскіх пракатных вырабаў зьяўляецца ў сучасны момант Савецкі Саюз. Так, напрыклад, у сьнежні 1929 г. з Польшчы ў СССР было экспартавана 19.760 тон пракатных вырабаў (каля 93 проц. усяго польскага экспорту). У студзені 1930 г.—31.772 тоны (каля 98 проц. усяго польскага экспорту), у лютым — 29.336 тон (каля 96 проц.) і ў сакавіку — 22.955, (каля 78 проц.). Каб гэткія дзесяткі тысяч тон вылічыць з агульных лічбаў польскай продукцыі, то малюнак быў-бы, зразумела, значна больш цяжкім.

Яшчэ больш цяжкім зьяўляецца становішча апрацоўчай прамысловасьці. Лічбы, прыведзеныя намі ў першай частцы артыкулу, паказалі досыць безнадзейны малюнак становішча тэкстыльнай прамысловасьці

ў працягу ўсяго пасьляваеннага пэрыоду. Цяперашні крызіс ня мог, зразумела не адбіцца на становішчы апрацоўчай прамысловасьці. І ў сапраўднасьці: яе становішча яшчэ больш пахіснулася. У якасьці прыкладу мы прыводзім лічбы, ілюструючыя становішча ў трох важнейшых галінах апрацоўчай прамысловасьці.

**Колькасьць прапрацаваных рабочых гадзін (у тысячах)**

| Год і месяц | Прадзільныя і ткацкія ф-кі | Дубільныя заводы | Фабрыкі мэханічнага абутку |
|---|---|---|---|
| 1928 I . . | 6.494 | 170 | 75 |
| „ II . . | 6.595 | 181 | 96 |
| „ III . . | 6.674 | 185 | 95 |
| 1929 I . . | 6.727 | 241 | 77 |
| „ II . . | 6.433 | 160 | 83 |
| „ III . . | 6.490 | 158 | 91 |
| 1930 I . . | 4.018 | 154 | 65 |
| „ II . . | 4.099 | 150 | 77 |
| „ III . . | 3.992 | 151 | 87 |

Мы бачым, што ў асабліва дрэнным становішчы знаходзіцца тэкстыльная прамысловасьць, праца якой у першым квартале б. г. значна паслабела ў параўнаньні з першым кварталам 1928 г. і 1929 г. Характэрным зьяўляецца той факт, што, ня гледзячы на досыць высокі мытны бар'ер, які ахоўвае польскую тэкстыльную прамысловасьць, шмат якія яе галіны ня ў стане вытрымліваць конкурэнцыю замежнага тэкстыля на ўнутраным рынку. Так, напрыклад, у першым квартале г. г. у Польшчы былі ўвезены гатовыя тканіны на суму 26.520 тысяч злотых; у гадавым маштабе гэта перавышае суму 120 млн. злотых, якая ў замежнагандлёвым балянсе грае буйную ролю. Калі мы параўнаем цяперашняе становішча тэкстыльнай прамысловасьці з яе становішчам да крызісу, мы пераканаемся, што крызіс азначае паглыбленьне перманэнтнай дэпрэсіі, якую перажывала гэта прамысловасьць ва ўвесь пасьляваенны пэрыод.

Экономічны крызіс адбіўся таксама на структуры гандлёвага балянсу Польшчы. Гандлёвы балянс зьяўляецца ў апошні час актыўным, дзякуючы значнаму скарачэньню імпорту. Асабліва рэзка зьменшыўся імпорт прамысловае сыравіны і абсталяваньня. Так, напрыклад, у першым квартале мінулага году было выраблена паташавых соляй на 10.980.000 злотых, у 1-м квартале бяг. году толькі на 2.792,000 злотых; чылійскай сэлітры

адпаведна: 16.980.000 злот. і 8.225.000 злотых; сынтэтычных фарбаў: 3.809.000 злотых і 2.536.000 злотых. Рэзка скараціўся імпорт залежнага лому (20.622.000 злот. і 6.709.000 злот.), медзі і вырабаў з медзі (9.043.000 злот. і 6.154.000 злот.), рухавікоў (5.608.000 злот. і 3.925.000 злот.), варштатаў для апрацоўкі дрэва і жалеза (8.284 тыс. злот. і 3.504 тыс. злот.), аўтомобіляй (13.760 тыс. злот. і 9.116 тыс. злот.), рызьзя і макулатуры (8.947 тыс. злот. і 5.300 тыс. злот.) і, нарэшце, тэкстыльнае сыравіны (167.838 тыс. злот. і 91.932 тыс. злот.) і пражы (40.600 тыс. злот. і 24.091 тыс. злот).

Гэтае рэзкае зьніжэньне імпорту штучнага ўгнаеньня, сыравіны і абсталяваньня сьведчыць аб тым, што хуткага паляпшэньня экономічнага становішча чакаць ня прыходзіцца. Аб гэтым-жа сьведчыць такі чулы баромэтр, як становішча заказаў ва ўсіх больш важных галінах прамысловасьці. Большасьць прадпрыемстваў загружана заказамі ў мінімальнай ступені. Вышэйсказанае ілюструецца наступнай табліцай:

| Галіны прамысловасьці | Прадпрыемствы, што працуюць (колькасьць) | | Зачыненыя прадпрыемствы (колькасьць) | | % прадпрыемстваў, што маюць дрэнны стан заказаў | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сакавік | | Сакавік | | Сакавік | |
| | 1929 г. | 1930 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1929 г. | 1930 г. |
| Цэмэнтныя заводы . . . | 15 | 12 | 1 | 4 | 13,2 | 83,0 |
| Фабрыкі вапны . . . . | 44 | 50 | 13 | 9 | 11,6 | 39,1 |
| Цагельні . . . . . . | 285 | 258 | 183 | 229 | 42,5 | 68,1 |
| Гуты . . . . . . . . | 57 | 49 | 18 | 24 | 42,5 | 87,7 |
| Машына-будаўнічыя заводы | 289 | 275 | 6 | 15 | 20,5 | 62,9 |
| Электра-тэхнічныя заводы . | 42 | 43 | 2 | 1 | 12,2 | 67,8 |
| Прадзільна-ткацкія фабрыкі | 554 | 519 | 31 | 96 | 50,0 | 86,4 |

Гэтыя лічбы ня толькі даюць малюнак пагаршэньня становішча ў параўнаньні з мінулым годам, але яны даводзяць, што ў бліжэйшым будучым нельга будзе чакаць ажыўленьня працы прамысловасьці. Прадпрыемствы, якія так слаба загружаны заказамі, будуць згортваць далей вытворчасьць.

Экономічны крызіс, выкліканы скарачэньнем ёмкасьці ўнутранага рынку, у далейшым сваім разьвіцьці з выніка пэратворыцца ў прычыну— у прычыну яшчэ большага звужэньня рынку. Пра гэтае звужэньне рынку кажа павялічэньне колькасьці апротэставаных вэксалёў і хваля банкроцтваў. Справа даходзіць да таго, што процант вэксалёў, пададзеных да протэсту, дасягае 15 проц. агульнае колькасьці вэксалёў. Лодзінскія фабрыканты, навучаныя горкай практыкай, спынілі продаж тавараў у крэдыт, ня гледзячы на тое, што гэта мера вядзе да далейшага скара-

чэньня зьдзелак, тавар прадаецца выключна за гатоўку. Банкроцтвы набылі такі масавы характар, што не хапае судзьдзяў-камісараў для афармленьня спраў па банкроцтвах (пра гэта паведамляе „Наш Пшэглёнд" ад 19/IV 1930 г.

Адначасова бязупынна зьніжаецца індэкс курсаў 34 асноўных прамысловых акцый. Калі мы пакажам яго ўзровень у 1927 г. цыфрай 100, то ў ліпені 1928 г. ён раўнаўся 103,82, у сьнежні 1928 г.—99,62, у чэрвені 1929 г.—78,92, у сьнежні 1929 г.—65,28, а ў лютым 1930 г.—55,49. Мы бачым, што курсы польскіх акцый у працягу апошніх двух год зьнізіліся амаль на 50 проц.

Сумны малюнак уяўляюць таксама курсы облігацый польскіх дзяржаўных і муніцыпальных пазык на Нью-Іёркскай біржы. Облігацыі „стабілізацыйнае" пазыкі ад 1927 г. пры номінале 100 і эмісыйным курсе 92 котыруюцца ў Нью-Іёрку па 85. Такім чынам, амэрыканскі трымальнік польскіх облігацый, які разьлічваў на прыбытак, атрымаў значную страту і жорстка расчараваўся ў рэнтабэльнасьці польскіх каштоўных папераў. Гэта, зразумела, адыме ў Польшчы надзею атрымаць у Амэрыцы новую пазыку.

Між тым прыток замежнага капіталу ў фэрме фінансавага крэдыту для Польшчы надзвычайна патрэбны. Дарагоўля крэдыту дайшла да таго, што на прыватным вучотным рынку 5 проц. месячных—гэта далёка ня рэдкасьць. У гэтых умовах пра прыцягненьне ўнутраных польскіх капіталаў да нормальных опэрацый, як, напрыклад, фінансаваньне будаўнічага руху—ня можа быць і гутаркі. Свабодныя капіталы імкнуцца да больш рызыкоўных, але за тое значна больш рэнтабэльных зьдзелак. З другога боку, прыбыткі дзяржаўнай казны настолькі паменшыліся, што ўрад ня ў стане фінансаваць будаўнічага руху, якое магло-б стаць падважнікам некаторага ажыўленьня кон'юнктуры. Так, напрыклад, „Газэта Варшаўска" ад 3 мая г. г. паведамляе, што ўрад выдаў муніцыпалітэту г. Варшавы 3,4 млн. злот. крэдытаў на будаўніцтва, у той час, як для таго, каб скончыць пачатыя ў мінулыя гады будынкі трэба 40 млн. злотых.

Патрэба прытоку замежнага капіталу тым больш патрэбна, што ў апошні час, ня гледзячы на актыўнасьць гандлёвага балянсу, узмацнілася ўцечка замежнай валюты з Польскага Банку. Замежная валюта зьяўляецца адным з родаў пакрыцьця банкнот польскае эмісійнае ўстановы. Уцечка замежнай валюты пры жорсткім рэжыме пакрыцьця (звыш 61 проц.), якое захоўваецца амэрыканскім контролёрам Дзьюі, прыводзіць да грашовай дэфляцыі, вельмі небясьпечнай для анэмічнай гаспадаркі Польшчы.

Аднак-жа надзеі на атрыманьне пазыкі за межамі няма ніякай. Аб гэтым зусім адкрыта заявіў нядаўна памянёны вышэй Дзьюі. Такая-ж думка была выказана ўрадавай прэсай у полеміцы з опозыцыяй. Б. міністар Чэховіч, які нядаўна парваў з урадавым блёкам, падцьвердзіў гэты погляд і выказаў пры гэтым думку аб тым, што лёсу польскай валюты пагражае небясьпека.

Выйсьця з сучаснай глыбокай дэпрэсіі пакуль ня відаць. Працэс загніваньня капіталістычнай стабілізацыі ў Польшчы набыў ужо такія формы, пры якім „самавыбаўленьне“ немагчыма. Перасталі дзейнічаць тыя аўтаматычныя рэгулятары, якія ў мінулым дапамагалі капіталістычнай гаспадарцы выходзіць з стану крызіса. Цяпер у Польшчы мы сустракаемся з тымі зьявішчамі, што гуртавая цана на прамтавары за час з сакавіка 1929 г. па сакавік 1930 г. зьнізілася ў зьвязку з крызісам з 104,7 да 98,3, а раздробныя цэны ў гэты-ж час павялічыліся з 108,6 да 111,3. Што гэта значыць? Гэта значыць, што 1) розьніца паміж гуртавой і раздробнымі цэнамі, якая ўсё павялічваецца, пападае ў кішэні пасрэднікаў і банкаў, што фінансуюць тавараправодзячую сетку; 2) падвышэньне раздробных цэн у часе крызісу затрудняе ліквідацыю запасаў, такім чынам стварае ўмовы, што перашкаджаюць і затрымліваюць ліквідацыю дэпрэсіі.

Цяжар працяглага крызісу падае ў першую чаргу на працоўныя масы насельніцтва. Аб становішчы, што стварылася ў зьвязку з крызісам у вёсцы, мы ўжо памінал ў другой частцы нашага артыкулу. Яшчэ трагічней становішча гарадзкога пролетарыяту. З агульнага ліку каля 880.000 чалавек прамысловага пролетарыяту Польшчы ў канцы сакавіка г. г. паводле даных афіцыяльнай статыстыкі было каля 300.000 чалавек беспрацоўных і 120.000 чалавек паўбеспрацоўных. Гэта значыць, што больш 33 проц. прамысловых рабочых знаходзіцца бяз працы і сродкаў існаваньня і што каля 14 проц. рабочых зарабляе столькі, што гэты заработак „за вялікі для таго, каб памерці, але вельмі малы для таго, каб можна было жыць“.

Экономічны крызіс, што перажывае Польшча, польская буржуазія рыхтуецца зжыць за кошт працоўных мас. Павялічваюцца факты скарачэньня зарплаты. На грунце гэтага ўжо мелі месца забастоўкі і сутычкі з паліцыяй. Факт скарачэньня зарплаты прызнаецца нават афіцыяльным Кон'юнктурным Бюлетэнем. Адначасна ўрад скарачае разьмер грамадзкіх работ, на якія прымаліся беспрацоўныя. Ня глядзячы на тое, што ў параўнаньні з сакавіком мінулага году колькасьць беспрацоўных у гэтым годзе амаль падвоілася, лік рабочых занятых на грамадзкіх работах, зьменшыўся з 29.233 да 15.323 чалавек. Павялічваюцца таксама факты нявыдачы беспрацоўным іх жабрацкай дапамогі. На грунце гэтага мелі месца шматлікія сутычкі беспрацоўных з паліцыяй. Адна з буржуазных газэт („Наш Пшэглёнд“ ад 19 красавіка 1930 г.) дагаварылася да таго, што яна раіць наогул спыніць выдачу дапамог беспрацоўным і аддаць гэтыя сумы для крэдытаў фабрыкантам. У сваёй барацьбе з рабочай клясай польская буржуазія ня спыняецца ні перад якімі сродкамі. Рэволюцыйныя профсаюзы, якія яшчэ да гэтага часу захаваліся ад разгрому, на днях закрыты; турмы перапоўнены як ніколі; прадстаўнікі рабочых у Сойме сядзяць у турмах, або сыстэматычна катуюцца паліцыяй і шпікамі.

## IV.

Як мы пераканаліся на падставе лічбаў, што былі прыведзены ў першай частцы артыкулу, увесь пасьляваенны пэрыод—зьяўляецца для Польшчы, незалежна ад паляпшэньня і пагаршэньня кон'юктуры на тым ці іншым адцінку часу—пэрыодам глыбокай экономічнай дэпрэсіі, дэпрэсіі, што мае не кон'юнктурны характар, але глыбока структурны характар. З гэтай дэпрэсіі выйсьце наўрад ці знойдзецца. Бо няма такіх сіл, якія маглі-б зьвярнуць апрацоўчай прамысловасьці Конгрэсовай Польшчы і цяжкой індустрыі Верхняй Сылезіі іх даваенныя натуральныя рынкі збыту. Ва ўмовах нарастаючага крызісу сусьветнага капіталізму, польская прамысловасьць наўрад ці здолее вытрымаць на замежных рынках націск значна больш магутных конкурэнтаў. Разьлічваць на рост ёмкасьці ўнутранага рынку ў абстаноўцы далейшага загніваньня капіталізму, зразумела, ня прыходзіцца. Разьлічваць на гэта ня прыходзіцца яшчэ таму, што польская буржуазія ня спыніць сваіх узброеньняў, наадварот—узмацніць іх, такім чынам, падатковы прэс будзе выціскаць разам з сокамі працоўнага насельніцтва таксама яго пакупную здольнасьць.

Але з другога боку, буржуазная Польшча ня можа адмовіцца ад разьвіцьця сваёй прамысловасьці. Польская вёска да крайніх межаў пералюднена; сялянскія гаспадаркі драбнеюць. Умоў для разьвіцьця інтэнсыўных дробных гаспадарак (па прыкладу Даніі) Польшча ня мае і ня можа мець, хоць-бы ў выніку таго, што яе прамысловыя цэнтры знаходзяцца ў заняпадзе. Зганеньне вёскі павялічваецца. Буржуазныя экономістыя даводзяць, што ў выніку драбненьня зямельных надзелаў, селянін атрымае магчымасьць працаваць продукцыйна толькі ў працягу $^1/_3$ свайго рабочага часу. Справа зводзіцца да таго, што ў выніку цеснаты ў вёсцы проста такі няма об'ектаў, да якіх можна было прыстасаваць працу. І таму, апрача соцен, тысяч беспрацоўных батракоў (орган ППС „Работнік“ піша аб 300.000 беспрацоўных на вёсцы), на вёсцы ёсьць мільёны малазямельных сялян, якія не знаходзяць дадатковага заработку.

Апрача таго, насельніцтва Польшчы шпарка павялічваецца. Прырост насельніцтва ў 1928 г. раўнаўся 480.000 чалавек нэтто. Гэта азначае вялікі рост прапановы працы ў часе бязупыннай дэпрэсіі, якую перажывае дзяржава. Гэта азначае, што ў горадзе і на вёсцы зьбіраецца небясьпечны выбуховы матэрыял, які пагражае капіталістычнаму ладу.

Да вайны лішак насельніцтва выходзіў з вёскі ў горад, у якім разьвівалася прамысловасьць, якая працавала на патрэбы вялізарных рынкаў. Апрача таго, сотні тысяч чалавек эміґравалі за межы, галоўным чынам у Злуч. Штаты Паўн. Амэрыкі. У сучасны момант у Польшчы колькасьць прамысловых рабочых ня толькі не павялічваецца, а ў шмат якіх галінах зьмяншаецца. Вялізарнае беспрацоўе ў горадзе і на вёсцы стала хронічным зьявішчам. Магчымасьць эміґрацыі значна скарацілася. Толькі

невялікая параўнальна колькасьць эмігрантаў выяжджае штогодна галоўным чынам у Францыю і Канаду (у Канаду яны выяжджаюць пераважна ў надзеі перабрацца затым у П.-А. Зл. Штаты). Ёсьць таксама пэўная сэзонная эміграцыя (парабкоў і беднякоў) у Нямеччыну. Аднак-жа абсолютныя лічбы вывазу жывой рабочай сілы параўнальна нязначныя. Так, напрыклад, у 1927 г.—абсолютная лічба эмігрантаў раўналася 67.801 чалавек, у 1928 г.—67.550. Пры гэткім значным натуральным прыросьце насельніцтва разьмер эміграцыі трэба лічыць мізэрным.

У гэтых умовах адзіным выйсьцем можа быць толькі форсаваньне індустрыялізацыі краіны. Але для гэтага патрэбны рынкі збыту. Гэтыя рынкі ў сілу сваёй экономічнай традыцыі, організацыйных і гандлёвых навыкаў, а таксама ў сілу свайго географічнага становішча капіталістычная Польшча можа знайсьці толькі на Ўсходзе, дакладней кажучы: на тэрыторыі нашага Савецкага Саюзу.

Ці значыць гэта тое, што існуюць прадпасылкі для экономічнага збліжэньня паміж СССР і капіталістычнай Польшчай? На гэтае пытаньне можна даць толькі адмоўны адказ. Разьлічваць на пасьпяховае разьвіцьцё сваёй прамысловасьці капіталістычная Польшча магла-б толькі ва ўмовах колёніяльнай эксплёатацыі яе замежных рынкаў збыту. Практыка ўсяго пасьляваеннага пэрыоду даводзіць, што Польшча ня гледзячы на сваё цяжкое, бязвыйсьцёвае становішча, не жадае з намі заключаць гандлёвы дагавор. Гэтыя адмоўныя адносіны да гандлёвага дагавору з СССР падзяляюцца ўсёй польскай буржуазіяй у цэлым.

Практыка апошніх год даводзіць, што на нашы рынкі польскі капітал хоча прабіцца шляхам узброенай інтэрвэнцыі. Да гэтай узброенай інтэрвэнцыі Польшча асабліва ўзмоцнена пачала рыхтавацца пасьля таго, як у 1926 годзе на чале польскае дзяржавы зноў стаў Пілсудзкі. Пілсудзкі здолеў наўкола сваёй інтэрвэнцыяналісцкай програмы згуртаваць усю прамысловую буржуазію і фінансавы капітал, а таксама ўсю абшарніцкую клясу.

Аднак, усякая програма вайны мае патрэбы ў фігавым лістку. У ім мае патрэбу і захопніцкая програма Пілсудзкага. І такім чынам на трасіне бязупыннай экономічнай дэпрэсіі і неабходнасьці выхаду на ўсходнія рынкі вырасла і буйна расьцьвіла атрутная кветка, імя якой „фэдэрацыйная програма“ Польшчы. Сутнасьць яе заключаецца ў імкненьні да захопу Савецкай Беларусі і Савецкай Украіны і далучэньня іх да Польшчы пад выглядам стварэньня фэдэрацыйнае Польска-Беларуска-Украінскае буржуазнае дзяржавы. У гэтым сваім імкненьні Польшча імкнецца скарыстаць усе антысавецкія сілы Эўропы, з якімі яна каордынуе сваю політыку і дзеяньні.

Цяперашні параксызм экономічнага крызісу бязумоўна значна пасслабляе гаспадарчую позыцыю Польшчы. Ці трэба з гэтым чакаць паслабленьня агрэсыўнасьці польскага імпэрыялізму? Бязумоўна ня можна

чакаць. Хутчэй наадварот: чым цяжэй будзе экономічнае становішча Польшчы, тым будуць узмацняцца ваенна-авантурыстычныя настроі польскага фашызму, тым рэальней становіцца небясьпека вайны.

Новы замах на наша Паўнамоцнае Прадстаўніцтва ў Варшаве, паводзіны польскага друку і загадковыя адносіны польскіх улад да гэтай найноўшай ваеннай провокацыі сьцьвярджаюць правільнасьць нашага пункту гледжаньня.

# ЗА БУДАЎНІЦТВА СОЦЫЯЛІЗМУ

## О. Канакоцін

XIII Зьездам КП(б)Беларусі ў гісторыю барацьбы за заваёвы кастрычніка, у гісторыю змаганьня за соцыялістычную перабудову краіны запісаны яшчэ адзін слаўны гэроічны разьдзел.

У пастановах зьезду загартаваным, ідэёва зьлітным атрадам бальшавікоў-ленінцаў, распрацованы опэратыўны плян далейшага няўхільнага і рашучага наступу па ўсяму фронту соцыялістычнага будаўніцтва.

Тое адзінства, з якім праходзіў зьезд, яшчэ раз яскрава сьцьвердзіла, што КП(б)Б сапраўды зьяўляецца цьвёрдым монолітным атрадам УсеКП(б), стоячы тут на мяжы з капіталістычным захадам. Пад бальшавіцкім кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэту, наша партыя дасягнула вялічэзных нябачных посьпехаў у галіне соцыялістычнага будаўніцтва. На абшарах нашай краіны ўжо вырасьлі гмахі новых соцыялістычных фабрык і заводаў, гудкі якіх вяшчаюць аб нашых посьпехах, аб нашых дасягненьнях. Ствараецца магутная энэргетычная база прамысловасьці, заканчваецца пабудова Асінаўскай станцыі, будуецца Гомельская электрычная станцыя, вядзецца падрыхтоўка да разгортваньня будаўніцтва трэцяй станцыі гіганту ў Прапойску. Хутка ад асінаўскіх балот, ад Сталінбуду, пацячэ электрычная кроў па правадох на фабрыкі Віцебшчыны, Аршаншчыны і Магілеўшчыны.

Наперакор прароцтвам правых панікёраў аб немагчымасьці ажыцьцяўленьня вызначаных тэмпаў будаўніцтва, мы ідзем упэўненым бальшавіцкім поступам да выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, пакідаючы далёка за сабой папярэднія плянавыя меркаваньні.

На грунце росту прамысловасьці расьце колькасьць пролетарыяту ў краіне, пашыраецца пролетарская база, што яшчэ больш узмацняе позыцыі пролетарскай дыктатуры, што караным чынам зьмяне соцыяльныя і клясавыя суадносіны, што спрыяе ўзмацненьню БССР, як форпосту Савецкага Саюзу на Заходняй мяжы з капіталістычным сьветам.

У разгортваньні колгаснага будаўніцтва, КП(б)Б дабілася вялікіх посьпехаў. Праводзячы генэральную лінію партыі, мобілізаваўшы ўвагу ўсіх організацый усёй партыі і рабочае клясы БССР, ЦК КП(б)Б пабальшавіцку кіраваў гэтай вялічэзнай перабудовай вёскі. І толькі дзякуючы правільнаму бальшавіцкаму кіраўніцтву ЦК, мы маем такі магутны зрух ў справе колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх мас, які па існасьці

зьяўляецца вялікім пераломам у ператварэньні дробна-сялянскіх малатаварных гаспадарак у буйныя аграмаджаныя соцыялістычныя гаспадаркі. Да свайго XIII зьезду КП(б)Б прышла з 15 проц. аграмаджанай колектывізаванай зямлі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Тут у колгасным сэктару сельскае гаспадаркі па-іншаму разьвязваюцца пытаньні аб продукцыйнасьці і таварнасьці сельскае гаспадаркі, устанаўляецца плянавае разьмеркаваньне працы і г. д. Пролетарскі трактар гораду, машынна-конныя станцыі колектывізаванай вёскі руйнуюць старыя дзедаўскія межы, якія зьяўляліся „сьвяшчэннымі“ ланцугамі прыватнай уласнасьці, у якія вякамі была закована зямля.

Бядняцка-серадняцкія масы вёскі пад кіраўніцтвам рабочае клясы і яе партыі прыступілі да вялічэзнай соцыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі на новых падставах.

Гэта па новаму ставіць пытаньне аб змычцы, гэта падводзіць яшчэ больш моцны фундамант да саюзу рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства, гэта дае поўную магчымасьць пасьпяхова праводзіць рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты — ажыцьцяўляць політыку партыі па ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі.

Але разам з гэтым рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты выклікала шалёнае супраціўленьне клясава-варожых сіл і абвастрэньне клясавай барацьбы. Процэс абвастрэньня клясавай барацьбы шчыльнейшым чынам і непарушна зьвязаны з актывізацыяй і супраціўленьнем ліквідуемага кулацтва і іх ідэолёгаў, нацыянал-дэмократаў і ліхаманкавай кампаніяй падрыхтоўкі нападу на СССР з боку імпэрыялістычных дзяржаў, якія мобілізуюць усе сілы і сродкі для падрыхтоўкі гэтага нападу, пачынаючы „ад намесьніка хрыста“ папы Пія XI і канчаючы польскім фашызмам і беларускім нацыянал-фашызмам Заходняй Беларусі.

У змаганьні за бальшавіцкую лінію ў пытаньнях саюзу рабочае клясы з бядняцка-серадняцкімі масамі КП(б)Б яшчэ раз яскрава давяла правільнасьць гэтай лініі, правільнасьць політыкі партыі, КП(б)Б разграміла права-апортуністычныя тэорыі аб дэградацыі сельскае гаспадаркі, аб размычцы з серадняком, разграміла прышчэпаўшчыну, буржуазныя неаднародніцкія тэорыі ў пытаньнях зямельнай політыкі, нанесла рашучы ўдар нацыянал-шовіністым і нацыянал-дэмакратызму, які змыкаецца з беларускім нацыянал-фашызмам Заходняй Беларусі.

Перабудоўваючы краіну на новых соцыялістычных падставах з нябачнымі тэмпамі пры вялічэзным уздыме творчага энтузіязму пролетарыяту і працоўных мас БССР, мы гэтым самым наносім рашучы ўдар ня толькі па капіталістычных элемэнтах у нашай краіне, але б'ем саюзніка заходня-эўропэйскага імпэрыялізму польскі фашызм і беларускі нацыянал-фашызм.

З другога боку, пасьпяховасьць соцыялістычнага будаўніцтва БССР зьяўляецца адным з галоўнейшых момантаў, спрыяючых далейшаму

разгортваньню і паглыбленьню рэволюцыйнай барацьбы і ўздыму рэволюцыйнай хвалі на захадзе, у першую чаргу ў Заходняй Беларусі і Польшчы.

Бо кожная соцыялістычная фабрыка, кожны саўгас, колгас зьяўляюцца тымі прожэктарамі, праменьні якіх праз дрот мяжы бліскаюць і на Захадзе.

Гэтыя нашы посьпехі не зацьміць ні хлусьня соцыял-фашыстых, ні шалёны паклёп буржуазнай прэсы.

Зразумела, што ўсе гэтыя посьпехі, з якімі пролетарыят і працоўныя прышлі да XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду ЎсеКП(б), былі магчымы пры выпрабаваным і непаслабным кіраўніцтве ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, пры няўхільным правядзеньні генэральнай лініі партыі.

Толькі рашучае і пасьлядоўнае правядзеньне генэральнай лініі партыі, накіраванае на індустрыялізацыю і соцыялістычную рэконструкцыю краіны, барацьба з антыленінскімі адхіленьнямі ад гэтай лініі, забясьпечыла бурнае разьвіцьцё прамысловасьці БССР.

Комуністычная партыя, якая змагалася на франтох грамадзянскай вайны, якая кіруе дзяржавай вялізарнай краіны, мобілізавала рабочую клясу на выконваньне вялікага пляну соцыялістычнага будаўніцтва. Творчая актыўнасьць і энтузыязм рабочае клясы надзвычайна ўзрасьлі, яны яскрава выяўляюцца ў разгортваньні соцыялістычнага спаборніцтва, у росьце ўдарніцтва, у павялічэньні капітальных укладаньняў, у пераходзе на бесьперапынны тыдзень і 7-мі гадзінны рабочы дзень, што яшчэ больш дае магчымасьць далейшага перавыкананьня пяцігодкі.

Вялічэзная дапамога пролетарыяту Савецкага Саюзу, кіраўніцтва Ленінскага ЦК УсеКП(б) забясьпечылі тыя нябачныя тэмпы ўздыму прамысловасьці, тэмпы, у якіх БССР ідзе больш шпаркімі крокамі ў параўнаньні з іншымі саюзнымі рэспублікамі. Задача — падцягнуць экономічны ўзровень адсталых краін да ўзроўню перадавых краін пераможшага пролетарыяту, намі пасьпяхова выконваецца.

З шпаркімі тэмпамі разьвіцьця прамысловасьці БССР паляпшаецца матэрыяльна-бытавое становішча рабочае клясы, паляпшаецца культурнае абслугоўваньне рабочых мас, на ўзрастаючай экономічнай базе расьце і пролетарская культура.

Посьпехі, якія мы дасягнулі ў разьвіцьці прамысловасьці, ні ў якім разе не павінны паслабляць нашай увагі да тых недахопаў, якія сустракаюцца на шляху вялікага будаўніцтва. Зьезд даў паказаньні ўсім організацыям аб рашучай барацьбе з недахопамі, з якіх асноўныя складаюцца: з невыкананьня дырэктыў па зьніжэньню сабекошту, яшчэ недастатковага палепшаньня якасьці продукцыі, з недавыкананьня заданьняў па падвышэньню продукцыйнасьці працы, з недахопаў па капітальнаму будаўніцтву, з слабых тэмпаў разьвіцьця тарпяной і хэмічнай прамысловасьці.

Бальшавіцкі зьезд, з усёй рашучасьцю выкрываючы ўсе недахопы і перашкоды, даў яскравыя і катэгарычныя паказаньні па далейшаму

разгортваньню будаўніцтва прамысловасьці, паставіў перад усёй КП(б)Б неадкладнай і першачарговай задачай выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну. На ажыцьцяўленьне пастаноў зьезду па прамысловасьці мы павінны яшчэ больш узьняць энтузіязм пролетараў і працоўных і прыкаваць увагу ўсёй савецкай грамадзкасьці.

На базе разгорнутай соцыялістычнай індустрыі, на базе непарушнага саюзу пролетарыяту з бядняцка-серадняцкімі масамі, пры рашучай неаслабнай барацьбе з усякімі адхіленьнямі ад генэральнай лініі партыі ў пытаньнях сельскае гаспадаркі, КП(б)Б дабілася значных посьпехаў на фронце соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

Не паслабляючы тэмпаў колектывізацыі, праводзіцца вялікая работа па гаспадарчаму і організацыйнаму ўзмацненьню існуючых колгасаў, па пасіленьню работы сярод беднаты ў колгасах і па-за колгасамі,—высоўваньню сераднякоў на кіруючую колгасную работу; разьвіцьцю масавых форм грамадзкай самадзейнасьці—соцспаборніцтва, ударніцтва,—стварэньню моцных партыйных кадраў у колгасах, дапамозе колгасам крэдытам і льготамі, машынамі і культурнай сілай. Усё гэта будзе яшчэ больш згуртоўваць беднату і сераднякоў у колгасах, забясьпечыць пасьпяховае ўцягненьне ў колектывы бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, якія яшчэ не ўвайшлі ў колгасы, забясьпечыць перамогу соцыялістычнага разьвіцьця сельскае гаспадаркі і на аснове суцэльнай колектывізацыі дасьць магчымасьць ліквідаваць кулацтва, як клясу.

Адначасова з узмацненьнем соцыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі неабходна ўсямерна ўзмацняць кіруючую ролю пролетарыята ў адносінах індывідуальнага сэктару, шляхам энэргічнага правядзеньня вытворчага коопэраваньня бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, праз упартую і сыстэматычную работу з беднякамі і адзіналічнікамі, праз згуртаваньне бядняцка-серадняцкіх мас для рашучай барацьбы з кулаком да поўнай ліквідацыі кулацтва, як клясы.

Далейшае разгортваньне колектывізацыі павінна ісьці пры яшчэ большай барацьбе за ленінскі прынцып добраахвотнасьці ўваходжаньня ў колгасы, пры ўзмацнёнай барацьбе з усялякімі адхіленьнямі ад Ленінскай лініі партыі. Галоўны агонь партыя накіроўвае супроць правага ўхілу, як самага небясьпечнага, партыя бязьлітасна б'е „левых" загібшчыкаў і прымірэнцаў. Партыя ні на хвіліну не паслабляе гэтай барацьбы. Імкненьні правых опортуністых і „левых" загібшчыкаў дыскрэдытаваць бальшавіцкае кіраўніцтва ЦК КП(б)Б сустрэла самы рашучы адпор усёй партыі.

Дзякуючы правільнаму кіраўніцтву ЦК, выходзячы з генэральнай лініі партыі, мы маем бязупынны рост соцыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі.

Разам з ростам палітычнай актыўнасьці рабочае клясы, мы прышлі да зьезду са значным уздымам культурнага ўзросту пролетарскіх мас Беларусі. Пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, рабочая кляса дасягнула значных

посьпехаў у галіне культурнага будаўніцтва: БССР першая рэспубліка, дзе ўведзена ўсеагульнае навучаньне. У нас значна пашырылася сетка школ, клюбаў, пашырылася сетка радыё, значна палепшылася праца кіно і г. д. Праўда, тэмпы культурнага будаўніцтва яшчэ адстаюць ад тэмпаў будаўніцтва соцыялістычнай прамысловасьці, ад перабудовы сельскае гаспадаркі, яшчэ ня цалкам задавальняюць запатрабаваньням шырокіх працоўных мас, асабліва бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, але на культурным фронце мы маем вялічэзныя зрухі наперад.

За пэрыяд ад XII зьезду рабочая кляса на чале з партыяй рашуча змагалася за клясавы пролетарскі зьмест беларускай культуры, што знайшло сваё яскравае выражэньне ў жорсткім адпоры вылазкам нацыянал-дэмократаў у час тэатральнай дыскусіі, дыскусіі аб шляхох беларускай мовы, у адпоры нацыянал-дэмократычным тэндэнцыям у мастацкай творчасьці. На гэтым вучастку ўсім варожым выступленьням нанесен руйнуючы ўдар, пры актыўным удзеле шырокіх пролетарскіх мас, пры консолідацыі блізкіх да партыі культурных кадраў, што вядуць барацьбу на ідэолёгічным фронце разам з пролетарыятам, пад кіраўніцтвам партыі (маладыя пролетарскія і бядняцка-серадняцкія кадры культурнікаў, Бел. АПП і г. д.).

КП(б)Б цьвёрда стаяла на чале культурнага будаўніцтва, на чале будаўніцтва пролетарскай культуры. „Партыя рашуча выправіла памылкі Наркамасьветы, якія скажаў установку партыі і не праводзіў выразнай клясавай лініі ў падрыхтоўцы кадраў". Партыя мобілізавала ўвагу рабочае клясы да справы культурнай рэволюцыі. Перад намі стаіць вялізарнейшая задача па ажыцьцяўленьню пляну ўсеагульнага навучаньня, бо соцыялістычная рэконструкцыя патрабуе пагалоўна пісьменнага насельніцтва, на вырашэньні гэтай задачы павінны быць накірованы ўсе культурныя сілы краіны шляхам культпаходу, ударніцтва, соцыялістычнага спаборніцтва, „грамадзкага буксіру" з тым, каб скончыць ліквідацыю няпісьменнасьці дарослага насельніцтва на працягу двух год і ахапіць школай усіх дзяцей школьнага ўзросту.

Расьце вельмі шпарка сетка першапачатковай школы, пашыраецца сярэдняе зьвяно навучаньня, ствараецца магутная база вышэйшага навучаньня, замест 4 вышэйшых навучальных устаноў (Сельска-Гаспадарчая Акадэмія, Вэтэрынарны Інстытут, БДУ, Камвуз) у гэтым годзе мы будзем мець яшчэ восем вышэйшых навучальных устаноў (Хэміка-Тэхнолёгічны і Электра-Тэхнічны ВТУЗ у Менску, Мэханічны Інстытут у Гомелі, пэдагогічныя інстытуты ў Віцебску, Магілеве і Гомелі, Зоотэхнічны і Лясны інстытут і Мэдычны інстытут). Шпаркім тэмпам разгортваецца навукова-дасьледчая справа. Беларуская Акадэмія Навук, Інстытут Сельскае і Ляснай Гаспадаркі, Інстытут Прамысловасьці, Інстытут Гісторыі Партыі і Рэволюцыйнага Руху і цэлы шэраг іншых навукова-дасьледчых устаноў зьяўляюцца цытадэлямі навуковай думкі БССР. Тут выкоўваецца навука на карысьць соцыялістычнага будаўніцтва, тут выкоўваюцца новыя

маладыя кадры пролетарскіх вучоных, якія заменяць няздольных ісьці ў ногу з рэволюцыйным пролетарыятам.

Такія-ж вялікія посьпехі мы маем і ў вышэйшых формах культуры: тэатру, літаратуры, кінэматографіі. З невялічкіх аматарскіх гурткоў паступова склаліся і вырасьлі дзяржаўныя тэатры: Першы Дзяржаўны Беларускі тэатр, які з надзвычайным посьпехам рапартуе аб сваіх дасягненьнях на Ўсесаюзнай алімпіядзе ў Маскве „Гутай“ і „Міжбур‘ем“, творамі маладых беларускіх пролетарскіх пісьменьнікаў, Беларускі Вандроўны тэатр, які заваяваў сымпатыі шырокіх колаў працоўных, Яўрэйскі Дзяржаўны тэатр БССР зьяўляецца зараз лепшым яўрэйскім тэатрам у СССР, расьце і пасьпяхова разьвіваецца БДТ-2.

Зусім нядаўна ў шэрагі беларускіх дзяржаўных тэатраў сталі польскі і яўрэйскі вандроўныя тэатры. Разгортваюць сваю працу рабочы тэатр ЦСПСБ і ТРАМ.

Беларуская кінэмотаграфія да XIII зьезду прышла з актыўным політычным балянсам, яна аддала рапарт партыі такімі фільмамі, як „У агні народжаная“, „Заваёваная зямля“ і „Ненавісьць“ („Чорная кроў“).

На літаратурным вучастку культурнага фронту, у процэсе барацьбы за пролетарскі зьмест літаратуры ўжо маюцца пэўныя дасягненьні.

Будаўніцтва культуры нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу ідзе па вернаму шляху дзякуючы цьвёрдаму бальшавіцкаму кіраўніцтву ЦК КП(б)Б.

Праводзячы цьвёрда-выразную клясавую лінію ў культурным будаўніцтве, вядучы бязьлітасную барацьбу з антыпролетарскай ідэолёгіяй, неабходна прыняць усе крокі да паскарэньня тэмпаў культурнага будаўніцтва, да поўнага абслугоўваньня культурных запатрабаваньняў пролетарыяту і шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, у асаблівасьці колгасьнікаў. Мы павінны ўжыць усе меры да самай хуткай перабудовы органаў асьветы з тым, каб зрабіць іх сапраўднымі штабамі культурнай рэволюцыі.

З шырокім разгортваньнем беларускай пролетарскай культуры ідзе ўздым культуры працоўных нацменшасьцяй. Пашыраецца сетка навучальных устаноў пачатковага, сярэдняга і вышэйшага зьвяна для яўрэйскага, польскага, латыскага і літоўскага працоўнага насельніцтва на іх роднай мове. Расьце беларуская і нацменаўская прэса, адны толькі цэнтральныя і акруговыя газэты маюць поўмільённы тыраж, шырока разгортваецца сетка шматтыражных друкаваных газэт па фабрыках і раёнах, мацнее армія рабселькораў, мільёны кніжак выпускае ў масы Белдзяржвыдавецтва, дзесяткі і сотні тысяч—цэнтральнае выдавецтва народаў СССР.

КП(б)Б, стоячы на чале нацыянальна - культурнага будаўніцтва, правільна праводзіла Ленінскі прынцып у нацыянальнай політыцы, своячасова мобілізуючы пролетарскія масы на змаганьне за гэты Ленінскі прынцып, узмацняючы позыцыі пролетарыяту на нацыянальна-культурным фронце, вядучы бязьлітасную барацьбу з усялякімі ўхіламі ад лі-

ніі партыі ў практычным ажыцьцяўленьні нацыянальнай політыкі і з усімі буржуазнымі і опортуністычнымі вылазкамі ў нацыянальным пытаньні.

Абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне знайшло свой яскравы выраз у ажыцьцяўленьні беларускага нацыянал-дэмократызму і шовінізмаў усіх колераў. КП(б)Б пры правільным кіраўніцтве ЦК нанесла рашучы ўдар беларускаму нацыянал-дэмократызму, які скочваўся да змычкі з беларускім нацыянал-фашызмам у Заходняй Беларусі. Гэтая барацьба знайшла свой адбітак і ў шэрагах КП(б)Б. Нацыянал - опортуністычная політыка і практыка былога кіраўніцтва Наркамасьветы, нацыянал-опортуністычная практыка Еўбюро на чале з тав. Бейлінымм ў рабоце саматужна-прамысловай коопэрацыі і культурных яўрэйскіх установ, нацыянал-опортуністычныя выступленьні т.т. Чарвякова, Жылуновіча і інш.

Пад кіраўніцтвам ЦК уся КП(б)Б была мобілізавана на барацьбу з беларускім нацыянал-дэмократызмам, нацыянал-опортунізмам, з шовінізмам усіх колераў.

Працягваючы барацьбу з беларускім нацыянал-дэмократызмам, з нацыянал - опортунізмам і шовінізмамі, партыя асаблівую ўвагу надае барацьбе з вялікадзяржаўным расейскім шовінізмам, „які зьяўляецца асноўнай перашкодай на шляху аўладаньня пролетарыятам процэсам будаўніцтва нацыянальнай пролетарскай культурай“. (З рэзолюцыі XIII-га зьезду).

Вялікадзяржаўны расійскі шовінізм праяўляе сваю актывізацыю і ў форме адкрытага выступленьня супроць беларусізацыі, і ў замаскіраваным выглядзе, прыкрываючыся нібыта навуковымі досьледамі, і ў форме саботажу правядзеньня нацыянальнай політыкі.

Рускія шовіністыя, якія знаходзяцца ў межах БССР, пераклікаюцца з сваімі братамі з іншых рэспублік. Выступленьне Воўк-Левановіча, Афанасьева і іншых у нас гучаць у тон Шарко-Окуневу, якія ў расійскім друку па сутнасьці робяць вялікадзяржаўныя шовіністычныя вылазкі супроць ленінскай нацыянальнай політыкі. Праўда, мы сваячасова выкрылі гэтыя праявы шовінізму, ударылі з усёй сілай па іх, але і зараз з яшчэ павялічанай энэргіяй павінны змагацца з вялікадзяржаўным рускім шовінізмам, аб небясьпецы якога так яскрава сказаў XIII зьезд КП(б)Б.

Узмацненьне работы па інтэрнацыянальнаму выхаваньню пролетарскіх і працоўных мас, далейшая інтэрнацыяналізацыя прадпрыемстваў і ўстаноў, пролетарызацыя кадраў культурнага будаўніцтва, далейшае правядзеньне ўзмоцненымі тэмпамі беларусізацыі забясьпечыць будаўніцтва культуры нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьместу, узмацніць кіруючую ролю пролетарыяту ў нацыянальна-культурным будаўніцтве, узмоцніць інтэрнацыянальную солідарнасьць працоўных мас.

Умовы шпаркага разгортваньня будаўніцтва прамысловасьці, соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі,—нацыянальна - культурнага будаўніцтва патрабуюць ад партыі асаблівай увагі да проблемы кадраў. Бясспрэчна, што старых кадраў у нас мала, часта старыя спэцыялістыя

проста няздольны праводзіць работу з тэмпам, якога мы патрабуем, якога патрабуе жыцьцё. Праўда, большасьць старых спэцыялістых, працуючых аддана, у поўнай меры выконваюць ускадзеныя на іх пролетарыятам абавязкі. Пытаньне падрыхтоўкі новых кадраў зьяўляецца важнейшай палітычнай проблемай, якая выцякае з агульнага пляну соцыялістычнага будаўніцтва, вызначанага пяцігодкай.

Уцягненьне ў справу соцыялістычнага будаўніцтва шырачэзных мас рабочых, паварот асноўных мас сялянства да перабудовы дробнай сельскай гаспадаркі на аснове колектывізацыі, патрэба замены той часткі кадраў, якая не змагла перабудавацца для выкананьня новых задач, паставілі перад КП(б)Б як адну з важнейшых задач забясьпечаньня кіруючымі кадрамі. У ажыцьцяўленьні гэтай задачы ЦК дабіўся пэўных посьпехаў праз цэлую сыстэму мер падбору, вылучэньня і падрыхтоўкі лепшых бальшавікоў для найбольш адказных вучасткаў работы. Але вынікі гэтай работы яшчэ ня цалкам задавальняюць запатрабаваньні.

Падрыхтоўваючы новыя кадры ў ВНТУ, тэхнікумах, фабзавучах і г. д., мы павінны больш рашуча высоўваць на камандныя пасты перадавых рабочых, больш рашуча высоўваць на кіруючую працу жанчын і перадавікоў з нашай зьмены комсамолу, узьняўшы на належную вышыню падрыхтоўку і перападрыхтоўку на фабрыках і заводах новых рабочых. Зьезд намеціў шэраг конкрэтных мерапрыемстваў па вырашэньню гэтай складанай проблемы, КП(б)Б возьмецца за вырашэньне яе з усёй бальшавіцкай настойлівасьцю, з усёй бальшавіцкай энэргічнасьцю.

Ва ўмовах вялічэзнай соцыялістычнай перабудовы краіны, пры абвостранай клясавай барацьбе зьезд асабліва падкрэсьліў неабходнасьць узмацненьня работы і адказную ролю саветаў. Асуждаючы недаацэнку ролі сельсаветаў „як спробу паслабленьня пролетарскай дыктатуры“, XIII зьезд даручыў „усім партыйным і савецкім організацыям прыняць самыя рашучыя меры да ажыўленьня дзейнасьці сельсаветаў“, паставіўшы першачарговай задачай ажыцьцяўленьне лёзунгу партыі: „сельсаветы—тварам да колгасаў“.

Паставіўшы баявую задачу саветам на вёсцы, зьезд даў аналёгічнае баявое заданьне профэсіянальным саюзам—перабудовы ўсёй работы ў самы кароткі тэрмін, выходзячы з лёзунгу: „профсаюзы, тварам да вытворчасьці“. Гэты баявы лёзунг партыі павінен быць выкананы з тымжа энтузіязмам, з якім бальшавікі ўмеюць перабудоўваць работу для наступу на фронце будаўніцтва. Профсаюзы адсталі ў гэтай перабудове. „Профсаюзы падобна кіруючай партыі пролетарыяту—павінны рэорганізаваць свой уласны апарат, перш за ўсё зьнішчыць усе астаткі разгільдзяйства, увесьці дух суровейшай дзелавітасьці і дысцыпліны, а таксама і поўную адказнасьць за выкананьне ўсіх і ўсялякіх заданьняў“. „Тварам да вытворчасьці“, за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, за выкананьне і перавыкананьне промфінпляну—вось тыя галоўнейшыя заданьні, якія стаяць і перад профсаюзамі.

Усе задачы, якія паставіў зьезд перад партыяй, павінны выконвацца пры далейшым разгортваньні бальшавіцкай самакрытыкі, пры бязьлітаснай барацьбе з выпадкамі зажыму самакрытыкі, пры ўзмоцненым партыйным кіраўніцтве разгортваньнем самакрытыкі. Бо толькі ва ўмовах разгорнутай крытыкі і самакрытыкі мы будзем мець неабходны ўдзел шырокіх мас у выпраўленьні недахопаў гаспадарчай работы, у барацьбе з бюрократызмам.

Разгортваючы самакрытыку, па-бальшавіцкаму праводзячы ўнутрыпартыйную дэмократыю, КП(б)Б ўпэўненым поступам ідзе ўперад да новых перамог, да новых дасягненьняў.

Рабочая кляса давярае сваёй партыі, аддана сваёй партыі і пасылае ў яе шэрагі лепшых сваіх сыноў. Амаль палова ўсёй КП(б)Б складаецца з рабочых ад варштату і батракоў, агульная-ж колькасьць рабочых членаў КП(б)Б ў гэтым годзе дасягнула 66,9 проц.

Гэта гаворыць аб цьвёрдасьці партыі, як перадавога атраду рабочае клясы, аб пролетарскай баяздольнасьці яе.

Да свайго XIII зьезду КП(б)Б прышла загартаваным ідэёва-зьлітным атрадам бальшавікоў-ленінцаў, зьезд заклікаў усіх сяброў партыі далей замацоўваць сталёвае адзінства партыі, навакол генэральнай лініі партыі і яе ленінскага ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б. Плян далейшага наступу соцыялізму распрацаваны. Ленінскім шляхам мы ідзем наперад. Мы будуем і пабудуем соцыялізм.

# БАРАЦЬБА ЗА САВЕТЫ У БЕЛАРУСКАЙ ВЕСЦЫ

(*1917—1921 годы*)

**Ляўкоў**

1917 год быў годам вялікіх бур. Ён пачаўся з паражэньня наскрозь прагніўшага царызму і кончыўся перамогай пролетарыяту. 8 месяцаў ад лютага да кастрычніка па ўсёй краіне ішла барацьба. Барацьба словамі паміж буржуазнымі партыямі за ўладу і барацьба адзетых у шэрыя шынэлі—рабочых і сялян за саветы.

Падзеі адбываліся з кінэматографічнай шпаркасьцю. Горад гарэў быццам у ліхаманцы. На працягу трох стагодзьдзяў людзі маўчалі, а цяпер загаманілі, але загаманілі так, што іх трудна было суняць. Кожная партыя старалася набыць больш прыхільнікаў, кожная партыя імкнулася падсунуцца бліжэй да дзяржаўнага „пірага“.

Пакуль у горадзе вяліся гэтыя спрэчкі—улады фактычнай ня было, бо нельга лічыць за ўладу выданьня загадаў, якіх ніхто ня выконваў. На фронце шматмільённая армія. Пасьля зьвяржэньня царызма скінула і палачную дысцыпліну. Ваяваць-жа дзеля „мілюкоўскіх праліваў“, аддаваць сваё жыцьцё дзеля гаварлівага Керэнскага, дзеля прыбыткаў буйнай буржуазіі і спэкулянтаў—армія адмаўлялася.

На гэтым фоне магутным выбухам 25-га кастрычніка бальшавіцкая партыя скінула буржуазію і захапіла ўладу.

Па прыкладзе тагочаснага Петраграду пайшла Масква і ўсе астатнія вялікія гарады, але ў вёсцы захоп улады адбываўся вельмі марудна, хоць клясавая барацьба—барацьба за зямлю—вельмі завастралася.

У той час Беларусі, як рэспублікі, якую мы маем цяпер, ня было.

У заходнім краі—у межах Беларусі—адбываліся тыя-ж процэсы, што і ва ўсёй тагочаснай Расіі.

У студзені 1918 г. у вёсках Беларусі клясавая барацьба дасягнула свайго найвышэйшага пункту. Эсэры ўзмоцнена расьпіналіся за ўстаноўчы сойм. Дэмобілізаваныя салдаты, салдаты, што пайшлі добраахвотна з фронту, супроцьставілі ўстаноўчаму сойму лёзунг—улада саветам, які яны прынесьлі з фронту.

У Рудабеліцы (група вёсак сучаснае Бабруйскае акругі) эсэраў падтрымлівала яшчэ і шляхта. Апошняя моцна змагалася проці бальшавіцкіх настрояў і орыентавалася на Польшчу.

Час быў вельмі трывожны. Салдаты не жадалі падпарадкавацца камандаваньню і неорганізавана адступалі. Яны кідалі акопы і са зброяй ішлі дамоў.

— Куды ідзеце?—спытаеш, бывала, групу ў 3—4 чалавекі.

— Годзе. Наваяваліся. Хопіць. Дахаты ідзем.

Саветаў у вёсцы ня было. Кіраўніцтва політычным, гаспадарчым і адміністрацыйным жыцьцём вёскі знаходзілася ў руках земскай управы, якою кіравалі ворагі пролетарыяту і асноўных мас сялянства—эсэры.

На фоне гэтай барацьбы, калі вёску сьцінала мітынгоўшчына, у бальшавіцка-настроеных таварышоў зьявілася думка організаваць у Рудабелцы саветы.

У той час амаль кожны дзень ад хаты да хаты хадзілі пасланцы і клікалі сялян на сходы.

— Гэй, Тодар, ідзі на сход!

— А што там будзе?

— Ды вядома што, паслухаць аб чым будуць гаварыць.

— Не-е-е, пакінь, надаела, будуць зубы загаварваць, справа ёсьць, не пайду.

— Кажуць, што бальшавікі прыехалі, будуць гаварыць аб зямлі і міру. Аб тым, як зьнішчыць памешчыкаў, як організаваць сваю рабоча-сялянскую ўладу—саветы.

— А, тады іншая справа. Пайду, паслухаю.

Варта было зьявіцца на трыбуне бальшавіку альбо бальшавіцка настроенаму салдату былой царскай арміі, сказаць прамову, як яго вельмі ўважліва слухалі. Ківалі галавою, згаджаючыся з прамоваю.

— Правільна, зямля наша, зямлю трэба падзяліць, няма чаго чакаць, пакуль устаноўчы сойм гэта вырашыць. *Возьмем і будзе вырашана.*

Эсэры шалелі. Выдумлівалі пра бальшавікоў усялякія казкі. Абзывалі іх провокатарамі, нямецкімі шпіёнамі, брыдотай і чым хочаце.

Але сам селянін стаў разумней. Навучыўся круціць мазгамі. Ён пачаў паступова разьбірацца і раскусваць усю махінацыю эсэраў. Ясныя, простыя, зразумелыя бальшавіцкія лёзунгі ўсё больш і больш перацягвалі на свой бок сялянскую беднату.

У сьнежані 1917 г. ў Рудабелцы організавалася ініцыятыўная група з бальшавікоў і бальшавіцка настроеных таварышоў для стварэньня саветаў, у якую ўвайшлі т. т. Малаховіч Пракоп, Ляўкоў Максім, Адзінцоў Лявон, Голас Аляксандар, Гошка Нестрат. Тут-жа быў эмісар Тарнаповіч, прысланы з Бабруйску (які аказаўся потым провокатарам).

У 20 чыслах сьнежня 1917 г. гэта ініцыятыўная група склікала сход усіх, што прышлі з фронту, салдат і бяднейшага сялянства з мэтай абгаварэньня пытаньня аб утварэньні Савецкай улады (Ваенна-рэволюцыйнага камітэту). На гэтым сходзе вышэйпаказаная ініцыятыўная група была *абрана і абвешчана рэўкомам.*

Апарату, які цяпер маюць саветы, тады ня было. Рэўкому прыходзілася карыстацца апаратам земскай управы. І праз земскую ўправу рэўком ажыцьцяўляў свае загады, пастановы і г. д.

Па вёсках рэўком узмоцнена разьвіваў сваю дзейнасьць. Ён стаў організоўваць вакол сябе і беднату, і дэмобілізаваных салдат, пачаў зьбіраць зброю для організацыі рэволюцыйнага атраду і сродкі для стварэньня фонду рэўкому.

Бедняки ўносілі па 5 рублёў і прымушалі багатых сялян уносіць у фонд рэўкому адлічэньні паводле колькасьці зямлі, якую меў кожны з іх. І ў кароткі тэрмін, у працягу двух якіх-небудзь тыдняў, было сабрана каля 40—50 тысяч рублёў.

Паступова расьлі сьпісы рэволюцыйнага атраду. Бедната складала сьпісы і прыносіла ў рэўком з просьбаю залічыць іх у салдаты для абароны Кастрычнікавай рэволюцыі.

— Так зямлі не дадуць. Яе трэба ўзяць сілаю. А калі возьмем, трэба будзе яе ахоўваць. Так ідзі, сынок, —казалі старыя.

Праз эмісара Рудабельскі рэволюцыйны камітэт наладжваў сувязь з Бабруйскім павятовым камітэтам партыі бальшавікоў і гарадзкім саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Воінскі начальнік махнуў рукою.

— Усе бягуць з фронту. Усе робяцца дэзэртырамі. Адным больш, адным менш—справа ня зьменіцца і рэгістраваць ня варта.

Вечарам, калі тав. Ляўкоў прышоў на кватэру і хацеў трошкі адпачыць, туды раптам убег усхваляваны хлапчына.

— Ну і брыдота,—засыпаў ён словамі, быццам гарохам. Машэньнікі, не даюць працаваць. Два дні топчамся на адным месцы. Усё спрачаюцца аб адным і тым-жа. Усяго-то іх 9 чалавек—бальшавікоў паганых—а працаваць не даюць. Паўлазілі, пазасядалі, баламуцяць, зрываюць і ніяк не ўдаецца нам з імі справіцца—зямлю зараз раздавай ім,—патрабуюць яны. Не пасьпеюць быццам і пасьля ўстаноўчага сойму.

Але за гэтай дзевяткай, за гэтай фракцыяй бальшавікоў у савеце ішлі рабочыя і сяляне.

У той час стала вядома аб выступленьні, якое рыхтаваў генэрал Доўбар-Мусьніцкі.

Гэта быў генэрал старай царскай арміі. Адразу пасьля лютаўскай рэволюцыі Доўбар-Мусьніцкі пачаў організоўваць нацыянальныя польскія легіёны, з якімі ён засеў у Бабруйскай крэпасьці. У канцы студзеня Доўбар-Мусьніцкі выстраіў свае 10.000 легіянэраў і зьвярнуўся да іх накшталт біблейскага Майсея з наступнаю прамоваю:

— Гісторыя сучаснага моманту дапамагае нам аднавіць вялікую польскую дзяржаву ў яе межах 1772 году. Няхай нясьмелыя ад нас выходзяць. Няхай з 10 тысяч застанецца толькі 5 тысяч, 500, нават 5, нават 3 і я буду трэцім—цьвёрдым, трэцім адважным і моцным, і мы на нашых штыкох падымем сьцяг былое польскае дзяржавы.

І ён паднёс... няволю сялянам, уціск для рабочых і адкрыў фронт немцам для окупацыі Меншчыны.

Перш за ўсё Доўбар-Мусьніцкі разагнаў саветы, аднавіў у Бабруйску згодніцкую думу і выдаў загад, што за ўсякага забітага легіянэра будуць забіты 10 жыхароў з тае вёскі, дзе гэта здарыцца.

Організаваны Рудабельскі рэўком быў абвешчаны па-за законам, бальшавікоў сталі арыштоўваць і расстрэльваць. Па вёсках пачаліся рэквізыцыі, загуляў легіянэрскі бізун. Паасобныя прадстаўнікі жандармэры і старога афіцэрства паўбіраліся ў пагоны і сталі выдаваць рэволюцыйна настроеных салдат.

Дарослае мужчынскае насельніцтва, калі паказаліся польскія атрады ў вёсцы, пачало хавацца. Тых, што супраціўляліся, якія ня выконвалі загадаў легіянэраў, якія не жадалі расставацца з апошняй кароваю ці сабраным ураджаем,—білі, секлі і „двадзесьця пеньць“, славутыя польскія розгі сталі звычайным зьявішчам у сёлах і вёсках, дзе часова асталяваўся Доўбар-Мусьніцкі.

У мястэчку Глуску польскія легіянэры арыштавалі бальшавіка тав. Тышкевіча Зьмітра Андронавіча. Хто яго выдаў—невядома. Як толькі злавілі, яго адразу вывелі з памяшканьня, па сярэдзіне вуліцы, бяз усякага суду і сьледзтва прыставілі да сьценкі каменнага паркану і на вачох усіх, удзень расстралялі...

У часе зьдзекаў Доўбар-Мусьніцкага ўсе таварышы з рэўкому пайшлі ў падпольле, і з беспартыйных, спачуваючых бальшавікам—організавалі бальшавіцкую ячэйку і сталі партыйцамі.

Яшчэ доўга зьдзекваўся Доўбар-Мусьніцкі над беларускім насельніцтвам, хоць цераз 8—9 дзён немцы акупавалі ўсю гэтую тэрыторыю. Доўбар-Мусьніцкі гаспадарыў.

Немцы даражылі кожным сваім салдатам. Іх справы на заходнім фронце былі дрэннымі, з гэтае прычыны яны дазволілі Доўбар-Мусьніцкаму гаспадарыць у Бабруйскім раёне.

Політычны небасхіл Бабруйскай акругі пакрыўся хмарамі. Усе таварышы былога рэўкому Рудабелкі папалі ў падвойныя ціскі: з аднаго боку яны былі абвешчаны па-за законам і кожную мінуту трэба было чакаць арышту і расстрэлу, а з другога—эсэры пачалі іх абвінавачваць у зладзействе і жульніцтве.

Пад абаронаю польскага штыка, пад яго абаронаю эсэры шпарка пачалі разьвіваць агітацыю супроць саветаў.

— Ну і ўлада. Зьбіралі грошы для беднаты, для організацыі ўлады саветаў, а зараз уцяклі разам з грашыма. Шукай ветру ў полі.

— Плакалі вашы грошы,—насьмяхаліся эсэры над сялянамі.—А мы-ж вас папераджалі, ня слухайце бальшавікоў, бо яны вас ашукаюць.

Гэтая агітацыя супроць бальшавікоў пачала пускаць глыбокія карэньні. Некаторыя моцныя гаспадары пачалі пры спатканьні з былымі членамі рэўкому адварачвацца. Гэтая агітацыя нічога добрага не давала.

Трэба было з падпольля ўжыць нешта такое, каб скомпромэтаваць эсэраў і іншых прыхільнікаў Доўбар-Мусьніцкага і зноў вярнуць на свой бок сялянства.

Пры такіх абставінах у крайняй хаце в. Карпілаўкі ў селяніна бедняка сабраліся на нараду некаторыя з былых членаў рэўкому, т. т. Малаковіч, Адынцоў, Ляўкоў, Голас і іншыя. Завесіўшы акно посьцілкай, ціха, паўголасам пачалі выказваць свае думкі аб сучасным становішчы.

Абгаварвалі тры пытаньні: аб сабраных грашох, у зьвязку з агітацыяй эсэраў, аб навіслай пагрозе арыштаў і расстрэлаў і аб здачы зброі.

У першы дзень пераварoту Доўбар-Мусьніцкі расклеіў загад:

„Усе грамадзяне павінны здаць зброю, тыя, хто ня здасьць зброі, будуць сурова пакараны. Вёскі будуць спалены, а вінаватыя на вачох у ўсіх, расстраляны“.

Слабавольныя сяляне, баючыся кары, пачалі хістацца, а некаторыя і здаваць зброю. Можна было бачыць, як, хаваючыся ад дэмобілізаваных салдат, адзінкі сялян з вінтоўкамі пацягнуліся да штабу войска Доўбар-Мусьніцкага. То былі пераважна старыкі, якім хацелася быць далей ад грэху. „Здам зброю і буду чысты, а то чаго добрага зловяць. Тады будзе позна шукаць справядлівасьці, ды кат яе ня дасьць“.

Такія настроі зусім непажадана было бачыць і яшчэ больш непажадана было, каб добраахвотна аддавалася зброя, якая, у гэтых умовах, расцэньвалася на вагу золата. Купляць ня было дзе, а ў грамадзянскай вайне, якая ўжо пачалася, зброя была вельмі патрэбна.

Доўга сядзелі таварышы за вырашэньнем гэтых пытаньняў у маленькім накураным пакойчыку і парашылі: сабраныя грошы раздаць назад па вёсках, згодна сьпісам, якія захаваліся і гэтым выбіць з рук эсэраў іх козыр. У адносінах здачы зброі было пастаноўлена, павесьці агітацыю за тое, каб *зброю не здаваць*.

Пастанавілі і адразу пачалі гэту пастанову праводзіць у жыцьцё. Хутка былі разасланы працаўнікі ў розныя вёскі кругом у радыюсе 25—30 вёрст.

Першым чынам таварышы з падпольля пачалі агітацыю:

— Здаваць зброю палякам ня трэба, і наогул раззбройваць сябе нельга, хавайце стрэльбы і патроны, уціск Доўбар-Мусьніцкага ня вечны. Часы зьменяцца і зброя—ой, яшчэ як будзе патрэбна.

Больш сьвядомыя сяляне і асабліва бедната прыслухаліся да голасу таварышоў з былога рэўкому і пачалі хаваць зброю. Ня толькі хаваць, але адбіраць зброю ад тых сялян, якія несьлі яе для здачы.

У ваколіцы вёскі, на дарозе да „польскага штабу“ можна было наглядаць такія малюнкі.

— Ты куды, Язэп, так рана са зброяй? На паляваньне сабраўся ці так пагуляць?

— Якое-ж зараз паляваньне—вінтоўку паляку нясу здаваць.

— Дурань, ня трэба, давай лепш мне.

— А навошта?

— Будзе патрэбна.

— Зловяць, будзе табе...

— Нічога, чорт ня выдасьць, дык і сьвіньня ня зьесьць.

— Не, лепш панясу...

— А табе, Язэп, якая справа да гэтага. У цябе ня знойдуць і будзь спакойны. А наконт мяне, дык так схаваю, што днём з агнём ня знойдуць.

З аднымі прыходзілася спрачацца больш, з другімі менш, а вынікаў удалося дасягнуць такіх, што замест здачы зброі палякам, яна была схована да лепшых дзён самімі сялянамі.

Калі па вёсках пашырыліся чуткі, што трэба прысылаць прадстаўніка для атрыманьня зданых раней грошай, сяляне спачатку ня верылі:

— Мала што кажуць...

Але калі пачалі настойліва клікаць, сяляне выбралі сваіх прадстаўнікоў і паслалі па грошы. Грошы былі атрыманы і раздаваліся паводле сьпісаў.

Гэты манэўр вельмі добра ўдаўся. Сяляне перасталі прыслухоўвацца да голасу эсэраў:

— Маніце... бальшавікі добрыя людзі, справядлівыя, чаго аб вас казаць нельга.

І, сапраўды, эсэры праваліліся. Бальшавікі ўвесь час гаварылі, што як толькі прыдзе другая ўлада, хаця-бы эсэраўская, дык сяляне яе адчуюць на сваіх плячох. За кароткі час існаваньня рэўкому сялянам было дазволена карыстацца панскім лесам. Пасьля перавароту, ня гледзячы на тое, што ў земскай управе была большасьць эсэраў, паны вярнуліся ў свае маёнткі, пачалі абкладаць сялян вялікім штрафам за выруслены лес.

У вёсках пачуліся енкі, плач і стогны. Аконам разам з польскімі легіянэрамі прыходзіў у двор да селяніна па штраф, а калі грошай ня было—забіраў усё, што пападалася пад руку...

Таварышы з былога рэўкому, паводле сваёй пастановы, разышліся па розных вёсках. Прыходзілася амаль што кожны дзень зьмяняць сваё месца пражываньня, кожную ноч начаваць у іншай хаце; былі выпадкі, калі прыходзілася начаваць дзе папала: у сене, у лесе, або дзе ў снапох.

Аб кожнай небясьпецы сяляне таварышоў папераджалі:

— Слухай,—прыбяжыць бывала хлапчук,—да Янкі прышлі палякі і шукаюць цябе—уцякай.

І прыходзілася ўцякаць і хавацца.

Толькі адзін т. Малаковіч быў арыштаваны. Ці яго хто выдаў, ці гэта проста неасьцярожнасьць з яго боку, але неяк пад вечар яго ў хаце захапілі палякі. Арыштавалі, пабілі і адправілі ў штаб Доўбар-Мусьніцкага.

Усе таварышы ўжо страцілі надзею калі-небудзь з ім спаткацца, бо з рук Доўбар-Мусьніцкага бальшавікі жывымі ніколі ня выходзілі. Але відаць т. Малаковіч нарадзіўся пад шчасьліваю зоркаю і ў штабе Доўбар-

Мусьніцкага ён спаткаўся з адным сваім добрым знаёмым, які вёў сьледзтва па яго справе.

Калі т. Малаковіч быў камісарам корпусу, у часы Кераншчыны, ён сябраваў з адным афіцэрам-палякам. Зараз ролі памяняліся—гэты самы афіцэр быў сьледчым у яго справе, у імя старой дружбы афіцэр павёў справу так, што т. Малаковіча не расстралялі, хоць судом ён быў прыгавораны да расстрэлу.

Здавалася, што зьдзекам Доўбар-Мусьніцкага канца ня будзе. Але ўсё, што мае пачатак, мае і канец. Наступіў канец і панаваньню Доўбар-Мусьніцкага.

Цярплівасьць вёскі скончылася, сіл ня было пераносіць гэткую няволю. Сяляне пачалі пасылаць скаргі ў галоўны нямецкі штаб на дзеяньні палякаў. Ĭ месяцы праз тры пасьля окупацыі Доўбар-Мусьніцкага немцы абяззброілі яго легіянэраў і адправілі ў Польшчу.

Ажылі і таварышы з былога рэўкому. Праз т. т. Салаўя і Тарнаповіча зьвязаліся з Бабруйскім камітэтам партыі. Пачалі організоўвацца, падлічаць свае сілы. Дагаварыліся з Бабруйскам, што для працы ў Рудабельскай, Лясковіцкай, Чэрнінскай, Парыцкай, Азарыцкай, Крукавіцкай, Лучыцкай, Броскай і Глускай валасьцёх організаваны падраённы камітэт партыі з таварышоў былога рэўкому.

Праца праводзілася досыць консьпірацыйна. Трэба было для разьвіцьця агітацыі выйсьці з глыбокага падпольля і пачаць працу сярод шырокіх сялянскіх мас. У гэты час да іх прыехаў т. Равінскі—сакратар Бабруйскага камітэту партыі. На сходзе ў лесе ён выступіў з вялікім дакладам аб сучасным становішчы, запрапанаваў аднавіць свае ранейшыя сувязі і адшукаць больш легальныя мэтоды працы. Гэтыя мэтоды былі знойдзены ў асобе коопэрацыйнага аб'яднаньня.

Таварышы павялі агітацыю сярод сялян за організацыйную падрыхтоўку да выхаду немцаў, каб у пераходны момант апроч саветаў ніхто не захапіў улады. Самым лепшым мэтодам для гэтага быў коопэратыў. Праўленьне коопэратыву павінна было складацца з таварышоў падраённага камітэту партыі.

— Можа коопэратыў будзе і дэфіцытным, але пад яго шыльдаю мы будзем рыхтавацца да організацыі саветаў,—агітавалі члены камітэту.—Прыходзьце нам на дапамогу і зьбірайце грошы для організацыі коопэратыву.

Сялянства пайшло насустрач. Многія бралі па некалькі паёў, бо ведалі, што гэтыя грошы ніколі не прападуць, і сваёй капейкай яны дапамагаюць організацыі савецкае ўлады.

Прыносіць селянін „думку“ (думскія грошы).

— Маю адну толькі... няхай і яна ідзе на добрую справу.

Дазвол на адчыненьне коопэратыву нямецкае камандаваньне выдала. Нават на першы організацыйны сход былі прысланы некалькі салдат для захаваньня парадку. Нямецкі комэндант, пачуўшы на сходзе, што гутарка ідзе аб організацыі коопэратыву, падняўся і вышаў.

Усе таварышы з падраённага камітэту партыі былі абраны ў праўленьне коопэратыву і апошні стаў месцам яўкі, месцам атрыманьня і распаўсюджваньня бальшавіцкіх лістовак і літаратуры, месцам organiзацыі савецкае ўлады.

Пад выглядам закупак, агенты коопэратыву прывозілі літаратуру, падтрымлівалі сувязь з Бабруйскім камітэтам партыі.

Праца коопэратыву разгортвалася вельмі добра. Зразумела, мелася на ўвазе ня столькі коопэрацыйная справа, колькі організацыя сіл для выступленьня.

Сяляне ахвотна ўносілі паі. Былі такія, якія бралі па 50 і 100 паёў. Немцы неяк не чапалі, але сачылі пільна.

Аднойчы, калі ў сяле Кавалі было пасяджэньне раённага камітэту партыі, раптам адчыніліся дзьверы і ўвайшлі... чатыры ўзброеных немцы. Стала няёмка. Таварышы ня ведалі, з якім намерам яны прышлі. Думалі, што яны хочуць іх арыштаваць. Падняліся з месц. Рукі палажылі ў кішэні, і сталі рыхтавацца да абароны. Яшчэ раней было ўмоўлена, што здавацца няма сэнсу. Але трывога аказалася памылковай. Немец спакойна падышоў да стала і запытаўся на польскай мове:

— А вы чым тут займаецеся?

Хутка палажыўшы партыйны пратакол пад папку коопэрацыйнае справы, сябра адказаў:

— А мы тут коопэрацыйныя справы абмяркоўваем...

— А дазвол ёсьць?

— Ёсьць.

— Пакажы.

— Калі ласка,—і немцу паказалі атрыманы дазвол на адчыненьне коопэратыву.

Немец хутка прачытаў паперку, памацаў яе, пільна прыгледзеўся да пячаткі і, відаць, застаўся вельмі задаволеным.

— Можаце весьці далей сваю справу,—адказаў ён.

Бачачы, што справа прыймае такі зварот, сябры папрасілі немца прысесьці да стала.

— Адпачніце, таварыш. Мабыць змарыліся...

— Змарыцца, дык не змарыліся, а прысесьці не пашкодзіць.

Завязалася гутарка. Ня ведаючы ні нямецкае, ні польскае мовы, пачалі весьці гутарку мімікаю.

— Ты з якога фронту?—пытаецца адзін сябра барадатага немца.

— З-пад Баранавіч,—адказвае ён.

— А ты мяне падстрэліў вось сюды,—і паказаў на грудзі.

— Ты мяне,—адказаў немец,—падстрэліў сюды, туды і сюды,—і паказаў на тры раны—у грудзі, руку і нагу.

Усе сьціхлі. Усе зьвярнулі ўвагу на гэтую гутарку.

Немцы сядзелі на лаўках, трымаючы вінтоўкі каля ног.

— А вы кім будзеце, сялянамі?—запытаўся ў немцаў адзін з сяброў

— Сяляне,—адказаў барадач.

— Чаму ваюем?

— А хто яго ведае, паслалі, вось і ваюем.

— Вось, глядзі, у мяне жонка, дзіцё і дзьве дзесяціны зямлі. На якое ліха ісьці мне ваяваць і кроў праліваць?—умяшаўся ў гутарку адзін сябра, які да гэтага часу маўчаў.

— А ў мяне я, жонка, і... паказаў растапыраную руку, загнуўшы тоўсты палец,—моў чацьвёра дзяцей.

— Да якога-ж часу ваяваць будзем?

— А хто яго ведае? Калі-б удалося нам зрабіць так, як зрабілі вы з вашым Мікалаем, дык, напэўна, вайна хутка спынілася-б.

Немцы пакінулі вінтоўкі і завязалася шчырая гутарка.

Тут ужо паставілі самавар, сьпяклі яечню і за шклянкаю гарбаты пачалі апрацоўваць немцаў. Праз паўгадзіну немцы выходзілі з хаты з цэлаю пачкаю проклямацый на нямецкай мове.

— Добра пішуць,—гутарылі яны прачытаўшы лістоўкі,—усё правільна. Трэба будзе як-небудзь няпрыкметна раскідаць па казармах.

Такіх спатканьняў з немцамі было некалькі. І кожны раз, за рэдкім выключэньнем, удавалася апрацаваць іх і надзяліць падпольнаю бальшавіцкаю літаратураю на нямецкай мове.

У гэты час былі яшчэ больш цікавыя выпадкі. Паколькі немцы народ практычны, дык яны пачалі выганяць сьпірт. Сабралі ў сялян бульбы, пусьцілі бровары і пачалі спойваць сялян. Калі гэта спойваньне набыло вялікія памеры, падраённы камітэт задумаўся над тым, як-бы прыпыніць гэтыя непарадкі. Для гэтае мэты падраённы камітэт выпусьціў лістоўку, надрукаваную на шапірографе, прыблізна наступнага зьместу:

„Грамадзяне, сяляне! Немцы, скарыстаўшы момант, хочуць выкачаць з вас чым пабольш грошай і хлеба. Яны пусьцілі бровары, ведаючы, што расійскі селянін падкі на гарэлку і з-за яе гатоў пайсьці на ўсякія недарэчнасьці. Не паддавайцеся на нямецкую вудачку, не вязеце ім бульбы, ня купляйце іхняе гарэлкі. У сучасны момант кожны селянін павінен быць цьвярозым і лішні хлеб захоўваць для сябе. Замест гарэлкі—выдаткуйце грошы на пабудову школы для дзяцей“.

Ці дапамагла гэтая адозва, сказаць досыць цяжка, але бедната пачала менш п‘янстваваць.

У гэты час Бабруйскі раённы камітэт партыі ўзмоцнена пачаў рыхтавацца да захопу ўлады. Некаторыя з нашых таварышоў былі адкліканы ў Бабруйск для заняцьця адказных пасад пасьля перавароту, які рыхтаваўся.

„Рудабельская Фэдэрацыйная Рэспубліка“.

— Вы ня чулі аб такой рэспубліцы? Шкада. У Бабруйскай акрузе аб ёй усе ведаюць. Між тым Рудабельская фэдэрацыйная рэспубліка заслугоўвае, каб аб ёй ведалі ня толькі ў Бабруйскай акрузе, але ва ўсёй Беларусі, бо празвалі яе Рудабельскай фэдэрацыйнай рэспублікай таму,

што яна першая ў Беларусі ў часы нямецкае окупацыі зорганізавала ўладу саветаў, калі немцы яшчэ былі каля Воршы.

Рудабельскі падраённы камітэт партыі распачаў дасылаць праз сялян і нямецкіх салдат ультыматум нямецкаму камандаваньню.

— Выбірайцеся чым хутчэй з нашай тэрыторыі, у праціўным выпадку мы выступім супроць вас з узброенай сілай.

У першыя часы нямецкае камандаваньне пасьмейвалася.

— Гусей палохаюць.

Але калі да іх дайшлі чуткі, што сяляне рыхтуюцца не на жарты паўстаць супроць нямецкіх окупантаў, што салдаты сталі так безнадзейны, што яны сялян усьміраць ня будуць, то нямецкае камандаваньне вырашыла выбрацца цэлымі і сухімі 25 лістапада 1918 г.

Падраённы камітэт партыі ў апошні тыдзень перад адыходам немцаў разьвіў актыўнейшую дзейнасьць. Таварышы Салавей, Ляўкоў, Драпеза, Званковіч, Кавалевіч Сьцяпан і іншыя былі накіраваны на вучасткі для агітацыі і згуртаваньня вайсковых атрадаў.

Прыдзе бывала хто-небудзь з іх на вёску, зойдзе да войта (старасты) і скажа.

— Да гэтага часу вы слухалі немцаў, зараз падпарадкуйцеся нам.

Войт скрыва паглядзіць, падумае, але, упэўніўшыся, што з ім не жартуюць, што справа стаіць досыць сур'ёзна, ахвотна згаджаецца.

— Што-ж, бальшавікоў, дык бальшавікоў. Лепш была-б улада савецкая, чым окупацыя нямецкая.

І пачалі выконваць загады бальшавікоў.

Па ўсіх вёсках распачалі склікаць сходы сялян.

— Даволі цярпець прыгнечаньне нямецкіх окупантаў,—заяўлялі на гэтых сходах.

Нямецкая окупацыя даволі прыелася сялянам. Калі ня сьвістаў польскі бізун, то „культурным уціскам“ нямецкі імпэрыялізм душыў беларускіх сялян ня горш белапалякаў.

Сяляне ахвотна згаджаліся. І на гэтых сходах сталі зьбіраць зброю.

— Хвёдар, здаецца, у цябе недзе схавана стрэльба. Даволі ёй у зямлі ржавець. Перадамо бальшавіком.

— А ў цябе, здаецца, недзе абрэз ад стрэльбы ў гумне захаваны.

І сяляне распачалі адзін другога падштурхваць, што ўся захаваная зброя, патроны, бомбы і г. д. зараз-жа перадаваліся бальшавіцкім атрадам.

Сабралі досыць вялікую колькасьць зброі.

Выступленьне было прызначана на 24 лістапада ўвечары. Баяліся, як-бы ў момант адыходу немцаў контррэволюцыйныя кулацка-шляхецкія элемэнты не захапілі ўлады.

Політычны горызонт Рудабелкі стаў праясьняцца. Данясеньні былі самыя заспакойваючыя. Немцы, даведаўшыся, што рыхтуюцца атрады бальшавікоў да выступленьня, парашылі пакінуць Рудабельскі раён на дзень раней. І 24-га лістапада ўвечары яны пачалі пакідаць позыцыі. На

заклік Рудабельскага падраённага камітэту партыі на хутар Базыля Шэйка, недалёка ад вёскі Лясок, сабралася чалавек 400 сялян. Кожны атрад сялян, які прыбываў зноў, спатыкалі моцнымі выгукамі „ура“, гушкалі старэйшых і заслужаных таварышоў, сьпявалі песьні і г. д. Адным словам, настрой быў самы захапляючы, баявы і сьвяточны. На хутары, зразумела, усе зьмясьціцца не маглі і таму разьмеркаваліся на дварэ, чакаючы двух гадзін ночы, калі было вырашана ісьці для захопу ўлады.

На хутары мелі нараду кіраўнікі. Насьпех быў напісаны загад № 1, якім „абвяшчалася: безадкладна ў дзьве гадзіны ночы выступіць для захопу Рудабельскай земскай управы, разагнаць засеўшых там эсэраўскіх прыхвасьняў капіталістых і ўстанавіць савецкую ўладу, г. ё. арганізаваць рэволюцыйны камітэт“.

...„Безадкладна-ж па ўсіх вёсках арганізаваць камітэты беднаты. Старшынёю рэволюцыйнага камітэту назначаецца тав. Салавей. Сакратаром—Ляўкоў. Загадчыкам харчовае справы—Лявон Адзінцоў. Забесьпячэньнем атрадаў—Ус. Максім. Загадчыкам зямельнага аддзелу—Званковіч Нічыпар“.

Калі прачыталі загад, а чыталі яго некалькі разоў, то ўсіх назначаных у рэволюцыйны камітэт пачалі гушкаць—радасьці ня было канца. Роўна ў дзьве гадзіны ночы сяляне, якія сабраліся, пастроіліся ў рады і пайшлі на Рудабелку. Па дарозе сустрэлі абоз уцякаўшага з-пад Глуску пана.

— Раздаць беднаце,—крыкнулі ўсе ў адзін голас. І першыя трофэі бальшавіцкага выступленьня былі разданы беднаце.

Атрад падышоў да Рудабельскай земскай управы. Каля дзьвярэй і вакон былі пастаўлены вартавыя. Кіраўнікі паўстаньня падышлі да дзьвярэй і пастукалі.

— Хто там?—зашапялявіў нехта з сярэдзіны.

— Адчынеце,—запатрабавалі бальшавікі.

У сярэдзіне памяшканьня забегалі людзі. Запалілі агні. І з сярэдзіны нехта пазваніў ключамі. Адсунулася засаўка, стукнуў замок і дзьверы адчыніліся. Гуртам увайшлі ў сярэдзіну памяшканьня.

— Імем Беларускай Савецкай Рэспублікі земская ўправа лічыцца распушчанай. З гэтага моманту ўлада перадаецца рэволюцыйнаму камітэту.

— Што-ж я павінен рабіць?—пужліва зашаптаў старшыня земскае ўправы.

— Перадайце нам ключы, адчынеце шафы і можаце выбірацца.

Рэўком пачаў дзейнічаць.

У момант былі пасланы атрады для захвату маёнткаў Урангеля і Беразоўскага. Трэці атрад быў пасланы для захвату чыгуначнай лініі на станцыі Ротміравічы. Шмат таварышоў было разаслана па ўсіх вёсках для арганізацыі камітэту беднаты.

Былі арганізаваны 5 машынак. Ключ ад канцылярскай шафы старым старшынёю быў ці згублен, ці захован. Ламаць шафы не хацелася. З гэ-

тае прычыны палічылі лепш больш верны спосаб. Некалькі паўстанцаў былі пасланы да крамніка, які жыў недалёка. Паднялі яго з ложка. Прымусілі адчыніць краму і ад імя рэволюцыйнага камітэту для дабрабыту савецкай улады конфіскавалі пару стоп паперы, копіравальную паперу, асадак, атраманту, пёраў і іншых канцылярскіх прылад. Усю ноч машынкі памнажалі загад рэволюцыйнага камітэту аб стварэньні саветаў і адозву аб пераварорце, які адбыўся.

Праз некалькі гадзін, калі першая суматоха захвату ўлады прыціхла, калі ўсе зноў назначаныя супрацоўнікі расьселіся па сваіх мясцох, калі па ўсіх дарогах з Рудабелкі ехалі конныя ў вёску з адозвамі і загадалі аб організацыі на мясцох камітэтаў беднаты, у пакой увайшоў стары старшыня і сакратар земскае ўправы.

— Што-ж мы будзем рабіць?

Сакратар рэволюцыйнага камітэту падаў паперку і адказаў.

— Прачытайце, расьпішэцеся і падпарадкуйцеся.

Дрыжачымі рукамі абодва прадстаўнікі буржуазнага панаваньня ўзялі загад, прачыталі і расьпісаліся.

— А далей што?

— Вы, старшыня, ідзеце спаць. А вам, сакратар, да поўнае організацыі ў нас справы вазьмеце паперу і садзецеся працаваць.

Стары вышаў, а сакратар нехаця пайшоў у куточак, сеў за стол і стаў разьбірацца ў цэлай кучы накіданых і раскіданых папер.

К раніцы ў вярстох 40—50 кругом ад Рудабелкі была організавана ўлада саветаў. Маёнтак Урангеля, дзе быў бровар, ахоўваўся рэволюцыйным атрадам.

Раніцою з цэлага шэрагу вёсак прыязджалі сяляне ў Рудабелку паглядзець, што гэта за новая ўлада, якая на працягу аднэй ночы пашырылася на такі вялікі раён.

І калі яны, увайшоўшы ў рэволюцыйны камітэт, убачылі прадстаўнікоў улады саветаў, то, выходзячы адтуль, сьмяяліся.

— Ды гэта-ж Яўхімаў сын, а другі—Якубаў.

— Хлопцы гэтыя добрыя. Трэба іх слухаць.

Некалькі дзён Рудабельская савецкая рэспубліка была адзінай на Беларусі, над якой разьвіваўся чырвоны сьцяг з сярпом і молатам. Рудабельскі рэволюцыйны камітэт ня спыніўся над тым, што сам захапіў уладу, але кінуў заклік:

— Адважныя, моцныя і рашучыя—у атрады выгнаньня немцаў з свае Беларусі!

Сялянская моладзь адклікнулася. Сталі партыямі зьяўляцца ў рэволюцыйны камітэт і запісвацца ў атрады.

— Прыйшлі запісацца ў атрад, хочам прымаць удзел у заваяваньні савецкай улады на Беларусі...

Няўдачная спроба скінуць савецкую ўладу ў Рудабелцы была зроблена ў канцы сакавіка 1919 году.

Распластваньне вёскі ў Рудабельскім раёне адбывалася павольна, але пэўна, цьвёрда, бяз жадных эксцэсаў. Бедната на чале з камітэтамі беднаты мела значны уплыў. Шляхецка-кулацкія элемэнты вельмі былі не задаволены тым, што сялянства ўсё больш і больш рэвалюцыянізавалася.

У 20 чыслах сакавіка 1919 г. пайшлі чуткі, што ў шляхецкіх пасёлках Харомнае, Зазер'е, Смалавіцы, Бэркаў, Зацішша, Доўгія Нівы, Парэчча, Пухічын і інш. зьявіліся падазроныя асобы. Перадавалі, што ноччу недзе наладжваецца пасяджэньне. Сталі пагаворваць, што ў лесе між Харомным і Смалавіцкай будуюцца бліндажы, акопы...

Рудабельскі волвыканком спачатку на гэтыя чуткі не зьвяртаў належнае ўвагі:

— У страха вочы вялікія...

Але калі гэтыя чуткі сталі вельмі пашырацца, калі сталі вызначаць на пэўныя трывожныя зьявішчы, Рудабельскі волвыканком наладзіў разьведку.

Праз два дні разьведка паведаміла.

— Сапраўды ў лесе між Харомным і Смалавіцкай начамі будуюцца бліндажы. У Мозыры вораг, у Гомелі таксама савецкая ўлада перgranted жана, Пятлюра наступае на Рудабелку.

Некалькі сялян прывезьлі ў Рудабельскі волвыканком надрукаваныя на шапірографе адозны-лістоўкі, якія невядомымі раскідаліся і расклейваліся па вёсках. У гэтых адозвах за подпісам нейкага часовага камітэту гаварылася:

— „Грамадзяне, досыць пакутваць пад бальшавіцкаю няволяю. Бальшавікоў неабходна скінуць і стварыць дэмократычную ўладу, якая-б да ўсіх адносілаcа аднолькава. Пры падтрыманьні польскага войска і вялікага гэтмана Пятлюры тут, мы хочам скінуць бальшавікоў. Зьвяртаемся да вас, грамадзяне, за падтрыманьнем. Мы ідзем вызваляць сялянскае насельніцтва ад комуністых і жыдоў. Тых, хто супроць нас, мы жорстка пакараем. Наша рука цьвёрдая. Прэч бальшавікоў! Няхай жыве дэмократыя! Сьмерць комуністым і жыдом!“

Становішча стала сур'ёзным.

Калі рэакцыйныя элемэнты сталі здольны на такія рэчы, як раскіданьне адозваў, як пабудова бліндажоў і г. д., значыць справа стала дрэннай.

Быў пасланы ў Бабруйск адзін з членаў волвыканкому за падтрыманьнем і патронамі. Калі гэты прадстаўнік прыехаў у Бабруйск, то аказалася, што Бабруйскі гарнізон выехаў у Гомель для прыдушэньня стракапытаўскага паўстаньня. Дапамогі з Бабруйску чакаць ня прыходзілася. Ваеннай амуніцыі ў Бабруйску таксама ня было. Усё, чым бабруйскія таварышы маглі дапамагчы, яны дапамаглі, г. зн. далі... 500 патронаў.

Малавата, але нічога ня зробіш. Прышлося спадзявацца на свае ўласныя сілы.



Алесь Салавей Расстрэляны белапалякамі.

Калі пасланы ў Бабруйск таварыш вярнуўся назад, быў скліканы агульны сход партыйнай організацыі разам з усімі спачуваючымі. Таварыш, які прыехаў з Бабруйску, перад гэтым сходам выступіў з дакладам.

— Справы досыць сур'ёзныя,—гаварыў ён. Гомель паў. Мазыр у руках Пятлюраўцаў. Пад Слуцкам адбываюцца бойкі з палякамі, контррэволюцыйныя элемэнты пачалі ажываць. Між Глускам і Бабруйскам зрэзаны тэлеграфныя слупы. У шляхэцкіх пасёлках пачалі шмыгаць цёмныя асобы. То тут, то там падкідваючы лістоўкі з заклікам паўстаць супроць савецкай улады. Шляхта падняла галаву і зазначае, што бліжэйшымі днямі будзе разагнаны волвыканком і што ўсе комуністыя будуць перабіты.

— Трэба,—казаў далей дакладчык,—быць на пагатове. На вялікую дапамогу з боку Бабруйску разьлічаць няма чаго. Але зусім без дапамогі нас не пакінуць.

— Ня верце усім выдумкам контррэволюцыянэраў. Няправільна, што нашы правадыры перабіты, трэба быць рашучымі, трэба на выступленьне ворагаў рэволюцыі адказваць больш жорсткім контр-ударам. Улады добраахвотна мы не аддамо. Мы лічым, што самі сяляне, асабліва бедната, пойдзе разам з намі, з бальшавікамі, абараняць заваёвы Кастрычніка і г. д. і г. д.

Настрой ўсіх прысутных ад гэтага выступленьня ўзьняўся. Таварышы, якія былі паапускалі насы, сталі больш бадзёрымі. Была організавана надзвычайная тройка, Ляўкоў, Адзінцоў, Гашынскі, якая павінна была на выпадак выступленьня кіраваць абаронай.

У нядзелю адбыўся шырокі мітынг з прадстаўнікамі сялян ад усіх паселішч. За гэтыя некалькі дзён між сходам партыйнай організацыі і шырокім мітынгам чуткі сталі яшчэ больш расьці. Перадавалі, што забіты Малаховіч, Салавей і наогул усе мясцовыя правадыры, што ў Петраградзе і Маскве савецкая ўлада скінута, што заставалося толькі захапіць Рудабелку і Бабруйск і... уся Расія стане дэмократычнай.

Сяляне, асабліва беднота, згуртаваліся вакол партыйнай організацыі і волвыканкому. Работа волвыканкому прыпынілася.

Сяляне з розных куткоў пачалі прыносіць паляўнічыя стрэльбы, бомбы, патроны і г. д.

Конна прыехаў за 40 вёрст селянін і перадае:

— Таварыш старшыня волвыканкому, я знайшоў пару патронаў. Ведаю, што ў вас на іх вялікая патрэба. Прымеце, калі ласка.

Партыйная організацыя была пераведзена на казарменнае становішча. У канцы сакавіка адбыўся шырокі мітынг. Зразу-ж пасьля мітынгу ўцёк справавод ваеннага аддзелу Гавароўскі, захапіўшы з сабой сьпіс партыйнай організацыі. З Рудабельскага арыштнага дому ўцёк, разабраўшы драўляную сьценку, шпіён Савіцкі. Становішча вельмі стала напружаным.

Пад вечар 1 красавіка з вёскі Гаці хутка прыехаў селянін і паведаміў.

— Атрад у 50 чалавек на чале з камандзірам на белым кані заняў хутар Хароннае, дзе ён і разьмясьціўся на начлег.

Рудабельскі волвыканком выбраў 11 бойкіх таварышоў і адправіў іх у разьведку. Трэба было высьветліць сілы і мэты атраду, які заняў хутар Хароннае. Вакол волвыканкому выставілі патрулі з партыйцаў і спачуваючых сялян. Высланай разьведцы было дадзена заданьне:

— Абавязкова выведаць, што гэта за атрад, якія ён мае намеры, ад выпадку патрэбы ўступіць з ім у бойку, каб даць магчымасьць Рудабельцы падрыхтавацца да абароны.

Разьведка адправілася ў дарогу. Ціханька, ланцужком, хаваючыся за прыдарожныя дрэвы, дасягнулі таварышы хутара селяніна-бедняка, недалёка ад Хароннага.

Выклікалі гаспадара:

— Абавязкова трэба выведаць, што робіцца на хутары Хароннае.

— Будзе выканана,—адказаў селянін.

Разам з сваімі таварышамі яны надзелі на плечы клункі, палажылі туды памяты хлеб, парабілі ў гразь лапці, абыйшлі вёрст з 5 вакол хутара Хароннае і пайшлі ў напрамку да Хароннага з супроцьлеглага боку.

— Адкуль вы?—сустрэў іх знаёмы селянін з Хароннага.

— У Азарычах былі на кірмашы, коняй хацелі купіць. Не знайшлі добрых. Або зусім дарагія, не для нашага брата, бо такая здыхляціна, што і купляць нявыгадна.

— Дамоў зараз ідзеце?

— Але, ідзём дамоў. Ды што гэта ў вас такое? Нейкія незнаёмыя салдаты.

— Ды гэта-ж пятлюраўцы прышлі. Ідуць супроць бальшавікоў. Іх усяго 50 чалавек прыехала. Частка пайшла ў лес. Частка разьмясьцілася сярод сялян. Разьведчыкам больш нічога і ня трэба было.

Вярнуліся да Рудабельскіх разьведчыкаў і перадалі ўсё, што яны бачылі і чулі. Рудабельскія хлопцы парашылі ўраз-жа зрабіць напад на утар, прагнаць „пятлюраўцаў" і захапіць ініцыятыву ў свае рукі.

— Трэба як-небудзь падбадзёрыць рудабельцаў.

Ціханька па адным увайшлі 11 таварышоў у вёску Хароннае. Сілы былі разьмеркаваны наступным чынам: каля брам, за шуламі, расставілі па адным чалавеку з набітымі стрэльбамі. У крайні двор увайшло трое таварышоў.

Праз заднія дзьверы сталі хутка ўцякаць некалькі постацяў. Па іх пачалі страляць. З усіх хат сталі выбягаць напалову распранутыя „пятлюраўцы". Таварышы, якія стаялі за шуламі, распачалі іх па адным прыстрэльваць. І на працягу 15 хвілін 9 чалавек было ўзята ў палон, некалькі забіта і двум-тром толькі ўдалося ўцячы.

Пры допыце палонных высьветлілася, што гэта атрад зьяўляўся авангардам вялікага пятлюраўскага атраду, які ідзе з Мазыра на Бабруйск-

Удалы налёт рудабельскіх разьведчыкаў папсаваў плян пятлюраўскага атраду і абнадзеіў рудабельскіх сялян.

„Пятлюраўскія салдаты“, якія ўцяклі, перадалі рэштцы свайго атраду, што на іх папала вельмі вялікая сіла бальшавікоў, усіх перабіла і ледзь-ледзь ім удалося выратавацца. Атрад палічыў за лепшае адступіць да галоўных сіл.

Рудабельскія сяляне, убачыўшы, што чорт ня так страшны, як яго малююць, сабраліся з духам.

— Калі 11 нашых чалавек маглі разьбіць у пух і прах атрад у 50 чалавек „пятлюраўцаў“, дык калі мы дружна, сьмела і энэргічна выступім супроць, дык мы разаб‘ем самую вялікую іх сілу.

Усю ноч ніхто ня спаў. Толькі пад раніцу крыху адзетыя прыляглі задрамаць.

Назаўтра пад вечар пачалі зноў прыходзіць трывожныя данясеньні пра наступленьне ворага. Падбягае веставы.

— У Лучыцах разагнаны волвыканком, забралі старшыню.

З Хойні прымчаўся старшыня сельсавету.

— На маіх вачох забілі лучыцкага старшыню волвыканкому.

Бандыты сабралі ўсю вёску каля берагу ракі Птыч і спыталі: „хто за тое, каб расстраляць бальшавіка-старшыню?“ Вёска маўчала. Спыталі яшчэ раз. Зноў маўчаньне. „Калі вы не галасуеце за пакараньне сьмерцю бальшавіка-старшыні, значыць вы таксама бальшавікі, і вас трэба расстраляць. Рыхтуйцеся!“ даў іх камандзір загад бандытам. Бандыты накіравалі свае стрэльбы на сялян, але, не дабіўшыся толку, адвялі старшыню да самага берагу ракі і расстралялі на вачох усяе вёскі.

З Нестанавіч паведамілі:

— Праз нашу вёску прайшоў атрад у 18 чалавек пры шаблях і стрэльбах, пыталі дарогі на Рудабелку.

З вёскі Грабя перадалі:

— Атрад чалавек у 40 у цывільным ідзе ў напрамку да Рудабелкі. Такія-ж данясеньні паступаюць з Бубноўкі, Андрэеўкі і іншых мясцовасьцяй.

І так вялікім паўколам на Рудабелку насоўваўся вораг. Старшыні сельсавету выклікалі з вёсак сялян былых салдат і загадалі ім.

— Ты чалавек бывалы. Пайдзі ў разьведку. Калі толькі замеціш, што падыходзіць які-небудзь атрад, зараз-жа садзіся на каня і праз лес самым кароткім шляхам бяжы ў волвыканком Рудабелкі і дакладвай.

І сяляне, асабліва бедната, увесь час сачылі за рухам варожых атрадаў і даносілі ў волвыканком. Пад канец прыскакаў селянін і паведаміў, што ў Парэччы адбываецца пасяджэньне вайсковага штабу пад кіраўніцтвам бязрукага шляхціца.

Сталі рыхтавацца да нападу. На сцэну выступіла надзвычайная тройка. Старшыня яе на ласкутку паперы напісаў загад:

— Неадкладна адчыніць царкву і на званіцы ўстанавіць наглядальны пункт.

Вёрст за 10—12 у розныя бакі ад Рудабелкі была выслана разьведка, выстаўлены заставы. У Ратміравічы паслалі тэлеграму для перадачы ў Бабруйск з просьбаю аб сьпешнай прысылцы дапамогі, бо наступае вораг. У гэтай тэлеграме быў таксама даны кароткі пералік падзей. Было зазначана, што Капаткевіцкі волвыканком арыштаваны і адведзены ў лес. Лучыцкі старшыня волвыканкому расстраляны. Крукавіцкі волвыканком разагнаны і ўтварылася нейкая група, якая сябе называе часовым камітэтам. Вораг наступае на Рудабелку з мэтаю далейшага прасоўваньня на Бабруйск.

Увесь Рудабельскі раён быў абвешчаны на ваенным становішчы. Мобілізаваны ўсе сілы для абароны. Сялянская бедната, узброеная чым папала, зьявілася і аддала сябе пад загад надзвычайнай тройкі.

Раптам прышло паведамленьне.

— З Бабруйску прыйшоў атрад, які, высадзіўшыся ў Ратміравічах, дайшоў да Дубровы і... вярнуўся назад на станцыю.

Члены надзвычайнае тройкі ня ведалі, што рабіць.

— Што гэта мог быць за атрад?

Калі гэта дапамога з Бабруйску, дык чаму-ж гэты атрад вярнуўся назад і ня прышоў у Рудабелку, дзе яго з нецярплівасьцю чакаюць.

Узьнікла падазрэньне: можа быць гэта атрад варожы, які зайшоў з тылу. Старшыня тройкі ўзяў у маёнтку Ўрангеля пару добрых коняй і, перадаўшы абарону раёну аднаму з членаў тройкі, паехаў з адным таварышом на станцыю Ратміравічы, каб даведацца ў чым справа. Ад Рудабелкі да Ратміравічы вёрст 25. Шпарка нясьліся двое верхавых па дарозе да станцыі Ратміравічы. У аднэй з вёсак, што пападаліся па дарозе, паведамілі, што атрад, які ішоў з Ратміравіч і вярнуўся туды назад, зьяўляецца атрадам чырвоных.

Калі старшыня тройкі з сваім таварышом прыехаў у Ратміравічы, то аказалася, што там знаходзіцца старшыня Бабруйскага выканкому т. Равінскі з... 18 маладымі комунарамі.

Тав. Равінскі ўзрадаваўся:

— Ці гэта ты? Адкуль, якім спосабам? Што чуваць у Рудабелцы. Мне ўжо перадавалі, што волвыканком разграмілі, а вас усіх перабілі.

— Гэта я прыехаў даведацца, які атрад зьявіўся ў нас у тыле. Волвыканком на месцы, здавацца ня зьбіраемся...

Покуль таварышы абмяркоўвалі ўсё, што здарылася за апошні час, прышла тэлеграма з Менску.

— Высланы на дапамогу Рудабельскаму волвыканкому атрад чырвонаармейцаў. Усе былі вельмі рады.

— Хто прасіў з Менску аб высылцы атраду?

Раней, чым рушыцца сюды,—адказаў т. Равінскі, я тэлеграфна зьвярнуўся ў Менск за дапамогай.

Парашылі чакаць на станцыі, пакуль прыбудзе атрад чырвонаармейцаў. Тым больш, што ў Рудабелцы было ўмоўлена, калі дапамога будзе, то ніякіх паведамленьняў не пасылаць.

Між тым падзеі вакол Рудабелкі разгортваліся сваім парадкам. Пад вечар наступленьне па ўсім фронце аднавілася. Атрад ворага, чалавек у 80, вакольным шляхам, лесам зайшоў у Рудабелку і залёг ланцугом на плошчы каля волвыканкому. Вартаваў каля выканкому селянін-бядняк Манойла, ён сядзеў і дзюбаў носам. У яго была у руках стрэльба, набітая толькі адным патронам.

Вакол жудасная ціш. Здалёк даносяцца рэдкія стрэлы. Да Манойлы падышоў чалавек, адзеты ў цывільнае.

— Эй, братка,—крыкнуў цывільны,—бальшавіка сцапаў!

— Сукін ты сын! Бальшавіка ня так-жа лёгка злавіць,—адказаў Манойла і выстраліў у яго. Цывільны пахіснуўся і ўпаў на зямлю. На стрэл прыбеглі комунары, якія таксама знаходзіліся на дзяжурстве.

Варожы атрад кінуўся ў атаку. Выбеглі комунары, духам яны ня палі і закідалі ворага бомбамі.

Жахнуўся вораг. Такога супраціўленьня ён не чакаў. Тым больш, што іх галоўны камандзір, адзеты ў цывільнае, быў забіты яшчэ да наступленьня. Бачачы перапуд сярод наступаючых, комунары разам з сялянамі шпарка рассыпаліся ў ланцуг і адкрылі моцны агонь па наступаўшых. Ворагі пачалі ўцякаць.

У гэты самы час, калі дзякуючы дагадлівасьці бедняка-селяніна, які добраахвотна ўзяўся абараняць волвыканком, было адбіта першае варожае наступленьне, на станцыю Ратміравічы прыбыў тэрміновым цягнікам атрад чырвонаармейцаў з кулямётамі ў колькасьці 183 штыкоў.

Тав. Равінскі, карыстаючыся ўладаю старшыні павятовага выканаўчага камітэту, перадаў прыбыўшы чырвонаармейскі атрад у поўнае распараджэньне надзвычайнае тройкі па абароне Рудабелкі. Старшыня надзвычайнае тройкі тэрмінова выклікаў старшынь сельсаветаў бліжэйшых вёсак і даў загад.

— Праз гадзіну сабраць 100 фурманак для перакідкі чырвонаармейцаў у Рудабелку.

Сяляне шпарка адгукнуліся. Даведаўшыся, што прыбыў чырвонаармейскі атрад, настрой сярод ваколічнага сялянства насельніцтва ўзьняўся. Фурманкі былі сабраны за 45—50 хвілін. Чырвонаармейцы расьселіся ў фурманкі і рушыліся ў Рудабелку.

Не даяжджаючы да вёскі Аземлі, старшыня надзвычайнае тройкі пытаў чырвонаармейцаў.

— А вы абедалі?

— Раніцою толькі елі.

Прыехаўшы ў вёску, старшыня надзвычайнае тройкі склікаў сялян і заявіў.

— Таварышы сяляне, на дапамогу да нас прыбыў атрад чырвонаармейцаў. Гэты атрад цалюткі дзень нічога ня еў. Праз гадзіны паўтары яму давядзецца ўступіць у бой з ворагамі рэволюцыі. Чырвонаармейцаў трэба накарміць.

Было напярэдадні сьвят. Сяляне адразу па некалькі чырвонаармейцаў узялі да сябе і пачалі іх частаваць.

У гэты час прымчаўся з Рудабелкі веставы з данясеньнем.

— На Рудабельскі волвыканком быў зроблены напад. Вораг адбіты, ёсьць забітыя і параненыя. Настрой бадзёры, трымаемся. Чакаем загадаў.

Старшыня надзвычайнае тройкі з гэтым-жа веставым накіраваў адказ.

— Трымайцеся. Дапамога ідзе. Прыбыў чырвонаармейскі атрад.

Веставы памчаўся назад.

Па ўсіх вёсках з надзвычайнаю шпаркасьцю разьнеслася радасная вестка.

— Наступленьне на Рудабельскі волвыканком адбіта. Прыбыў на дапамогу чырвонаармейскі атрад.

Чырвонаармейцы, падмацаваўшыся, парашылі адпусьціць фурманкі і пайсьці пехатой. У лесе на фурманках ніяк не павернешся.

Вестка, што вораг адбіты, яшчэ больш абнадзеіла чырвонаармейскі атрад, надала яму больш веры ў сваю моц.

Калі кепскія ўзброеныя комунары і сяляне маглі адбіць напад контррэволюцыйнае брыдоты, то яны, добра ўзброеныя, напэўна справяцца з ворагам.

У Дуброве чырвонаармейцаў яшчэ раз падкармілі. Ва ўсіх вёсках атрад сустракалі з радасьцю і крыкамі „гура". Самі абаронцы рудабельскага волвыканкому набраліся больш адвагі і сталі паглядаць у той бок, адкуль чакалі дапамогі.

Прыбыў чырвонаармейскі атрад. Вораг адступіў.

У гэтую самую ноч ва ўсім раёне сялянства перажывала вельмі трывожныя хвіліны. Бедната ведала, што калі будзе разгромлены волвыканком, калі ўсталюецца ўлада кулацка-шляхецкіх элемэнтаў, ім давядзецца разьвітацца з атрыманаю ў часе Кастрычнікавай рэволюцыі зямлёю.

Бедната ў гэтую ноч прымала актыўны ўдзел у барацьбе з контррэволюцыйнымі элемэнтамі. У вёсках, дзе толькі сяляне заўважалі падазроных асоб, іх арыштоўвалі, білі і нават забівалі. Быў выпадак, калі ў вёсцы Ляўстыкі сяляне, злавіўшы аднаго маладога чалавека, западозрылі ў ім бандыта і забілі, а хвілін праз 15 сюды прышоў рэволюцыйны атрад сялян і тады выявілася, што забіты зьяўляецца чырвоным пасланцом—братам аднаго з удзельнікаў падышоўшага атраду.

Вораг быў разьбіты. І больш наступаць на Рудабелку ён не адважыўся. Назаўтра сяляне прывялі ў волвыканком цэлы шэраг арыштаваных асоб, пераважна шляхецка-кулацкага элемэнту і іншых замешаных у падтрыманьні ворага.

Запрацавала надзвычайная тройка. Невінаватых і выпадкова замешаных адпусьцілі, прычым папярэдзілі, каб у далейшым былі больш асьцярожнымі.

Другая група была накіравана ў Бабруйск у турму. І толькі трох кіраўнікоў—дзелавода, які ўцёк, вайсковага аддзелу Гавароўскага, панскага паслугача Трацэўскага і яшчэ трэцяга—расстралялі.

Рука рэволюцыйнага пролетарыяту аказалася куды цьвярдзейшаю, чым рука контррэволюцыянэра.

*(Працяг у наступным нумары).*

# З НЕДАЛЁКАГА МІНУЛАГА

На III Сэсіі ЦВК БССР 30 ліпеня 1923 году Старшынёю Барысаўскага Ўвыканкому т. *Хацкевічам* быў зроблен даклад аб аднаўленьні зруйнаванага белапалякамі гораду Барысава.

У дзень вызваленьня Беларусі ад белапалякаў гэты даклад друкуецца ўпяршыню і як гістарычны дакумант паказвае аб тых жудасных разбурэньнях, якія прычынены г. Барысаву разьюшанымі белапольскімі войскамі.

## III-я СЭСІЯ ЦВК САВЕТАЎ БЕЛАРУСІ

*30 ліпеня 1923 году*

### ДАКЛАД

**Старшыні Барысаўскага Ўвыканкому т. Хацкевіча аб аднаўленьні зруйнаванага белапалякамі гораду Барысава**

(Стэнаграма дакладу)

Таварышы! Напярэдадні гэтай Сэсіі, Прэзыдыум нашага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саветаў Беларусі, разглядаючы на сваім пасяджэньні хадайнічаньне Барысаўскага Ўвыканкому і Гарсавету аб аднаўленьні зруйнаванага белапалякамі гораду Барысава прызнаў магчымым: безадкладна прыступіць да мер аднаўленьня Барысава. Для распрацоўкі гэтага пытаньня Прэзыдыум Ц. В. К. організаваў камісію і рашыў паставіць гэтае пытаньне ў цэлым на аўторытэтнае вырашэньне Сэсіі.

Раней чым прыступіць да выкладу вызначанага камісіяй Ц. В. К. агульнага пляну аднаўленьня гораду Барысава, я дазволю сабе, як сьведка зруйнаваньня белапалякамі гораду, некалькі ахарактарызаваць малюнак зруйнаваньня і тыя прычыны, якія прымусілі нас зьвярнуцца да вярхоўнага органу нашай Рэспублікі—Сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту.

У канцы мая м-ца 1920 году белапольскія окупанты, пад напорам гэраічных частак нашай Чырвонай арміі, пакінулі горад Барысаў і ваколіцу левага берагу ракі Бярэзіны, перашоўшы на правы бераг; зьнішчылі за сабою драўляныя і чыгуначныя масты, заселі ў Нова-Барысаве, заняўшы так званыя Чычагоўскія Ўмацаваньні. Рабочыя гораду Барысава і пацярпеўшыя ад белапольскай акупацыі жыхары наогул з захапленьнем сустрэлі Чырвоную армію і прадстаўнікоў Савецкай улады ў асобе Рэволюцыйнага Камітэту Барысаўскага павету. Пад пагрозай, што на-

вісла з правага берагу Бярэзіны, горад Барысаў палітычна і гаспадарча ажыўляўся з кожнай гадзінай на вачох польскіх белагвардзейцаў.

Але, праз чатыры дні пасьля заняцьця гор. Барысава, ноччу 28-га мая 1920 году пасыпаліся залпы снарадаў польскай артылерыі па безабароннаму мірнаму гораду Барысаву і ў працягу пяці гадзін, да раніцы, горад увесь шугаў у вагні. Малюнак быў жудасным. Мне добра памятаецца тая трагічная для Барысаву раніца. Усюды агонь, дым, зруйнаваньні, забітыя, стогны параненых ад снарадаў і абгарэўшых у вагні пажару мірных, ні ў чым не вінаватых жыхароў. Зусім ранкам пры ўсходзе сонца, пры сьвятле, калі распаўсюдзіліся чуткі, што палякі пераходзяць Бярэзіну і займаюць горад, жыхары яшчэ ў большай паніцы кінуліся з гораду на ўсход. У гэты час польская артылерыя адчыніла па вакаліцах гораду, па ўцякаючых мірных жыхарох вураганны шрапнэльны агонь, у выніку чаго жанчыны і дзеці, страціўшы мужоў і бацькоў у руінах гораду, знайшлі сабе сьмерць у полі за горадам.

Нячуваныя ў гісторыі чалавецтва зьверствы польскай буржуазіі і камандаваньня польскай арміі, якія выявіліся ў зьнішчэньні мірных жыхароў і самога гораду Барысава, немагчыма апісаць.

Вось што паведаміў краіне саветаў і ўсяму сьвету Рэваенсавет 16 арміі аб зруйнаваньні гораду Барысава белапалякамі:

„Горад Барысаў быў узят чырвонымі войскамі а 12 гадзіне 25-га мая. 28-га мая а 3 гадз. раніцы вораг гарматным агнём пачаў руйнаваць горад Барысаў з правага берагу Бярэзіны. А 9-й гадз. раніцы палякі адчынілі па Барысаву вураганны артылерыйскі агонь, страляючы хэмічнымі і запальнымі снарадамі. Выпушчана было каля 800 снарадаў 6—8 цаль, ад якіх загарэлася некалькі будынкаў і дзякуючы ветру агонь ахапіў палову гораду. Ня гледзячы на дождж няпрыяцельскіх снарадаў, дзякуючы самаафярнасьці камуністых і энэргіі, Рэўкому ўдалося адстаяць ад агню палову гораду. Вораг імкнуўся перашкодзіць гашэньню пажару, перанёс артылерыйскі агонь на ўдзельнікаў у гашэньні. Ахвяр—звыш 500 мірных грамадзян—мужчын, жанчын і дзяцей. Больш 100 чалавек цяжка параненых згарэлі ў вагні, астатнія трупы прыбраны і пахаваны. 29-га мая няпрыяцель падпаліў астатнюю частку гораду і падтрымліваў у працягу 29-30 мая артылерыйскі агонь таксама інтэнсыўна, у зьвязку з чым зьнішчыў і астатнюю частку гораду. Ад Барысава засталіся толькі дымныя руіны і некалькі халуп. Да 10.000 жыхароў, ратуючыся з ахопленых пажарам будынкаў, разьбегліся па лясох, засталіся голымі і галоднымі, не пасьпеўшы захапіць з сабой маемасьці і бялізны. Становішча жыхароў жудаснае. Лік ахвяр, у тым ліку жанчын і дзяцей, усе ўзрастае. Рэвваенсавет арміі прымае тэрміновыя меры ў дапамогу пацярпеўшым харчаваньнем, грашыма і пабудовай барыкад.

На ўзяцьцё Барысава нашымі слаўнымі вайскамі злосныя мсьціцелі адказалі зьнішчэньнем цэлага гораду і забойствам соцен і тысяч мірнага насельніцтва, жанчын і дзяцей. Рэвваенсавет просіць давесьці да ведама

працоўных Польшчы аб новых бессэнсоўных лютасьцях польскага ўраду што асуджаюць на пагібель дзесяткі тысяч ні ў чым не вінаватых жанчын і дзяцей, і перад тварам усяго культурнага чалавецтва заявіць протэст парушэньню польскім урадам асноўных норм цывілізацыі і грамадзкасьці. *Камандарм Салагуб, Члены Рэвваенсавету Дауман, Мулін, Начальнік Савармії Рэйнгольд*".

Калі польскі ўрад, у адказ на тэлеграму Рэвваенсавету 16 арміі з протэстам ва ўсе краіны сьвету супроць зьверскага зруйнаваньня гораду Барысава белапалякамі, заявіў, што „дзейяньні польскай арміі былі выкліканы дзеяньнямі Чырвонай арміі і жыхарамі гораду Барысава", я, як навочны сьведка, сьцьвярджаю: што ні з боку частак Чырвонай арміі, ні тым больш з боку мірных жыхароў гораду за ўсе дні, да яго зруйнаваньня, ня было ніякіх наступацельных дзеяньняў супроць польскай арміі; нават у начы разгрому гораду, калі польская артылерыя літаральна закідала яго снарадамі, невялікія часткі пяхоты Чырвонай арміі амаль не адчынялі агню; наша артылерыя, якая, па маёй думцы, контр-агнём магла-б у некаторай частцы папярэдзіць зруйнаваньні, зусім маўчала, бо была малалічнай і слаба забясьпечана снарадамі. Вось чаму гэтыя заявы польскага камандаваньня і ўраду ня маюць пад сабой ніякага грунту. Горад Барысаў зруйнаваны па папярэдне складзенаму пэўнаму адскаму пляну белай Польшчы. У пацьвярджэньне гэтаму служыць доказам той факт, што запалкавая фабрыка б. „Саламонова" спалена польскай артылерыяй не за доўга да адступленьня з Нова-Барысаву, вывезена машына электрастанцыі і зруйнаван будынак станцыі напярэдадні адступленьня. Горад Барысаў абстрэльваўся стрэльбавым і артылерыйскім агнём з невялікімі перапынкамі. Увесь час, кожны дзень, г. зн. з 28 мая па дзень адступленьня польскай арміі к Варшаве, г. зн. да 9-га ліпеня 1920 году Барысаў ад абстрэлу гарэў амаль кожны дзень, трацячы маемасьць і будынкі ад пажару да самага адходу белапалякаў. Чаму асабліва азьвярэлі белапалякі ў адносіне гораду Барысава?

Значэньне гораду Барысава на заходнім фронце, акрамя сваіх натуральных умацаваньняў, як рака Бярэзіна, узмацнялася яшчэ і тым, што ён меў параўнальна значныя кадры пролетарыяту, у якіх Комуністычная партыя і Савецкая ўлада ў барацьбе з белагвардзейшчынай чэрпалі свае сілы і мелі цьвёрдую апору. Рабочыя гарбарань, друкарань, хэмікі, дрэваапрацоўшчыкі, мэталістыя, папернікі ў горадзе Барысаве і ў Нова-Барысаве заўсёды з першых дзён Кастрычнікавай рэволюцыі ўяўлялі сабой баявую згуртаваную сілу, якая ў любы момант гатова была выканаць распараджэньні і загады новай рэволюцыйнай улады.

Сваю гатоўнасьць, самаафярнасьць і адданасьць справе рэволюцыі барысаўскі пролетарыят выказаў шмат разоў. Дастаткова прывесьці наступныя некалькі фактаў. У канцы 1917 году, калі легіянэры корпусу Довбар-Мусьніцкага імкнуліся прарвацца праз Барысаў на Менск, пролетарскі Барысаў, маючы слабы гарнізон адданага пролетарскай рэво-

люцыі 121 пяхотнага палку, змог з рабочых заводаў і прадпрыемстваў выставіць такі моцны атрад, што ў легіянэраў назаўсёды адпала ахвота паспрабаваць „шчасьця" каля Барысаву—яны былі адбіты. Другі факт, толькі дзякуючы хутка арганізаваўшайся самаабароне з рабочых, дзякуючы адданасьці, арганізаванасьці і рашучасьці барысаўскага пралетарыяту,—удалося спыніць распачаты абывацельшчынай разгром пакінутай немцамі маёмасьці, узбраеньня, харчаваньня і захаваць усё гэта для наступаўшай Чырвонай Арміі. І далей, калі ў канцы лета 1919 году палякі пачалі наступленьне на Менск, усе прафэсыянальныя саюзы гораду Барысава выдзялілі сваіх лепшых таварышоў у сводны Барысаўскі атрад Чырвонай Арміі, які адразу накіраваўся на Заходні фронт. Дзякуючы адданасьці і садзейнічаньню барысаўскага пралетарыяту,—Чырвоная Армія, якая пакінула горад Барысаў ў жніўні 1919 году, роўна праз дзень змагла зьвярнуцца назад і ўтрымаць яго ў працягу 4—5 тыдняў. Фактаў гэраізму барысаўскага пралетарыяту можна было-б павялічыць у дзесяткі разоў, але і гэтых дастаткова для агульнай характарыстыкі рэвалюцыйнага настрою і адданасьці пралетарскай рэвалюцыі барысаўскіх рабочых.

Рабочыя запалкавай фабрыкі б. Вікторыя яшчэ з 1905 году адзначаліся сваёй актыўнай, падпольнай і адкрытай рэвалюцыйнай дзейнасьцю і зусім зразумела, што Кастрычнікавую Рэвалюцыю гэтыя рабочыя ў колькасьці звыш 1.000 чалавек сустрэлі не як сьведкі, а як простыя непасрэдныя ўдзельнікі і будаўнікі Вялікага Кастрычніку новага савецкага жыцьця. Дзесяткі партыйных і беспартыйных рабочых з запалкавай і іншых фабрык пайшлі на работу ў Упартком, Урэўком, Гарадзкі Савет, яго аддзелы і грамадзкія арганізацыі. Вось таму белагвардзейшчына з асаблівай нянавісьцю і бязьлітасьцю адносілася да барысаўскіх рабочых і першым „падарункам" уступаўшых у Нова-Барысаў белапольскіх войскаў быў абстрэл гэтай запалкавай фабрыкі хэмічнымі снарадамі, у выніку чаго частка фабрыкі была спалена пры наступу белапалякаў. Клясавая нянавісьць, злосьць і гатоўнасьць да рэвалюцыйнай барацьбы яшчэ больш закалілі барысаўскі пралетарыят, які прымушан быў пайсьці ў глыбокае падпольле дзеля таго, каб адтуль весьці пераможную барацьбу не на жыцьцё, а на сьмерць з белапольскімі бандамі.

Нячувана цяжкія і балючыя дні перажывала ўся працоўная Беларусь і разам з ёю Барысаўскі пралетарыят; усюды былі: панская нагайка, штык легіянэра і бізун жандара. Фабрыканты зноў зьвярнуліся на свае фабрыкі і з дапамогай вайсковых і штатскіх пілсудчыкаў пачалі душыць рабочых.

Узрастаючае абурэньне рабочых не магло выліцца наружу з-за чорнай рэакцыі; рабочы пратэст усё глыбей уходзіў у падпольле і выліваўся ў паасобных выступленьнях і організацыю партызанскіх атрадаў.

Арыштамі, разбоем, драпежніцтвам, катаваньнем мірных ні ў чым не вінаватых жыхароў,—вось чым польскія банды адказалі на рэвалю-

цыйны рух у асяродку барысаўскага пралетарыяту. Сотнямі расстрэльваліся рабочыя, сяляне, старыкі, жанчыны, нават дзеці, як у горадзе, так і ў вёсцы. Асабліва павялічыліся арышты, прасьледваньні і расстрэлы перад 1-м Маем 1920 году, калі барысаўскі пралетарыят і падпольная парторганізацыя ўзмоцненна рыхтаваліся да сьвяткаваньня 1-га Маю і сустрэчы Чырвонай Арміі. Польскія афіцэры ў Барысаве ў той час адчувалі сябе ня зусім спакойна. Некаторыя будынкі каманднага складу і дыфэнзывы былі ператвораны ў крэпасьці са спэцыяльнымі драцянымі загарадамі.

Пасьля „ўсенароднага" малебну 3-га мая (дзень польскай конституцыі) польскае камандаваньне разьлічвала перайсьці ў наступ на Воршу. Аб гэтым добра было вядома рабочым організацыям гораду, бо ў працягу некалькіх дзён у Барысаў былі сьцягнуты вайсковыя часткі з іншых пунктаў. Яшчэ энэргічней і рашуча запрацавалі барысаўскія рабочыя організацыі. Напярэдадні малебну горад і пляц былі ўсеяны праклямацыямі з заклікам да польскіх жаўнэраў павярнуць аружжа супроць польскай буржуазіі. Пасьля малебну ўвечары таго дню белапалякі зрабілі налёт на пазыцыі Чырвонай Арміі, а праз некалькі дзён пабітыя палкі іх зьвярнуліся назад у горад. Яшчэ больш люта загуляў панскі бізун па сьпінах барысаўскіх рабочых. Польская буржуазія нарэшце, зразумела, што яна ваюе ня толькі з „маскалямі", што супроць яе актыўна выступілі беларускі рабочы і селянін. У глыбокім падпольлі барысаўскі пралетарыят непарыўна рыхтаваў магілу польскім акупантам.

Сувязь з фронтам была непарыўная. Барысаўскае падпольле добра ведала аб наступу Чырвонай Арміі, што рыхтаваўся ў абход гораду Барысава. Працы стала больш. Узмацніліся і арышты. 24-га мая, ноччу палякі, часткова зрабаваўшы горад, перайшлі на другі бераг Бярэзіны. 25-га мая Барысаў быў заняты Чырвонай Арміяй. Насельніцтва гораду з захапленьнем вітала Савецкую ўладу і Чырвоную Армію. Рабочыя арганізацыі выйшлі з падпольля. Павятовы Рэўком у яго працы ўвесь час быў абкружан увагай пралетарыяту гораду Барысава.

Рабочыя Нова-Барысава, знаходзячыяся ў зоне польскіх пазыцый, ня спынялі сувязі з Чырвоным горадам. Партызаны пераходзілі з берагу на бераг і дэзарганізавалі польскі тыл і фронт. Вышэйшае польскае камандаваньне не сьцярпела і парашыла расправіцца з Чырвоным горадам.

Горад Барысаў зьнішчан, як палітычны рабочы цэнтр Савецкай Беларусі, як стратэгічная адзінка абароны, па цьвёрдай упэўненасьці польскага камандаваньня і польскай буржуазіі, што пад напорам Чырвонай Арміі на Бярэзінскіх пазыцыях ім ня ўтрымацца і што больш у горад Барысаў ніколі ня зьвернуцца.

Зразумела, рабочыя і сяляне Польшчы не вінаваты ў зруйнаваньні гораду Барысава, у гэтым вінавата толькі польская кіруючая буржуазія

і камандаваньне польскай белай арміі. Але ня толькі белая Польшча адказвае за гэтае барбарства. Урад Францыі, урады Антанты, заправілы „Лігі Нацый“, усе дастаўнікі хэмічных снарадаў, усе капіталістыя нясуць і павінны несьці адказнасьць перад усім сьветам працоўных за кроў жыхароў гораду Барысава і тыя жахі, якія перажылі за гэтыя тры гады барысаўскія рабочыя. Дзевяць год таму назад францускія буржуа заклікалі да „справядлівасьці і помсты“, калі армія нямецкага імпэрыялізму руйнавала бэльгійскія гарады. Зараз-жа пры зьнішчэньні Барысава францускія буржуа пасылалі запальныя снарады Пілсудзкаму і зларадна рукапляскалі пры відавошчах пажараў гарадоў Савецкай Рэспублікі.

Вось што расказвалі яўрэі-бежанцы пагарэльцы, якія вырваліся з пажарышчаў Барысаву: „Цяжкае ярмо польскае акупацыі прыдушыла ўсіх жыхароў. Амаль усе, за выключэньнем невялічкай купкі спэкулянтаў, былі кінуты ў кіпцюры жабрацтва. Усё насельніцтва было тэрорызавана польскімі бандамі, якія рэзалі бароды, хапалі на працу і ўсялякім чынам зьдзекваліся над безабароннымі яўрэямі.

У апошніх лічбах мая пачалі распаўсюджвацца чуткі, што палякі ўходзяць. 24-га мая ўначы палякі сапраўды пакінулі горад, падпалілі масты на Бярэзіне і заселі за ракой. У горад уступіла Чырвоная Армія, якая была спаткана насельніцтвам з вялікім энтузіазмам Натоўпы народу абкружылі таварышоў чырвонаармейцаў—сваіх вызваленцаў. Горад прыняў сьвяточны выгляд. На тварах ва ўсіх была відна радасьць і надзея. Але вось белапалякі пачалі кідаць у горад снарады з цяжкіх гарматаў. Людзі схаваліся ў падвалы і скляпы. У ноч на 28-е мая пачалася бамбардыроўка гораду з 6—8 м/м. гарматаў. На сьмерць перапалоханае насельніцтва гораду звыш 25.000 чалавек пайшло ў скляпы. У некаторых падвалах набралася да 200—300 чалавек. Жудасна цяжкае становішча было людзей, што схаваліся ў падзямельлі. Вакол быў страшэнны гук падаючых снарадаў, прычым снарады падалі ў больш густа насялёныя месцы. Так, у адзін падвал, дзе схавалася звыш 200 чалавек, упалі 4 снарады. Дамы і падвалы былі зьнішчаны, а людзі, што схаваліся там, часткай перабіты, часткай зьнявечаны і скалечаны.

Дзеці, што былі там, сілай выбуху былі адкінуты ў другія кварталы гораду з адарванымі рукамі, нагамі і галавамі. Тыя, якія яшчэ выскачылі адтуль, былі забіты і скалечаны пасланымі ім усьлед снарадамі. на сьвітаньні белапалякі пачалі кідаць запальныя снарады і горад увесь пачаў гарэць. Звар'яцелыя жыхары кінуліся было ратаваць сваю маёмасьць з вагню, але град снарадаў вымусіў іх бегчы ў панічным жаху з гораду. Жудаснае было гэтае бегства. Вакол пылалі вялізарнейшыя вогнішчы. Над галавой сьвісталі снарады. Тут-жа радам падалі, спатыкаліся і скакалі праз трупы забітых і пакалечаных. Агонь і сьмерць з усіх бакоў.

Такім чынам прышлося бегчы 5 вёрст праз гарадзкія палі да лесу, дзе, нарэшце, можна было схавацца. Там у лесе таксама была трагэдыя:

няшчасныя мацяры прычытвалі, ламалі рукі і шукалі сваіх дзяцей, дзеці—сваіх бацькоў, сясьцёр, братоў і г. д.

Барысаўскі Рэўком увесь час пад градам снарадаў гасіў пажар.

На другі дзень Рэўком арганізаваў харчавы пункт для ўцекачоў.

Працоўная масы і яўрэйская бедната і ўсё насельніцтва гораду Барысава ў рэзалюцыі заявілі: „абяздоленыя барысаўскія пагарэльцы пратэстуюць перад тварам усяго чалавецтва супроць страшэннага гвалту дзікіх польскіх тыранаў, якія з жудасным зьверствам кідалі на наш горад дождж снарадаў з 6—8 м/м. гармат, якія спалілі нашыя хаты і маёмасьць, шмат з нас жыхароў—старыкоў, жанчын і дзяцей забілі, паранілі і пакалечылі, а ўсіх астатніх пакінулі галоднымі, голымі, бяздомнымі. Мы спадзяемся, што будучая мірная конфэрэнцыя прымусіць гэтых дзікіх зьвяроў зноў адбудаваць наш зруйнаваны горад.

Мы дзякуем Савецкую ўладу за тое, што яна ў час пажару, бомбардыроўкі гораду арганізавала пад агнём ворага харчавальны пункт, які ўсіх нас галодных накарміў хлебам.

Мы спадзяемся, што Савецкая ўлада—улада рабочых і бедната накорміць нас, невінаватых ахвяр вайны і польскай лютасьці, хлебам, апране нашыя голыя целы і прытуліць нас усіх пад дахам".

Гэтага зьверскага барбарства белапалякаў была сьведкай і ангельская дэлегацыя, якая наведала ў той час заходні фронт. Вось вытрымкі з справаздачы гэтай паездкі:

„Ангельская дэлегацыя ў складзе Пэрселя, Вольхэйера, Скінера, Бонфільда і члена левага крыла незалежных Нямеччыны—Герцога з перакладчыкам Пятровым і Фэйнбергам, разам з начальнікам палітаддзелу фронту Мясьніковым, начальнікам літаратурна-выдавецкага аддзелу Кагішовым выехала на фронт Барысаўскага вучастку. З вялікім здавальненьнем дэлегацыя аднеслася да паказаньняў аб распаўсюджваньні палітасьветработы на ўсю прыфрантавую паласу і ва ўноў аслабаненых мясцовасьцях.

Тут-жа дэлегацыя знаёмілася з выданьнямі Палітаддзелу фронту на 7-мі мовах, выпускаючых паўміліёну рознай літаратуры штодзённа і дзейнасьцю франтавога аддзяленьня РОСТ'у.

Пры палітаддзеле дэлегацыя захаплялася інтэнсыўнай рэвалюцыйнай работай, аб якой яны на захадзе зусім ня ведаюць. Пад'яжджаючы да Барысаўскага вучастку, дэлегацыя відавочна ўпэўнілася ў бясьсільнай подлай злабе панскай шляхты. Па ўсёй дарозе ад станцый да Барысаўскіх пазыцый дэлегацыя была сьведкай непарыўнага патоку ўцекачоў, якія рабілі надзвычайна цяжкае ўражаньне. Абадраныя, у бязумоўнай роспачы яны цягнуліся са сваім жаласьлівым скарбам у катомках як можна далей ад Барысаўскага жаху. З абодвых бакоў лясной дарогі туліліся рэшткі жыхароў у пабудаваных з кары і лістоў лачугах. На перадавых пазыцыях чырвонаармейцы з захапленьнем сустракалі ангельскіх



Полацкая вуліца.

рабочых. Дэлегаты доўга гутарылі з чырвонаармейцамі, знаёміліся з баявым жыцьцём фронту. Наведваць Барысаў, куды дэлегаты зьбіраліся, каб відавочна ўпэўніцца ў нячуваных зьверствах паноў, яны не змаглі, так як праціўнікам абстрэльвалася ваколіца. Па зьвестках камэнданту гораду і ўцекачоў, дэтальна апрошаных дэлегатамі, праціўнік працягвае штодзённа абстрэльваць артылерыйскім агнём астаўшыяся часткі гораду і ваколіцы, дзе нашых частак зусім няма. Штодзённа новыя ахвяры дзяцей і жанчын. Мірнае насельніцтва пакідае горад, застаёцца ў скляпох альбо хаваецца ў бліжэйшых лясох. Намі зараз будуюцца для іх баракі. З 24.000 насельніцтва засталося ў горадзе да 6.000. Астатнія згінулі. Штодзённа знаходзяць новыя ахвяры пад руінамі будынкаў. Па апросу бежанцаў, ксёндз перад уходам легіянэраў прапанаваў усім палякам сабрацца ў паграбох. Касьцёл застаўся цэлым. Астатнія храмы, сінагогі былі зруйнаваны...

Гэта лішняя рыска панскай нагласьці і барбарства. Гэта як нельга лепш характарызуе прыроду і сутнасьць пілсудчыкаў. Гэта паказвае, наколькі польскія паны зьяўляюцца абаронцамі прыгнечаных нацыянальнасьцяй, наколькі яны могуць і маюць здольнасьці бесстаронна і правільна вырашаць нацыянальнае пытаньне".

Аб жахах зьверства ў белай польскай арміі пісалі і гаварылі ня толькі ў Савецкай Расіі, але і за мяжой, і ня толькі нашыя прыхільнікі, але і праціўнікі, як амэрыканская буржуазная камісія, якая наведала зруйнаваны горад Барысаў. Гэтыя камісіі, разглядаючы руіны гораду, забітых, што валяліся па ўсіх вуліцах і параненых, што засталіся дамох-абломках выказвала поўнае абурэньне дзейнічаньням белай польскай арміі і прыняла ўдзел у аказаньні матар'яльнай дапамогі пацярпеўшым жыхаром гораду.

У дзень зруйнаваньня гораду Барысава, як я гаварыў і як сьведчаць дакуманты, жыхары гораду тэрарызаваныя польскай артылерыяй, сьмерцю сваякоў, згубіўшыя маёмасьць, у паніцы, пад непарыўным абстрэлам, пакінулі горад і пасяліліся ў ваколіцах па палёх, лясох і бліжэйшых вёсках. Становішча бежанцаў было жудаснае: яны былі галодныя, без запасу харчаваньня і на палову распранутыя. Патрэбна была безадкладная арганізаваная дапамога. Першая і сур'ёзная дапамога была аказана пацярпеўшым паасобнымі часткамі Чырвонай Арміі. Як, напрыклад, па дакладу Рэўкому аб становішчы пацярпеўшых жыхароў гораду штаб 21 стралковай дывізіі безадкладна адпусьціў з сваіх-жа запасаў тры тысячы пудоў мукі і гатовага хлеба. Таксама была аказана дапамога гарадзкому насельніцтву з боку сялян бліжэйшых вёсак харчамі, вопраткай і прытулкам. Цэнтральны і мясцовы друк, партыйныя арганізацыі і органы ўлады заклікам і ўплывам уцягнулі ў справу дапамогі Барысаву рабочых, сялян і чырвонаармейцаў усёй Савецкай Рэспублікі; адусюль сыпаліся ахвяраваньні. Зразумела, што аказваемая дапамога была далёка недастатковай, але яна больш глыбока цанілася пацярпеўшымі,

бо гэтая дапамога выходзіла з рук рабочых і працоўных мас разбуранай і змагаючайся краіны.

Пасьля адступленьня польскіх белых бандаў, нам удалося прыблізна вызначыць вынікі зруйнаваньня гораду. У выніку аказалася забітых і параненых мірных грамадзян да 500 чалавек, у тым ліку шмат сямей згінулі ў агні пажару, пад руінамі дамоў і паграбоў пры выбуху снарадаў цяжкай артылерыі. Пажарам зьнішчана больш 400 жылых дамоў прыватных асоб, дзяржаўных і грамадзкіх установ, складачных памяшканьняў больш 2000 будынкаў. Зьнішчаны агнём усе будынкі дзяржаўнага і грамадзкага значэньня са ўсімі архівамі, кнігамі, бібліатэкамі і іншай маёмасьцю.

Можна сабе ўявіць, якія страты панесьлі жыхары Барысаву як ў час адступленьня белапалякаў з гораду, так і ў час абстрэлу, калі ва ўсім горадзе з 25 тысячным насельніцтвам, дзе шмат было сялян-землyробаў засталося толькі 7 коняй. Страты гарадзкога насельніцтва ў выніку зруйнаваньня Барысава па агульнаму падліку вызначаюцца ў сярэднім каля 15 000.000 залатых рублёў.

Так быў зрайнаваны горад Барысаў на баявым рэвалюцыйным пасту, як рабочы раён за справу ўзмацненьня дыктатуры пралетарыяту ў Беларусі, за справу вызваленьня працоўных ад прыгнечаньня капіталізму.

Акрамя таго, у павеце часткова альбо поўнасьцю, зьнішчана пажарам ад абстрэлаў і падпалаў польскай арміі больш 20 вёсак, за тое, што сяляне гэтых вёсак састаялі ў партызанскіх атрадах і спрыялі Чырвонай Арміі. Гэтыя вёскі Барысаўскага павету, ня гледзячы на дармовы і льготны водпуск лесу, у моцу крайняга зьнішчэньня і беднасьці жыхароў далёка яшчэ не адноўлены.

Працоўныя масы гораду Барысава і Барысаўскага павету назаўсёды страцілі сваю маёмасьць з-за белапольскага зруйнаваньня. Гэтыя страты Чырвоны Барысаў і Барысаўскі павет лічыў і будзе лічыць за польскай і сусьветнай буржуазіяй.

Прыступаючы ў горадзе Барысаве да ўпарадкаваньня і падняцьця гаспадарчага і культурнага жыцьця, мы сустрэліся з непераможнымі цяжкасьцямі і раней усяго з непераможным жыльлёвым крызісам. Адстаўшыяся ад пажару будынкі ўсе былі са зломанымі і пабітымі сьценамі, дахамі, столямі і зусім ня былі прыгодны для жыльля і ўстаноў. Гэта-ж факт, што ў горадзе ня было ніводнага ўцалеўшага вакна і ў захаваных дамох. Нашымі будаўнічымі органамі: Камгоссорам, а затым Камгасам, шмат аддадзена энэргіі, сіл і сродкаў для таго, каб ашкліць і зрабіць неабходны рамонт на палову зруйнаваных жылых будынкаў. І толькі дзякуючы надзвычайнай энэргіі, рабоце і эканоміі, часта адрываючы сродкі нават ад зарплаты, нам удалося значную частку захаваўшыхся дамоў прыстасаваць для патрэб рабочых памяшканьняў і ўстаноў. Але, таварышы, ня гледзячы на гераічныя меры, жыльлёвы крызіс у нас да гэтага часу яшчэ востра адчуваецца. Асабліва гэта

адчуваюць органы культуры і аховы здароўя са школамі і дзіцячымі ўстановамі. Наогул, калі паглядзець як разьмешчаны ў горадзе дзіцячыя дамы і школы, дык можна сказаць, што гэта дапусьціма толькі ў зруйнаваным горадзе Барысаве, дзе няма жыльлёвай плошчы.

Савецкія ўстановы: суд, Нарасьветы, уфінаддзел, упрадком і іншыя знаходзяцца ў страшэнна скучаным становішчы. Вайсковыя ўстановы, камсклад і чырвонаармейцы раскватараваны па прыватных дамох і жывуць часта на вышках, у калідорах альбо выцясьняюць прыватных жыхароў.

Камсамол, наша зьмена, ня мае нават клюбаў для культвыхаваўчых заняткаў, не гаворачы ўжо аб добра абсталяваных памяшканьнях для гульняў і разьвіцьця фізычнае культуры, а таксама аб агульных памяшканьнях, якія там патрэбны камсамольскай і навучаючайся рабочай моладзі. Савецкія ўстановы, партыйныя і прафэсыянальныя арганізацыі Барысава ня маюць ня толькі памяшканьняў, прыстасаваных да роду заняткаў, але нават туляцца па 2—3 установы разам. У горадзе няма гасьцініцы і прыяжджаючым прыходзіцца пераживаць цяжкія нязручнасьці. Няма грамадзкай лазьні. Калі мы паглядзім, як жывуць рабочыя—члены прафсаюзаў і проста абывагалі гораду, дык убачым яшчэ больш жудасны малюнак.

Муніцыпалізіруючы з астаўшыхся лепшыя дамы для разьмяшчэньня савецкіх, партыйных, прафэсыянальных і грамадзкіх установаў, мы гэтым самым вымушаны былі ўплатняць і перасяляць і бяз гэтага сьціснутых жыхароў і нават членаў прафсаюзаў. Частыя выпадкі, калі ў адным пакоі жывуць па 2—3 сям'і. Пры такіх умовах немагчымы ніякія нормы і правілы культуры і аховы здароўя. Прыемна глядзець, як добра разьмешчаны рабочыя ў Маскве, Менску і інш. гарадох Рэспублікі, яны займаюць цэлыя кварталы лепшых дамоў быўшай буржуазіі. Што зрабіла Савецкая ўлада для рабочых ў іншых гарадох, гэтага зрабіць немагчыма было ў Барысаве. Да гэтага часу рабочыя фабрыкі „Чырвоная Бярэзіна" і асабліва рабочыя завода імя т. Домбаля, як пераважна прышлы пралетарскі элемэнт, жывуць у надзвычайна дрэнных кватэрах. Не асабліва лепш жывуць і іншыя рабочыя. А між тым прамысловасьць гораду Барысава ёсьць асноўная прамысловасьць нашай Савецкай Беларусі, на што патрэбна Ўраду і ўсім арганізацыям зьвярнуць сур'ёзную ўвагу.

Ня гледзячы на сілы і сродкі, патрачаныя нашымі працаўнікамі і ўстановамі на адбудову гораду, ня гледзячы на загады і абавязковыя пастановы, якія прымушаюць прыватных жыхароў рамантаваць і будаваць дамы, у выніку мы павінны прызнаць, што сваімі сіламі і сродкамі нашым будаўнічым установам, а тым больш рабочым і бяднейшаму гарадзкому насельніцтву дамоў гарадзкога тыпу—не пабудаваць.

Мы маем факты, калі гарадзкое насельніцтва, шукаючы жыльлёвага прытулку, ня гледзячы на забароны, у сілу беднасьці і зруйнаваньня,

будуе дамы-хаткі, зусім недапусьцімай архітэктуры, не павялічваючы жыльлёвую плошчу, скажаецца і бяз гэтага жалабны выгляд гораду.

Я ўжо гаварыў, што школы, дзіцячыя дамы і іншыя ўстановы знаходзяцца ў агідных жыльлёвых умовах, а між тым маецца шэраг каменных згарэўшых будынкаў, якія можна аднавіць за адзін-два месяцы, калі-б былі сродкі. Чырвоныя казармы імя т. Троцкага могуць умясьціць вялікі гарнізон, калі адбудаваць усе карпусы, канюшні і складачныя памяшканьні, для чаго зноў такі патрэбны калёсальныя сродкі і будаўнічыя матар'ялы. Камгасор, Камгас і іншыя ўстановы ў гэтым годзе і мабыць у будучым пры пабудове электрычнай станцыі, дому адпачынку, рамонту пэдагагічнага тэхніму, пабудове мастоў і іншых будаўнічых работ, бязумоўна, ня маюць магчымасьці ўзяць на сябе адбудову і пабудову казармаў і жыльлёвых будынкаў. Да гэтага трэба сказаць, што Камгас, пазбавіўшыся ад пажару буйных дамоў, дзяржаўнае маёмасьці, гандлёвых крам, мясных радоў і інш. пабудоў грамадзкага назначэньня, гэтым самым пазбавіўся значнай часткі асноўных прыбыткаў.

Значыцца, зруйнаваны белапалякамі горад Барысаў ня мае пэрспэктыў і магчымасьці ні ў сучасным, ні ў бліжэйшым будучым сваімі сіламі аднавіцца, даць памяшканьні рабочым, Чырвонай Арміі, разьмясьціць культурныя савецкія ўстановы.

А між тым значэньне гораду Барысава як для БССР, так і для РСФСР надзвычайна важнае ва ўсіх адносінах. Горад Барысаў, як пралетарскі цэнтр Савецкай Беларусі, пасьля Менску зьяўляецца асноўнай базай нашага прамысловага будаўніцтва. Запалкавая, шкляная, папяровая, ліцейная вытворчасьці і дрэваапрацоўваючая прамысловасьць у сучасны момант на хаду, яны павінны ў далейшым яшчэ больш узмацняцца і разьвівацца. Рака Бярэзіна зьвязвае Барысаў з Украінай і праз сыстэму Бярэзінскіх каналаў з Заходняй Дзьвіной. Рака Бярэзіна, заўсёды перапоўненая сплавам лесу, мае вялікую будучыню ў разьвіцьці тавараабмену з іншымі краінамі.

Значэньне гораду Барысава ў ваенных адносінах, у адносінах абароны Рэспублікі ад яе ворагаў, буржуазна-капіталістычнага Захаду, бязумоўна, вельмі важнае. Чыгунка, рака Бярэзіна з яе прытокамі і ручаямі зьяўляюцца важнейшым стратэгічным пунктам. Усё гэта патрабуе стварыць упаўне нармальныя ўмовы расквартараваньня частак Чырвонай Арміі, Барысаў неабходна забясьпечыць неабходнымі казарменнымі, штабнымі і складачнымі памяшканьнямі.

Эканамічнае, палітычнае і ваеннае значэньне гораду Барысава абавязвае ня толькі нас, але і наш цэнтр зьвярнуць асаблівую ўвагу на яго становішча і прыняць безадкладныя меры да таго, каб прыстасаваць горад Барысаў да тых вялікіх задач, якія стаяць перад ім у сучасным і будучым.

Да гэтага часу мы не прад'яўлялі настойлівых просьбаў нашым вышэйшым органам аказаць рашучую дапамогу Барысаву ў яго адбудове



Адзін са склепаў, у якім знарадам забіта і паранена каля 36 чалавек.

таму, што адчувалі агульнае разбурэньне і агульнае цяжкае эканамічнае становішча. Зараз-жа, калі прамысловасьць наша разьвіваецца і сельская гаспадарка значна адноўлена, мы лічым сваячасовым ставіць пытаньне аб плянавым аднаўленьні зруйнаванага г. Барысава мерамі і сродкамі дапамогі Савецкай Дзяржавы. Бо мы ўпэўнены, што без рашучай дапамогі вышэйшых органаў БССР сіламі і сродкамі, працоўнае насельніцтва гораду Барысава будзе жыць як і раней без кватэр, у зямлянках, і ў лепшым выпадку будзе будаваць халупы-дамы не гарадзкога тыпу, якія ня могуць палепшыць жыльлёвага становішча рабочых.

Мне думаецца, што тут умесна будзе прыпамятаць гістарычную спраўку, калі ў 1812 годзе, у час пераправы францускай арміі і баёў праз раку Бярэзіну, горад Барысаў быў таксама зьнішчан і толькі дзякуючы льготам, грашовым субсыдыям, дзякуючы бясплатнаму водпуску будаўнічага лесу з боку ўраду дзяржаўным установам і жыхаром гораду, Барысаў быў адноўлен. Зразумела, гэты гістарычны факт аднаўленьня гораду Барысава ня можа служыць яскравым прыкладам для нашых умоў, бо мы ведаем, а гэта ведаюць і барысаўскія рабочыя, што сутнасьць войнаў і эканамічнай структуры зусім розныя. Тым ня менш бясспрэчна ясна гаворыць і сучаснае, што толькі пры аказаньні дапамогі з боку Ўраду БССР савецкім і грамадзкім установам, а таксама працоўнаму насельніцтву гораду Барысава, можна спадзявацца на посьпех у аднаўленьні зруйнаванага гораду.

Вось становішча і тыя прычыны, якія прымусілі Барысаўскі Павятовы Выканаўчы Камітэт зьвярнуцца да ЦВК Саветаў Беларусі. Ставячы гэтае пытаньне, мы ня маем падрабязных будаўнічых плянаў, гэтае пытаньне шукае яшчэ прынцыповага аўтарытэтнага рашэньня Сэсіі ЦВК аб дапамозе будаўніцтву г. Барысава. Камісія Прэзыдыуму ЦВК на сваім учорашнім пасяджэньні вызначыла тэрмін аднаўленьня Барысава ў тры гады. Камісія лічыць неабходным пабудаваць як мінімум 10 дамоў для дзяржаўных устаноў, 40—45 дамоў для рабочых і служачых за сродкі дзяржаўных органаў і 125 дамоў сіламі працоўнага насельніцтва гораду, за лік водпуску лесаматар'ялаў па льготных цэнах.

Камісія таксама спынілася на адным важным пытаньні. Справа ў тым, што ў Барысаве няма зараз прыстасаванага цэнтру, усюды руіны, трэба будаваць дамы павятовага цэнтру нанава. Да гэтага часу павятовы цэнтр быў у Барысаве. Там раней, як у старым буржуазным мяшчанскім гарадку, былі згрупаваны царквы, касьцёлы і сінагогі, а таксама крамы прыватнага гандлю, г. зн. усё тое, што нашай палітыкай асуджана ў будучым на адміраньне, на адыход у мінулае. Іншая справа—Нова-Барысаў. Нова-Барысаў зьяўляецца рабочым цэнтрам. Тут фабрыкі, прафтэхнічныя навучальныя ўстановы, чыгуначная станцыя, казармы Чырвонай Арміі і, акрамя таго, тут ёсьць дастаткова зямель для пашырэньня гораду. Такім чынам гэтыя факты і будучае гавораць за тое, што павятовы

цэнтр Барысаўскага павету павінен быць у Нова-Барысаве, у рабочым цэнтры ў блізкай сувязі з прамысловасьцю, транспартам, прафасьветай і Чырвонай Арміяй. На гэтым Камісія ЦВК спынілася і я думаю, што гэта пацьвердзіць Сэсія і ня будуць супярэчыць прадстаўнікі Барысаўскіх арганізацый.

Камісія просіць Сэсію ЦВК заклікаць усе дзяржаўныя і грамадзкія арганізацыі і ўсё працоўнае насельніцтва БССР аказаць дапамогу справе аднаўленьня Барысава матар'яльнымі і грашовымі сродкамі.

Я ўпэўнен, што Сэсія ЦВК прыме сваё аўтарытэтнае рашэньне па прапановах Камісіі. Я дазволю сябе спадзявацца ад імя рабочых Барысава, што дапамога будзе аказана ня толькі цэнтральнымі органамі, але і ўсімі паветамі нашай Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі.

# ЗАСЛОНА ЗАКРЫТА

**А. Некрашэвіч**

*(Некаторыя вынікі працы бел. Дзярж. тэатра ў сэзоне 1929—30 г.)*

Сэзон 1928-29 г. трэба лічыць годам пералому ў працы галоўных беларускіх дзяржаўных тэатраў. На працягу гэтага сэзону ў тэатрах (БДТ і БДТ 2) выразна намеціўся падыход у сваей працы да сучаснае тэматыкі і адмаўленьне ў прыватнасьці ў БДТ 2 ад „голага эстытызму“ і ідэолёгічнай з пахам нацыянал-дэмократызму блытаніны. Беларускі Першы Дзяржаўны тэатр за гэты сэзон паказаў „Запяяюць верацёны“ А. Міровіча. „Бронецягнік“ У. Іванова, „Мост“ А. Рамановіча і „Інга“ Глебава. Беларускі Другі Дзярж. тэатр паказаў „На прадвесьні“ М. Ільлінскага. „Рэйкі гудуць“ В. Кіршона і „Маёмасьць“ С. Розанава. Усе гэтыя п‘есы ў той ці іншай ступені адказвалі на тыя ці іншыя пытаньні сучаснасьці і былі зразумелымі шырокім колам рабочага гледача. І ён, рабочы гледач, напоўніў сабою да таго амаль пуставаўшыя салі нашых тэатраў. Намеціўся такім чынам шлях, па якому павінен ісьці беларускі тэатр. І толькі Беларускі Дзяржаўны Вандроўны тэатр усё яшчэ перапяваў народніцкія мотывы і мяшчанскія мэлёдрамы, страктаваныя гэтым тэатрам у пляне старых провінцыяльных тэатраў. Гледача, праўда, у гэтага тэатру было хоць адбаўляй, але не таму што тэатр адказваў сваёй працай на гострыя пытаньні сучаснасьці, а таму, што ён яшчэ жыў водблескам сваёй папярэдняй популярнасьці, таму што ён абслугоўваў вёску, якая, калі ня лічыць аматарскіх гурткоў, іншага тэатру ня мела. Воляй-няволяй будзеш любым.

Так скончылі сэзон 1928-29 году беларускія дзяржаўныя тэатры. Сэзон 1929-30 г. тэатры сустрэлі, калі ў краіне ішло буйнае соцыялістычнае будаўніцтва, знаходзіліся новыя мэтоды працы як соцыялістычнае спаборніцтва ды ўдарніцтва. Краіна гарэла ў творчым запале соцыялістычнага будаўніцтва. На падставе ўсяе папярэдняе працы партыі на вёсцы, нарастала магутная хваля колгаснага руху, што нішчыла межы індывідуальнае гаспадаркі, а разам з імі і „ідыётызм вясковага жыцьця“. Па-баявому паўсталі пытаньні культурнае рэволюцыі.

І ў гэтай вялікай перабудове тэатр павінен быў адыгрываць надзвычайна вялікую ролю баявое зброі ў руках партыі і рабочае клясы. Спэцыфічна прысутнымі яму сродкамі агітаваць, заклікаць да новага, органі-

зоўваць пачуцьці да новых перамог, біць без прамаху па ўсяму таму што шкодзіла вялікаму соцыялістычнаму будаўніцтву.

Так, тэатр быў закліканы і абавязаны быў рабіць гэта.

Канчаецца сэзон. Да восені апушчана заслона; скончаны год працы. Што-ж зрабілі нашыя тэатры? Як яны разьвязалі тыя задачы, што ўскладаліся на іх. Паглядзім.

---

Беларускі Першы Дзяржаўны тэатр распачаў свой сэзон у Гомелі. Першай яго працай была пастаноўка „Міжбур'е" Курдзіна (пастаноўка А. Міровіча, мастак Крэйн). „Міжбур'е, наколькі нам вядома, першая і пакуль што адзіная п'еса, якая малюе Чырвоную армію ў мірны пэрыяд у міжбур'е, паміж двума навальніцамі. Тэма на фоне нашага безрэпэртуар'я надзвычайна цікавая, а разам з тым і сьвежая. Гэтым, а таксама і сваёю непасрэднасьцю, добрым знаёмствам з бытам Чырвонае арміі, п'еса абавязана таму посьпеху, які яна мела.

Тэма і агульны характар п'есы вельмі падобны да п'ес, якія характарызавалі пэрыяд пераходу краіны ад грамадзянскай вайны да пэрыяду аднаўленьня і НЭП'у. Скончыліся баявыя дні, краіна выйшла на новы фронт, на вайну з разрухай, бязладзьдзем. Баявы героізм падсобных людзей, і цэлага колектыву пераключыўся ў героізм „будней". Штодзённай упартай, часта няпрыкметнай працы. І гэтага новага героізму, героізму мірнага будаўніцтва, героізму, які найшоў сваё найвышэйшае выяўленьне ў рэконструкцыйным пэрыядзе ва ўдарных брыгадах, цэхах і заводах, у новых мэтодах працы—соцыялістычным спаборніцтве,—шмат хто не зразумеў. Шмат каму ўсё гэта здавалася дробным, няпрыкметным і нявартым комуністага. Гэтую тэму мы ўжо сустракалі, праўда, няўдала апрацаваную, у „Астапе" А. Глобы (праца бел. Друг. Дзярж. тэатру, сэзон 1926 г.). На новыя рэйкі павінна была пераключыцца і Чырвоная армія. На рэйкі ўпартае, напружанае вучобы, каб аўладаць усёй сумай вайсковых ведаў і тэхнікі і будучы ўзброенай імі адбіць акаляючага ворага. Героізму „будней" новага пэрыяду жыцьця Чырвонае арміі не разумее камандзір кав. ўзводу палка Дыбаў! Гэтага пэрыяду не разумее і жонка камандзіра палка Галена. Як Дыбаў, так і Галена перанесьлі грамадзянскую вайну, яны перажылі захапленьне баявой радасьці і яны не разумеюць „будніх". У гэтым іх трагэдыя.

Дыбаў кажа: „быў час цяжкі—раўчукамі кроў лілася, а цяпер мы яе па кропельках трацім". Ён ня хоча вучыцца. Ён не разумее неабходнасьці тэорыі, ён ня можа паміріцца з тым, што бяз вучобы ён не камандзір, яго абражае, што яму даручылі толькі конны ўзвод, яму здаецца, што ён мог-бы камандаваць цэлым палком: „Маючы вялікі вопыт, што застаўся ад грамадзянскае вайны, я без усялякіх школ і курсаў магу справіцца з памянёнай пасадай (камандз. асобн. эскадрону. *А. Н.*)" піша ён у сваім рапорце камандзіру палка. Выхад з такога стану незадавальненьня вядомы. Дыбаў пачынае п'янстваваць, распускае ўзвод, і калі

бюро колектыву палка пачынае ўшчуняць яго, ён абражаецца і яго протэст, што вынікаў з усёй яго сутнасьці бунтара і партызана, грузчыка з Волгі, протэст, які быў спачатку шчырым, пачынае прымаць штучны характар. Дыбаў „іграе“ ў протэст, які знаходзіць завяршэньне ў яго словах:

— „Паслоў нашых б'юць, у кур'ераў страляюць, а мы па вуліцах з чырвонымі анучкамі ходзім, лёзунгамі протэстуем“. І далей. „Валынка навакол, валакіта. Сучасная вашая рэволюцыя пад сукном ляжыць, пад зялёным сукном у Комінтэрне завалялася. Скончана, таварышы! На тысячу год усё заглохла: Ша!“

Падобнай да яго зьяўляецца і Галена—жонка камандзіра палка Шчурава. Тая Галена, якая некалі ў пэрыяд грамадзянскай вайны побач з сваім таварышом і мужам: „На тэндэру наперадзе паравозу—ты я і кулямёт. Нясемся на ўсіх парах. Рэйкі гнуцца, калышуцца—вось, вось зьляцім пад адкос. Ніякіх станцый, ніякіх стрэлачнікаў—сто вёрст у гадзіну. А насустрэч—і бура і ноч і вясна. Я тады, Андрэйка, не адрозьнівала я, дзе рэволюцыя, дзе вясна, дзе мае дзевятнаццаць год. Усе зьмяшалася“. Галена магла спакойна з трохлінейкі расстраляць ахвіцэра-ворага, спакойна ішла пад кулямі ў бой і пасьля бою пела на бранявіку стомленым чырвонаармейцам пад гармоніку „Яблочко“. Вось прышоў новы пэрыяд, больш складаны і глыбокі. Нельга жыць толькі пачуцьцямі, трэба разумець, што робіш. Галена, як і Дыбаў не разумее. І ў гэтым так як у Дыбава яе трагэдыя, яна марыць: „Зараз бы ды на санках, ды званочкамі, ды каб як віхор ляцець, куды ў коняй вочы глядзяць. Хоць да чорта на вясельле“.

Але на гэтым падабенства і канчаецца. Калі ў Дыбаве „протэст“ быў у некаторай ступені „нутраным“, абумоўленым, дык Галена належыць да таго парадку людзей, якіх соцыяльныя навальніцы могуць узьняць досыць высока, але гэта толькі ў хвіліны эфэктных прыліваў. Да ўпартай працы ў „будні“ яны ня здольны. Для Галены рэволюцыя і вайна толькі прыгожая романтычная прыгода, ні болей. Таму і канец Галены абумоўлены.

Барацьбою з Дыбаўшчынай прасякнута ўся п'еса і ў гэтым яе галоўны сэнс.

Дзея ў п'есе разгортваецца такім чынам, што Дыбаў, паводзіны якога характарызуюцца Шчуравым, як партызаншчына, прымушаны пакінуць полк. Як дэмабілізаваны камандзір ён пападае ва ўстанову, але праца яго там не здавальняе. Ён апавядае: „Вось сяджу, пяром важу, да паперкі падшываю. А ў пакоі ціха. Хоць-бы муха прагула. Усе ад скукі падохлі. Толькі і чутна, як пер'я ды мышы шарабаюць. Пад падлогаю мышы, у шафе ў мяне мышы і за сталамі куды ня глянь—усё мышы сядзяць. Кінуў я, кінуў аловак. З канцэлярыі Дыбаў пападае на будаўніцтва. Спачатку яго захапляе толькі сам размах будаўніцтва, але ў творчай працы сам ён перараджаецца і ў фінале п'есы Дыбаў, як носьбіт дыбаў-

шчыны, зьяўляецца і антытэзай яе. Вялікае будаўніцтва перарадзіла яго, арганізавала яго буйныя сілы ў пэўным кірунку.

Галена-ж ад куцяжоў каціцца ўніз, пападае ў лапы нэпмана Маркізетава, пазнае ўсю „слодач“ лёгкага і вясёлага жыцьця, і ў спадчыну ад нэпмана атрымлівае сыфіліс. Змучаная моральна і фізычна, разьбітая, яна ня можа ўжо вярнуцца назад. У яе хапае моцы толькі на тое, каб скончыць свае жыцьцё, стаўшы за мішэнь у якую паміж іншым так метка страляе на палкавым сьвяце яе былы муж, камандзір палка Шчураў. З Галенаю гінуць рэшткі „Дыбаўшчыны“. Сыгнал да трывогі.

Ад вучобы і сьвята так ізноў.. і ідзе абараняць соцыялістычную бацькаўшчыну, абараняць узброеным вайсковай вучобай, тэхнікай і ачышчаным ад „Дыбаўшчыны“.

У гэтым асноўны сэнс п‘есы. Побач сьцісламі, але моцнымі мазкамі, малюецца жыцьцё Чырвонае арміі ў пэрыяд міжбур‘я, даецца цэлая галярэя паасобных людзей, якія складаюць сабою такі моцны баявы колектыў, якім зьяўляецца Чырвоная армія.

Гэтую п‘есу на тэатры ставіў А. Міровіч, афармляў малады мастак Крэйн. Трэба аднак адзначыць, што пастаноўшчыку, на наш погляд, не ўдалося раскрыць асноўную ідэю п‘есы—ператварэньне Дыбаўшчыны, як неарганізаванай партызанскай сілы праз наша будаўніцтва, у актыўную сілу ў ім. Дыбаў сам стаў сваім адмаўленьнем. Пастаноўшчык мейсцамі зрываўся ў звычайнае дробнае абыгрываньне бытавых момантаў, якія і засланялі сабою асноўную ідэю п‘есы. Удала зроблена афармленьне мастаком Крэйнам. Гэта была яго першая праца на беларускім тэатры, і яна сьведчыць аб пэўнах здольнасьцях гэтага мастака.

Куды слабей музыка, напісаная дырыжорам тэатру. Аўтар музыкальнага афармленьня трэба зазначыць ня справіўся з ускладзенай на яго задачай.

Другой працай БДТ у гэтым сэзоне была пастаноўка перакладзенай п‘есы „Ярасьць“ Яноўскага. Гэта была першая п‘еса на тэму аб клясавай барацьбе ў вёсцы ва ўмовах рэконструкцыйнага пэрыяду. На зьмесьце гэтай п‘есы мы ня будзем спыняцца, яна досыць усім вядомая, бо п‘еса, пакуль не зьявілася „Дыктатура“ Мікітэнкі і „Авангард“ Катаева, была адзінай на азначаную вышэй тэму, а таму абышла сцэны амаль усіх сталічных і провінцыяльных тэатраў.

П‘еса бязумоўна актуальная і патрэбная і гэтым тлумачыцца яе посьпех, які яна мела ва ўсім СССР. Аднак п‘еса мае і цэлы шэраг хібаў, што прыніжаюць яе ўплыў на эмоцыі гледача.

Аб гэтых хібах кажа—Н. Скуба у артыкуле „О деревенской тематике“, Советский театр № 3-4“, 1930 г. стр. 18.

1) „Пассивное отображательство, сценическая иллюстрация политических процессов вместо их перетворения методами театра.

2) Схематическое упрощенство, такая расстановки сил и положений, при которой зрителю, видевшему „Ярость“ не зачем ходить на „Ураган“ (альбо, наадварот, пасьля „Урагану“ на „Ярасьць“. *А. Н.*).

3) Примитивизм художественного мышления и бедность творческих приемов деревенских п'ес. Персонажы одной пьесы могут быть без ущерба пересажены в другую и зритель ничего не заметит: „Кулак, он, знаете, везде одинаков: колхозники, сами понимаете, коллективисты, друг на друга похожи".

4) И, как вывод отсюда—внутреняя разорванность и неорганичность отдельных частей пьесы.

З гэтай ацэнкай Скубы адносна вясковых п'ес апошняга году, у тым ліку і „Ярасьці", можна цалкам згадзіцца. Гэтыя хібы прыводзяць да таго, што п'есы тыпу „Ярасьць" часта ня могуць выжыць нават аднаго сэзону. „Ярасьць" ў БДТІ ў пастаноўцы, вядомага нашай грамадзкасьці па пастаноўцы ў гэтым тэатры „Інга" Глебава, Сьмяянаву ўдалося ў значным стопні ўнікнуць ад гэтага упрашчэнчаства, а часам нават больш глыбока ўскрыць тыя падзеі, якія толькі намячаліся аўтарам, і якія жыцьцё значна выперадзіла. Пастаноўка не зрабіла этапу ў разьвіцьці тэатру—яна толькі па меры сваіх магчымасьцяй адказала на запатрабаваньні сучаснасьці.

Трэцяй пастаноўкай была п'еса ізноў маладога ўпяршыню папаўшага на сцэну драматурга Лахматага „Гута". Па колькі гэты твор орыгінальны на ім варта спыніцца крыху болей.

Тэма п'есы вынаходніцтва. На шкляной гуце выдуваюць шкло, так, як яго выдувалі 100 год таму назад, уручную, надрываючы грудзі. Заводу трэба выканаць вытворчую програму, трэба пераходзіць на бесперапынку, але не хапае людзей. Частка майстроў, якіх на заводзе няхватка, адчуваючы сваю моц, п'янствуюць, робяць шмат браку і замест працы на заводзе больш займаюцца сваёю ўласнаю кулацкаю гаспадаркаю. Выхаду са становішча амаль няма. На заводзе працуе каваль Мароз. Ён з комсамольцам Цыганком вынаходзяць машыну, якая працуе аўтоматычна, патрабуе вельмі мала чалавечае сілы і ў некалькі разоў болей выпускае продукцыі. Адзін з майстроў даведваецца пра вынаходку. і майстры ведаючы, што калі машына будзе зробленай паўстане канец іхняму самавольству, робяць усё каб перашкодзіць яе пабудове. Завод ня мае патрэбных сродкаў, каб зрабіць машыну, агульны сход рабочых, ня гледзячы на агітацыю майстроў, пастанаўляе даць на пабудову машыны сродкі з фонду палепшаньня быту рабочых, сродкі, якія прызначаліся на будаўніцтва кватэр. На пабудову машыны мэталюргічнаму заводу патрэбна каля году, але мэталісты, прыдаючы надзвычайна важнае значэньне машыне, у парадку соцспаборніцтва абавязуюцца зрабіць яе за 6 месяцаў з тым, каб рабочыя гуты праз узмоцненую працу сярод ваколічнага сялянства, дапамаглі справе колектывізацыі. Гэта яшчэ больш настрайвае майстроў, што самы маюць моцную гаспадарку і зьвязаны з ваколічнымі кулакамі-раднёю, супроць машыны.

Пабудова машыны скончана. Шпарка ідзе наперад колектывізацыя.

Майстры дагаварваюцца сапсаваць машыну, для чаго выкарыстоўваюць свайго-ж досыць наіўнага, закаханага ў дадатак у дачку майстра, кулака, Шунейку. Кулацкі плян удаецца. У часе спробы машына ўзарвалася і амаль не калечыць усіх прысутных...

Нават у энтузіястых машыны падае настрой. Вынаходца Мароз, асьмеяны майстрамі, спрабуе скончыць усю гісторыю самагубствам. Трэба вялікая праца, а сакратар партколектыву ў гэты час займаецца раманамі з кулацкаю дачкою і замест энэргічнае працы сярод рабочых усю віну імкнецца ўзваліць на дырэктара-вылучэнца заводу, Андрэява. Парткалектыў дае бой свайму сакратару. Ячэйка і лепшыя рабочыя ізноў з запалам бяруцца за працу над машынай. Кулакі-майстры і іх радня сьвяткуюць перамогу, сьвяткуе з імі і Шаталаў былы сакратар. Ізноў на завод прыяжджаюць мэталісты рабочыя і разам з інжынэрам знаходзяць у машыне кавалак жалеза, што быў падложаны Шунейкам, які і зьявіўся прычынай катастрофы. Вынаходка перамагла, перамог рабочы колектыў. Рэалізуецца задача дагнаць і перагнаць. Такі зьмест п'есы. У ёй закрануты ўсе актуальныя пытаньні сёньняшняга дню і барацьба за промфінплян, і вынаходніцтва, і ўдарныя брыгады, і колектывізацыя вёскі і гэта робіць п'есу так гарача ўспрымаемай рабочай аўдыторыяй, але гэтая перагрузка яе цэлым комплексам проблем, досыць павярхоўна вырашаных, зьяўляецца і слабасьцю яе. П'еса толькі адбівае, а не пératварае творча надзеі нашых дзён і ў гэтым яе другая, паміж іншым, характэрная для шмат якіх п'ес, хіба. Яна ня ставіць перад гледачом ніякай задачы, яна толькі паказвае тое, што ёсьць і ўжо праз пару абразкоў глядач, ня гледзячы на ўсе перашкоды, ведае, што ўсё добра будзе.

Аднак, калі прыняць пад увагу, што гэта першая драматургічная спроба рабочага-рабкора, што п'еса ўсё-ж вельмі і вельмі патрэбная і, ня ў прыклад шмат якім „сучасным“ п'есам паказвае добрае знаёмства аўтара з матар'ялам, а таму і досыць цікавай апрацоўкай тыпажу, „Гуту“ трэба прызнаць удалай працай. Тым болей, што матар'ял, на якім пабудавана п'еса (Гута) вельмі сцэнічна эфэктны.

Гэтай працай фактычна і скончыў свой сэзон Беларускі першы Дзяржаўны тэатр, даўшы такім чынам тры працы, у якіх закрануты пытаньні індустрыялізацыі, колектывізацыі і абароны краіны,—пытаньні, што на сёньняшні дзень зьяўляюцца асноўнымі. І ў гэтым дадатні бок у рабоце тэатру за мінулы сэзон. Тэатр ня зышоў з правільна абранае ім лініі, хаця праца тут і ішла галоўным чынам у шыр, у пэўнай меры за кошт глыбіні апрацоўкі проблемы.

Другім дадатнім бокам працы гэтага тэатру трэба лічыць тое, што з 3 пастановак, 2 былі орыгінальнымі, а не перакладнымі, а побач і тое, што тэатр сьмела і рашуча, не чакаючы шэдэўраў і імён, узяўся за вылучаных маладых драматургаў (Курдзін, Лахматы), чаго, як пабачым пазьней, ня здолелі зрабіць другія нашыя тэатры.

* * *

Беларускі Другі Дзяржаўны тэатр, што амаль ўвесь сэзон працаваў у Віцебску, зрабіў 3 новыя работы, паставіўшы „Простыя сэрцы“ Заяіцкага, Розанава і Міцкевіча, „Горад вятроў“ В. Кіршона і „Авангард“ Катаева.

Першая праца „Простыя сэрцы“ прадстаўляе сабою твор орыгінальны і па свайму характару зусім новы як у беларускай драматургіі, так і на беларускай сцэне. Гэта па сутнасьці музычная комэдыя, але ня ў тым разуменьні, у якім мы прывыклі звычайна разумець гэты жанр, выхаваныя „Баядэркамі“, „Гэйшамі“, ды „Цыганскімі баронамі“. У камэдыі супроцьпастаўлены малады комсамольскі творчы задор і ўчарашні дзень ускраін нашых невялічкіх гарадоў ды мястэчак,—абывацелі ды ўсялякія „быўшыя“ людзі (дыякан, былы гандляр, былы эсэр і г. д.). Цэлая галярэя пэрсанажаў з усімі іхнімі дробнымі помысламі, буркатнёю на новыя парадкі, а часам нават і марамі, праўда, бясьсільнымі, скінуць савецкую ўладу. Побач у п‘есе закрануты такія пытаньні, як вывіхі ў беларусізацыі, спэцыфічная беларусізацыя па слоўніку Байкова і Некрашэвіча, тых элемэнтаў, якія хочуць так ці іначай прысмактацца да новага жыцьця. Вельмі цікава пастаўленая, орыгінальна-аформленая (мастак Хадасевіч), уся пабудаваная на песьні і музыцы, гэтая пастаноўка выклікала вялікую зацікаўленасьць і ў Віцебску амаль ня спыняючыся пры поўнай салі была паказана больш за 30 раз. Пастаноўка па свайму жанру па тэй надзвычайна вялікай працы, якая на яе была патрачана, бязумоўна адна з лепшых прац беларускіх тэатраў за апошнія два гады.

Асноўная бяда аўтароў ды й тэатру ў гэтай пастаноўцы ў тым, што праца закранае ўсе балючыя пытаньні, але ізноў такі вельмі павярхоўна. Замест глыбокай працы над чым-небудзь адным, тэатр лёгка праехаўся па цэламу комплексу проблем. І другое. Тэатр у час надзвычайна напружанай клясавай барацьбы ўзяў пад абстрэл не актыўныя варожыя нам элементы, а, як кажуць, дабрадушных, бясьсільных што-небудзь зрабіць абываталяў, распачаўшы, такім чынам, пальбу гарматамі па мухах. Вось чаму, ня гледзячы на тое, што гэты спэктакль, бязумоўна, формальна зьяўляецца значным крокам наперад, што ён удала організуе адпачынак, соцыяльны яго эквівалент нязначны.

Другой і трэцяй пастаноўкай гэтага сэзону ў БДТ-2 былі „Горад вятроў“ В. Кіршона і „Авангард“ В. Катаева. Апошняй працай тэатр і скончыў свой сэзон. Першая з іх малюе гераічную барацьбу ў Грузіі з меншавізмам і акупантамі і пабудавана на жудасным факце расстрэлу 26 Бакінскіх камісараў, і пра яе ўжо шмат пісалі, бо гэтая п‘еса тэатрам ім. МОСПС была пастаўленай яшчэ ў пачатку сэзону 1928-29 г. і БДТ-2 паставіў яе тады, калі яна пасьпела абыйсьці ўсе провінцыяльныя сцэны.

Тэмай „Авангарду“ В. Катаева зьяўляецца барацьба партызанскага індывідуалізму з пролетарскім колектывізмам на фоне соцыяльных процэсаў, што адбываюцца ў колгасе.

Комуністы партызан, старшыня комуны „Авангард“ Чорба ўсялякім чынам і парадкам змагаецца супроць пашырэньня комуны і прыцягненьня ў яе ваколічнай беднаты і серадняцтва. Яму супроцьпастаўлены пуцілаўскі рабочы, сябра комуны Майораў, які стаіць на чале масавага колгаснага руху, і дабіваецца прыёму ў колгас некалькі сот новых сяброў. Амаль непераможныя цяжкасьці, што паўсталі ў выніку такога буйнага росту комуны, зьнікаюць як толькі комуне ўдаецца дастаць 18 трактароў. Аднак Майораў не дачакаўся перамогі—яго забіў падкулачнік, навучаны кулаком. Не пабачыў нават комуны і Чорба, што памёр у чыстым полі ад таго, што яго загрызла сумленьне.

Асноўным недахопам самой п'есы, што было падкрэсьлена амаль усёю прэсаю зьяўляецца тое, што цэнтральная фігура земляробства, серадняк у ёй зьнік. Ёсьць два полюсы: бедната і кулак, серадняка-ж няма. Наўніклі гэтай хібы і пастаноўшчыкі „Авангарду“ ў БДТ2—Разанаў і Саньнікаў. Вагуле п'еса ў Менску была паказана надзвычайна сырой, недаапрацаванай, што яшчэ болей зьнішчала яе якасьць. Ва ўсякім разе пастаноўкай „Авангарду“ БДТ-2 наўрад ці прасунуўся наперад.

„Авангардам“ скончаны сэзон гэтага году. Вынікам яго патрэбна прызнаць усё-ж далейшае замацоўваньне тэатру на позыцыях сучаснага рэпэртуару, досыць шырокі дыапазон ва ўсёй яго працы, к прыкладу пастаноўка ў гэтым годзе музычнае комэдыі і пасьля п'есы, якая набліжаецца да соцыяльнае трагедыі („Горад ветраў“). Аднак прызнаць гэты сэзон у БДТ-2 пасьпяховым у сэнсе творчае працы здавальняючым, можна толькі вельмі ўмоўна. Па-першае. Тэатр увесь час працуе на перакладным рэпэртуары, што зьніжае яго значэньне, як самастойнае мастацкае адзінкі. Замест актыўнай політыкі ўплыву на маладую беларускую драматургію, тэатр чакае шэдэўраў, а покуль што плыве па плыні. Першай пастаноўкай наступнага сэзону ізноў намячаецца хаця і бязумоўна мастацкая, але ізноў такі перакладная „Першая конная“. Можа ізноў такі здарыцца і так, што жадаючы ўнікнуць ад папрокаў у ігнораваньні орыгінальнае драматургіі, тэатр можа ўхіліцца ў другую крайнасьць і ўзяць у працу даволі прымытыўную рэч. Гэтая, як і першая небясьпека, настолькі рэальная, што, ня гледзячы на надзвычайна выразную папулярнасьць тэатру, прымушае біць трывогу. Па-другое. Скарасьпелая, часам няўважлівая, а іншы раз і няўдалая праца з акторам, прыход да працы групы маладняку, досыць значна зьнізіла акторскае выкананьне гэтага тэатру. Трэба прызнаць, што і „Разлом“ і „Калі пяюць пеўні“, пастаўленыя два гады таму назад, маюць на сёньняшні дзень акторскае выкананьне значна горшае, чымся гэта было зараз-жа пасьля пастаноўкі гэтых п'ес.

І нарэшце, пару слоў аб Беларускім Дзяржаўным Вандроўным Тэатры. Для гэтага тэатру мінулы сэзон быў у поўным сэнсе слова пераломным. Трэба проста сказаць, што гэтым тэатрам, вылучаным на вельмі

адказны вучастак нашае працы, амаль ніхто не займаўся. Пра яго ведалі толькі тое, што гэты тэатр вельмі популярны на вёсцы і толькі. Чым і як набываў тэатр гэтую популярнасьць амаль ніхто не займаўся, тэатр быў пакінуты сам сабе. Гэта прывяло да таго, што ў надзвычайна адказны момант, у момант абвостранай клясавай барацьбы на вёсцы, тэатр аставаўся ў баку. Першая праца яго ў гэтым зьявілася пастаноўка „Пінскае мадонны“ Галубка. П'еса, прэтэндаваўшая на антырэлігійнасьць, але па сутнасьці сальная комэдыя пад мяшчанска-абывательскі густ. Уся яе антырэлігійнасьць заключалася ў тым, што даводзілася, што цудоўных абразоў няма, а рэшта гэта так ужо абрыдлае „разложение“. Тое, чаго не дарабіў аўтар, скончыў пастаноўшчык (Ф. Ждановіч). П'еса ў яго апрацоўцы набыла проста пахабны характар і, наўрад ці ў такім выглядзе, магла дапамагаць і антырэлігійнай прапагандзе і соцыялістычнаму будаўніцтву на вёсцы. „Нет худа без добра“ кажа прыказка. На гэтай пастаноўцы зусім выразна было відаць, што так далей ня можа быць. Пролетарская грамадзкасьць ўзьняла протэст. Гэта прымусіла і НКА і сам колектыў тэатру заварушыцца. „Пінская мадонна“ была зьнята і наступнай пастаноўкай была прынята „Ярасьць“ Яноўскага. Але тэатр, як кажуць, апекшыся на малацэ, пачаў дзьмуць на воду. Замест грубага натуралізму, значна пасалоджанага, якім характарызаваліся ўсе ранейшыя пастаноўкі гэтага тэатру, ён удаўся ў другую крайнасьць і ў афармленьні „Ярасьці“ кінуўся да голага, калі так можна сказаць, конструктывізму, у прымітыўным яго разуменьні. Пры гэтым абсолютна ня прымаліся пад увагу ні падрыхтаванасьць у такім пляне працы колектыву, ні спэцыфічныя ўмовы вясковае сцэны і ўзровень вясковага гледача. Дадатнім тут было толькі тое, што тэатр, праўда, не бяз пэўнага супраціўленьня, перайшоў да сучаснае, так патрэбнае на вёсцы тэматыкі. Патугі-ж на нейкую арыгінальнасьць, як было ўжо сказана, былі бясьсільнымі. Гэтым у значным стопні тлумачыцца тое, што гэтая п'еса ў некаторых пунктах працы тэатру, ня была як сьлед прынятай гледачом, ня гледзячы на яе актуальнасьць.

Такая досыць значная няўдача, праўда, пры пlivароце тэатру да сучаснасьці зусім зразумелая, таксама шмат чаму навучыла Вандроўны тэатр. Стала зразумелым, што трэба раз і заўсёды скончыць з аматаршчынай, панаваўшай досыць доўга ў гэтым тэатры.

Трэцяя работа яго „Дыктатура“ Мікітэнкі, акрамя сваёй актуальнасьці, характэрна ўжо і адзнакамі пэўнай тэатральнай культуры.

Прыцягненьне да рэжысуры маладых сіл сябе цалкам апраўдала. „Дыктатуру“, такім чынам, трэба лічыць этапнай працай для Беларускага Дзяржаўнага Вандроўнага тэатру. Праўда, і ў ёй ёсьць шмат недаробленага, мастацкі недасказанага, але гэта тлумачыцца, па-першае, непадрыхтаванасьцю колектыву да працы ў такім пляне, па-другое, абмяжованым часам, што меў тэатр у сваім распараджэньні для гэтае працы.

Так ці іначай у жыцьці гэтага тэатру мінулы год характэрны, як год пераломны, год, калі тэатр пачаў выбівацца на правідловы шлях і, такім чынам, пачынае быць актыўным фактарам у справе культурнае рэволюцыі на вёсцы. Аднак трэба мець на ўвазе, што традыцыі аматаршчыны вельмі моцныя ў гэтым тэатры, і магчымы ізноў рэцыдывы звароту назад на працярэблены шлях падлажваньня пад абывательска-мяшчанскі густ. Гэта вымагае таго, каб пролетарская грамадзкасьць, Наркамасьветы вельмі ўважліва сачылі за гэтым тэатрам і ня толькі пелі яму дыфырамбы, як гэта мела месца раней, але і ставілі працы тэатру пад суровую крытыку.

Мінулы сэзон даў ня толькі якасныя паказчыкі. Беларускі тэатр вырас і колькасна. За сэзон організаваны два новыя колектывы: Беларускі Рабочы Вандроўны Тэатр ЦСПСБ і Беларускі Тэатр Рабочай Моладзі.

Сказаць што-небудзь аб іх працы яшчэ досыць цяжка, бо ТРАМ паказаў толькі адну сваю працу таксама як Рабочы Тэатр. Адно толькі ясна, што культурны ўзровень рабочых настолькі ўзрос, што організацыя як першага, так і другога тэатраў абсолютна неабходная. Ясна і тое, што гэтым тэатрам, народжаным рэконструкцыйным пэрыядам нашага соцыялістычнага будаўніцтва, неабходна ўпартая і вялікая праца, каб быць адпаведнымі тым задачам, якія на іх гэтым пэрыядам ускладаюцца. Чалавечы матар'ял і ў адным і другім тэатры вельмі сыры і ўсе гэтыя працы пэрыяду організацыі трэба разглядаць як працы вучэбныя. Тое, што тэатр ЦСПСБ першай сваёй пастаноўкай намеціў „Стрэл“ Бязыменскага, а ТРАМ раўняецца па перадавому саюзнаму ТРАМУ—Ленінградзкаму, сьведчыць, што абодвы яны стаяць на правідловым шляху. Задача іх зьяўляецца: першага ўнікнуць капіраваньня стацыянарных тэатраў і выпрацаваць сваё спэцiфічнае аблічча беларускага рабочага вандроўнага тэатру, а другога, унікнуць някрытычнага перайманьня ў свайго старшага сабрата Ленінградзкага Траму і, такім чынам, ня стаць больш таннай копіяй яго. Барацьба за адпаведнасьць задачам сучаснага этапу будаўніцтва, эмоцыянальная насычанасьць, бадзёрасьць і сьвежасьць, а на падставе гэтага сваясаблівая орыгінальнасьць—вось той шлях, па якому павінны пайсьці гэтыя маладыя, на сёньняшні дзень, так патрэбныя колектывы.

А цяпер пасьля кароткага агляду працы кожнага тэатру ў паасобку, можна зрабіць спробу і падагульніць іх працу у мінулым сэзоне.

Гэты год характарызаваўся на базе пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва і росту дабрабыту працоўных, павышаным попытам на тэатральнае мастацтва. Здаецца яшчэ ніводзін год тэатральная саля не запаўнялася так, як яна запаўнялася ў мінулым сэзоне, пры чым салю ў пераважнай большасьці запаўняў організаваны рабочы глядач. Некаторы зрыў у БДТ-1 у Гомелі тлумачыцца выключна няўмелым плянаваньнем паказваемага рэпэртуару. Такое становішча ставіць перад тэатрамі вельмі адказныя задачы ў сэнсе падняцьця якасьці іх продукцыі. Ёсьць

пэўная небясьпека, што поўная саля гледача зможа зьнізіць тэмпы працы і ідэолёгічную настарожанасьць тэатраў. Захапляцца лёгкімі посьпехамі было-б вельмі небясьпечным і шкодным.

Тэатры, хаця і павольна, але ўпарта перастраіваюцца на сучаснасьць. Тэатры ў гэтым сэзоне адказалі на тэмы: колектывізацыі і клясавае барацьбы ў вёсцы („Ярасьць“ у БДТ-1 і БДВТ, „Дыктатура“ ў БДВТ, „Авангард“ у БДТ-2), вынаходніцтва і ўдарніцтва на прадпрыемстве („Гута“ ў БДТ-1), упяршыню закранулі быт і вучобу Чырвонае арміі („Міжбур'е“ БДТ-1) эпоху грамадзянскае вайны („Горад ветраў“ БДТ-2) і, нарэшце, закранулі бытавыя моманты праз барацьбу з абывацальшчынай і мяшчанствам („Простыя сэрцы“ БДТ-2). Такім чынам, ахоплены асноўныя пытаньні сёньняшняга дню. Але-ж пераход да сучаснасьці часта быў вельмі павярхоўным, што тлумачыцца як драматургічным матар'ялам, так і павярхоўным, з адсутнасьцю разуменьня героікі нашых дзён падыходам самых тэатраў. Гэта значна прыніжала дзейнасьць тэатраў. Ня гледзячы на ўсё імкненьне ісьці ў ногі з жыцьцём, тэатры адставалі ад яго, бо нават пры самым шчырым жаданьні цяжка папярэдзіць падзеі і тэмпы нашага будаўніцтва. І тут тэатру неабходна перастроіцца, альбо зьмяніўшы сваю форму ў кірунку набліжэньня да тэатру аглядаў, альбо браць у працу драматычныя творы, якія-б ня проста адлюстроўвалі факты нашага сёньня, а неяк мастацкі афармлялі пытаньні значна глыбей, паставілі цэлы шэраг проблем. Інакш тэатр праз увесь час будзе адставаць.

З новых пастановак у 2-х буйных стацыянарных тэатраў зьяўляюцца орыгінальнымі („Міжбур'е“ Курдзіна, „Гута“ Лахматага і „Простыя сэрцы“ Заяіцкага, Міцкевіча і інш.) рэшта, п'есы перакладныя. Калі прыняць пад увагу агульнае небясьпечнае становішча з драматургіяй, дык такія суадносіны можна прызнаць больш менш нормальнымі, тым болей, што тэатрамі былі ўзяты для перакладу найлепшыя драматычныя творы апошніх двух год. Але калі разглядаць, як падзяляецца орыгінальны рэпэртуар паміж паасобнымі тэатрамі, дык малюнак некалькі мяняецца. БДТ-1 з іх пастаноў 2 („Міжбур'е“, Курдзіна, і „Гута“ Лахматага), а БДТ-2 толькі адну („Простыя сэрцы“ Заяіцкага, Міцкевіча і Разанава) ды і тую орыгінальнай можна прызнаць, умоўна. Такім чынам, як ужо казалася раней, становішча з рэпэртуарам у БДТ-2 прымушае біць трывогу, бо тэатр, як відаць, чакае, пакуль драматургі прыдуць да яго, замест таго, каб актыўна уплываць на драматургію і прыцягваць у яе як ужо выяўленыя сілы, так і маладняк. І з гэтым тэатрам можа здарыцца так, як здарылася з пераборлівай нявестай у байцы Крылова: „И рада, рада уж была, что вышла за калеку“.

Гэты сэзон характарызаваўся прыходам у беларускую савецкую драматургію маладых сьвежых сіл Курдзіна („Міжбур'е“) і Лахматага („Гута“). Як адзін так і другі ў драматургіі дэбютанты. Але як і адзін, так і другі паказалі сябе вельмі здольнымі драматургамі. Ад іх твораў вее,

чымся сьветлым, маладым ды бадзёрым. Няма заштампованасьці, хаця месцамі, напрыклад, у Лахматага адчуваецца значны ўплыў В. Кіршона.

При досыць высокай мастацкай вартасьці твораў гэтых маладых драматургаў, адчуваецца слабае знаёмства з законамі сучаснае сцэны, што вымагае ад іх вельмі ўпартае працы над вучэньнем спэцыфічных асаблівасьцяй тэатральнага мастацтва, а таксама і лепшых узораў пролетарскае і клясычнае драматургіі. На вялікі жаль, ні Курдзін, ні Лахматы не ўладаюць у выстарчальным стопні беларускаю моваю, іх п'есы ідуць у перакладах з расейскае, пры чым перакладах досыць няўважлівых. У агуле трэба зазначыць, што слоўнае афармленьне нашых спэктакляў вельмі нізкае, культуры слова няма і нават здараецца так, што актор, забыўшыся рэпліку, падаў яе на расейскай мове (БДТ-2) і другое. Расейская драматургія ў гэтым ды і часткова ў мінулым годзе характарызавалася прыходам у яе літаратараў (Д. Алеша „Заговор чувств" тэатр ім. Вахтарава, Бязыменскі „Выстрэл" тэатр ім. Мейерхольда ды інш.). Гэтага ня маем пакуль што мы. Мала таго. Мы маем побач з ростам маладых сіл творчае бясплодзьзе старэйшых драматургаў (Міровіч, Грамыка ды інш.). Тэатрам патрэбна праявіць максімум ініцыятывы, а літаратурным організацыям і ў першую чаргу Бел. АПП'у сур'ёзна паставіць пытаньне аб выхаваньні ў сваім асяродзьдзі драматургічных кадраў, прыцягваючы да гэтай працы і ўжо выявіўшых сябе ў галіне мастацкае літаратуры таварышоў. Ігнараваць і забываць аб такім адказным вучастку, як драматургія, ні ў якім разе нельга.

У сэнсе чыста формальных дасягненьняў можна адзначыць далейшае выкрышталізоўваньне мастацкага твару Беларускага Першага Дзяржаўнага Тэатру. Паступовае аслабаненьне яго ад унівэрсалізму, якім характарызаваўся першы пэрыяд яго працы, і які ў той час, калі гэты тэатр быў амаль адзінай мастацкай установай, быў зусім слушным і патрэбным, толькі памагала гэтаму выкрышталізаваньню. Тэатр перастаў ісьці па лініі найменшага супраціўленьня, падыгрываючыся пад гледача непатрэбнымі і органічна часта з паказамі, ня зьвязанымі і сольнымі выступленьнямі патэнтаваных сьпевакоў і ўключэньнем дзе трэба і ня трэба балетных нумароў. Гэта ў сваю чаргу прымусіла тэатр зьвярнуць большую ўвагу на актора, на яго ігру, а таксама на пастаноўчую працу, у якой яшчэ ад „славутнай" „Крывой Аблоны" Рамановіча, тэатр пачаў паступова адходзіць ад голага натуралізму і выпрацоўваць новы стыль, які ўжо пачынае набліжацца да конструкцыйнага рэалізму. Праўда, тут толькі першыя нясьмелыя пробы, яны праходзяць пад моцным уплывам некаторых Маскоўскіх тэатраў, аднак ужо ёсьць і зародкі нечага орыгінальнага, што пачынае выдзяляць гэты тэатр ад іншых і надаваць яму сваё ўласнае мастацкае „я". Калі тэатр на гэтых першых посьпехах не заспакоіцца, і ў надалей будзе весьці працу ў пашуках сучаснага новага рэпэртуару, адпаведнага часу і гледачу стылю, ён бязумоўна можа стаць першым ня толькі па сваёй назьве.

Моцна зыграны акторскі ансамбль і ўдумлівая разам з тым апрацоўка кожнае ролі, што складала асноўную адзнаку і дадатны бок Беларускага Другога Дзяржаўнага Тэатру, у гэтым годзе некалькі парушыліся. Тлумачыцца гэта, па-нашаму, трыма асноўнымі прычынамі. Па-першае. ростам паасобных актораў і адставаньнем, альбо нават рэгрэсам другіх. Калі ў першы пэрыяд пасьля выхаду студыі акторскі склад па сваёй падрыхтоўцы быў аднолькавым, тады ўвесь ансамбль працаваў неяк роўна. Другое. У склад тэатру прынята група маладых, нядаўна скончыўшых тэхнікум, актораў, а таксама і супрацоўнікаў, якія яшчэ не пасьпелі, а часткова, як відаць і ня змогуць, зрасьціся з усім акторскім колектывам і таму яны выбіваюцца з агульнага ансамблю. І трэцяе, найбольш важнае. У тэатры за апошні год значна зьнізілася праца над акторам. Прычынамі тут могуць быць як неахайныя адносіны да гэтай працы мастацкага кіраўніцтва, так і тым, што гэтаму тэатру, які значна адставаў ад сучаснасьці, за апошнія два гады прышлося працаваць параўнальна з мінулым, у досыць высокіх тэмпах, да якіх не прыстасаваўся і сам актор. Усё таксама высока стаіць у гэтым тэатры пастановачная праца. Гэта відаць хаця-бы з пастаноўкі „Простыя сэрцы“. Задачай гэтага тэатру таму зьяўляецца побач з высокімі тэмпамі працы, што абсолютна неабходна, каб не адставаць ад жыцьця, вельмі ўпартая праца па зрашчваньню паасобных частак колектыву („Старыя“, моладзь і супрацоўнікі) у адзін моцны колектыў і яшчэ больш упартая праца над акторам і актора над сабою. Бяз гэтага тэатр, хаця надворна і эфэктны, можа згубіць пэўную частку свае мастацкае вартасьці.

У вагуле-ж трэба прызнаць, што беларускія тэатры, хаця—і з некаторым адставаньнем, але ўпарта стараюцца ісьці ў ногу з жыцьцём, што ў іх прыкметны далейшы рост іх мастацкае якасьці. Таксама, як і ў мінулым годзе, адстае драматургія. Забясьпекай далейшых посьпехаў павінна быць ахапленьне тэатраў пролетарскаю грамадзкасьцю, кантроль над іх працай на працягу ўсяго часу, сваячасовае выпраўленьне амаль нямінучых у такой складанай справе памылак і рашучая барацьба з усімі нават зародкамі прасоўваньня на сцэны варожых пролетарыяту ідэй і ў прыватнасьці ідэй контр-рэвалюцыйнага нацыянал-дэмократызму, які напэўне будзе яшчэ рабіць спробы выкарыстаць тэатр, як сваю зброю і ад якіх уплываў тэатр нельга лічыць застрахаваным.

# КНІГАПІС

**1. Д. Н. Дзяменьцеў. М. Скурскі—„На франтох“**. *Пераклад з расійскай мовы. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск 1929 г. Балонак 47. Цана 15 кап.*

**2. Шылін—„Страшная Арват“**— *з расійскай мовы пераклаў У. Жылка. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск 1929 г. Балонак 100. Цана 30 кап.*

У апошні час Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва пачало выдаваць значна перакладной літаратуры пераважна з расійскай мовы. Сякая-такая доля прыпадае і на мастацкую літаратуру. У выданьні перакладной мастацкай літаратуры Белдзяржвыдавецтва павіннаісьці па лініі выданьня ўзорных мастацкіх твораў пролетарскай літаратуры. Але, на вялікі жаль, мы да гэтага часу амаль зусім ня бачым ніводнага буйнага мастацкага твору брацкай, пролетарскай расійскай, украінскай і інш. літаратуры.

Рэцэнзуемыя намі дзьве кніжачкі зусім не зьяўляюцца больш-менш значнымі творамі, прычым першая і зусім ня мае адзнакі мастацкае творчасьці. Кніжачка „На франтох“ зьмяшчае ў сабе нешта накшталт апавяданьня—„У горах Дагестану“—Д. Н. Дзяменьцева і некалькі гэткіхжа ўспамінаў М. Скурскага: „На цягніку“, „Фастаў“ (урыўкі з дзеньніка), „Дзед Пахом“ і „Уральскі Порт-Артур“. Усе яны падаюць той ці іншы эпізод, малюнак грамадзянскай вайны, героічнасьці ў барацьбе і г. д.

Гэтыя зарысоўкі вельмі слабыя з тэхнічнага, мастацкага боку,—амаль абсолютная адсутнасьць ва ўсім тэксьце ўдалага вобразу, параўнаньня, мэтафоры і г. д. Наогул, яны носяць не мастацкі, а публіцыстычны характар.

Некаторую вартасьць надае ім толькі зьмест, насычаны героічнасьцю, патосам барацьбы. З тэхнічнага выдавецкага боку, кніжка выдадзена надзвычайна дрэнна. Вокладка, папера нікудышныя. Малюнкі страшэнна бяздарныя, цьмяныя і зусім слаба адпавядаюць зьместу. Да гэтага яшчэ малюнак на ст. 18-й зусім ня мае ніякага дачыненьня да тэксту кнігі і папаў сюды, як відаць, па неахайнасьці і зьяўляецца проста кур'ёзам ці абсурдам. Да ўсяго гэтага, пераклад зроблены надзвычайна няўдала і няпісьменна. Прачытаць кніжку патрабуецца значнае траты сіл і ўпартасьці. Іншая справа з кніжкай Г. Шыліна—„Страшная Арват“. Сюды ўваходзіць два апавяданьні: „Страшная Арват“ і „Шайтан“. Абодва малююць сучасны савецкі ўсход, прасяканьне ў яго новага быту, культуры, вызваленьня жанчын і яе станаўленьне ў шэрагі будаўнікоў новага, сьветлага жыцьця. Апавяданьні, дзякуючы іх высокай ідэёва-мастацкай каштоўнасьці і дзякуючы надзвычайна добраму перакладу, чытаюцца з захапленьнем.

У сучасны момант, калі беларуская літаратура наогул бедная на літаратуру, якая адлюстроўвала-б грандыёзны размах соцыялістычнага будаўніцтва ва ўсім Савецкім Саюзе, ва ўсіх яго рэспубліках, кніжка Шыліна—„Страшная Арват“, якая знаёміць чытача хоць у некаторых ры-

сах з савецкім усходам, мае выключную вартасьць і выданьне яе на беларускай мове зроблена зусім своячасова і зьяўляецца вельмі карысным.

Тэхнічны бок выданьня гэтае кніжкі больш-менш здавальняючы. Кніжка знойдзе сабе чытача.

**Ул. Сядура.**

**С. Баранавых. „Злосьць“** *(апавяданьні) сэрыя „Бібліотэка школьніка“, БДВ. Менск, 1930 г., ст. 60, цана 38 кап.*

Рэцэнзуемы зборнік апавяданьняў „Злосьць“ зьяўляецца першым зборнікам пісьменьніка С. Баранавых. Таксама апавяданьні гэтага зборніку адносяцца да першапачатковай літаратурна-мастацкай дзейнасьці, зьяўляюцца першай спробай пісьменьніка паказаць той ці іншы бок жыцьця чалавека ў мастацкіх вобразах.

У зборніку мы ня знойдзем шырокіх палотнаў, на якіх-бы разгортвалася тое ці іншае жыцьцё, ня знойдзем глыбокага аналізу жыцьця, а мы можам знайсьці некаторыя зарысоўкі жыцьця, побыту вясковай беднаты, мы можам знайсьці, падкрэсьленыя пісьменьнікам, некаторыя характэрныя рысы сялянскай псыхолёгіі.

Усе чатыры апавяданьні, якія ўвашлі ў гэты зборнік: „Не пашанцавала“, „Злосьць“, „Ушчэрб“ і „Давёў“ яны па свайму размаху, па сваёй шырыні ня выходзяць з кола аднэй сялянскай сям'і. Ува ўсіх апавяданьнях фігуруюць амаль толькі бацька, матка, сын, дачка, дзядзька. Зусім рэдка ў гэту сям'ю ўмешваецца які-небудзь пабочны чалавек,—накшталт сусед.

Бязумоўна, адгэтуль і зразумела, чаму пісьменьнік С. Баранавых дае нам паасобныя рысы сялянскай псыхолёгіі ці побыту.

Сама композыцыйная пабудова апавяданьняў ня спрыяе таму, каб даць шырокі размах апісаньню. І таму, што ўсе героі, як мы ўжо адзначылі, акрамя з сваёй сям'ёй больш ні з кім не сустракаюцца. Яны ня маюць магчымасьці праявіць да каго-небудзь свае тыя ці іншыя адносіны, каб гэтым самым выявіць больш глыбока свой твар.

Ды бадай да гэтага ня імкнуўся і сам аўтар. Як відаць з апавяданьняў, аўтар разьлічваў свае апавяданьні на чытача-падростка і ставіў сваёй мэтай выявіць характэрныя рысы псыхолёгіі сялянскага дзіцяці. Бо ў кожным апавяданьні галоўнай дзейнічай асобай зьяўляецца сялянскі падростак, узяты ў акружэньні яго сям'і.

Апошняя мэта аўтарам дасягнута. У кожным апавяданьні мы маем некалькі характэрных рыс дзіцячай псыхолёгіі.

Ува ўсіх трох першых апавяданьнях яскрава падкрэсьлена такая характэрная рыса дзіцячай псыхолёгіі, як гарэзьлівасьць, пярэчаньне большаму.

„Буду ляжаць дзень, тыдзень— кажа хлапчук Сенечка—і—не пайду есьці. От што цяпер. Я ім усім дакажу. Яны з мяне мала пажартуюць“. (с. 14).

Таксама характэрным для дзіцячай псыхолёгіі зьяўляецца вялікая зацікаўленасьць да ўсяго, адкуль што ўзялося. Гэта рыса паказана ў апавяданьні „Злосьць“. Хлапчук ляжыць на ложаку і бачыць, што на столі поўзаюць мухі. Яго гэта цікавіць: „чаму яна, муха, не адкінецца ад столі плячыма далоў? Гэта-ж, брат, дзіва: поўзае сабе, ды ні-то, што поўзае, а нават бегае і не адкідаецца? што яе магнэс, ці што там прыцягвае“ (с. 22).

Затым, яшчэ паказаны характэрныя рысы дзяцей-падросткаў, гэта імкненьне стаць дарослым, лічыць сябе за вялікага, рабіць тое, што робіць вялікі. „У я цяпер, з сёньняшняга дня, зусім гэтакі, як дзяцька Андрэй“—кажа хлапчук Сенечка.

Трэба сказаць, што пісьменьнік С. Баранавых мая здольнасьць паказаць

тую ці іншую рысу псыхолёгіі зусім праз нязначнае дзеяньне, праз звычайную, як на першы раз здаецца, дробязь.

Але пад час С. Баранавых любіць навадзіць чытача, як кажуць „нагогул“, па слоўнаму матар'ялу. Гэта бязумоўна зьяўляецца недахопам: ад награмаджэньня слоўнага матар'ялу твор радзее.

Зборнік апавяданьняў „Злосьць“ зьяўляецца вельмі цікавым з пэдагогічнага боку. Пэдагог у ім можа знайсьці вельмі шмат цікавага матар'ялу, характэрных псыхолёгічных рыс дзіцяці школьнага ўзросту.

Б.Д.В. бязумоўна не памылілася, калі выдала гэтыя апавяданьні ў сэрыі „Бібліотэка школьніка“. Яны цалкам сюды падыходзяць. Усе яны композыцыйна проста складзены, лёгка чытаюцца і будуць мець на на дзяцей адпаведны ўплыў.

**С. Куніцкі.**

### ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ МАС

**1. Фусао Хаясі. Кніга з малюнкамі, у якой няма малюнкаў.** *5000 экз. Ц. 16 кап.*

**2. Сэйкіці Фудзіморы. Уцякач.** *7000 экз. Ц. 12 кап. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск 1930 г.*

Абедзьве кніжкі перакладзены з расійскае мовы са зборніку апавяданьняў японскіх пролетарскіх пісьменьнікаў, выдадзеным летась выдавецтвам „Московский Рабочий“ пад назваю „Ад“.

Бязумоўна, Белдзяржвыдавецтва вельмі добра робіць, што дае магчымасьць масаваму беларускаму чытачу хоць крыху азнаёміцца з творчасьцю пролетарскіх пісьменьнікаў іншых краін. Між іншым, з памянёнага зборніку японскіх апавяданьняў варта было-б даць беларускім чытачом яшчэ „Пекла“ („Ад“ на тэму аб клясавай барацьбе і ўціску ў японскай вёсцы), „Ліст з цэмэнтавай бочкі“ і „Карабель без матросаў“.

Уласна кажучы, усе гэтыя апавяданьні зьяўляюцца рознастайнымі варыяцыямі аднае тэмы—капіталістычнага прыгнёту і ўціску.

Нячуваная бязьлітасная эксплёатацыя працоўных, трагічны лёс беспрацоўных і ўсялякія іншыя „дасягненьні“ капіталістычнае цывілізацыі адлюстраваны ў іх яскрава і пераканальна. У гэтым іх бясспрэчная вартасьць.

Напісаны гэтыя апавяданьні проста, часам нават прымітыўна; яны не вызначаюцца асаблівай мастацкай якасьцю. Але, ня гледзячы на гэта, яны робяць вялікае ўражаньне, бо ўсё тое, што сказана ў іх, сказана шчыра, сказана з глыбіні жыцьця і з пэўнаю мэтай, чытаючы іх здаецца, што гэта ня аўтар гаворыць, а само жыцьцё мільённых працоўных мас, здушаных залатымі кляшчамі капіталізму, стогне і енчыць у гнеўным протэсту.

Трэба адзначыць характэрны момант у гэтых апавяданьнях. Індустрыяльны пролетары яшчэ не зьяўляецца іхным героем. Яго месца займае або селянін („Пекла“), або люмпэн-пролетары (вельмі часта матрос—„Яблыка“ і інш.), або спаўпэрызаваны і спролетарызаваны дробны буржуа („Уцякач“, „Парк спатканьняў“).

Гэта ў значнай меры можа тлумачыцца тэй фазай разьвіцьця, якую праходзіць у сучасны момант японская пролетарская літаратура, якая сёньня амаль толькі нараджаецца. Біографіі Фусао Хаясі і Сэйкіці Фудзіморы, выхадцаў з дробна-буржуазнай сям'і не зьяўляюцца рэдкім выключэньнем сярод біографій японскіх пролетарскіх пісьменьнікаў.

Японскі індустрыяльны пролетарыят яшчэ, здаецца, маўчыць. Спролетарызаваны дробны буржуа вырашае пытаньне рэволюцыйнай барацьбы анархічна.

— „Сказаць вам па шчырасьці, ляжыць у мяне на сэрцы адна думка... Хачу, як вярнуся ў Токіё, забіць тую

брыду, што піхнуў мяне на гэткае няшчасьце".—(„Уцякач", ст. 37).

Сэйкіці Фудзіморы тлумачыць яму, што з гэтага будзе мала карысьці, пакуль існуе сучасны дзяржаўны лад.

І вось, калі прыдзе час яго зьнішчыць, тады пролетарыят, бязумоўна, скажа сваё слова і на барыкадах і ў літаратуры.

Цяпер яшчэ некалькі слоў спэцыяльна аб рэцэнзуемых кніжках. Самым грунтоўным апавяданьнем зьяўляецца „Уцякач" Сэйкіці Фудзіморы. Расказваецца ў ім пра тое, як токійскі дробны гандляр пальсьціўся на вялікія заработкі, якія паабяцаў яму агэнт нейкай фірмы, папаўся ў пастку самай пякельнай эксплёатацыі і ледзьве ўцёк адтуль. Апавяданьне напісана прыёмам дыялёгаў. Уцякач расказвае ў цягніку пра сваё няшчасьце нейкаму пану і той спакойна зазначае, што гэта няўхільная рэч. На падставе гэтага аўтар далей у гутарцы з уцекачом робіць вывад, пра які я ўжо казаў, Дрэнна толькі, што гэтае апавяданьне напісана неяк вяла і крыху нуднае.

Маленькія новэлі Хаясі напісаны жывей, але часамі яны занадта наіўныя і прымітыўныя. Усё-ж, шмат якія мініятуры „Кнігі з малюнкамі, у якой няма малюнкаў" напісаны вельмі добра і робяць уражаньне.

Пераклад зроблен добра. Вядома, часам сустракаюцца расеізмы, напр.: „жарабёнкам" і інш. Ёсьць адзін проста няпісьменны і недарэчны выраз: бамбукавая дуброва. Але наогул мова досыць прыгожая.

Нарэшце трэба сказаць, што паколькі гэта ў нас першыя японскія творы на беларускай мове, яны ня толькі адыграюць сваю ролю ў справе інтэрнацыянальнага выхаваньня мас, але таксама зьяўляюцца і некаторым укладам у нашу небагатую яшчэ перакладную літаратуру.

**А. Лясны.**

**М. Лынькоў. Андрэй Лятун.** *Зборнік апавяданяў. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск 1930 г. Тыраж 3000 экз. 200 стар. Цана 1 р. 10 к.*

У зборніку зьмешчаны дзевяць рэчаў, сярод іх чатыры невялічкія эскізы. Зборнік падагульвае першы этап літаратурнае працы аўтара да пераходу яго да буйнейшых жанраў (аповесьці „Апошні зьверыядавец" і „Трыкатаж"). Гэтыя апавяданьні напісаны на працягу 1927-29 г. і друкаваліся часткова ў пэрыодычных выданьнях.

Тэмай, якая пераважае ў творах Лынькова, зьяўляецца—лёс індывідуума (аднэй чалавечай асобы, або сям'і), яго трагічныя перажываньні. Мы маем у зборніку трагізм старасьці апавяданьне „Андрэй Лятун", да рэчы, здаецца, самае апошняе з апавяданьняў Лынькова і адно з лепшых (нядрэнны псыхолёгічны нарыс на бытавым фоне), трагізм адзінства і страты крэўных — „Манчжур", „Радо", сямейную ідылію, або „трагедыю" — „У вагоне", „Клярнэт" „Журавель, мой журавель" ...Наогул, неяк кідаецца ў вочы, што нават у самым шырокім па сфэры свайго ахапленьня апавяданьні „У мястэчку" Лынькоў ня выходзіць за межы аднае сям'і. Да гэтага трэба прыняць пад увагу настроі романтызму, якія павяваюць часамі ў зборніку (узяць хоць-бы сабе „Воўчы лог", „Радо"), далей тое, што галоўным пэрсонажам Лынькова зьяўляецца люмпэн-пролетары (асабліва выразна ён высоўваецца ў апавяданьні „Манчжур") і што ніводная зьява новага ладу жыцьця за выключэньнем піонэраў і свабоды разлукі (ап. „У мястэчку" і „Журавель, мой журавель") не паслужыла самастойнай тэмай для твораў Лынькова, каб прад намі выразна паўстаў у сваіх асноўных рысах яго і творы партрэт.

Лынькоў выступае ў гэтым зборніку, як прадстаўнік і пясьняр прамежнае соцыяльнае праслойкі (люм-

пэн-пролетарыяту), якая ў мінулым, ва ўмовах капіталістычнага ладу, заўсёды засуджана на зьнібеньне, заўсёды пазбаўлена магчымасьці граць якую-небудзь ролю ў жыцьці грамады.

Сваім зборнікам аўтар паставіў помнік на магілу вось гэтага мінулага. Соцыялёгічны эквівалент апавяданьняў даволі нізкі—прыблізна такі, як гаспадарчае значэньне помніка. Выключэньнем зьяўляецца толькі апавяданьне „У мястэчку“, у якім аўтар падыходзіць да паказу ўключэньня люмпэн-пролетарыяту ў сыстэму соцыялістычнага будаўніцтва. Тэма вельмі ўдзячная, але яна разгорнута недастаткова поўна. Апрача таго і ў гэтым апавяданьні, як я зазначыў ужо, індывідуальныя проблемы пануюць над соцыяльнымі, што ў вялікай меры зьніжае значнасьць гэтага твору. Наогул, трэба адзначыць, што гэтыя апавяданьні Лынькова пазбаўлены якой-небудзь соцыяльнай накіраванасьці і таму, на маю думку, апавяданьні гэтага зборніку вялікага значэньня для беларускай пролетарскай літаратуры ня маюць. Але я мушу зрабіць агаворку, што гэта датычыцца толькі апавяданьняў гэтага зборніку, а ня іншых твораў Лынькова (аповесьцяй), у якіх ён зрабіў ужо ў гэтым напрамку значны крок і разглядаць якія тут я ня маю на мэце.

**А. Лясны.**

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* **Мікола Хведаровіч**. Вышлі з друку зборнікі вершаў „Рытмы“ і „Баявыя песьні“. Ім-жа падрыхтаваны да друку зборнік „Тэмпы-Контрасты“.

* **Рыгор Мурашка** працуе над шэрагам апавяданьняў—„Закопаны пуп“ (выводзіцца тып падкулачніка), „Воўчая хвароба“ (тып загібшчыка) і „Прарок“ (кулак у гарадзкіх умовах).

* **Іл. Барашка** да X-ай гадавіны вызваленьня Беларусі ад белапалякаў выдае асобнай кніжкай папулярны нарыс „11 ліпеня“.

* **С. Хурсік** працуе над аповесьцю з колгаснага жыцьця.

* **С. Баранавых** выпусьціў кнігу апавяданьняў для школьнікаў пад назвай „Злосьць.“ Выходзіць з друку яго аповесьць „Чужая зямля“.

* **С. Ліхадзіеўскі** напісаў поэму „Простае слова“.

* **С. Шушкевіч** працуе над нізкай вершаў „Галілеі XX веку“.

* **Ю. Таўбін**. БДзВ прыняло да друку ў сэрыі „Мастацкае слова—масам“ яго дзьве кніжкі вершаў „Фабрычная вясна“ і „Тры поэмы“.

* **З. Астапенка** піша лірычную трылёгію „Героі поэмы“.

* **П. Глебка** піша поэму „Арлянка“.

* **С. Фамін** напісаў поэму „Беларусь ударная“.

* Вышаў з друку зборнік вершаў Т. Кляшторнага—„Ветразі“.

* У выданьні БАН вышла кніга вершаў Алеся Гаруна „Матчын дар“ пад рэдакцыяй акадэміка І. І. Замоціна.

* У яўрэйскім тэатры (Масква) адсьвяткован пяцігадовы юбілей Менскага яўрэйскага часопісу „Штэрн“. На ўрачыстым вечары тав. Ашаровіч сказаў, што гэты Маскоўскі вечар беларускай часопісі—пачатак змычкі між літаратурай Савецкай Беларусі і літаратурай РСФСР змычкі, якую замацуе прызначаны ў Маскве тыдзень беларускай літаратуры і мастацтва.

* У вялікай залі Комакадэміі 9-га чэрвеня г.г. адбыўся вечар, прысьвечаны 25-ці гадоваму юбілею літаратурнай творчасьці народнага поэта Беларусі Янкі Купалы.

Ва ўступным слове тав. А. В. Луначарскі ахарактарызаваў творчасьць Янкі Купалы.

— Імя Янкі Купалы,—сказаў тав. Луначарскі,—упісана ў гісторыю беларускай літаратуры такімі-ж буйнымі літарамі, як імя Тараса Шэўчэнка ў украінскай літаратуры.

З прывітаньнем ад Савету Нацыянальнасьцяй ЦВК СССР выступіў т. Дыменштэйн.

Прадстаўнік Галоўмастацтва тав. Эцінгоф падзяліўся сваімі ўспамінамі аб падпольнай рэволюцыйнай рабоце сярод беларускіх сялян, якія яшчэ ў тыя гады зналі і любілі свайго нацыянальнага поэта.

Затым выступілі з прывітаньнямі прадстаўнікі фэдэрацыі савецкіх пісьменьнікаў, сялянскіх пісьменьнікаў асоцыяцыі пролетпісьменьнікаў Закаўказьзя, Дзяржвыдавецтва і ВОКС. Ад групы украінскіх пісьменьнікаў юбіляра вітаў на украінскай мове т. Каляда.

Даклад аб 25-ці гадовай літаратурнай творчай дзейнасьці поэты зрабіў Паўлюк Шукайла.

Пасьля ўрачыстай часткі вечару лепшыя творы Янкі Купалы прачыталі расійскія поэты і сам аўтар.

* На Ўсебеларускай выстаўцы пабудован спэцыяльны павільён друку, дзе будзуць прадстаўлены экспонаты нашай пэрыодычнай прэсы і кніжнае справы. Зьмест экспонатаў павінен выяўляць адну стрыжнёвую ідэю—росквіт беларускай пролетарскай культуры і культуры нацменшасьцяй, рост пролетарскага друку ад часу Кастрычніка, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву ленінскай партыі.

* Беларускі аддзел выстаўкі друку пры Кам. Унів. Беларусі будзе перанесен на 1-ю Ўсебеларускую выстаўку сельскае гаспадаркі і прамысловасьці,

* Адначасова з 1 Усеб. выстаўкай с. г. і прамысловасьці ў Менску адчыняецца ўсебеларуская мастацкая выстаўка пад назвай: „10 год мастацтва БССР“. Выстаўка адлюструе найбольш выразныя моманты гісторыі мастацтва Савецкай Беларусі.

* НКА зацьвердзіў склад журы конкурсу на опэрнае лібрэта. У склад журы ўваходзяць 9 чалавек—прадстаўнікоў: галоўмастацтва, музтэхнікуму, ЦСПСБ, БАН і БелАПП'у.

* Галоўмастацтва ўзьняло пытаньне аб устанаўленьні пераходнага чырвонага сьцягу для тэатру, які найлепш абслужыць рабочага гледача.

* У гэтым годзе будзе організована першая ў Беларусі група артыстых эстрады, якая абслужыць рабочыя клюбы, колгасы і саўгасы.

* Гэтымі днямі скончыўся конкурс на лепшы масавы сьпеў. Конкурс быў абвешчан Галоўмастацтвам БССР. На конкурс паступіла 7 сьпеваў. Журы конкурсу пастанавіла прэміяваць трэцімі прэміямі сьпевы Ю. Лявоннага—„Зважай, комсамол“! і Я. Івашына—„Пяцігодка“. У хуткім часе сьпевы будуць пераложаны на музыку.

* 13 чэрвеня БДзТ-1 выехаў у Маскву для ўдзелу ва ўсесаюзнай тэатральнай алімпіядзе. Да гэтага тэатр працаваў у Магілеве.

* Усесаюзнай тэатральнай алімпіядзе прысьвечан № 32 маскоўскай газэты „Рабочий и искусство“, дзе даецца багаты матар'ял аб разьвіцьці тэатральнага мастацтва ўва ўсіх народаў СССР.

Становішча тэатральнай справы ў БССР у гэтай газэце асьвятляе артыкул Паўлюка Шукайлы.

Тут-жа зьмешчаны партрэт беларускага народнага артысты Ул. Галубка.

* Ленінградзкая фабрыка Белдзяржкіно прыступіла да пастаноўкі фільмы „Асабістае жыцьцё“ на тэму аб асабістых узаемаадносінах у комсамольскім асяродзьдзі. Рэжысэры А. Гаўронскі і О. Уліцкая, опэратар Шлюглейт.

* У канцы гэтага м-ца пастановачная група выяжджае ў Барысаў для здымкаў фабрыкі запалак. Фільма будзе скончана ў канцы жніўня. Сцэнары карціны зачытваўся на рабочым активе ф-кі „Чырвоная Бярэзіна“ і атрымаў добрыя водгукі рабочых.

* Ленінградзкая ф-ка Белдзяржкіно прыступіла да здымкаў мастацкай фільмы ў 6-ці частках пад назвай „Забыць нельга“. Асноўная тэма фільмы—як колектыў дапамагае дзяўчынцы змагацца з нездаровымі хатнімі абставінамі. Сцэнары быў ухвален консультацыяй цэнтральнага дому дзіцячага комуністычнага выхаваньня пры ЦК УсеЛКСМ, Галоўсацвыхам РСФСР і інш. Да работы прыцягнута піонэрская база заводу „Красный Треугольник“. Рэжысэр Ю. Вінакураў. У галоўных ролях—Тамара Адэльгейм і Павал Курзнэр.

* Распачалася пастаноўка поўнамэтражнай мастацкай карціны „Суд павінен працягвацца“ паводле сцэнарыя Паўлоўскага, на тэму аб барацьбе з буржуазнай мораллю ў адносінах да жанчыны, як члена колектыву. Рэжысэр—Дзыган, апэратар—Страж. Галоўную ролю выконвае артыстка Есіпава.

* БДзК прыступіла да падрыхтоўчай работы па здымцы двух новых культурфільмаў „Жанчына“—пад кіраўніцтвам рэжысэра Штэрцэра і „Наша зьмена“ пад кіраўніцтвам рэжысэра Карпава. Абодвы культурфільмы будуць скончаны ў гэтым годзе.

* Беларуская Акадэмія Навук у бліжэйшы час накіроўвае ў Сібір навуковую экспэдыцыю для азнаямленьня з жыцьцём і бытам беларусаў-перасяленцаў.

* У Менску організавалася таварыства пэдагогаў-марксыстых. Выбран часовы прэзыдыум таварыства ў складзе т. т. Панкевіча, Дардака і Яворскага.

* „У кутку катаргі і ссылкі“ (Дом Ком. асьветы) організован музэй „Народнай волі“, прысьвечаны 50-ці годзьдзю гэтай рэволюцыйнай організацыі. Музэй адкрыт для экскурсантаў.

* У хуткім часе з Менску выедзе навуковая экспэдыцыя на чале з праф. Ролам для гідра-біолёгічных досьледаў вазёр Беларусі і рэк Бярэзіны і Дняпра.

* Савецкая Беларусь абагацілася новай каштоўнай навукова-лекавай установай—Фізіятэрапэўтычным інстытутам.

Фізіятэрапэўтычны інстытут вырас з невялікай клінікі па нэрвовых хваробах, якая 6 год назад адкрылася ў Менску на Сьвярдлоўскай вуліцы. Клініка за параўнальна кароткі тэрмін сваімі работамі стала вядома далёка за межамі БССР і нават СССР. Работы клінікі абгаворваліся на Ўсесаюзных зьездах і міжнародных навуковых конгрэсах.

Новы інстытут—своеасаблівы лекава-профіляктычны комбінат. Ён здольны прапускаць каля 2000 чал. у дзень.

* Беларускі Дзяржаўны Оданталёгічны інстытут атрымаў запрашэньне прыняць удзел у работах VIII міжнароднага оданталёгічнага конгрэсу, які адкрыецца ў Парыжы ў 1931 годзе. Інстытут зробіць на конгрэсе шэраг дакладаў.

* Улетку на тэрыторыі Магілеўшчыны будуць працаваць тры навуковыя экспэдыцыі БАН—глебазнаўчая этнографічная і гістарычна-мастацкая. У часе археолёгічных раскопак у Вэйна знойдзен касьцяк першабытнага чалавека, які ляжаў на глыбіні каля двух мэтраў; каля касьцяка знойдзен крамнёвы нож.

# УКРАЇНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Драматычны пісьменьнік Ів. Мікітэнка скончыў п'есу „Кадры“ з студэнцкага жыцьця.

Гэта п'еса прызначана для пастаноўкі ў вялікіх тэатрах „Кадры“ узяў для пастаноўкі Маскоўскі Мастацкі Тэатр.

Мяркуецца пастаноўка ў пачатку зімовага сэзону.

* У Адэсе ў красавіку г. г. вышаў першы нумар літаратурна-мастацкага і грамадзка - політычнага часопісу-штомесячніку „Мэталеві дні“. Часопіс рэдагуе: Майстрэнка, Ів. Міколюк, В. Пероцкі, Б. Педа і П. Самуцін.

* У канцы мая месяца ў Харкаве адбыўся першы Пленум ВУСПП'у.

Пленум прайшоў пад знакам падвядзеньня вынікаў у прароблена͡й пролетарскімі пісьменьнікамі Украіны працы, у падкрэсьліваньні шляхоў, якія забясьпечваюць далейшае разьвіцьцё украінскай рэволюцыйнай літаратуры.

На пленуме адзначалася, што ВУСПП дасягнуў значных посьпехаў і адыграў вялікую ролю ў справе консолідацыі пролетарскіх пісьменьнікаў на Украіне. У ВУСПП уступіла „Нова Гэнэрацыя“, шэраг працаўнікоў у галіне крытыкі з Інстытуту Марксызму і Інстытуту імя Шэўчанкі.

Масавая праца ВУСПП'у дала добрую спадчыну. Сябры ВУСПП'у выяжджалі групамі на вытворчасьць, рабілі даклады на літаратурныя і мастацкія тэмы, літаратурныя суды, організоўвалі разам з чытачамі прагляд і ацэнку новых літаратурных твораў.

Яшчэ ў мінулым годзе ВУСПП актыўна выступаў на фронце стварэньня Украінскага рэволюцыйнага рэпэртуару і ўжо даў некалькі п'есаў (Дыктатура, Комсамольцы, „Каменны Астраў“).

Пленум надаў значную ўвагу пытаньням організацыйнага афармленьня сіл Украінскай рэволюцыйнай літаратуры.

* У працягу апошняга часу адэская філія ВУСПП, побач з масавай працай наладзіла па рабочых клюбах шэраг вечароў-выступленьняў.

Нядаўна ўсіх сяброў і студэнтаў ВУСПП прымацавалі да вытворчасьці для культпрацы, сталай сувязі з працоўнымі масамі.

Прымацованыя да найвялікшых прадпрыемстваў (плугавыя ім. Кастрычнікавай рэволюцыі, Завод А. Марці, Джутавы завод, з-д Леніна і г. д.).

* 12 мая скончыўся зьезд пролетарска-сялянскіх пісьменьнікаў „Плуг“.

Зьезд адбываўся 6 дзён, прарабіўшы вялікую дзелавую работу ў справе самакрытыкі свае творчасьці і вызначэньня сваіх творчых мэтодаў, жанраў і стылю ў сувязі з рэконструкцыйнымі процэсамі ў горадзе і вёсцы.

Зьезд падняў пытаньне аб організацыі Ўсесаюзнага аб'яднаньня пролетарска-сялянскіх пісьменьнікаў.

У Цэнтр. бюро „Плуга“ абраны т. т.—Піліпэнко, Панів, Головко, Штангей, Божко, Гжыцкі, Саўчэнко, Грудына, Фітнер, Бойко, Батрак (ВОКП), Романівскі.

* Група пісьменьнікаў у складзе т. т. Вухналя, Галаваніўскага, Епіка, Майскага, Маловічка, і Палтарацкага вярнулася з паездкі па Днепрапя-

гроўшчыне, дзе зрабіла цэлы шэраг літаратурных выступленьняў перад рабочай і студэнцкай аўдыторыяй. Абслужана да 15.000 чалавек.

* У выданьні Кнігаспілкі выходзіць вялікі альманах групы пісьменьнікаў, членаў ВУСПП пад назвай „Індустрыя“. У часопісі бяруць удзел т. т. Гаско, Галаваніўскі, Кузьміч, Маловічко, Майскі, Скуба.

* Вышаў з друку другі нумар часопісі „Пролітфронт“.

* У выданьні „Гарт“ вышлі такія кніжкі: В. Кузьміч—„Повидло“ (комс. апавяданьні), Л. Первомайські—„Романтична зустріч“, М. Майські—„Новэлі“ і К. Гордзіенко—„Мудріголови“.

* У Кіеве адбыўся першы сход нядаўна організованай яўрэскай сэкцыі „Молодняка“. У сэкцыю прынят шэраг таварышоў: Балясна, Штурман, Табачнікаў, Чарняўскі і інш. Усяго 8 чалавек.

* Памёр член ВУСПП‘у тав. Май-Дніпровіч. Пакойнік сын бедных бацькоў, яшчэ юнаком зарабляў сабе на хлеб. Як пролетарскі пісьменьнік т. Май-Дніпровіч вызначыўся ў 1924 г., калі выехаў у Донбас да работнікаў.

* Адбыўся І зьезд організацыі комсамольскіх пісьменьнікаў „Молодняк“, якая ўжо існуе тры гады.

У аснове ўсіх дакладаў зьезду было шуканьне стылю пролетарскай літаратуры, над чым і разгортваліся шырокія дыскусіі.

Прадстаўнікі „ВУСПП‘у“ і „Новой Генерації“ высоўвалі ідэю пролетарскага рэалізму, прадстаўнікі-ж „Пролетфронту“ абаранялі ідэю актыўнага романтызму.

Сакратарыят выбран у складзе т. т. П. Усэнка, І. Ісаева, Б. Коваленка.

* У Харкаве адбыўся І зьезд суполкі рэволюцыйных пісьменьнікаў „Західна Україна“, што жывуць на савецкай тэрыторыі. Ухвалена перанесьці цэнтр організацыі з Кіева ў Харкаў і выдаваць штомесячны часопіс „Західна Україна“.

* „Молодняк“, „ВУСПП“, „Плуг“, „Нова-Генерація“ пастанавілі выслаць шэраг пісьменьнікаў на вёску для вывучэньня процэсу колектывізацыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва, як клясы.

* У в—ве „Вікна“ вышла кніга апавяданьняў Міколы Калінчука „Ставок та млинок“.

* Пісьменьнік Яўген Кротовіч скончыў і здаў да друку ДВУ вялікі роман на 20 арк. „Звільнення жінки“.

Тэма роману: як атрымаць біолёгічны закон да працягу роду з выхаваньнем новага чалавека.

* „Кнігоспілка“ пачынае выдаваць выбраныя творы Ўл. Маякоўскага ў украінскім перакладзе. Выданьне складаецца з трох томаў.

Рэдагуе выданьні Міхайло Семенко.

У перакладзе твораў Маякоўскага бяруць удзел поэты: М. Семенко, Гео Шкурцкій, О. Влыцько, М. Бяжан, С. Галаваніўскі, М. Гаско, Мельнік, Зімні, Першамайскі, Шчэрбіна, Скуба, і шмат іншых. Першы том—друкуецца.

* 18 красавіка г. г. армянская колёнія г. Харкава адзначыла 50-годнік літаратурна-грамадзкай дзейнасьці армянскага пісьменьніка і драматурга А. Шырванзадэ. Ён нарадзіўся ў 1838 г. у Шэмілі ў сям‘і саматужніка.

Ворагі не далі яму магчымасьці атрымаць вышэйшую адукацыю. Ён быў прымушаны зарабляць сабе на пражыцьцё; працаваў на партавых промыслах і ў іншых установах. Супрацоўнічае ў шмат якіх часопісах і газэтах, паступова пераходзячы да літаратурнай дзейнасьці. У сваіх вядомых творах „Намус“, „Нячыстая Сіла“ і інш. ён адбівае жыцьцё асяродзьдзя дробных рамесьнікаў і мяшчан. У Баку ён напісаў добры роман „Хаос“, дзе мастацкі падаў портрэты капіталістычных эксплёататараў у час іх нараджэньня.

* Харкаўскі АВК і Гарадзкі Савет абвясьцілі конкурс на проект помніка Т. Шэўчэнку. Тэрмін падачы про-

ектаў вызначаны да 15 кастрычніка 1930 году.

* У чэрвені скончылася 35 год мастацкай і літаратурнай дзейнасьці проф. Міхася Жука.

Міхась Іванаў Жук радзіўся ў беднай сям'і рабочага-маляра мястэчка Кахівка (Таўрыда) у 1883 г. Асьвету атрымаў у Кіеўскай школе М. Мурашка.

Першую выстаўку сваіх работ ён зрабіў у Кіеве ў 1904 г. і з таго часу набывае сабе славутнасьць і надалей робіць выстаўку па ўсіх гарадох Украіны і за кардонам: Кракаў, Львоў, Бэрлін і інш.

Галоўная тэма—портрэт.

Усе яго портрэты ўзяты востра, прадумана, бяз тых дэталяй, якія дае фотографічны об'ектыў.

У асобе М. Жука мы маем і актыўнага грамадзкага працаўніка.

На Усесаюзным зьезьдзе ў Маскве працаўнікоў вобраза-творчага мастацтва, ён быў абраны ад Украіны ў У. Б. пры ЦК Саюзу работнікаў Мастацтва.

За культшэфпрацу ў Чырвонай арміі М. Жук абраны ганаровым чырвонаармейцам. Цяпер Міх. Жук—профэсар Адэскага Мастацкага Інстытуту і загадвае поліграфічным аддзелам.

* У чэрвені месяцы Запарожжа і Днепрабуд наведала рабочая дэлегацыя Заходняй Украіны. Дэлегацыя азнаёмілася з Днепрабудам, а таксама з прамысловасьцю Украіны.

* Адэскі композытар О. Чышко працуе над опэрай „Яблуневий палан“. Лібрэто опэры зацьвердзіў Мастацка-політычны Савет Адэскай Дзяржаўнай Опэры.

* Малады Адэскі композытар Фоменко па заказу Адэскай опэры напісаў балет „Кім і бяспрытульныя“.

* Аўтар опэры „Разлом“ композытар Фіміліадзі працуе над балетам „Карманьола“.

* Увосень г. г. у Ленінградзе ў памяшканьні тэатру (Пасаж) пачынае сваю працу Дзяржаўны Украінскі тэатр „Жовтень“.

Стварэньне украінскага тэатру ў Ленінградзе мае вялікае значэньне для разьвіцьця украінскай савецкай культуры ў РСФСР.

Тэатр „Жовтень“ будзе адначасна з паказаньнем дасягненьняў украінскага тэатру левага сэктару весьці змаганьне з „малоросійшчынай“, антогонізмам, як праявамі дробна-буржуазнага ўплыву на тэатр. Вялікую ўвагу тэатр надае барацьбе за ліквідацыю няведаньня жыцьця Украіны сярод працоўных Ленінграду. Украінскі тэатр будзе пабудаваны на аснове конструкцыйнага рэалізму, як лепшай форме ўплыву на шырокую працоўную аўдыторыю. Да ўдзелу ў працы тэатру „Жовтень“ будуць запрошаны выдатныя сілы Украінскага тэатру. Памяшканьнем тэатр забясьпечаны. Зараз вядзецца організацыйна-плянавая р а б о т а, пасьля сканчэньня якой будуць складзены працоўныя ўмовы з артыстамі. Падрыхтоўчую працу мяркуецца пачаць у жніўні месяцы, а адчыненьне ў першых чыслах кастрычніка.

* У гэтым годзе прадбачыцца організацыя ў Харкаве ў памяшканьні клюбу „Харчосмак“ Тэатру Рэволюцыі.

* Галоўмастацтва мяркуе організаваць у Кіеве вялікі польскі тэатр усесаюзнага значэньня.

* Тэатральны музэй ВУАН разам з музэем Бахрушына (Масква) паставілі перад Укрнавукаю пытаньне аб скліканьні гэтым летам у Кіеве конфэрэнцыі тэатральных музэяў СССР.

* Композытар П. Таўсьцякоў працуе над опэрай з сучаснага савецкага жыцьця. Лібрэто напісаў Варава. Дзея опэры адбываецца на адным з заводаў Украіны і часткова на афганістанскай мяжы. Герой опэры—новая савецкая жонка.

* Другая ўсеукраінская мастацкая выстаўка НКА, што аб'ехала ўсе вялікія прамысловыя цэнтры Украіны,

зачынілася ў Харкаве. Управа мастацтва НКА УССР, арганізавала III-ю выстаўку. На выстаўку пададзены новыя экспонаты мастакоў Украіны.

* Украінскае т-ва драматургаў і композытараў узяло шэфства над крэйсэрам „Червона Украіна". Падшэфнікам пасланы творы пролетарскіх композытараў і політасьветная літаратура. Праўленьне т-ва арганізавала дзьве брыгады драматургаў выканаўцаў музычных твораў і аўтараў-дэкляматараў.

* На апошнім пасяджэньні праўленьня т-ва укр. драматургаў і композытараў выключаны з складу т-ва ўдзельнікі „СВУ". Сярод выключаных—Л. Старицька-Чэрняківська.

* Пры драматычнай сэкцыі УТОДІК пачало працу рэжысэрска-консультацыйнае бюро. На чале яго стаіць рэжысэр „Вясёлага пролетарыя" Я. Д. Бортнік, і рэжысэр тэатру „Молодар" С. К. Бандарчук. Да ўдзелу ў працы бюро запрошаны лепшыя сілы тэатральнай рэжысуры Харкава. Рэжысэрска-консультацыйнае бюро мае быць тым фільтрам, які адбірае лепшы рэпэртуарны матэрыял, што праходзіць праз УТОДІК. Бюро ідзе на сустрач драматургам, членам УТОДІК і заслухоўвае іх п'есы і дае парады.

* 2-га чэрвеня ў Кіеве пасьля цяжкай хваробы памёр вядомы эўропэйскі вучоны, член ВУЦВК, акадэмік ВУАН Павал Апалонавіч Туткоўскі.

Вялікую заслугу П. А. мае сваімі геолёгічнымі досьледамі на Кіеўшчыне, Валыні, Палтаўшчыне, Таўрыі, Херсоншчыне, Днепрапятроўшчыне, Беларусі, дзе на вялікіх прасторах, акрамя агульных геолёгічных высноў, выявіў нямала крыніц карысных выкапняў.

* 7-га чэрвеня г. г. у Кіеве распачаўся II зьезд Украінскай Асоцыяцыі фізыкаў. На парадку дня зьезду стаялі важныя навуковыя даклады па асобных пытаньнях фізыкі. Акрамя таго, на плянарных пасяджэньнях зьезду шырока абгаварваліся пытаньні пра формы організацыі навуковай работы, якія-б забясьпечылі найшырэйшы ўдзел навуковых працаўнікоў фізыкаў у індустрыялізацыі краіны.

## КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

* 26-29 мая г.г. адбываўся пашыраны пленум сакратарыяту ВОАПП. У яго работах прынялі ўдзел дэлегацыі РАПП і асоцыяцый пралетпісьменьнікаў Украіны, Беларусі, Закаўказьзя, прадстаўнікі „Кузьніцы“ і дэлегацыя саюзу пралетпісьменьнікаў Нямеччыны ў складзе рэдактара часопісі „Лінкскурье“, тав. О. Біха і другога сакратара саюзу т. Віллі Гарцгэйма, які вітаў пленум ад імя міжнароднага бюро пролетарскай літаратуры.

Пленум заслухаў даклад дэлегацыі РАПП (дакладчык т. Селіваноўскі) і палітычную справаздачу сакратарыяту ВОАПП (дакладчык тав. Сутырын). Па абодвых дакладах разгарнуліся шырокія спрэчкі, якія концэнтраваліся, галоўным чынам, вакол пытаньняў апошняй дыскусіі ў РАПП аб творчым мэтодзе пролетарскай літаратуры.

Пленум ухваліў літаратурна - палітычную лінію РАПП, вынес папярэджаньне „блёку“ Беспалава-Гарбачова-Бязыменскага аб небясьпецы ператварыцца ў групу, якая будзе супроцьстаяць літаратурна-палітычнай лініі ВОАПП.

Апрача гэта пленум у сваёй пастанове запісаў аб пашырэньні творчай дыскусыі да нізавых мас організацыі аб неабходнасьці барацьбы як з правай небясьпекай, так і з „левымі“ настроямі, якія за апошні час узмацніліся ў організацыі.

* Часовая дэлегацыя ВОАПП у Міжнароднае бюро пролетлітаратуры выбрана ў наступным складзе: Бэла Ілеш, Серафімовіч, Авербах, Панфераў, Сутырын, Селіваноўскі, Бязыменскі, Тарасаў-Радзіоноў, Мікітэнко, Кірыленко, Усэнко, Ковалэнко, Кулік, Буачыдзе, Эулі, Алазан, Назарлі, Сянкевіч, Галавач, Гладкоў.

Кандыдатамі ў Міжнароднае бюро пролетлітаратуры выбраны т. т.: Гумер-Галіеў, Ісбах, Аршанскі, Гэйнц, Каган, Цярэшчанка, Кузьміч, Ліманоўскі, Дабагян, Неваровіч, Бахмецьеў.

* Адбылася III-я абласная конфэрэнцыя ЛАПП. На конфэрэнцыі шырока абгаворваліся пытаньні творчага мэтоду. Конфэрэнцыя паказала монолітнасьць організацыі ў прынцыповых пытаньнях пролет. літаратуры.

* 30 мая адчынілася першая маскоўская абласная конфэрэнцыя ўсерасійскага таварыства сялянскіх пісьменьнікаў. Канфэрэнцыя заслухала даклад т. І. Батрака аб задачах сялянскай мастацкай літаратуры ў рэконструкцыйны пэрыод.

Усеукраінскаму аб'яднаньню сялянскіх пісьменьнікаў „Плуг“ конфэрэнцыя паслала прывітаньне, у якім конфэрэнцыя падтрымлівае пажаданьні зьезду пісьменьнікаў „Плуг“ аб стварэньні Ўсесаюзнага аб'яднаньня сялянскіх пісьменьнікаў, якое зможа стала кіраваць работай сялянскіх пісьменьнікаў усяго СССР.

Калуская дэлегацыя прывезла з сабой на канфэрэнцыю сэрыю насьценных газэт, якія ілюструюць літаратурную работу калужан, у прыватнасьці, іх работу ў літаратурнай старонцы Калускай акруговай газэты „Коммуна“.

* Дзяржвыдавецтва ў сэрыі „Дешевой библиотеки“ вызначыла выданьне „книги избранных стихов“ Ул. Маякоўскага ў разьмеры 10 друка-

ваных аркушаў, з портрэтам аўтара і малюнкамі. Таксама будуць выдадзены: аднатомнік лепшых твораў Маякоўскага і найболей популярныя рэволюцыйныя творы Маякоўскага ў 1-2 друкав. аркушы. Затым будзе выпушчана кніга пра Маякоўскага—рэволюцыянэра і паэта, на аснове экспонатаў выстаўкі Маякоўскага „За 20 лет".

* У Пушкінскім Доме пры Акадэміі Навук (Ленінград) адчынілася выстаўка сучаснай літаратуры, якая выяўляе з сябе першы крок да організацыі сталага аддзелу Пушкінскага Дому, прысьвечанага сучасным літатурным плыням.

* У масавай крытычнай бібліотэцы часопісі „На лит. посту" выпускаецца кніга пра творчасьць Маякоўскага.

* Сакратарыят РАПП выдзяліў другі сьпіс таварышоў для паездкі ў колгасы і на прадпрыемствы. У колгасы едуць: Швяцоў, Аляксееў, Галодны, Караваева, Уткін і інш. На прадпрыемствы: Качын, Шолахаў, Шведаў.

* У в-ве „Московский Рабочий" выходзіць кніга другая „Бруски"—Ф. Панферава.

* Выходзіць кніга Бруно Ясенскага „Галицийская жакерия" (поэма).

* Выходзіць зборнік артыкулаў А. Селівуноўскага.

* Выходзіць кніга Гатава і Пілінэнка — „Современная литературная Украина".

* Сэктар пролетлітаратуры прыступіў да выданьня зборніка выбраных твораў Маякоўскага, якія паказваюць шлях набліжэньня Маякоўскага да пролетлітаратуры.

* Бэрлінскі тэатр маладых актораў, з посьпехам выступаўшы ў Маскве і Ленінградзе, скончыў свае гастролі і выехаў у Аўстрыю. У першай палове чэрвеня бэрлінская трупа зноў прыедзе ў СССР. Усесаюзнае т-ва культурнай сувязі з замежжам організуе яе гастролі ў буйнейшых цэнтрах УССР. Гастролі пачнуцца 13 чэрвеня ў Харкаве.

* Дэлегатамі на міжнародны тэатральны конгрэс, які зьбіраецца ў Гамбургу, з 12 па 20 чэрвеня, Галоўмастацтва апрача Мэйерхольда і Таірава, якія знаходзяцца заграніцай, камандыравала дырэктара Малога Тэатру—В. К. Уладзімерава і дырэктара Камэрнага Тэатру—Р. В. Пікеля.

* Мастацка-політычны Савет МХТII уключыў у рэпэртуар надыходзячага сэзону новую п'есу С. Д. Мсьціслаўскага „Буревестники". Тэма п'есы: 1905 год. Пастаноўка яе даручана Б. М. Сушкевічу.

* Дзяржаўны тэатр-студыя пад кіраўніцтвам Ю. А. Заводзкага закончыў пастаноўку п'есы Марка Коласава і Валерыі Герасімавай, „Проба". Прэм'ера 8 чэрвеня.

* Мастацка-політычны Савет Першага маскоўскага рабочага тэатру пролеткульту ўключыў у рэпэртуар надыходзячага сэзону п'есу Тура „Нефть".

* Семперантэ пачынае свае спэктаклі ў тэатры Парку Культуры і Супачынку 7 ліпеня. Для адкрыцьця лепшых спэктакляў будзе паказана новая пастаноўка на інтэрнацыянальную тэму. У чэрвені і ў жніўні тэатр гастролюе ў Харкаве, Кіеве, Палтаве, Нікалаеве і ў Донбасе.

* Экспэрымэнтальная тэатральная майстэрня РТО, організаваная з студэнтаў-выпускнікоў студыі імя Ярмоловай, ператворана ў тэатр-студыю імя А. В. Луначарскага. Склад трупы папоўнен рабочымі-драмгурткоўцамі. Трупа перайшла на становішча бытавой комуны. Дырэктарам назначан І. Туркельтауб, мастацкім кіраўніком—М. А. Церашковіч. У канцы чэрвеня тэатр пакажа пастаноўку п'есы Лапшына „Солнечный цех". Спэктакль ставіць В. Уласаў.

* Усесаюзным т-вам культурнай сувязі з замежжам атрымана паведамленьне пра вялізарны посьпех, з якім прайшоў у Варшаве концэрт савецкіх літаратараў—М. Пульвер і А. Габрыэлян, камандыраваных у

парадку музыкальнага памену між СССР і Польшчай.

Публіка многа адплёдавала і патрабавала паўтарэньня нумароў.

„Кур'ер Варшаўскі" і „Газэта Польска" зьмясьцілі дадатныя водклікі сваіх музычных крытыкаў.

27 мая адбыўся другі концэрт савецкіх лаўрэтаў, які прайшоў з такім-жа посьпехам.

* 10 чэрвеня адчынілася першая ўсерасійская конфэрэнцыя работнікаў малых форм, скліканая Галоўмастацтвам.

Конфэрэнцыя заслухае наступныя даклады: аб шляхох і задачах мастацтва малых форм; аб вытворчым пляне Галоўмастацтва ў галіне эстрады; з садакладамі: кіраўніцтва дзярж. цыркамі, Софіла, Усекороскомдрама, Цэнтрапасрэдрабіса, Галоўпрафасьветы і Галоўрэпэрткому; даклад ЦК рабіс, даклады культаддзелу ВЦСПС; Цэнтральнага Дому самадзейнага мастацтва ў горадзе і вёсцы—па пытаньнях самадзейнай эстрады; даклады і садаклады з месц аб становішчы і задачах эстрады нацменшасьцяй; даклады аб становішчы і пэрспэктывах выдавецтваў у галіне літаратуры малых форм; даклад цэнтр. бюро сэкцыі работнікаў друку на тэму „Прэса і эстрада".

* У ліпені ў Крым прыяжджае група дэлегатаў скліканага ў СССР сусьветнага конгрэсу глебазнаўцаў. Наркомземляробства ў сувязі з гэтым спэцыяльна організоўвае выстаўку крымскіх глеб. НКЗ узяў на сябе абавязак спатканьня дэлегатаў.

* Ціхаакіянскі камітэт Акадэміі Навук у бліжэйшы час мяркуе організаваць навуковую экспэдыцыю на Камчатку.

Плян працы прадугледжвае вывучэньне Камчацкага паўвострава і паўночных раёнаў Андыйскага, Пенжынскага, Карагінскага і Чукоўскага.

На працягу 5-ці год на экспэдыцыю прадугледжана 2.800.000 руб.

Праца гэтай экспэдыцыі мае вялікае значэньне і ў гаспадарчых адносінах.

* У Уладзівастоку першы раз організована дзіцячая опэра з 30 асоб, кожнай асобе—артысту ад 8 да 15 год.

Ідэя стварэньня опэры належыць музычнай школе. Першыя пастаноўкі дзіцячай опэры адбыліся ў лютым па клюбах гораду.

* Маскоўскі тэатр Юнага Гледача (МТЮЗ) канчае пастаноўку п'есы Заяіцкага і Уладзімірава „Гляди в оба". Рэжысэр—Красьнянскі, мастак—Распопаў. З 10 чэрвеня тэатр прыступае да абслугоўваньня дзіцячых пляцовак і піонэрскіх лягераў.

* ГОТОБ рыхтуе да XVI партзьезду спэцыяльную інтэрмэдыю. Для распрацоўкі тэмы інтэрмэдыі вылучана спэцыяльная камісія з прадстаўнікоў Галоўмастацтва, Галоўрэпэрткому і ГОТОБ.

* Лібрэто да опэры „1905 год", заказанае раней опэрнай студыяй імя Станіслаўскага поэту Н. Асееву, перададзена С. Д. Мсьціслаўскаму—актыўнаму ўдзельніку рэволюцыі 1905 г. Для опэры ўзят эпізод—паўстаньні ў Растове-на-Дану. У сярэдзіне чэрвеня лібрэто будзе скончана. Композытары А. Давідэнка і В. Шэхтэр прыступілі да работы над першым актам.

* Закончана работа па пасылцы маскоўскіх мастакоў у колгасныя і індустрыяльныя раёны. Камандыраваныя мастакі разьмеркованы між АХР'ам, Дзяржвыдавецтвам, Цэнтрасаюзам, Сельхозгізам і Корпорацыяй мастакоў. Усяго пасылаецца больш ста чалавек. На пасылку мастакоў выдзелена 10.000 рублёў.

* У Маскве распачалася пабудова „Дому Кнігі". Будынак будзе мець 17 паверхаў і зьмесьціць усе выдавецтвы РСФСР. У будынку будзе працаваць 4.000 чалавек. „Дом Кнігі" будзе закончан у кастрычніку 1932 году—да 15 гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі.

## ЗАМЕЖНАЯ ХРОНІКА

### Нямеччына

* Маладыя нямецкія аўтары—Эрых Эбэрмаер, Клаус Ман і Ганц Розэнкранц узяліся за выданьне прозы наймалодшых прозаікаў Нямеччыны, да якіх належаць і самі. Цікава адзначыць, што складаючы антолёгію яны не зьмясьцілі ніводнага свайго твору, а абмежаваліся толькі як адпаведныя крытыкі. З матэрыялу ад 400 аўтараў яны для антолёгіі выбралі толькі 13 аўтараў, адзначаючы, што гэтыя 13 імён зьяўляюцца вястунамі заўтрашняй літаратуры Нямеччыны.

* Пролетарскі пісьменьнік Т. Пліўе, у мінулым матрос, што ня так даўно выпусьціў у сьвет вялікі свой роман „Кулі кайзера“, выдаў зборнік новэль з жыцьця маракоў, пад назвай „12 матросаў і капітан“.

* „На Заходнім фронце бяз зьмен“.—Якісьці нямецкі пісьменьнік, што хаваецца пад псэўдонімам Якіль-Марыўс-Рэкарк, пародзіруючы вядомы роман Эрыха-Марыя-Рэмарка, напісаў роман „Пад Трояю бяз зьмен“, роман карыкатурна адбівае падзеі траянскай вайны.

* Нядаўна ў Лейпцыгу заснавалася міжнароднае таварыства для студыі пісьма і кнігі, у Таварыства прадстаўлены Паўночна - Амэрыканскія Злучаныя Штаты, Чэха-Славаччына, Данія, Італія, Юга-Славія, Нямеччына, Голяндыя, Аўстрыя і Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. На чале таварыства абраны проф. Шрама.

* *Новая кніга Стэфана Цвэйга* носіць назву „Ioseph Fouche“ і падзагаловак яе—„Постаць палітычнага дзеяча“,

* Вядомы пісьменьнік Юзэф Рот, аўтар рэволюцыйных романаў „Отэль Савой“ і „Бунт“ выдаў новы роман „Справа і зьлева“, што выкрывае сьветапогляд сучаснай нямецкай інтэлігенцыі.

### Амэрыка

* Вышаў 1 і 2 том амэрыканскай біографічнай энцыклёпэдыі пад рэдакцыяй Аміена Джонстона, проф. унівэрсытэту ў Галле. Энцыклёпэдыя мае 20 томаў.

* Амэрыканская вядомая літаратурная часопісь „Horpers“ склала новы конкурс: які дае 2500 доляраў за найлепшы пераклад на ангельскую мову нямецкай аповесьці або жыцьцяпісу.

Гэтая часопісь перад гэтым прызначыла дзьве прэміі ў 10.000 дол. за найлепшую амэрыканскую аповесьць і 5.000 дол. за найлепшую ангельскую аповесьць.

* Вялічэзнаю падзеяю ў амэрыканскай літаратуры за апошнія месяцы адзначаюць роман Эрнэста Кімінгвея „Далоў зброю“.

### Балгарыя

* Нядаўна ў Софіі пачала выходзіць новая літаратурная газэта „РЛФ“ (Рабочы літаратурны фронт). Першы нумар газэты конфіскаваны, радактар прыцягнут да судовай адказнасьці на падставе фашыстоўскага закону аб ахове дзяржавы.

У сваём закліку да супрацоўнікаў „РЛФ“ рэдакцыя заяўляе, што газэта зьяўляецца дзіцянём эпохі ўздыму рабочае клясы Балгарыі і будзе прыкладаць усе стараньні, каб газэта стала правадыром у культур-

ным руху рабочае клясы, што ня будзе друкаваць твораў тых аўтараў, якія будуць супрацоўнічаць у буржуазных выданьнях.

У спэцыяльнай старонцы пра культурнае будаўніцтва ў СССР газэта паведамляе пра адчыненьне радыёстанцыі ВЦСПС.

**Гішпанія**

* З новых кніг, што вышлі ў сьвет апошнімі месяцамі заслугоўваюць увагу новыя творы пісьменьнікаў Ізыдара Асэвэда, Діас Фэрнандэса, Хоакіма Ардэрыўса.

* Ізыдэр Асэвэда—вядомы рэволюцыйны пісьменьнік, што заўжды вядзе барацьбу за рабочую справу, выпусьціў новую кнігу („Краты“)—роман жыцьця капалень. Да рэчы, аўтар доўга жыў у капальнях Аўстрыі, быў кіраўніком капальнікаў, дапамагаючы іхняму клясаваму выхаваньню з трыбуны, або праз часопісі. Цудоўны твор пролетарскай літаратуры, з пэрсонажамі, глыбокалюдзкімі, якія жывуць і працуюць, з рэальнымі фактамі.

* Діас Фэрдэнандэс аўтар El Ыocav, што вышла два гады таму назад, пісьменьнік поўны сілы з добрым стылем, выдаў вялікі роман „Za Venus Mecanica“. Гэты роман з мадрыцкага жыцьця, Мадрыду, падлеглага дыктатуры.

Роман *Діаса Фэрдэнандэса* пачынаецца ў Мадрыцкай турме і канчаецца ў Лісабоне, у ссылцы.

* Хоакім Ардэрыус, малады аўтар 9 кніжок, што далі імя бліскучага пісьменьніка, поўнага сілы, сарказму на жыцьцё, даў зараз новы роман „Lus'o el Evangeleo“. Гэты найлепшы твор аўтара, наймацнейшы і найбольш характэрны з усіх яго твораў. У Ардэрыуса свой асабісты стыль, орыгінальны, цьвярозы, саркастычны.

* Дон Кіхот гэбрэйскаю моваю. Нядаўна выдан славутны твор Сэрвантэса „Дон Кіхот“ гэбрэйскаю моваю. Мэта гэтага твору пашырыць гішпанскую мову між нашчадкамі гішпанскіх яўрэяў, якія яшчэ ня ведаюць латынскае мовы. Гэты твор рассылаюць усім, хто хоча яго чытаць—дармова.

* З таварыствы гішпанска-амэрыканскіх народных бібліятэк утварылі новае таварыства „Найлепшая штомесячная кніжка“. На чале таварыства стаіць бюро, што складаецца з выдатнейшых гішпанскіх пісьменьнікаў. Бюро мае заданьне выбіраць штомесяц найлепшую з нова-выданых кніжак і рассылаць іх сваім членам з 40 проц. скідкаю.

**Італія**

У Флорэнцыі выйдзе поўны зборнік твораў Галілея ў 20 томах; першыя 8—навуковыя працы і полеміка, а рэшта 12—літаратурныя творы.

* З новых часопісяй, што пачалі выходзіць варта адзначыць такія: „Convivintu“ літаратурна-крытычная часопісь пры супрацоўніцтве Стэфаніі Рагаціні і Бекара, пад рэдакцыяй Карла Кальватэра. Выходзіць у Рыме.

* Сярод новых выданьняў выдавецтва братоў Трэрэс зьвяртаюць на сябе ўвагу такія кніжкі: Лірычная драма Сэм Бэнэлі, „Орфей і Прозэрпіна“. Гэтая драма карыстаецца вялікім посьпехам. „Усьміхаецца сонца“—роман Біянкі і „Сокал у гнязьдзе“—Мая.

* Будаўнічы сэзон у Італіі надзвычайна разнастайны. Італьянскія газэты даюць багата месца на трэцяй старонцы абгаварэньню і крытыцы літаратуры. Крытыкі адзначаюць адсутнасьць у чытача цікавасьці да свае літаратуры і аддаюць вялікую цікавасьць славянскай літаратуры.

Супроць гэтай літаратуры выступае фашыцкая цэнзура, яна знаходзіць, што хоць расійскія клясыкі, якія перакладаюцца за кардонам, простага зьвязку з дзяржаўнаю дзейнасьцю ня маюць, але ўсё-ж яны спрыяюць пропагандзе расійскага рэволюцыйнага руху.

### Португалія

* У астатнія месяцы з найбольш выдатных португальскіх новых выданьняў можна адзначыць такія: „Португальскія легенды“—Роха Марцінса, пісьменьніка журналіста, гісторыка. Гэты яго твор цікавы тым, што ў аснове мае сапраўдныя факты, узяты з гісторыі Португаліі. Падае ён іх у форме новэль.

* „*Эмігранты*“—маладога новеліста Фэрэйра Дэкастра. Гэты твор выклікаў вялікую полеміку таму, што ён слабейшы як папярэднія творы гэтага пісьменьніка і з занадта вузкімі нацыянальнымі поглядамі.

* Добры роман напісаў Карлос Сельвагэр—„*Райская птушка*“. Гэта найлепшы твор, які можна адзначыць за апошні час.

* У Порто з мінулага году выходзіць часопісь „Claridade“, орган радыкальна настроенай інтэлігенцыі; рэдагуе вядомы пісьменьнік Карлош Бостон. Часопісь намагаецца арганізаваць вакол сябе выдатных пісьменьнікаў і выяўляе вялікую зацікаўленасьць да літаратуры СССР.

### Францыя

* Поэт Андрэ Рывоар злажыў антолёгію францускай лірыкі для радыё.

### Чэха-Славаччына

* У Празе выходзіць пад рэдакцыяй Юлія Фучыка тыднёвік „Творчасьць“, які прысьвечаны літаратуры, палітыцы і мастацтву. Пляцформа часопісу—пролетарская; зьмест яго рознастайны і жывы.

* Амаль усе рэдактары цэнтральнага органу Компартыі Чэха-Славаччыны „Рудэ Право“ сядзяць у турме. Сядзіць у турме таксама адказны рэдактар „Рудэ Вячэрні“—Уркс і рэпарцёр „Рудэ Права“—Карафіят.

## З КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ ЗСФСР

* Вядомы знаўца грузінскай літаратуры Паўло Унгороква склаў ня так даўно даклад пра свае новыя досьледы над поэмаю XII стагодзьдзя Шоці Куставелі („Віцязь у тыгравай скуры“). Гэтая поэма карыстаецца сусьветнай вядомасьцю, перакладзена на ўсе замежныя мовы і г. д. Досьледы грунтуюцца на экзотэрні.

* Па дагавору паміж фэдэрацыяй савецкіх пісьменьнікаў Грузіі і прамысловай коопэрацыяй пісьменьнікі будуць вывучаць на мясцох (Кахэтыя, Аджэрыстан, Абхазія, Борчало і інш.) саматужную прамысловасьць Грузіі і асьвятляць яе ў друку і мастацкай літаратуры.

* Шырванзадэ атрымаў годнасьць „заслужонага дзеяча мастацтва Закаўказьзя“, у дзень пяцідзесяцігодзьдзя яго мастацкай, літаратурнай і грамадзкай дзейнасьці.

* Пасьля вялікага перапынку зноў пачалі ставіць славутую опэру Д. Аракішвілі „Шота Куставелі“. Гэта опэра—адзін з першых вялікіх твораў, які паклаў пачатак (1919 г.) сур'ёзнаму напрамку ў грузінскім опэрным мастацтве.

У новай пастаноўцы опэра перароблена аўтарам і значна пашырана.

* Першы дзень пастаноўкі „Шота Куставілі“ прыпаў на дзень, прысьвечаны сьвяткаваньню 30-годзьдзя музычнай дзейнасьці яе аўтара— Д. Аракішвілі, якому дадзена годнасьць народнага артысты рэспублікі за працу ў музыцы, пэдагагічную і грамадзкую.

*Рэдакцыйная колёгія* **А. Менскі, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот.**

*Выдавец* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЗЬМЕСТ



---



ЦАНА 1 руб.

